**Валоръ** *гл.* **валеръ**.

**Валченье** – *змаганне*: мѣста до которихколвекъ вшолъ кром всꙗкого валченꙗ и спротивленьꙗ его маестатови поддали (Алекс., 12б).

**Валъ**[1] – **1)** *земляны насып*: забѹдовал замок, которог перекопом и валом ѡбваровал (Стрыйк., 537); **2)** *ланцуг пагоркаў*: переˢде горы и великие валы (Бельск., 192б); **3)** *высокая хваля*: валы морские приходꙗт з мора и заливают береги (Зб. 259, 401б).

**Валъ**[2] – **1)** *вось, на якую мацуецца кола вадзянога млына*: веретенъ желѣзныхъ до млына и валу два (АВК, VIII, 74, 1607); **2)** *валік на канапе*: колдра, плотецъ, валы, подушки атласовые (АСД, I, 252, 1616).

**Валька (валка)** – **1)** *бой, бітва*: мѣли валки великие з тѹрками (Хр. польск., 13); **2)** *вайна*: мелъ ѡнъ тое мыто держати, поки бы валька не перестала (КСД, 808, 1516); **3)** *бойка*: самъ вальку зачалъ (АВК, XVIII, 127, 1594).

**Вальцышное** – *тое, што і* **вальцышъ**: бралъ вгайное и валцышное (АСД, I, 17, 1536).

**Вальцышъ** – *пошліна за вываз лясных тавараў*: вальцышъ и побережное до Бѣльска нoшивалъ (АСД, I, 16, 1536).

**Вандзонка** – *вэнджанае мяса*: дровъ два возы на вандзонки (ИЮМ, I, 108, 1680).

**Вандрованье** – *вандраванне*: Iтеръ, лат. пѹт... ѣхане, ѣзда, вандроване (Бяр., 283).

**Ваненка** – *памянш. ад* **ванна**: ваненка мосендзова одъна (АВК, XX, 136, 1598).

**Ванклинъ** – *стары, шчарбаты гаршчок*: ты естес ванклин з працы, а ꙗ естъ римским кнꙗжатем (Зб. 81, 233б).

**Ванна** – **1)** *ванна*: Трыщанъ мылсѧ у ванне (Трыст., 38); **2)** *лячэбна-прафілактычны сродак*: ксенжна... ваннѹ собѣ казала чинит не с простои воды, але з росы (Зб. 259, 517).

**Вантухъ** – *мяшок*: в гумне згорели два вантухи хмелю (АВК, XXII, 160, 1565).

**Ванчосъ (ванчусъ)** – *дубовы брус для караблебудавання*: ванчусъ и клепки ему присѹдили (КСД, 938, 1517); посередъ самой пусчи для робленья ванчосу буды поставилъ (РПП, 38, 1559).

**Вапенникъ** – *чалавек, які абслугоўвае вапельню*: вапенникъ оучинив, что емѹ король оучинити казавъ (Зб. вып., 31б).

**Вапенница** – *вапельня*: прибѣгшы до вапеннѣцы покоіовый, ледво вымовивъ тые словы, заразъ его вкинѹли в вапно (Зб. вып., 31б).

**Вапна (вапно)** – *вапна*: камѣне и вапно носил (Бельск., 326б); вапну сеять наймали двухъ человекъ (ИЮМ, VI, 157, 1689).

**Вара** – **1)** *тое, што і* **варъ** *у 3 знач.*: зъ тое земли дани медовое хоживало двѣ кади... и пудъ вары (АСД, II, 12, 1537); **2)** *тое, што і* **варъ** *у 4 знач.*: воеводѣ нашемѹ отъ варъ имати гостинца по полукопы грошей со всякой вары (АВК, XIII, 69, 1593); **3)** *пошліна за варку піва*: дани даютъ девяноста грошей, а вары двадцать грошей (АЗР, I, 103, 1483); **4)** *варыва*: налили теды мѹжем абы ѣли, а коли скоштовали вари закричали мовечи: смерть вˢ горнцѹ (Хран., 323б).

**Варагъ** – *вараг*: рус з тых в тоˢ час варагов... кн҃жата собѣ выбрали (Стрыйк., 437б).

**Варга (варкга)** – *губа*: волосы толко на варгахъ маючи (Мак., 18б); слово бозское варкгами ꙗкобы насличнѣˢшѹю ѡливнѹю розкгѹ... вносит (Зб. 259, 653).

**Варенье (варение)** – **1)** *варэнне (працэс)*: купили харчы мяса до варенья и печенья (ИЮМ, I, 18, 1679); **2)** *тое, што і* **вариво** *ў 1 знач.*: сваривъ варенье (Скар. ДП, 39б).

**Вариво (варыво)** – **1)** *варыва*: ѹварив иаков вариво (Біблія, 58); **2)** *агародніна для варкі*: варыва въ кадѣхъ... капусты кислое чотыри кади (АВК, VIII, 466, 1593).

**Варивцо** – *памянш. ад* **вариво**: коли варива просили тые слова мовили, сподаринѧ перепелочко, зернетко солнушко даˢ ложечку дитꙗткѹ варивца (Барк., 165б).

**Варкгелтъ** – *штраф за забойства*: за забитого варкгелтъ заплатить (ИЮМ, IX, 336, 1638).

**Варкочъ** – *каса*: коли им в бытве до лѹковъ тетив недоставало, дѣвки и невѣсти варкочи свои рвали и на тетивы крѹтили (Бельск., 187).

**Варованье** – *ахоўванне*: писмо тот грѣкъ прекладает не дліа наслѣдованіа, але дліа перестороги и варованіа (Выкл., 17).

**Варованьеся** – *пазбяганне*: любовъ сохранѧетсѧ варованемсѧ ѡт всѧкихъ грѣховъ (Зб. вып., 103).

**Варовое** – *пошліна за варку піва*: отъ вару пива такежъ по грошу варового (Арх. ЮЗР, V-8, 110, 1556).

**Варстатъ (верстатъ, ворстатъ)** – **1)** *майстэрня*: мистрове сами господари на ворстате своемъ роботниковъ... не маютъ мѣти больши только товаришовъ двухъ (АСД, I, 161, 1582); **2)** *варштат*: жыдъ верстатъ мой... при собе задержалъ (АВК, XXVIII, 203, 1645); **3)** *станок*: зробили гантабы две и шворни чотыри зъ цвиклями до увязаня гарматы у деревяный варстатъ (ИЮМ, X, 151, 1695); **4)** *становішча*: што тут седиш на том варстатѣ несправедливом (Зб. 82, 155).

**Варта** – **1)** *варта*: был волныѕ з ѡковъ и варты вже не дано толко двох наглѧдников (Дыяр., 176); **2)** *абавязак па ахове*: драби... брони повинни мети и варты стеречы въ около замку (Арх. ЮЗР, VIII-5, 96, 1552).

**Вартованье** – *вартаванне, ахоўванне*: за тымъ вартованьемъ ихъ въ мытѣхъ нашихъ шкода великая ся намъ дѣетъ (АЗР, II, 351, 1539).

**Варунокъ** – **1)** *умова*: на писме выдат были росказали за варѹнкомъ и змоцненьемъ тое речы конъстытѹцыею (Трыб., 1); **2)** *рашэнне*: тотъ пляцъ даруемъ водлѣ фундацыи и варунковъ ихъ милостямъ служачихъ (АСД, II, 63, 1637); **3)** *засцярога*: длѧ лепъшого варѹнъку и ѹбезъпеченьіа здоровьіа своего зновѹ до насъ гсдра ѹтеклъсе (КЛС, 144б, 1597).

**Вархолъ (вархалъ)** – *сварка, спрэчка*: въ сусѣдствѣ мусятъ быти вархолы и втаргненья (АВК, XIV, 448, 1592); имѣли есмо вархалъ межи собою (ИЮМ, XVII, 299, 1744).

**Варцабы** – *шашкі*: игралъ в шахы и в варцабы (Трыст., 13).

**Варшавецъ** – *жыхар Варшавы*: полѧковъ побилъ, варшавцы помѹчилъ (Царств., 77б).

**Варъ** – **1)** *кіпень, вар*: в том мене ѧк варом ѡблито (Дыяр., 150); **2)** *варка*: вышло того вару пива гарцовъ пятьсотъ (ИЮМ, III, 20, 1685); **3)** *колькасць піва, звараная за адзін прыём*: варать дванадцать варовъ пива (КЗ, 465, 1488); **4)** *месца варкі напіткаў*: посельникъ ездить по тымъ варомъ пивнымъ (КЗ, 474, 1448).

**Варыво** *гл.* **вариво**.

**Варыяцыя** – *варыяцыя, відазмяненне*: въ повестяхъ ихъ варыяцыя немалая знайдуеться (ИЮМ, VIII, 425, 1629).

**Варяжинъ** – *тое, што і* **варагъ**: ст҃ополкъ послалъ два варѧжина (Чэцця, 243).

**Василекъ** – *матэрыял на клёпкі*: клепокъ сотъ 56, а васильковъ полъ ста (АСД, III, 274, 1583).

**Василискъ (василишокъ)** – *васіліск*: на василиска боудеш настоупал (Пс. XVI, 93б); василишок поѕзренемъ своим заражает (Зб. 261, 143б).

**Васнь** *гл.* **вазнь**.

**Васожокъ (васажокъ, восажокъ)** – *брычка з плеценым кузавам*: мелъ згинути въ него возокъ васожокъ (АВК, XVII, 215, 1540); возковъ, васажковъ... и иншого домового начинья немало (АВК, VIII, 467, 1593); восажки два безъ ковъ (АВК, XVI, 634, 1599).

**Вата** – *рыбалоўная снасць*: даемъ имъ добровольне въ реце Нѹръцы... рыбѹ и раки ловити ватою и кригою (КСД, 894, 1516).

**Ватага**[1] – *арцель*: пошли они на добыч ватагою (ИЮМ, XXXII, 189, 1579).

**Ватага**[2] – *тое, што і* **вата**: ватагою и волоками рыбы ловити вольны (АЗР, III, 264, 1581).

**Ватаманъ** *гл.* **атаманъ**.

**Вахляръ** – *веер*: Ріпіда: Вахлѧр, махало, оганка (Бяр., 306).

**Вахмистръ** – *старшы ахоўнік*: дали вахмистру зъ конпаниею золот. дванадцать (ИЮМ, I, 239, 1682).

**Вахта** – *вахта, ахова*: подворники ихъ... ку обороне и оправе того места, до вахты, до огня повинни мають быти (КПД, 514, 1568).

**Вахтовникъ** – *ахоўнік*: Ключата с тыми вахтовниками кватерниками своими шляхтичовъ учстивыхъ побилъ (АВК, XX, 175, 1601).

**Вачокъ (вачекъ, вацекъ, вацокъ)** – *сумка, кашалёк*: взела вачокъ злотоглавовы[s] (КВС, 444б, 1552); вачекъ с поесомъ, в которомъ были два таляры (АВК, XXII, 176, 1566); вацекъ власными руками на нем оборвал (АВК, XXXVI, 200, 1582); Чпагъ... ташка, капса, вацокъ (Бяр., 204).

**Вашинецъ** – *аднадумец субяседніка*: Вашинъ: Вашинецъ (Бяр., 12).

**Вашмость** – *васпан*: не давайте мене вашмость на муку (АВК, XVIII, 131, 1595).

**Вашольцъ (фашольцъ)** – *дубовыя загатоўкі на клёпкі*: ѳашольцу и клепъгольцу на томъ же местцы звожоное возми (КП, I, 37, 1548); отъ захъцыку клепокъ и вашольцу... по дванатцать же грошей литовскихъ маеть брати (АСД, III, 15, 1554).

**Вбежище** *гл.* **убежище**.

**Вбезпеченье** *гл.* **убеспеченье**.

**Вбиванье (убиванье)** – *убіванне*: за убиване пробою нового до брамы... ковалю дали асмак. чотыри (ИЮМ, I, 217, 1682); поденникомъ... за вбиване паль дали (ИЮМ, X, 155, 1695).

**Вбийца** *гл.* **убийца**.

**Вбиранье** *гл.* **убиранье**.

**Вбозство** *гл.* **убожство**.

**Вбойство** *гл.* **убийство**.

**Вбранье** *гл.* **убранье**.

**Вбудованье** *гл.* **убудованье**.

**Ввактованье** – *унясенне дакумента ў актавую кнігу*: вписане и въвактоване того квиту до книг меских (АВК, XXXIX, 283, 1579).

**Введенье (введение, уведенье)** – **1)** *Увядзенне (свята)*: на ꙋ҆веде̑не Пресвѧтое Богородицы взѧли татарове Киевъ (Рач., 341); на введение пре́стои бг҃ородицы взꙗли татарове Киев (Стрыйк., 571); **2)** *перан. узор*: жена... посох ѡшуканѧ, введене непослушенства (Зб. 82, 368).

**Ввезанье** *гл.* **увязанье**.

**Ввойстье** *гл.* **войстье**.

**Ввышэнье** – *узвышэнне*: стерегчи будем и боронити с помочю божью стараючисꙗ ѡ примножэнѧ и ввышэнꙗ того панства (Ст. 1566, 27).

**Вгайное** – *пошліна за права на выраб лясных тавараў*: отъ цамру а отъ масту вгайное... на короля его милости бирали (АСД, I, 16, 1536).

**Вгарокъ** *гл.* **огарокъ**.

**Вгода** *гл.* **угода**.

**Вгодникъ** *гл.* **угодникъ**.

**Вголъ** *гл.* **уголъ**.

**Вгорда** *гл.* **взгорда**.

**Вгроженьесе** – *запалоханасць*: вгроженьѧсѧ в насъ самых и пышного панованьѧ над сꙋмненьемъ нашимъ не шукали (Апакр., 203).

**Вгурокъ** *гл.* **огурокъ**.

**Вдаванье (удаванье)** – *уступленне, уключэнне*: чистꙋю пшеницꙋ его хочꙋтъ спросн ымъ насеньемъ повѣсти и ꙋдаваньѧ ѡмыльного заразить (Бер. саб., 21); тое вдаванье або встꙋпованье в соуды синѡдовые в костантѣ ганилъ (Апакр., 57б).

**Вданье (уданье)** – **1)** *запіс*: промежку ними и вданье въ книги мѣстцкие стало (АВК, XVII, 9, 1539); **2)** *уступленне*: вданье въ справу соймовую безъ всихъ становъ, сойму належачихъ... ити не маеть (КПД, 407, 1567); **3)** *дазвол*: за вданьемъ тыхъ сколдицкихъ... чиненье справедливости (АВК, III, 37, 1629); **4)** *уручэнне*: Врѹченіе: Вданье (Бяр., 17); **5)** *нагавор*: называютъ его ксендзомъ рымскимъ, што есть... кламливое уданье (АСД, VI, 124, 1608).

**Вдарецъ** *гл.* **ударецъ**.

**Вдаръ** *гл.* **ударъ**.

**Вдатность** – *здатнасць*: прѣмѹдрыи срдцемъ е*ст* и силный въдатностию (Скар. ІК, 13б).

**Вделъ** *гл.* **уделъ**.

**Вдова (удова)** – *удава*: о удове прі чомъ зостать колі мѹжь умреть (Вісл., 9); вдова не повинъна за ѡтъчызнѹ дете^s своихъ ѡтъказывати (КВЗС, 34, 1537).

**Вдовецъ (удовецъ)** – *удавец*: вдова пошла замужъ за вдовца (АСД, І, 163, 1582); удовъцомъ черезъ часъ немалый былъ (АВК, XVIII, 210, 1607).

**Вдовица (удовица)** – *тое, што і* **вдова**: ѡтрокъ... нѣкоеи оудовици дал прозрѣти (Чэцця, 88б); вдовицы и сироты начуують по улицамъ (АВК, XXXIV, 92, 1656).

**Вдовка** – *памянш. ад* **вдова**: ѡддала две ризы свое... вдо*в*ка*м* ѹбогимъ (Зб. 255, 349).

**Вдовство (удовство)** – *удаўство*: плачю вдовъства своего (Чэцця, 14б); длꙗ прозбы и ѹдовъства пни малъкгоретиного то есмо ѹчынили (КВЗС, 26б, 1537).

**Вдодъ** – *удод*: з птаства ести не маете... вдода (Біблія, 164б).

**Вдолие** – *даліна*: половина страны на вдолии (Скар. ІН, 25б).

**Вдяка** – *падзяка*: вдꙗкъ вдꙗчна речь естъ мешка*т* братіи сполечне (Пс. XVII, 153б).

**Вдячность (удячность)** – **1)** *удзячнасць*: лѣпше... нижли золото оудѧчность (Зб. 262, 104); **2)** *прыхільнасць*: свѣтополкъ... в^s еха*л* до Киева где з великими дарами и вдꙗчнос*тю* ѡ*т* всѣхъ стано*в* е*ст* принꙗты^s (Стрыйк., 469б); **3)** *абаяльнасць*: ѡбличе твое есть полно вдꙗчности (Кн. Мак., 52б); **4)** *дбайнасць, стараннасць*: Оусрьдіе: ѡхота, оупреймо*ст*, вдѧчность (Бяр., 181); **5)** *годнасць*: вдꙗчно*ст* наша и хвала наша е*ст* спѹстошона (Кн. Мак., 52б).

**Веданье (ведание)** – **1)** *веданне*: потребно есть вѣданье тыхъ сродковъ и способовъ (Апакр., 205); **2)** *ведама*: пасынки мои... кромъ веданья моего з дому отъ мене ехали (АВК, XXI, 17, 1555); **3)** *вестка*: не дадимъ ведани*ѧ* во граде до ѹтра (Скар. ЧЦ, 298б).

**Веденье**[1] – **1)** *тое, што і* **веданье** *ў 1 знач.*: Вѣждество: Росторопно*ст*, вѣдене (Бяр., 26); **2)** *прадбачанне*: зыстилосе вѣдѣнье его в дво*х* лѣте*х* (Зб. 752, 487б).

**Веденье (ведение)**[2] – **1)** *вядзенне*: веденье стороны до присеги (АВК, II, 282, 1590); **2)** *свята Увядзення і атрымаўшая ад яго назву царква*: поставиша тѹ храмъ ведени*ѧ* (Скар. ІН, 34б).

**Ведерко** – *памянш.* **1)** *ад* **ведро**[1] *ў 1 знач.*: назбирали теды веде*р*ко ма*н*ны (Бельск., 46б); **2)** *ад* **ведро**[1] *ў 2 знач.*: ведерокъ не мають помѣривати по корчмамъ (АЗР, II, 91, 1511).

**Ведерце** – *памянш. ад* **ведро**[1] *ў 1 знач.*: было тежъ и веде*р*це в которо*м* ма*н*на была (Зб. 82, 172б).

**Ведецъ** – *празорлівец*: позна*л* его доброе се*р*це вѣдецъ, которому ничого закрито бы*т* не може (Зб. 82, 89).

**Ведма** *гл.* **ведьма**.

**Ведомецъ** – *разведчык*: пустил на трое сторожовъ... и иных многих вѣдомцовъ (Мам., 177).

**Ведомо** – *ведама*: съ твоимъ ли то ведомомъ... люди твои въчинили (КЗ, 446, 1486).

**Ведомость** – **1)** *звестка*: мы хотечы певне^s шѹю ведомость мети посылали есмо тамъ вижа (КВС, 450б, 1552); **2)** *разуменне*: жадного... немашъ, абы ведомости в^s речахъ скритыхъ пилнѣй коли досегалъ (Варл., 221); **3)** *пазнанне*: древо вѣдомости доброго и злого (Бельск., 3б); **4)** *ведама*: того до вѣдомости людей неналежачихъ выносити не маеть

(Ст. бр., 7б); **5)** *сведчанне*: на лѣпшую вѣдомость печать нашу казали есмо привѣсити (АЗР, І, 22, 1383).

**Ведомца** – *сведка*: Свѣдѣтель: Вѣдомца (Бяр., 144).

**Ведость** – **1)** *тое, што і* **ведомость** *у 1 знач.*: о том жадное ведости не маю (ИЮМ, XXVIII, 151, 1666); **2)** *тое, што і* **ведомость** *у 4 знач.*: дошло то до вѣдости всѣхъ людей (Хран., 14б).

**Ведро (вядро)**[1] – **1)** *вядро*: зышла была до студенца и наполнила была ведра (Біблія, 55); **2)** *мера сыпкіх і вадкіх рэчываў, роўная 1/40 бочкі*: куп... барщу вядро (ИЮМ, XXI, 6, 1711).

**Ведро**[2] – *яснае, сонечнае, сухое надвор'е*: тои бо даетъ дождь, сушу, ведро и непогоду, ѹрожаи и голодъ, здорове и хворобы (Будны, 117б).

**Ведьма (ведма)** – *ведзьма*: котораѧ была великаѧ зеленница, чаровница большеи нижли иные вѣдьмы (Трыст., 59); до везенья дано вѣдму чаровницу (АСД, III, 114, 1637).

**Вежа** – **1)** *вежа*: ѹчинили двѣ высокии вежы (Біблія, 21); **2)** *мінарэт*: поп их взлѣзе на вежѹ... верещит, теды се з[s]идѹт до божницы (Бельск., 411б); **3)** *збудаванне з байніцамі на спіне слана*: вежи деревꙗныи и моцныи на слонах были (Кн. Мак., 57); **4)** *месца ўтрымання зняволеных*: за тое своеволеньство ѹ вежи землено[s] чверть года седети (Ст. 1588, 15); **5)** *кароўнік*: противко дворца... вежа для быдла (АВК, XIV, 500, 1594).

**Вежда** – *павека*: воздремълють вежде твое (Скар. ПС, 12).

**Веженье** *гл.* **вязенье**.

**Вежица** – *памянш. ад* **вежа** *ў 3 знач.*: каждомѹ слоню вежици деревꙗныи приправлꙗт казалъ, а в каждои вежици по десꙗт человѣковъ зброиных было (Алекс. 1697, 67б).

**Вежка** – *памянш. ад* **вежа** *ў 1 знач.*: ѡблеглъ его в замкѹ городинѣ и на ѡбламки и вежки ѹставичне казал штѹрмовати (Стрыйк., 445б).

**Вежний** – *дазорац, наглядчык*: кгды нѣкоторый земянинъ былъ бы всаженъ у вежу, теды... вежнему два гроши повежного ма заплатить (АЗР, І, 225, 1501).

**Вежочка** – *памянш. ад* **вежа** *ў 1 знач.*: ворота зъ вѣжочкою (АСД, IV, 294, 1593).

**Везанье** *гл.* **вязанье**.

**Везванье (везванне)** – **1)** *тое, што і* **возванье** *ў 1 знач.*: вси станы... зъехавшисѧ за листы и везваньемъ нашимъ до мѣста виленьского (Трыб., 1б); **2)** *тое, што і* **возванье** *ў 2 знач.*: тотъ зас, который тебе везваннемъ своимъ ст҃ымъ везвалъ, близко естъ завше (Варл., 348б); **3)** *тое, што і* **возванье** *ў 3 знач.*: кождый в[s] своемъ везваню... доброе чинити стараймосѧ (Каліст, II, 96б).

**Везгловье (безгловье)** – *тое, што і* **возголовье**: всѣмъ вамъ во всѣмъ пошло споро з[s] серпомъ наѹкъ правдивыхъ, не зъ везглов[s]емъ (Лям., 20); не завше материцѡвъ и безгловій шѹкали длѧ ѡтпочиненѧ (Каліст, II, 46).

**Вездхненье** *гл.* **вестхненье**.

**Везенье**[1] – *паездка*: простым везеньем во здровьи приплынул до тенедон (Троя, 10б).

**Везенье**[2] *гл.* **вязенье**.

**Вейзренье (везренье)** – **1)** *тое, што і* **возренье** *ў 1 знач.*: имъ бовѣм в тыхъ видимых речахъ болшаѧ над вси люди кондіціа бываеt тымъ зацнѣйшею и пожаданшею з самого вейзренѧ здаетьсѧ быти (Мак., 53); **2)** *тое, што і* **возренье** *ў 2 знач.*: вдꙗчного ве[s]зренꙗ и ꙗзыка солодкого был (Зб. 752, 443б); **3)** *тое, што і* **возренье** *ў 3 знач.*: з позвѣрховного везренѧ заледве познаный быти моглъ (Варл., 342б).

**Вейстье (вестье)** – *тое, што і* **войстье** *ў 1 знач.*: всѣмъ ест вест[s]е до живота (Варл., 147); за вейстемъ самого Ивана до ратуша урадъ пыталъ самого Ивана, абысь справилъ, ничого не таючы (ИЮМ, IX, 338, 1638).

**Веко**[1] – *павека*: нос тонокъ брови и вѣка тонкіи (Неба, 73б).

**Веко**[2] – *века*: вѣко у тое скрини наполъ розъщеплено (АВК, XXXVI, 329, 1582).

**Векъ – 1)** *жыццё чалавека*: до конца веку ее почтиве ховал (ИЮМ, XXXII, 230, 1577); **2)** *узрост*: юнакъ то естъ вˢ среднемъ вѣкꙋ (Мак., 2б); **3)** *час*: неволя черезъ такъ долгій вѣкъ все вынищила (АЗР, IV, 99, 1595); **4)** *стагоддзе*: тот век злотым ми се види ѡт нинеˢшого веку (Еўл., 3). ◊ **Во веки вековъ** – *вечна, заўсёды*.

**Велбенье** – *праслаўленне*: бꙋде панна в молодим лѣте годна велбенꙗ (Бельск., 191б).

**Велблудъ** *гл.* **верблюдъ**.

**Велблюдица (велбудица)** – *вярблюдзіца*: двадцетˢ велбꙋдиць доиныхъ (Скар. КБ, 60); послал дари братꙋ... велблюдиц доˢных з жеребꙗтами их (Бельск., 23б).

**Велготность** *гл.* **вилкготность**.

**Велебность – 1)** *прападобнасць, праасвяшчэнства*: с тое клѧтвы розгрешенье ѡт велебности его пастыра своего прыˢмовали (КЛС, 145б, 1597); **2)** *годнасць*: велебность большаѧ придана есть мнѣ (Скар. ДП, 18).

**Велемовность** – *тое, што і* **велемовство**: велемовностю и збытнею волностю противъ бг҃ꙋ не згрѣшили (Бельск., 38б).

**Велемовство** – *пустазвонства*: выступки тые сут тꙗжшые ꙗкъ гневъ велемовство ѡбжарство (Зб. 261, 122б).

**Велемовца** – *пустазвон*: нѣкоторые люди... велемовцею его и ильгаремъ зваты почали (Пралог, 560б).

**Велеможа** *гл.* **вельможа**.

**Веленсъ (веленцъ)** – *разнавіднасць плашча*: веленсовъ червоныхъ дванадцать (АСД, I, 251, 1616); веленъцы два, одинъ черъвоный, а другий зеленый (ИЮМ, XXIV, 230, 1635).

**Веленье (веление)** – *загад*: добро есть послужити бж҃ью велѣнью (Чэцця, 129); приѣхавши я по велѣнію его милости (АВК, III, 8, 1521).

**Велеречие** – *шматслоўнасць*: при ѡном столе велерѣчием и збытнею волностію... не згрѣшили (Жыц. св., 10).

**Велерыбъ (велерибъ, велиорыбъ, велорибъ)** – *кіт*: вкинꙋли его в море где его натыхместъ велерибъ полкнул (Бельск., 13б); иѡна... ѡт великог велориба пожартыˢ (Зб. 259, 8б); Китъ, Рыба, Веліорыбъ (Бяр., 287); вынерне кит то ест велерыбъ (Зб. 752, 203).

**Велетъ (велитъ)** – *волат, гігант*: ходили сынове сифови до дочок каиновых с которых сꙗ велитове... народили (Бельск., 7); Исполинъ: Гігантˢ, велетъ (Бяр., 60).

**Велеясность** – *светласць*: Свинарскій... одъ велеясности вашихъ на враде будучи великие екземцые... чинитъ (АВК, I, 330, 1666).

**Великдень (великодень)** – *Вялікдзень*: скоро великдень минꙋлъ, ѡнъ собралъ ꙋси воиска (Патр. П, 91б); повинны... заплатить... на Великодень (ИЮМ, XXI, 409, 1623).

**Великодное (великоденное)** – *грашовы збор, звязаны са святкаваннем Вялікадня*: жорновники даютъ мнѣ... вѣликоденного двадцать и чотыри гроши (КСД, 183, 1514); повиненъ онъ... коледу и великодное... до скарбу нашого давати (АВК, XX, 8, 1554).

**Великолесье** – *вялікі лес*: сеножати... почоншы отъ дороги Бастицкое верху Бѣлое воды... надъ великолѣсемъ (АЮЗР, I, 215, 1579).

**Великоможие** – *тое, што і* **великоможность**: великоможие ꙋбо при тобѣ самомъ пребываеть всегда (Скар. ПБ, 17б).

**Великоможность** – *магутнасць*: Саꙋхитѧнинъ поведаеть великоможьность Божию (Скар. ІК, 31).

**Великомученикъ** – *велікамучанік*: соѡрꙋжен и посщенъ бысть храмъ ст҃го великомученика Геѡргиѧ (Барк., 153).

**Великомученица** – *велікамучаніца*: жітіе и страданіе ст҃ои велмч҃цы Евдокіи (Пралог, 484).

**Великоновгорожанинъ** – *жыхар Вялікага Ноўгарада*: такаꙗ в тоˢ час была можност великоновгорожан (Стрыйк., 437).

**Великополянинъ** – *ураджэнец Вялікай Польшчы*: четвертое воˢско было и наˢлѣпшее с сле*н*жаковъ и великополꙗновъ (Стрыйк., 496б).

**Великость (велькость) – 1)** *мноства*: грековѣ... справили великую великость самострело*в* (Троя, 20); **2)** *колькасць*: моцъ збавителева не залежы*т* во великости жолнеро*в* абовемъ малою личбою незличоные воˢска поражае*т* (Зб. 255, 216б); **3)** *велічыня*: длꙗ множества або велькости... наꙋки и мовы его на*д* великого василиѧ... прекладали (Зб. 82, 361б); **4)** *веліч*: великости е*г* не*т* конца (Пс. XVI, 138б); **5)** *моц*: што*ж* имъ помогла ихъ велико*ст* або моцъ (Алекс., 12).

**Велиорыбъ** *гл.* **велерыбъ.**

**Велитъ** *гл.* **велетъ.**

**Величанье (величание)** – *велічанне*: пытають блꙋда и величаниꙗ (Чэцця, 366б); што оучинено дорогого и величаньѧ (Зб. 262, 130б).

**Величествие** – *тое, што і* **величество** *ў 1 знач.*: сѣ*л* на правици маестатꙋ величествіа на высоки*х* (Каз. Кір., 190б).

**Величество (величство) – 1)** *велічнасць*: прыехали есмо на величество славы твоеѧ (Трыст., 113); **2)** *вялікасць (тытул манархаў)*: дворянина его королевского величества... къ намъ отпустили (АЗР, IV, 443, 1615); **3)** *велічыня*: онъ бы господарю нашему далъ иной которой городъ въ то мѣсто таковъ же величьствомъ (АЗР, II, 279, 1538).

**Величие (величье)** – *веліч*: росказанье величьѧ мордохаево... написаны на книзѣ дѣꙗньѧ (Зб. 262, 133); великій то есть панъ, и величію его нѣстъ числа (Карп., 27б).

**Величиня** – *велічыня*: збꙋдовали тꙋю махинꙋ зˢ каменѧ чтырехъ стопъ величинею (Мак., 15).

**Велканоцъ** – *Вялікдзень*: на концꙋ посту справꙋю*т* велкано*ц* (Наб. тур., 20б).

**Велкготность** *гл.* **вилкготность.**

**Велкеръ (вилкеръ)** – *пастанова, зацверджаная гарадской радай*: тое теды постановене, албо велкеръ, уфалою своею зъгодною потвердилисмы (ИЮМ, VIII, 379, 1623); ознаймуемъ симъ вилкеромъ и постановенемъ нашимъ (ИЮМ, X, 349, 1639).

**Веллепота** – *пышнасць, харaство*: облакˢ осенѧше его, и велˢлепота гсдьнѧ ꙗко молˢние просвещеваше в немъ (Скар. КВ, 76).

**Велможность** *гл.* **вельможность.**

**Веложенство** – *мнагажонства*: вси такие веложенства чꙋжоло*ж*ство*м* писмо ст҃ое называе*т* (Выкл., 13б).

**Велрыба** – *тое, што і* **велерыбъ**: Левіаѳамъ: Ве*л*рыба морска*а*, дракѡ*н* (Бяр., 291).

**Вельблюдъ** *гл.* **верблюдъ.**

**Велькость** *гл.* **великость.**

**Вельможа (велеможа, велможа)** – *вяльможа*: всѧкого вельможи кратокъ животъ е*ст* (Скар. IC, 18б); ѡ*т*нѧлъ всих велемо*ж* моихъ гс҃дь ѡ*т* среды мене (Скар. ПЕ, 3Б); честовалъ ве*л*мѡ*ж* свои*х* (Каліст, II, 331).

**Вельможие** – *тое, што і* **вельможность** *у 2 знач.*: не хотѣлъ на ча*с* вельможіа своего вживати, ани оказовати (Будны, 145).

**Вельможникъ** – *тое, што і* **вельможа**: вси панове земˢскии и ве*л*можници и кн҃зи и заказци цр҃скии по*д*ношаю*т* июдѣꙗнъ (Зб. 262, 132).

**Вельможность (велеможность, велможность) – 1)** *веліч*: вельможность бж҃ьꙗ есть такъ легко важена (Пак. Хр., 1б); бога хвалили... ꙗкоже прилежи*т* на великꙋю высокость и велеможность (Скар. ПС, 4); **2)** *магутнасць*: Дръжава... потенціа, велможностˢ (Бяр., 33).

**Велюмъ** – *вэлюм*: еретреꙗ... велюмъ на головѣ носила (Бельск., 193).

**Венгоръ (венгеръ)** – *тое, што і* **угоръ**: венгоровъ за золот. (ИЮМ, II, 34, 1683); венгеровъ вялыхъ шесть (ИЮМ, IX, 175, 1692).

**Венгръ** *гл.* **венкгръ**.

**Вендзидло (вендидло)** – *цуглі*: купили венъдидло до уздечки (ИЮМ, XI, 65, 1697); купили два вендзидла до кантаровъ (ИЮМ, XIII, 82, 1699).

**Вендровка** – *падарожжа з мэтай удасканальвання прафесійнага майстэрства*: не толко цехмистрами, але ани майстрами въ цеху маютъ быти, бо сами венъдровки не отправовали (ИЮМ, IX, 415, 1641).

**Вендровникъ** – *вандроўнік*: што в^s^правдѣ шлѧхетный тотъ и прꙋдкій на нбсной дорозѣ ве*н*дровникъ статечне выполни*л* (Варл., 346).

**Венецианинъ** – *венецыянец*: стъый Марко... написа Еѵгліе ꙗзыкомъ латінскимъ и венецианомъ посла (Зб. вып., 89б).

**Венецъ** – **1)** *вянок*: принесъ вѣне*ц* з бѣлы*х* ро*ж* (Зб. 107, 164); **2)** *карона*: вынесли емꙋ вѣне*ц* золоты*и* (Алекс. 1697, 16); **3)** *перан. узнагарода*: не есте годни ꙗковыхъ венцѡвъ (Апакр., 185б); **4)** *упрыгожанне*: шесть ковшовъ серебреныхъ зъ венцы позолочиваными (КСД, 872, 1516); **5)** *перан. вышэйшая ступень чаго-н.*: прагнемо... правды венцы несказителные ѡдержати (Варл., 93б); **6)** *пасаг*: близкие маютъ е^s^ вене*ц* платити (Ст. 1566, 71б); **7)** *вянок зруба*: зрубовъ новыхъ... одинъ безъ балекъ, въ томъ вѣнцовъ пятьнадцать (АВК, VIII, 417, 1586).

**Венечникъ** – *венцаносец*: родисѧ никито венечниче нашь (Чэцця, 29б).

**Вензелекъ** – *памянш. ад* **вензель**: потребы до кунтуша и вензелекъ (ИЮМ, IX, 41, 1692).

**Вензель** – *вензель*: до того сукъна на шнурокъ, и на вензли, и на лицы, и за работу тое сукъни заплатили (ИЮМ, IV, 195, 1686).

**Вензенье** *гл.* **вязенье**.

**Вениკъ** – *венік*: ишли до лазни и почали сꙗ вѣниками хвостати (Стрыйк., 440б).

**Венкгрикъ (венкгринъ)** – *тое, што і* **венкгръ**: ве*н*кгри*к* имене*м* геѡрги^s^ па*л* на не*м* (Стрыйк., 453б); не могꙋчи чꙋжозе*м*ца ве*н*кгрина долго те*р*пѣти в рꙋски*х* па*н*ства*х* собра*л*сꙗ на толомана (там жа, 491).

**Венкгръ (венгръ)** – *венгерац*: га^s^дуки и ве*н*кгрове незле бронили и не подле^s^ работали (Еўл., 23); ве*н*гри противныи собѣ скроми*л* (Бельск., 391б).

**Венко** – *памянш. ад* **вено** *ў 1 знач.*: того именьꙗ... по животе мꙋжнемъ ѡна... маеть деръжати весполокъ з венкомъ своимъ (Ст. 1588, 273).

**Вено** – **1)** *пасаг*: ѡтецъ выдаючы дочку свою замужъ маеть ѡбваровати и ꙋпевни}ти записанье вена (Ст. 1588, 269); **2)** *сродкі для забеспячэння адзінокіх жанчын (адпаведна кошту пасагу)*: мꙋжъ мо^s^ на ѡ*т*чызне свое^s^ записалъ мне тестаментомъ вено (КВЗС, 438б, 1545).

**Вpopованье**

**Венованье** – *надзяленне маёмасцю адзінокіх жанчын*: досыть чинячи княгинямъ и панямъ своимъ, способъ и посагу противъ вѣна и вѣнованья (АЗР, II, 129, 1520).

**Веновное** – *грашовыя сродкі, атрыманыя ў якасці пасагу*: естли бы хто кому хоте*л* записати которы*м* спадкомъ... вено*в*ное а*л*бо матерыстое (Ст. 1566, 82).

**Венокъ (вянокъ)** – **1)** *вянок*: венковъ на образы за осм. шесть (ИЮМ, IX, 58, 1692); **2)** *упрыгожанне*: на гелму в него велми цудного цвѣту венокъ (Трыст., 110); **3)** *пляцёнка*: цыбули вянокъ (ИЮМ, I, 301, 1682).

**Веночекъ (вяночекъ)** – *памянш. ад* **венокъ** *у 1 знач.*: вяночковъ, зіолокъ, травы... купили (ИЮМ, II, 43, 1679); веночковъ рутовыхъ до олтара купили (ИЮМ, VIII, 83, 1691).

**Вентеръ** – *венцер*: венътеры з рыбами в того езу вынявши зъсекъ (АЗР, II, 36, 1585).

**Венусъ (вэнусъ)** – *палавыя зносіны*: вино и вэнусъ... за збытны*м* ꙋжывá*н*е*м* суть небезпечные (Атыла, 222); мѣли... венꙋ*с* длꙗ плодꙋ (Бельск., 144).

**Венчанье** – **1)** *вянчанне*: за венчанье попу далъ в҃і грошей (АВК, XVII, 241, 1540); **2)** *каранаванне*: на вѣнчанье господарскимъ вѣнцомъ поспешилися (АЗР, IV, 282, 1608).

**Венченосецъ** – *венцаносец*: радоуисѧ архистратиже Михаиле единосоущныꙗ нераздѣльныѧ троица, первыи венченосче (Чэцця, 76б).

**Венчыкъ** – *памянш. ад* **венецъ** *у 1 знач.*: взѧла венчык и узложыла на голову (Трыст., 121).

**Веншованье** *гл.* **виншованье**.

**Венье** *гл.* **веянье**.

**Вепрнина** – *свініна*: вепрнины полоцъ (ИЮМ, I, 249, 1682).

**Вепровщина** – *падатак за свінагадоўлю*: зъ яловичщиною, зъ вепровъщиною, з барановщиною (ИЮМ, XXIII, 503, 1642).

**Вепръ** – **1)** *вяпрук*: взꙗли семъ копъ денег, вепра кормного (КВЗС, 76, 1538); **2)** *дзік*: уставуемъ цену зверомъ диким... за вепра або за свиню рубль грошей (Ст. 1529, 78).

**Вепрыкъ** – *памянш. ад* **вепръ**: подсвинковъ вепрыковъ два (АВК, XXXVI, 21, 1582).

**Вера** – **1)** *веравызнанне*: ѡкрестилсꙗ зновꙋ з римскои в рускꙋю вѣрꙋ (Стрыйк., 525б); **2)** *пераканане*: для лепъшое веры... далъ ему на себе вызнаный листъ (ИЮМ, XXX, 14, 1577); **3)** *давер'е*: были вижи уставлены... веры годныи (КПД, 127, 1544); **4)** *вернасць*: жоны... вѣрю мужомъ заховують (Будны, 87б); **5)** *прысяга*: нам вѣроу а правдоу держати (Пак. Хр., 36).

**Веранье** *гл.* **веренье**.

**Верба** – *вярба*: копѣцъ старый великій, лозою и вербою обросъ (АВК, VI, 145, 1586).

**Вербие** – *зб. ад* **верба**: наберете собѣ... вербиѧ ѡт водъ текущихъ (Скар. КЛ, 45б).

**Вербина** – *галінка вярбы*: возмете... вшелꙗких квѣтов з дерев ѡздобных и вербины ѡт потоку (Біблія, 173).

**Вербка** – *памянш. ад* **верба**: границу заложил... у вербку (ИЮМ, XXX, 130, 1577).

**Верблюдъ (велблудъ, велблюдъ, вельблудъ, вельблюдъ, верльблюдъ)** – *вярблюд*: оу тых соут... ѡслове и вельблоудове (Валх., 43б); велблудъ и инаѧ зверѧта тому подобна не будете их ести (Скар. КЛ, 21б); имеаше аврамъ... мулы и вельблюды (Скар. КБ, 25); велблюды, нападши на травꙋ... хтиве жрꙋтѕ (Мак., 296); штос подобного и верблюдъ чинитъ, кгды ꙋ водѣ постат свою ѡбачит (Зб. 259, 247); халдейчикове... верльблюды и слꙋги позабиꙗли (Пралог, 661).

**Вервь** – *тое, што і* **веревка**: свѧзали суть его двема вервѧми (Скар. КС, 34).

**Верга** – *жазло, посах*: Жезлъ: Вѣрга, розга, прутъ, бичъ (Бяр., 212).

**Вердунокъ** – *манета, роўная чвэрці грыўны*: три вердꙋнъки имаеть дати (Вісл., 37).

**Веребей** *гл.* **воробей**.

**Веревка (вериовка, веровка, вяровка)** – *вяроўка*: спустила ихъ жена окномѕ по веревце (Скар. IН, 7б); вяровокъ две (ИЮМ, I, 6, 1679); веріовки две для тегненя хлуду (там жа, 287, 1682); веровокъ до увязаня возовъ купили (ИЮМ, VIII, 96, 1691).

**Верега** *гл.* **верига**.

**Верезубъ** – *зубатка*: вялыхъ спорыхъ верезубовъ штукъ шесть (ИЮМ, IV, 77, 1686).

**Веремя** – **1)** *тое, што і* **время** *ў 1 знач.*: не наити таковаго штобы помоглъ при смертном веремени (Чэцця, 52); **2)** *тое, што і* **время** *ў 2 знач.*: судъ... отъ того веремени, какъ дядя твой, великій князь Витовтъ, князя Глеба на Смоленску посадилъ (АЗР, I, 63, 1449).

**Веренье (веранье)** – *вера, упэўненасць*: къ крепкому вѣранью приводить (Будны, 218); своими чꙋдами и наꙋкою до вѣренѧ собѣ привелъ людій (Каліст, I, 122б).

**Вересень** – *верасень*: жидове передѕ тымъ мсцы свои дорочныи личить починали во осени, и першіи бывал септевріи або вересень (Хран., 89).

**Верескъ** – *лямант*: в мѣсте был плач и верескъ (Бельск., 387).

**Веретенница (веретенничина)** – *верацённіца*: хлѣбъ его оу чревех его перевернꙋлсѧ же ачь веретѣнничина посреде его (Зб. 262, 20б); ꙗко веретенница проколет (там жа, 105).

**Веретено (вертено)** – **1)** *верацяно*: персты еѧ похватиша вертено (Скар. ПС, 47б); **2)** *шпень, стрыжань*: камень жорновый верхний узверненъ... веретено вынято (АВК, XXII, 241, 1565).

**Веретея** – *сухі ўчастак зямлі сярод балота*: отъ ели ручаемъ черезъ болото по рубежахъ черезъ веретеи (АЮЗР, I, 233, 1589).

**Верето** – *адзенне са зрэб'я*: Вретище, власѧница: верето, рѧдно (Бяр., 17).

**Верещанье** – *верашчанне*: тогды сѧ стало великое всих кликанье и верещанье (Атыла, 232).

**Верея** – *шула*: виделъ ворота порѹбаные и вереи и ѹшаки пощепаные (КВС, 446б, 1552).

**Верженье** – *пасудзіна, прыстасаваная для гульні ў косці*: Авраміасъ, штучка нѣкотораа и верженe до игры косткою (Бяр., 223).

**Верига (верега)** – *ланцуг*: ѡковавшы двома веригома... вкинено до темницы (Зб. 752, 306б); вереги то есть ланцѹхи ст҃го петра днес ст҃ыи ѡтцы ѹзаконили ст҃ити (Зб. 82, 324).

**Вериовка** *гл.* **веревка**.

**Веритель (верицель, верытель)** – *паручыцель*: должницы от верителя своего... отходить мели (ИЮМ, XXX, 149, 1577); листы... его верицелеви оддал (АВК, XXXIX, 71, 1578); ѡтъ всихъ верытелеˢ своихъ... ниꙗкого насильства... мети не маеть (КЛС, 24, 1596).

**Верификация (верификацыя, верыфикацыя)** – *праверка сапраўднасці*: верификацію чинили (АВК, XV, 203, 1667); за верификацыю реестровъ меских дали золотыхъ пять (ИЮМ, II, 64, 1683); верыфикацыя до актъ... была принята (АВК, XX, 478, 1690).

**Верка** – *памянш. ад* **вера** *ў 1 знач.*: з вѣры правдивое до иншое вѣрки ꙗк смотрицкиˢ скѹминович и иншіе небачне перекидаютсꙗ (Дыяр., 160б).

**Верльблюдъ** *гл.* **верблюдъ**.

**Верненье** – *вяртанне*: не хотели на том мѣстцу верненьѧ угровъ ждати (Атыла, 176).

**Верненьесе** – *тое, што і* **верненье**: бѣсове хотꙗчи ему мысль до верненꙗсе назадъ сказит выбрали (Зб. 82, 332).

**Верникъ** – **1)** *вернік*: роука гн҃ѧ ѡтимает оуста вѣрникѡм (Зб. 262, 17); **2)** *памочнік*: вѣрникъ старостин... жарты з паненки строꙗчы, реклъ до неˢ (Зб. 752, 534б).

**Верность** – **1)** *вернасць*: намъ гсдрю верность свою стале показують (Ст. 1566, 3); **2)** *надзейнасць*: для лепъшое твердости и верности... печать есмо свою приложили к сему листу (ПГ, II, 71, 1478).

**Верованье** – *вераванне*: вѣра естъ наклоненіе разѹма до вѣрованѧ тымъ рѣчомъ, которыхъ не вѣдимъ (Зб. вып., 85б).

**Веровка** *гл.* **веревка**.

**Верста (вершта)** – *вярста*: насъ на дорозе перенявъшы сем верстъ ѡт города... розбили (КВЗС, 34, 1538); до устья Сенки рѣчки верштъ чотыри (АВК, VII, 434, 1592).

**Верстатъ** *гл.* **варстатъ**.

**Вертаньеся** – *вяртанне*: Възвратˢ: Вертанесѧ, вороти (Бяр., 18).

**Вертено** *гл.* **веретено**.

**Вертенье** – *вілянне*: песъ, которыˢ был при нем в дорозѣ а ꙗко посол пришедши радовалсꙗ вертѣньемъ хвоста (Біблія, 599).

**Вертепъ** – *пячора*: гѡры лѣсы езера вертепы везеньѧ ꙗскинѣ и прѡпасти моимъ зданьемъ безпечнѣйшіе (Апакр., 84б).

**Вертоградъ** – *сад*: емѹ во вертограде молꙗщемѹсꙗ сама мысль ѡ пришлых мѹках пот крывавыˢ з всего тѣла вытиснѹла (Зб. 255, 370).

**Верхникъ** – *верхавы, коннік*: въ тропы за Грегоркомъ верхниковъ своихъ послалъ (АЗР, IV, 208, 1600).

**Верховина** – *верхавіна*: коло верховины сосновое другий копецъ (ИЮМ, XXIII, 361, 1623).

**Верховитье** – *узвышэнне*: зышласе граница по лѣвой руцѣ Велицкая зъ Зелинскою, а по правой идетъ верховитье (АВК, VII, 455, 1592).

**Верховнина** – *павярхоўнасць*: ꙗвленіе: позверхность ꙗковой речы, верховнины (Бяр., 208).

**Верховщина** – *грашовы збор для забеспячэння верхавой перавозкі службовых асоб*: имъ отпустили капныи грошы и верховщину на годъ (КЗ, 567, 1495).

**Верховье** – **1)** *вярхоўе*: тою рѣчкою уверхъ одъ рѣки трозны до верховья (АВК, VII, 455, 1592); **2)** *верхавіна*: волно имъ ѹле^s з бортью выпѹстити и вывести, а верховье и коре*не* ѡставити (Ст. 1588, 381).

**Верхъ** – **1)** *верх*: ѡ*т* верхѹ его головы наполы его розтѧ*л* (Троя, 26б); **2)** *купал*: впа*л* те*ж* то*г* рокѹ ве*р*хъ великои це*р*кви (Бельск., 330); **3)** *дах*: стайня непокрытая, безъ верха (АВК, VIII, 490, 1601); **4)** *века*: скриня не вельми великая безъ верьху (АВК, XXI, 186, 1557); **5)** *вярхоўе*: ѡ*т* верхѹ Вислы а*ж* до реки ѡ*д*ра... вси краины ѡпанова*л* (Стрыйк., 599б); **6)** *пачатак тэксту*: на верху сего фундушу нотація (АВК, XII, 435, 1517); **7)** *вышэйшая ступень чаго-н.*: той верхъ всего благословенства одержи*т* (Каліст, I, 157б). ◊ **Зъ верхомъ, безъ верху** – *з коптурам, без коптура*.

**Верчикъ** – *памянш. ад* **верчъ**: за две цецеры... верчиковъ двадцать (ИЮМ, XVII, 38, 1710).

**Верчъ** – *вітая булка*: верчовъ осемъ по шелеги чотыри (ИЮМ, VI, 67, 1688).

**Верша** – *верша*: покрадено дей зъ ставу... верши зъ рыбами (АВК, XVIII, 169, 1599).

**Вершикъ (вершыкъ, виршикъ)** – *памянш. ад* **вершъ**: в писа*н*ю своемъ запомнѣлесь на оный латинскій вѣрши*к* (Апакр., 106б); жебы того прагнѹ*л* не веда*л* по*м*нꙗчы ѡ*н* ви*р*ши*к* Ѳомы (Зб. 261, 162); вѣршыкъ то*и* зложы*л* длꙗ потѣхи брата ѡ*д*ного (Зб. 81, 165).

**Вершитба** – *малацьба*: Връшба: Вершитба, мо*л*тба (Бяр., 14).

**Вершокъ** – **1)** *вяршок*: тое звѣра... верьшками дерева сꙗ живи*т* (Зб. 259, 263б); **2)** *верх шапкі*: шапку лисю на зеленомъ вершку золот. чотыри (ИЮМ, XXXIX, 5, 1688).

**Вершта** *гл.* **верста**.

**Вершъ (виршъ)** – *верш*: вѣршами своими и пісмами бѡгѡ*в* свои*х* почтит^s хотѣли (Варл., 247б); зложы*л* емѹ ѡди*н* виршъ (Зб. 752, 187).

**Вершье** – *зб. ад* **вершокъ**: то*л*ко коренки а ве*р*шъе дѹбовое еда*л* (Бельск., 16).

**Верытель** *гл.* **веритель**.

**Верыфикацыя** *гл.* **верификация**.

**Весебное** – *плата за ўзважванне*: вѣсебное имати вѣсцю (ПГ, I, 112, 1407).

**Веселованье** – *радасны настрой*: з^s великимъ веселова*н*емъ... спѣвали (Каліст, I, 154б).

**Веселость** – *весялосць*: тотъ мѣсѧцъ... веселость и ѡхолодѹ приноситъ (Мак., 57).

**Веселье (веселие, вэсэлье)** – **1)** *весялосць*: хотѣли переменити смѹтокъ его на радо*ст* на веселіе (Алекс. 1697, 91б); **2)** *вяселле*: ѡ*т*да*л* разэ*м* на едны*м* вэсэлю три цо*р*ки свэ заму*ж* (Еўл., 36); **3)** *банкет, баль*: чини*л* веселье або ѹчтѹ на вси паны (Тр. гіст., 67б); **4)** *тое, што весяліць*: Трыщан казал принести тое веселье... трубы, дуды, лютни, арфы, арганы (Трыст., 112).

**Весецъ** – *вагаўшчык*: вѣсцю ѡ*т*ступи*т* прочь ѡ*т* скалвъ а рукою не трима*т* (Гр., 1589, 1407).

**Веситель** – *вешальнік*: бога за тридесꙗ*т* дѣнаро*в* продаю*т*... ѡ*т* власного ѹченика злодѣꙗ и себе самого весителꙗ (Зб. 255, 255б).

**Вески** – *невялікія вагі*: оузважи*л* бы мѧ оу веско*х* праведны*х* (Зб. 262, 25).

**Вескъ** – *від маку*: цыперыкъ, зерна вѣскѹ, шпиканар*д* (Зб. вып., 16).

**Весло (вясло)**[1] – *вясло*: волна выбила вѧсло из рѹкоу (Чэцця, 93б); въ воде будучого сына моего Петра весломъ въ тылъ головы ударилъ (АВК, XXVIII, 264, 1646).

**Весло**[2] – **1)** *нізка*: нашла купа в лазни свечъ сорокъ Оврамовыхъ, весло грыбовъ (АВК, XVIII, 252, 1620); **2)** *сувой*: згинуло... осмъ веселъ полотна (АВК, XVIII, 271, 1624).

**Весна** – *вясна*: ѡминꙋла оуже зима и пришла весна (Каліст, I, 78б).

**Веснякъ (вяснякъ)**[1] – *селянін*: веснꙗк которыѕ з простоты своеи ничого того не вѣдаетъ ѡ богꙋ, бꙋдет ли мѣти вымовкꙋ (Зб. 261, 199); вꙗснꙗки по грошꙋ ѡдномꙋ (Стрыйк., 567б).

**Веснякъ**[2] *гл.* **вешнякъ**.

**Вестецъ** – *тое, што і* **вещокъ**: вестце и ворожбиты держалъ ꙋ себе (Скар. ЧЦ, 230б).

**Вестникъ** – *вястун*: вестникъ прибежалѕ къ саꙋлу гл҃ѧ, поспеши (Скар. ПЦ, 50б).

**Вестоноша** – *тое, што і* **вестникъ**: послан есть вестоноша (Чэцця, 157б).

**Вестхненье (вездхненье, востхненье)** – *уздыханне*: ѡпустит раз ѡднꙋ цноту хот ꙗк през пацер або вестхнене (Зб. 261, 130); за вездхненѕе збойци... маешъ продажное црство Бж҃ее (Мак., 8); то значит поднесене голосꙋ вѕ спѣванѕю... або востхненѕе кꙋ бг҃ꙋ (Выкл., 105).

**Весть** – *вестка*: Пришла до него вѣсть што Литва идеть ꙋ погоню (Рач., 336). ◊ **Безъ вести** – *неспадзявана, знянацку.*

**Вестье** *гл.* **вейстье**.

**Весчее (весчое, вещое)** – *пошліна за карыстанне вагамі*: немцѣмъ дати вѣсчего ѡт бѣрковьска (ПГ, I, 39, 1338); ни вѣсчого, ни помѣрного... съ тых людей не имать (АЗР, I, 58, 1443); заплатил есми вѣщое ѡт тых двꙋ мѣховъ соли (ПГ, II, 86, 1480).

**Весчий** – *тое, што і* **весецъ**: оу Полоцку вѣсчих оуставлѧемъ (ПГ, II, 59, 1476).

**Весъ** – **1)** *сістэма вымярэння цяжару*: на церковъ святоѣ Пречистоѣ пять пудовъ меду желѣзного вѣсу (АЗР, III, 97, 1558); **2)** *адзінка вагі*: жита бочку, льну вѣсъ, насѣнья сито (АВК, XIV, 14, 1555).

**Весы** – **1)** *тое, што і* **ваги**: вы возмите свои вѣсы, а мы вѣсимъ въ свои вѣсы (ПГ, I, 87, 1400); **2)** *узважванне*: имъ чинити... правду и оу вѣсех и оу торговли (ПГ, I, 80, 1399).

**Весь** – *тое, што і* **виоска**: при нем и кумолки весь коштовна ѡт гнезна за ꙗкимсь змышленым правом зостали (Еўл., 38).

**Ветвие** – *зб. ад* **ветвь**: ѡт корени вѣтвіе походѧт (Навука, 55).

**Ветвь** – *галіна*: ꙋрѣзали вѣтвь виннꙋю зъ ꙗгодами (Біблія, 189).

**Ветеръ (ветръ)** – *вецер*: вѣтръ повсталъ и погнал ихъ кгвалтомъ тую ночъ куды не хотѣли (Трыст., 68); ветеръ огонь повернулъ отъ хлевовъ въ поле на садъ, который увесь погорелъ (АВК, XVIII, 253, 1621).

**Ветие** *гл.* **ветье**.

**Ветия** – *красамоўца*: Риторъ: вѣтіа, хитрословецъ, красамовца, ораторъ (Бяр., 140).

**Ветка** – *галінка*: навратисѧ к нему на вечеръ, несꙋчи ветъку масличную (Скар. КБ, 19).

**Ветованье** – *кампенсаванне*: таковое до вшелѧкихъ справъ привѧзалъ ветоване, абы вѕ пожиткꙋ ближнего кождый свой пожитокъ знайдовалъ (Каліст, II, 112).

**Ветошь** – *старызна*: обувь ваша ветошью скажена (Скар. ДЗ, 55б).

**Ветреникъ (ветрникъ)** – **1)** *флюгер*: церковъ... на ней два крыжы позлотистыхъ а вѣтрниковъ чотыры (АСД, III, 293, 1593); **2)** *ветразь*: склонивши ветреники кꙋ берегом места троичского приплынꙋли (Троя, 18б).

**Ветреница** – *тое, што і* **ветреникъ** *у 1 знач.*: Юрку Котляру за ветреницу до ратуша золот. одинъ (ИЮМ, I, 176, 1681).

**Ветрикъ (ветрыкъ)** – *памянш. ад* **ветеръ**: хто не ꙋмартвеныѕ лꙗда ветрыкъ то ег стурбуе (Зб. 261, 120); вѣтрик милыѕ прихажаетсꙗ по повѣтрꙋ (Зб. 259, 578б).

**Ветрило** – *ветразь*: вѣтрила карабельнаѧ разодрало наполы (Чэцця, 91).

**Ветхость** – *драхласць*: ѡ тое сѧ старай, абысь нового того человѣка, в которогос сѧ сего дн҃ѧ ѡболокѕ... ветхостѕю не зепсовалъ (Варл., 169б).

**Ветъ** – **1)** *узаемная адплата*: хто сꙗ с ним посварит а ꙋдарит... а если ꙋмерлъ, мае дат горло за нег вет за вет (Бельск., 66б); **2)** *салодкае, дэсерт*: Ласкосръдый... лакомыѕ на веты на конфекты (Бяр., 70).

**Веть** – *тое, што і* **ветвь**: колі толко вѣ*т* ѡ*тр*ѹби*т*... маеть платить (Вісл., 37).

**Ветье (ветие)** – *зб. ад* **веть**: зламано будеть ветие (Скар. ПБ, 6б); резали ветье з[s] дерева и посьтилалі на дорозе (Цяп., 28б).

**Вече (вечо)** – *веча*: такъ было, поки князь великій Новгорода не взялъ и веча имъ не сказилъ (КЗ, 469, 1448); люди чорныи часто ся сходятъ у вѣчо (АЗР, II, 332, 1534).

**Вечера (вечеря)** – *вячэра*: много пѣнези ѡди*н* ѹтрачае*т* на ѡбѣда*х* и вечера*х* роскошныхъ (Зб. 259, 258); куровъ двое купили на вечерю (ИЮМ, XIV, 19, 1700). ◊ **Вечера тайная** – *апошняя сумесная трапеза Ісуса Хрыста і дванаццаці апосталаў у Іерусаліме.*

**Вечерникъ** – *дом, прызначаны для спажывання ежы вечарам*: был то то[s] палацъ, або вече*р*никъ зо всѣхъ сторо*н* приѡха*н*дожо*н* (Алекс., 18).

**Вечерница** – **1)** *вячэрняя зара*: денница... пред слнце*м* иде*т*, а за ни*м* вечерніцѹ зове*т* (Бяр., 241); **2)** *тое, што і* **вечерня**: которо*г* назнача*т* до чыта*н*ꙗ часо*в* на вече*р*ницы (Зб. 261, 100б).

**Вечерня** – *вячэрня*: они мають на каждый день душы нашы поминати... на литургіи и на вечерни (РПП, 223, 1518).

**Вечеръ (вечоръ)** – *вечар*: еще далеко до вечера, еще не часъ гна*т* стада (Біблія, 64); пива на вечоръ гарцы тры (ИЮМ, XI, 169, 1697).

**Вечко** – *памянш. ад* **веко**[2]: польжгарцовокъ тры, одна безъ вечъка (АВК, XXVI, 454, 1586).

**Вечникъ** – *нязменны ўладальнік*: вѣчникомъ маетности... подаю (АВК, XI, 42, 1576).

**Вечность** – **1)** *вечнасць*: наѹка ес*т* початко*м* вѣчности (Зб. 259, 545б); **2)** *бестэрміновае права валодання*: именья тому пущоно быти маеть, кому вечъность его водле права належати будеть (Ст. 1588, 9).

**Вечо** *гл.* **вече**.

**Вечоръ** *гл.* **вечеръ**.

**Вешанье** – *вешанне*: тайстра зъ формами, зъ ключами, зъ шрубками до вѣшанья рыштунковъ (АСД, I, 251, 1616).

**Вешнякъ (веснякъ)** – *млын, які працуе толькі вясной, калі прыбывае вада*: на рѣчцѣ Голубли млынъ объ одномъ колѣ, веснякъ (АВК, XIV, 99, 1566); надаемъ тому мѣсту... млиникъ вешнякъ (АВК, IV, 94, 1670).

**Вешнячокъ** – *памянш. ад* **вешнякъ**: другий млиникъ того жъ мѣста на рѣчцѣ Верѹей объ одномъ колѣ, вешнячокъ (АВК, XIV, 100, 1560).

**Вещание** – *тое, што і* **весть**: хто еси ты приносѧ мнѣ вещание (Чэцця, 33).

**Вещба** – *прадказванне*: вѣщбы, ворожбы и инныхъ забобоновъ выстерегалисѧ (Зб. вып., 104).

**Вещеванье (вещаванье, вещованье)** – *тое, што і* **вещба**: вѣщеваню... свой народъ понаѹча*л* (Біблія, 30); ѡбразованіе: зна*к*, презначе*н*е, вѣщован[s]е на ѕло або на добро (Бяр., 192); вѣщаванью, то есть бѣгомъ планетъ нбскихъ свой наро*д* понаучалъ (Хран., 19).

**Вещенье (вещение)** – *тое, што і* **вещба**: старость захарьинѹ вѣнчавъ блго*ст* вѣщѣніемъ (Чэцця, 77); Птиче влъхвовованіе: Вѣщба вѣще*н*е с[s] птахѡв[s] (Бяр., 137).

**Вещка** – *вяшчунка*: были те*ж* на ѡно[s] ѹчте три невѣсты вѣщъки которы*х* еллини за богини мѣли (Тр. гіст., 67б).

**Вещое** *гл.* **весчее**.

**Вещокъ (вещикъ)** – *вяшчун*: нехай же се межи вами не знайдуть... ани вѣшчикъ, ани гусльникъ (АСД, III, 137, 1631); Жрецъ: ѡфѣрѹючій, вѣщо*к*, практыкаръ (Бяр., 44).

**Вещь** – **1)** *рэч*: вси житеискыи вещи погыноу*т* (Сівіла, 10); **2)** *прадмет або з'ява аб'ектыўнага свету*: вещъ ес*т* барзо слѹшне постановленаꙗ вода (Зб. 259, 524); **3)** *справа, учынак*: ѡ*т*починут[s] въ домѹ его добрые вещи вовѣки (Скар. IC, 24б).

**Вея** – *павека*: на вѣꙗ*х* мои*х* тѣнь смртны (Зб. 262, 19).

**Веяло** – *шуфлік для веяння збожжа*: ты есь Ликиниˢ то ест вѣꙗло (Зб. 82, 385).

**Веяльница** – *завіруха*: Трꙋсъ... вихерˢ, вѣѧлница вѣтръ гвалтовный (Бяр., 173).

**Веянье (венье)** – *веянне*: велѣ их с кораблев ѡных з веꙗнꙗ ветра а с поднесенꙗ парусов на землю приплынули (Троя, 19); коли стѧгнꙋлъ Мѡѵсеи рꙋкꙋ на море знеслъ егѡ гсдь вѣньемъ вѣтрꙋ кгвалтовногѡ (Хран., 92б).

**Вжасъ** *гл.* **ужасъ**.

**Вжыванье** *гл.* **уживанье**.

**Вжытокъ** *гл.* **ужитокъ**.

**Вжыще** *гл.* **ужище**.

**Взаконение** *гл.* **узаконение**.

**Взбешенье** – *шаленства*: Гортанобѣсіе: Горла вˢзбѣшенье (Бяр., 30).

**Взболотье** – *край балота*: придали есмо остров... почавши от болота забервецкого по взболотю идучы аж до Городыща (СДГВ, 29, 1572).

**Взбужденье** *гл.* **возбуженье**.

**Взбуренье** – **1)** *узбурэнне*: волны морские взбꙋренꙗ пѣнистые воды пꙋдꙗт (Стрыйк., 489б); **2)** *узбуджэнне*: потом зновꙋ еще болшое в римꙋ сталосе взбꙋренꙗ (Бельск., 152б).

**Взварецъ** – *півавар*: жаловали перед его милостью данникъ и сꙋдьникъ... на възварца господарского (КВЗС, 123, 1539).

**Взвезенье** *гл.* **увезенье**.

**Взвестка (узвестка)** – *пошліна пры яўцы купца ў іншы горад*: рядничій... биралъ взвѣстку у гостей у купцовъ, которые приѣзжаютъ (АЗР, I, 381, 1505); брано... чолновое, возовое, узвѣстка и квитовое, когды за границу ѣдуть (АЗР, IV, 167, 1597).

**Взводъ (узводъ)** – *пад'ёмны мост*: у ворот узводы мают быти справлены (СДГВ, 58, 1536); велели ворота ѡтворыти и взвод ѡтпустити (Бава, 167).

**Взворъ (узворъ)** – *разора*: должина одна, узворомъ одъ пашней на Калилѣ, ажъ до стѣны давное старое (АВК, VI, 184, 1599); должина другая взворомъ отъ второго поля подъ житомъ почавши (там жа, 185, 1599).

**Взгаловье** *гл.* **узголовье**.

**Взгарда (згарда)** – *пагарда, грэбаванне*: хто бы не мусил плакати видечи... езыка своего славного занедбане а просто възгардоу (Цяп., прадм., 268б); ѡхоту брал в милости хрстовоˢ и в згарде свѣта того (Зб. 752, 517).

**Взгардителька** – *жанчына, якая пагарджае кім-н. або чым-н.*: взгардителкою была великого менꙗчого власного, и длꙗ того коли еˢ што до рꙋкъ достало ꙋбогим давала (Зб. 255, 318).

**Взгарженье (згарженье)** – *выяўленне пагарды*: къ нѣкоторому униженью и възгарженью тыхъ, кто гербовъ не бралъ... вѣрность свою сталѣ показують (АЗР, III, 119, 1563); ближнемꙋ... згарженьемъ права посполитого ꙋшкодилъ (Ст. 1588, 426).

**Взглядъ (возглядъ, узглядъ)** – **1)** *позірк*: его взглꙗд видѣлсе имъ срогиˢ (Алекс., 19); **2)** *пункт гледжання*: маючы узглядъ ку посполитого доброго розмноженья (КЗ, 701, 1498); не имаючи жадного возглѧдꙋ кˢ заднеˢ или ко предней притчи (Скар. ПС, 3).

**Взголовье** *гл.* **узголовье**.

**Взгорда (вгорда)** – *тое, што і* **взгарда**: абысмо не были на въгордꙋ (Біблія, 88); на взгорду вѣры хрестиянъское чинечи, оного киемъ забилъ (АВК, XXVIII, 271, 1646).

**Взгордитель (згардитель)** – *чалавек, які кім-н. або чым-н. пагарджае*: в том всим показалсꙗ взгордителем славы и чести свѣтскои (Жыц. св., 68); петра згардителꙗ незвытꙗжоных цесаровъ длꙗ законꙋ бг҃а своего розказꙋю на кресте прибити (Зб. 82, 314б).

**Взгоре (взгорие, узгорие, узгорье)** – **1)** *узгор'е*: оу иных местцех на взгорію ѡдва мсца августа снег знаидоут (Валх., 44б); оузгоріа дивы и звезды везде ꙗсне были ѡбезрѧны

**Геркухня** *гл.* **гаркухня**.

**Гермафродитъ (ермофродита)** – *гермафрадыт*: ерьмофродита, то есть женскомꙋ женский пол (Навука, 23); гермафродитъ, то есть чл҃вкъ который оразъ есть мꙋщизною и невѣстою (Зб. вып., 54б).

**Гермокъ** *гл.* **кгермекъ**.

**Герстъ (герштъ)** – **1)** *завадатар*: бꙋнты... чынит не переставаютъ покꙋлъ з них герштове самые покараны не бꙋдꙋтъ (ККСС, 206, 1618); **2)** *пярэдняя лінія войск*: алеѯандръ всѣдши на кон... выскочил на герстъ а передъ всим рицерством своимъ станꙋлъ (Алекс., 19).

**Герциръ (герцыръ)** – **1)** *тое, што і* **гарцовникъ**: Противорец: Противныи герцыр (Бяр., 130); **2)** *збраяносец*: орꙋжник – герцир (Зіз., 119).

**Гетманичъ** – *сын гетмана*: ездили до его млсти пана Сапеги стольника гетманича вел. кн. лит. (ИЮМ, VI, 35, 1689).

**Гетмановая** – *жонка гетмана*: била намъ чоломъ воеводиная Троцкая, гетмановая наша навышшая (АЗР, II, 191, 1528).

**Гетманство (гетманьство, гэтманство)** – *гетманства*: Гонорыусь ѡтнѧл ему был гэтманство (Атыла, 185); ѡбецѣемъ... гетманьство великое годнымъ и досветчонымъ людемъ... давати (Ст. 1588, 47); Иванъ Кучка здал з себе гетманство козацкое (Барк., 166б).

**Гетманъ (гетьманъ, гэтманъ, гэтьманъ, етманъ)** – *гетман*: мы тотъ дворъ князю гетманꙋ дали (КСД, 660, 1511); люд мужне боевалъ под гетьманомъ (Троя, 48б); далеко ꙋ воискꙋ ѡт гэтьмана становитисꙗ маютъ (Ст. 1566, 26б); етъману земъскому (АВК, XXIV, 321, 1569); его гэтманы тую раду похвалили (Атыла, 221).

**Гиацинтъ (гияцынтъ, яцинктъ)** – **1)** *тое, што і* **акинфъ** *у 1 знач.*: рꙋце его... полны ꙗцинктовъ (Скар. ПП, 8); переплетано сꙋкню цветнꙋю зе злота гиꙗцынтꙋ (Зб. 752, 270); **2)** *тое, што і* **акинфъ** *у 2 знач.*: Синета: гѵацинтˢ, тое ест зˢ модрогѡ едвабꙋ (Бяр., 146).

**Гибель** – *гібель*: всказалъ къ намъ о гибель Ѳедька Яропкина (АЗР, I, 108, 1486).

**Гиберна (гыберна)** – *падатак на ўтрыманне войска зімой*: приехалъ панъ Заборскій хоронжій выбирать зъ волости гиберну (ИЮМ, III, 69, 1685); презентовали правы, привилея... одъ плаценя подымного, гыберны (ИЮМ, XIII, 113, 1699).

**Гигантъ** – *гігант*: видѣли гигантов албо ѡлбримов (Бельск., 60).

**Гидра** – *гідра*: дал емꙋ за ꙋпоминок стрѣлы которые были помазаны жолтъю ꙋжовою, которого звано гидра (Бельск., 87б–88).

**Гидропъ** – *хворы на вадзянку*: ѵдерікѡп: Гѵдрѡп, ѡпꙋхлыи (Бяр., 318).

**Гиена** – *гіена*: гѵена взѧвши свое щенѧ которое было слѣпо, принесла до ст҃го Макаріа (Мак., 18).

**Гимнъ (имнъ)** – **1)** *гімн*: Пѣніе: Гѵмнъ, спѣванье (Бяр., 133); оурѧдъ чтеца и пѣвца есть читати ѱалтыръ... и пѣти ѵмны (Зб. вып., 52б); **2)** *старажытнагрэчаская навучальная ўстанова*: Костантин... набꙋдовал и школ и гимнов а библиѡтекꙋ... собрал (Бельск., 269б).

**Гинштъ (гиньштъ)** – *конь, натрэніраваны на пэўную ходу*: ѡны на гиньштех на дромедарех такъ борздо преѣхали (Валх., 48б); dawali... sorok hynsztow (Бых., 521).

**Гинъ** – *старажытная мера вадкіх рэчываў*: гин мѣра егѵпецка (Хран., 108).

**Гипердулия** – *найвышэйшы гонар*: гипердꙋліѧ есть честь середнѧѧ межи лѧтріею и дꙋліею, котораѧ належитъ двѣ Мр҃іи (Зб. вып., 101).

**Гипсъ** – *коршун*: Сѵпъ, зр: Гѵѱ и сꙋпˢ, и Пилюк (Бяр., 313).

**Гирка** – *сорт пшаніцы*: ходилъ до бровару зъ гиркою (ИЮМ, IV, 285, 1688).

**Гисторикъ** – *гісторык*: выписꙋютъ то и гисторикѡве цр҃ковные (Апакр., 119б).

**Гистория (гисторыя, хистория)** – **1)** *падзеі мінулага*: то сꙋт вымыслные речы, кꙋ прошлоˢ гистории не залежат (Бельск., 91); **2)** *навука аб мінулым*: кроˢникар нашъ рꙋскиˢ значнѣˢ... гисторѣи не писал (Стрыйк., 423б); **3)** *кніга, у якой апісваюцца падзеі*

*мінулага*: пишеть тѹю гисторию сикгони^s (Зб. 255, 363б); **4)** *апавяданне*: оу пречененеи хистории апокрифе волю того... кажоу*т* (Пак. Хр., 25); **5)** *здарэнне*: ѡглѧдалъ тамъ малюваныи гисторыи (Мак., 66).

**Гицель** – *памочнік ката*: не могѹть тежъ быти капланами... катове и гицліове (Зб. вып., 55).

**Гишпанинъ (ишпанинъ)** – *іспанец*: которые угорским езыком зовуть ишпаны (Атыла, 203); были гишпани, фра*нц*ѹзове, англии (Бельск., 406б).

**Гияцынтъ** *гл.* **гиацинтъ.**

**Глабцы** – *драбіны ў возе*: того жъ дня купили глабцы (ИЮМ, XII, 56, 1698).

**Глава – 1)** *тое, што і* **голова** *ў 1 знач.*: вчынилъ с травы венецъ и взложыл на главу (Бава, 137); **2)** *тое, што і* **голова** *ў 5 знач.*: петръ... главою цр҇кви хсвои не называлсѧ (Каз. Кір., 62б); **3)** *тое, што і* **голова** *ў 8 знач.*: главы пакъ иже были суть на верху столповъ, ꙗкобы на взор^s цвету лилиова ѹчинены были (Скар. ТЦ, 138б); **4)** *раздзел кнігі*: то е*ст* ѡстатнꙗꙗ глава бытиꙗ (Бельск., 35б). ◊ **Во главу углу** – *у аснову асноў.*

**Главизна** – *тое, што і* **глава** *ў 4 знач.*: во главизне ѹбо книжнои писано естъ о мнѣ (Скар. КЛ, 4).

**Главня** – *тое, што і* **головня**: Лисицамъ навѧзалъ главнѣ огнѧныи Самсонъ и попалил^s жита филистымскаѧ (Скар. КС, 32б).

**Главоболение (главоболенье)** – *галаўны боль*: Главотѧжаніе: Главоболе*н*е (Бяр., 27); Тѧжкоглавіе: Главоболѣніе (там жа, 174).

**Глаголание** – *гаварэнне*: глѹбина... по глаголанію або пропасть зоветсѧ (Хран., 1б).

**Глаголець** – *гаворка*: сла*д*че ѡлѣю глаголець ее (Зб. 262, 95).

**Глаголъ – 1)** *слова*: тыи рече*н*ныи ѡ*т* тебе глаголы не вспомина^s (Зб. 82, 305б); **2)** *дзеяслоў*: наѹчитъ именъ склоненіѧ а глаголѡвъ спрѧженіѧ (Сматр. Гр., 4).

**Гладкость** – *прывабнасць*: ꙗкге^sло велики^s кнꙗз литовски^s, довѣдавшисꙗ ѡ кролевне ꙗдвизе... слышачи те*ж* ѡ гладкости еи... послы до неи... выправи*л* (Стрыйк., 61б).

**Гладкоязычье** – *красамоўства*: ѡкрѣпи*т* црство гладкоꙗзычемъ (Зб. 262, 125).

**Гладость** – *ласкавасць*: ѡстеречи тебе ѡ*т* жонки... гладости ꙗзыка чѹжее (Зб. 262, 96).

**Гладъ – 1)** *тое, што і* **голодъ** *у 1 знач.*: Алчѹ: лакнѹ, гладомъ таю, естем^s голодны*и* (Бяр., 1); **2)** *тое, што і* **голодъ** *у 2 знач.*: былъ есть гладъ на земли по тои неплодности (Скар. КБ, 46б).

**Глажение** – *падлога*: море медѧно... поставилъ е на глажении каменном^s (Скар. ЧЦ, 219б).

**Гласанье** – *тое, што і* **голосанье**: на сторожу замковую для кликанья альбо гласанья и на иншые потребы вся волость повинна (АСД, I, 188, 1594).

**Гласъ – 1)** *тое, што і* **голосъ** *у 1 знач.*: оуслышала еси гласъ сии благии (Чэцця, 37б); **2)** *тое, што і* **голосъ** *у 2 знач.*: слышал те*ж* и глас играючи*х* на а*р*хвахъ (Зб. 255, 225б); **3)** *тое, што і* **голосъ** *у 3 знач.*: воздвигоша рѣки гласы своꙗ (Чэцця, 11).

**Гледенье** *гл.* **гляденье.**

**Глезна** – *шчыкалатка*: была есть на неи одежа долгаѧ даже до глѣзнъ (Скар. ДЦ, 89).

**Глей** – *глей*: заставилъ... глей напротивку двора пана Павла (АВК, XXI, 137, 1557).

**Глейтъ** *гл.* **кглейтъ.**

**Глекъ** *гл.* **глякъ.**

**Глина** – *гліна*: светлица древяная, глиною лепленая (АВК, XX, 198, 1602).

**Глинище** – *глінішча*: границу черънецъкую такъ донесли... с того копъца... в глинище, а с того глинища дорогою тоею жъ въ мохъ (ИЮМ, XXII, 300, 1602).

**Глинникъ – 1)** *тое, што і* **глинище**: рубежъ тои земли... Туровью уверхъ по глинникъ (АЮЗР, I, 39, 1509); **2)** *ганчар*: Симонъ менилъ трехъ светковъ на имя Янка Кулевича глинника а Мацука Везича а Карпа Дядковича (АВК, XVII, 194, 1540).

**Глинянка** – *хатка, зробленая з гліны*: подобалосѧ емꙋ в тои самои глинѧнъцѣ... мешкати (Мак., 382).

**Глича** – *дзіда, кап'ё*: у Невгини у полочанъ товаръ трясутъ а грабятъ и гличами поставы колутъ (РЛА, 235, 1479).

**Глова** *гл.* **кглова**.

**Глодъ** – *асот*: ѡсотъ або глодъ родити тобѣ бꙋдетъ (Хран., 10).

**Гломбикъ** *гл.* **кглембикъ**.

**Глосъ** *гл.* **кглосъ**.

**Глубина (глубиня)** – *глыбіня*: чинить ꙗко горщекъ морскую глубиню (Скар. КВ, 50); постꙋпи на глꙋбинꙋ и закинте сѣти (Каліст, II, 103б).

**Глубокость (глыбокость)** – **1)** *глыбокасць*: всѣх казал в глыбокост морскую вкинути (Пралог, 498б); **2)** *вялікая працягласць у прасторы*: загнал чередꙋ в глубокость пꙋстыни (Біблія, 109); **3)** *вялікая ступень праяўлення пэўнай уласцівасці*: принꙗлъ ѡт гд҃а бг҃а великую ласку премудрости и глыбокост розꙋму (Пралог, 580).

**Глубокоумие (глубокоумье)** – *глыбокі розум*: мѧгкое тѣло знаменоуеть растропность и глꙋбокооумие (Арыст., 199); длани гладкии и тонкии знаменоують глоубокоумье (там жа, 200).

**Глубость (глыбость)** – **1)** *тое, што і* **глубокость** *у 1 знач.*: пришол Евстафеѕ до неꙗкоѕ реки... и длꙗ глыбости великое не мог ѡбоих дѣток перенести (Зб. 752, 107б); **2)** *тое, што і* **глубокость** *у 3 знач.*: Дх҃ъ абовѣмъ все выбадываеть наветъ и глꙋбости Бж҃іи (Мак., 316).

**Глумище** – *пасмешышча*: был есми смѣхъ всемꙋ людꙋ своемоу глꙋмище (Зб. 262, 112).

**Глумление** – *глумленне*: Оукоризна: Хꙋла... наиграванье, глꙋмленіе (Бяр., 178).

**Глупень** – *тое, што і* **глупецъ**: глꙋпнем и юродивымъ свѣтꙋ томꙋ ставаетъсѧ (Мак., 74).

**Глупецъ** – *дурань*: мнимал глупець единороднꙋю мудрост бж҃ꙋю людскою хитростью подити (Зб. 82, 277б).

**Глуповство** – *дурасць*: глꙋповство безꙋмных безꙋмно (Зб. 262, 100).

**Глупость** – *тое, што і* **глуповство**: глупый же ѡткрываеть глꙋпость свою (Скар. ПС, 21б).

**Глупство (кглупство)** – *неразумнасць, глупства*: кто недбалому прыятелю далъ што заховат, не ему мает прычитат, але своему кглупъству (АВК, XXXIX, 170, 1579); естли бы хто з глꙋпъства або шаленства в томъ выступилъ (Ст. 1588, 5).

**Глухость** – *глухасць*: востанꙋтъ зась людіе хорошшіи нѣжъ были, безъ слѣпоты, хромоты, глꙋхости и инныхъ вадъ (Зб. вып., 97).

**Глухота** – *глухата*: вѕ слѣпотѣ, вѕ глꙋхотѣ... тѧгнꙋтъ лѣта зліе (Лям., 10).

**Глушецъ** – *глушэц*: на бору ездившы того жъ дня, приехалъ на обедъ до суседа моего Павла Мишкевича з двема глусъцы (АВК, XXII 127, 1565).

**Глыбокость** *гл.* **глубокость**.

**Глыбъ** – *глыб*: запꙋсти сѣть на глыб на половицы (Зб. 752, 383).

**Гляденье (гледенье, глядженье, гляженье)** – *глядзенне*: глѧдѣньемъ на нихъ окроутные свои ѡчи паствилъ (Апакр., 123б); до слонца глꙗженꙗ побꙋжает простым ѡкомъ (Зб. 259, 562б); Смотреніе: смотрѣнѕе, глѧджѣнѕе (Бяр., 151); пры гледенью много людей шли з нимъ (АВК, XX, 199, 1602).

**Глякъ (глекъ)** – *гляк*: маеть продать только пять гляковъ олею (ИЮМ, VII, 340, 1582); дали на глекъ олею чернцомъ полоцкимъ золотыхъ тры (ИЮМ, XI, 87, 1697).

**Глячокъ (глечокъ)** – *памянш. ад* **глякъ**: глечки чреповыи дѣло рꙋкъ горънчаровых (Зб. 262, 112б); глячокъ на патыку (ИЮМ, I, 244, 1682).

**Гмахъ** *гл.* **кгмахъ**.

**Гминъ** *гл.* **кгминъ**.

**Гмызъ** – *насякомае*: се море великое... и в том гмызы которым числа нет (Пс. XVII, 104).

**Гнание** – *узмах*: ѡнъ же осмъсотъ мужеи поразилъ единымъ гнаниемъ (Скар. ДЦ, 113).

**Гневанье** – *гневанне*: мысль страшнаѧ и зловременнаѧ и гнѣванье (Арыст., 245).

**Гневливость** – *гняўлівасць*: Злопомнѣніе: Застарѣлаѧ гнѣвливость (Бяр., 28).

**Гневникъ** – *гняўлівы чалавек*: не велить проскȣръ примати ѡ*т* гневника (Чэцця, 363).

**Гневъ** – *гнеў*: гнѣву божіего на себѣ призываеть (Будны, 19б).

**Гнездечко** – *гняздзечка*: говаривалъ есмъ ȣ гнезъдечъку моемъ оумру (Скар. КІ, 34б).

**Гнездо** – **1)** *гняздо*: з лебединого гнезда ꙗˢца побра*л* (Ст. 1566 І, 81б); **2)** *перан. жыллё людзей*: ѡбыватели, коли сꙗ вˢ ѡдно*м* гнездѣ змести*т*... не могли, збȣдовали... дрȣгое мѣсто (Стрыйк., 419); **3)** *род, радня*: гнѣздо естесмы великого кн҃зя (Мам., 173); **4)** *клас (каштоўных камянёў)*: знаˢдȣю*т*... дорогое камѣ*н*е... то е*ст* гнѣздо ка*р*ванкȣлюса (Бельск., 177).

**Гнилець** – *гніляк; цвіль*: ѡ*н* же ꙗко гнилець стлѣеть (Зб. 262, 17б).

**Гнилость** – *гніласць*: тѣло ѡное бе*з* гнилости цѣло зоставало (Бельск., 369б).

**Гниль** – *гніль*: ȣчитель наказаніемъ, порȣченемъ и напоминанье*м* заховуеть людей ѡ*т* дх҃вное гнили (Будны, 7б).

**Гнитье** – *гніццё*: поро*х* з гни*т*ꙗ ѡвоцов ѡны*х*... приемнȣю вонно*ст* мае*т* (Бельск., 3б).

**Гноище** – *куча гною*: лежачи в червѣ*х* на гноищи бг҃а хвалилъ (Чэцця, 56б).

**Гной** – **1)** *гной*: вывезъ человекъ гною возъ десять (ИЮМ, VII, 181, 1690); **2)** *кал*: ластовка з гнѣзда пȣстила гной на ѡчи и сталсе слѣпы*м* (Біблія, 588); **3)** *гнойнае выдзяленне з раны*: з тѣла зскробовалъ стрȣпы и гноˢ текȣчиˢ (Зб. 259, 498б).

**Гнушение** – *ганьба*: теміанъ о гнушеніе ми е*ст* (Будны, 215б).

**Гнюсность (гнусность)** – *гнуснасць*: видели есте гнусности ихˢ (Скар. ДЗ, 56); Нечистота: Скверна, брȣдъ, гнюсность (Бяр., 97).

**Гнюсъ (гнусъ)** – *паскудства, гніль*: гнюсъ же в костѧхъ тое жены котораѧ злыѧ дела чинить (Скар. ПС, 20); гноусѫ и*х* и стервищъ и*х* ѡбрати*т*сѧ вѣтръ мȣтенъ (Арыст., 217).

**Говейно** – *тое, што і* **говение**: узялъ у мене у Петровое говейно... рубль денегъ (АВК, XXXIX, 7, 1578).

**Говение** – *пост*: тои же зимы во великое говение нача Свѣтославъ доумати со Смоленъскыми боꙗри (Супр., 96б).

**Говоренье (говорение)** – *гаварэнне; размова*: сладкое нелицемѣрное говорѣние (Чэцця, 139); городничому при говореню дали золотыхъ десеть (ИЮМ, II, 15, 1685).

**Говорка** – *размова*: ниякихъ бездѣлныхъ говорокъ у пословъ вашихъ съ паны радами королевской милости не было (АЗР, IV, 429, 1611).

**Говоръ** – **1)** *гамонка*: сталъ говоръ великъ въ домоу евфимыꙗновѣ (Чэцця, 151); **2)** *манера гаварыць*: говоръ же померныи, борзостію и толстиною се*и* е*с* разȣменъ (Арыст., 178).

**Говяда (овяда)** – *быдла*: овѧда на оные жертвы избѣрали (Будны, 214); говꙗдо*м* те*ж* и ѡвцамъ не было личбы (Біблія, 38).

**Говядина** – *карова*: взꙗта Савȣлу едина говꙗдина (Царств., 81).

**Година** – **1)** *гадзіна*: ани ѡднои годины и ѡвше*м* ани ѡднои минȣты... не згȣбилъ (Варл., 345б); **2)** *пара ў межах сутак*: в ночь година або две вже была (АВК, XXI, 96, 1555); **3)** *часіна*: година смерти никому не есть означона (ИЮМ, XXI, 462, 1626). ◊ **Нешпорная година** – *вечар*.

**Годинка** – *памянш.* **1)** *ад* **година** *ў 1 знач.*: мы кождыˢ дн҃ъ годинкȣ по ѡбеде... на розмова*х* дх҃вны*х* всѣ*х* веспо*л* быти пови*н*ны (Зб. 261, 431); **2)** *ад* **година** *ў 3 знач.*: в малоˢ годи*н*цѣ тѣла своего ѡкаꙗ*н*наго бы намнѣˢ не трапили (Зб. 107, 110б).

**Годинникъ** – *гадзіннік*: згинулъ... годинникъ компасъ костеный (АВК, VI, 60, 1589).

**Годины** – *угодкі*: поминали... сорочины, полъгодины и годины (Будны, 7).

**Годище** – *год*: Лѣто: Времѧ, рокъ, часъ, годъ, годище (Бяр., 74).

**Годность** – **1)** *годнасць*: маеть ꙗкую годность рыцэрскую в собѣ (Атыла, 194); **2)** *тытул, пасада*: таког над годност высокꙋю не высажовано (Зб. 261, 258б).

**Годованье** – *частаванне*: при годованю нашего царꙗ таковыˢ есть ѡбычаˢ, ижъ годꙋючи если хочꙋт берꙋт кубки з которих пиют (Алекс., 18).

**Годовое** – *гадавая пошліна за карыстанне зямлёй*: съ каждое волоки въ року идеть... годового три гроши (АСД, I, 23, 1536).

**Годунецъ (гадунецъ)** – *гадунец*: забрали... вепровъ валашаных гадунцовъ чотыры (АВК, XXXVI, 21, 1582); взяли... вепровъ годунъцовъ чотыры (там жа, 42).

**Годъ** – *год*: александръ гѡд мешкалъ въ индии (Алекс. XV, 2).

**Годы (кгоды)** – *пачастунак, банкет*: дочкꙋ свою дамитꙋ за приска давал а кгоды еˢ справовал (Бельск., 335); ихъ алеѯандеръ казалъ выпꙋстит и на годы позват (Алекс., 7б).

**Гоздзика** *гл.* **кгвоздзика**.

**Гойность** – *шчодрасць*: хто ведаеть даровъ божыхъ гоˢность (Бер. саб., 57).

**Гоковница** *гл.* **гаковница**.

**Голдованье** – *пакарэнне*: Хс̃ не винꙋетъ богатства, але виноуетъ голдованˢе богатствꙋ (Каліст, II, 71б).

**Голдовникъ** – *васал, падданы*: довмант теж ꙗко голдовникъ з ними теж был пошол на тꙋю воˢнꙋ (Стрыйк., 526).

**Голдъ** – **1)** *прысяга*: прускии мистръ... голъдъ в Кракове посеред рынку королю Жыкгимонту чинилъ (Рач., 349); **2)** *залежнасць*: тыи панства под римскую владзꙋ и голдъ подвернꙋл (Рым., 81).

**Голенище** – *халява*: в той скрыни шапка чорная, голенища (АВК, XXI, 194, 1556).

**Голенка** – *тое, што і* **голень**: Глезно: Голѣнь, голѣнка (Бяр., 28).

**Голень** – *галёнка*: у трохъ месцохъ голень кость перебита (АВК, XXI, 255, 1556).

**Голенье** – *галенне*: за голене трехъ особъ дали жиду (ИЮМ, IX, 185, 1692).

**Голичъ** – *цырульнік*: позвала голича и оголи ему седˢмъ плетеницъ власъ (Скар. КС, 36).

**Голкъ** *гл.* **кголкъ**.

**Голобрадство** – *адсутнасць барады*: Брада ѡголена: голобрадство (Бяр., 10).

**Голова** – **1)** *галава*: естли бы хто кого в головꙋ ранилъ (Ст. 1588, 422); **2)** *развага*: декрета не з головы але з письма чинити... мають (Трыб., 3б); **3)** *адзінка пры падліку людзей*: ревизори... дан з кождои головы выбрали (Стрыйк., 521б); **4)** *забіты*: судили... ѡ головꙋ шлꙗхетскую (Ст. 1566, 49); **5)** *кіраўнік*: хочутъ... папежа головою признати (Барк., 149б); **6)** *цэнтр*: мѣсто москва перед тым не было столицею и головою народꙋ тог (Стрыйк., 432); **7)** *харчовы прадукт у выглядзе шара*: цукру головы две (ИЮМ, XIII, 26, 1699); **8)** *верхняя частка чаго-н.*: вежꙋ ꙋмыслили собѣ бꙋдовати, которои бы голова и дах неба досꙗгнут мѣла (Стрыйк., 416б). ◊ **Белая голова** – *жанчына*; **голова угла** – *аснова асноў*.

**Головажня (головяжня)** – *адзінка колькасці солі*: по пятдесять головяжен соли с комяги (Арх. ЮЗР, VIII-4, 56, 1511); по 10 головажень соли (АЗР, II, 163, 1525).

**Головень** – *галавень*: купили рыбы свежей, головней двухъ (ИЮМ, XIII, 81, 1699).

**Головка** – **1)** *памянш. ад* **голова** *ў 1 знач.*: роукою головкꙋ дитѧткꙋ ісєви поднимала (Валх., 53б); **2)** *шарападобны плод*: ходꙗчи по ѡгородꙋ молчком головки маковыи... стинал (Бельск., 150); **3)** *памянш. ад* **голова** *ў 8 знач.*: оказовал кончер... у которого паски простого ремеию дубленого и головка сломена (АВК, XXXIX, 500, 1579).

**Головникъ** – *забойца*: ѧ держоу... оу темници головника (Пак. Хр., 21).

**Головное** – *тое, што і* **головщина** *ў 2 знач.*: тотъ... имееть дѣтемъ его а любо пріетелемъ его раны платит а любо головное (Вісл., 29).

**Головня** – *галавешка*: встал ѡдин кухаръ и взѧлъ головню горачую и вдарыл Бово по голове (Бава, 151).

**Головщизна (головщызна) – 1)** *тое, што і* **головщина** *ў 1 знач.*: шлꙗхту мають судити ѡ раны и ѡ головщизны (Ст. 1566, 36); **2)** *тое, што і* **головщина** *ў 2 знач.*: головщызна плачона быть мѣла (АСД, I, 347, 1643).

**Головщина (головчина, головщына) – 1)** *забойства*: присылалъ до мене... людей его въ боехъ, головчинахъ (АСД, I, 129, 1553); **2)** *плата за забойства*: тотъ адамъ только ѡднꙋ головъщынꙋ маеть заплатити (КВЗС, 171б, 1570); головщина зъ именьѧ або маетности винъного теж совито плачона бꙋдет (Ст. 1588, 12).

**Головяжня** *гл.* **головажня**.

**Голодница** – *галодны*: жниво бы его голодница перѣлъ (Зб. 262, 13б).

**Голодность** – *адчуванне голаду*: Алчба: Лакнене, голодност<sup>s</sup> (Бяр., 1).

**Голодость** – *тое, што і* **голодъ** *у 3 знач.*: далъ емꙋ так гдѣ бг҃ъ... скрꙋхꙋ и плакане и голодост сердечънꙋю в речах небесных (Зб. 82, 89).

**Голодъ – 1)** *вострае адчуванне патрэбы ў ежы*: много голоду и томли терпелъ (КЗ, 350, 1484); **2)** *недахоп харчовых прадуктаў як масавае няшчасце*: был голод велики<sup>s</sup> в полщи, в рꙋси, в литвѣ (Стрыйк., 532б); **3)** *перан. недахоп чаго-н. жыццёва важнага*: голодъ терпѧтъ, лечъ не голодъ хлѣба и воды, але голод<sup>s</sup> слова Бж҃ого (Каліст, I, 12).

**Гололедица** – *галалёдзіца*: гололедица ковзота студен (Барк., 167б).

**Гололедь** – *галалёд*: ѡгнь град снег гололедь (Пс. XVI, 141б).

**Голопупя** – *бяспёрае птушаня*: Птенец<sup>s</sup>: Дитѧ каждого птаха, голопꙋпѧ (Бяр., 132).

**Голосанье** – *галашэнне*: жалоснѣйшій плачъ и голосане оучинили (Каліст, II, 311).

**Голость** – *галізна*: скорки козлꙗчии ѡбвинꙋла... и голост шии его ѡкрила (Біблія, 61).

**Голосъ – 1)** *голас*: конь... познал голос пана своего (Бава, 151); **2)** *голас як матэрыял вакальнага мастацтва*: спѣваки або играчѣ на голосы спѣваючіи (Бяр., 298); **3)** *шум, грукат*: голос битвы слыхат в ѡбозѣ (Біблія, 150); **4)** *вестка, чутка*: по всем свѣте был рознесенъ голос ѡ смерти Алеѯандрово<sup>s</sup> (Алекс., 45); **5)** *меркаванне*: не послꙋхал иж люд мой голосу моего (Пс. XVI, 84); **6)** *права выяўляць сваю думку*: естъ самых бискꙋпов трибꙋнал, і нихто там голосꙋ не маетъ, ѡдно ѡни (Апакр., 52б).

**Голота** – *бедната*: ревизоры мають быти... осѣлые, а не голоты (АЗР, III, 83, 1557).

**Голоть** – *тое, што і* **гололедь**: снѣгъ голоть (Чэцця, 144б).

**Голошенье – 1)** *паведамленне*: Вѣщаніе... голошенье (Бяр., 26); **2)** *шчабятанне*: Птиче влъхвованіе: Вѣщба... с<sup>s</sup> птичего... голошенѧ, албо щебетанѧ (Бяр., 132).

**Голубецъ** – *шчака*: ꙗкожъ половина маръкграмꙋ голꙋбець твои (Зб. 262, 85).

**Голубинецъ** – *галубятня*: ꙋдарил перун въ дворе моем ꙋ сырницу и голубинец (Еўл., 33).

**Голубица – 1)** *тое, што і* **голубка**: хто ми даст скрыдла ꙗко голꙋбицы а бꙋдꙋ лѣталъ (Выкл., 126); **2)** *перан. ціхая, лагодная істота*: ѡтвори мнѣ сестро моѧ приател<sup>s</sup>ко моѧ голубице моѧ (Скар. ПП, 7).

**Голубка** – *галубка*: збѣжилисꙗ... ꙗко ꙗстребове ѡколо голубки (Пралог, 583).

**Голубникъ** – *тое, што і* **голубинецъ**: голубникъ тежъ о чотырехъ столпехъ, того подрубано (АВК, XXI, 372, 1558).

**Голубокъ** – *памянш. ад* **голубъ**: курей два, каплуновъ десеть, голубковъ усихъ паръ дванадцать (АВК, VIII, 486, 1599).

**Голубцы** – *тое, што і* **глабцы**: голубцовъ паръ чотыри (ИЮМ, V, 128, 1688).

**Голубъ (голубь)** – *голуб*: виде духъ божий исходѧщь ꙗко голубь (Скар. ІН, 3б); селезень два грошы, голꙋбъ грошъ (Ст. 1588, 513).

**Голубя** – *галубяня*: дите туж было и голубꙗта в голубинцу (Еўл., 33).

**Голузка** *гл.* **галузка**.

**Голузье** – *тое, што і* **голье**: Апфіа... голꙋз<sup>s</sup>е ѕлое випꙋщаючаа (Бяр., 233).

**Голь** – *галіна*: похвативши секѣрꙋ ꙋтꙗлъ голь з дерева (Біблія, 127б).

**Голье (голие)** – *галлё*: на берозе голье обрубано (АВК, XXI, 207, 1557); обвилисѧ волосы егѡ около голіѧ (Хран., 270б).

**Гольтяй (гольтай, гултай, гультай)** – **1)** *беззямельны селянін*: у двори людей есть пять а гольтяевъ два, што земли не держать (КЗ, 169, 1490); люди лезные, то есть гольтаи... которые на службу не наймуються (АВК, III, 274, 1577); **2)** *гультай; нягоднік*: тотъ гультай тужъ в томъ краю не былъ (АВК, XXVIII, 64, 1605); Лестецѣ... зводник[s], гȣлтай, который волочитсѧ длѧ поживлѣнѧ (Бяр., 70).

**Гольца (голца)** – *галінка*: гольцы резалі з деревъѧ (Цяп., 59); Вѣіа или Вѣтвь: Росчка, галȣз, голь, или голца з[s] листѧм (Бяр., 26).

**Гомилия** *гл.* **омилия**.

**Гомолокъ** – *тое, што і* **кгомолка**: сыры: голландскій... гомолокъ (ИЮМ, XXV, 53, 1715).

**Гомонъ** – *гоман*: послышалъ есми ажно ȣ церкви гомонъ велики[s] (КВЗС, 41б, 1538).

**Гоморъ** – *старажытная яўрэйская мера сыпкіх і вадкіх рэчываў*: возмет... гоморъ бѣлои муки и кварту ѡливы (Біблія, 166).

**Гомъятъ** *гл.* **гамъятъ**.

**Гонарариумъ** *гл.* **гонорариумъ**.

**Гоненье (гонение)** – **1)** *гнанне*: урадникъ... нас оставил для гоненя подданых на роботу (АВК, XXXVI, 205, 1582); **2)** *даганянне*: по гоненъи по[s]ман бы былъ на дорозе (Ст. 1588, 498); **3)** *праследаванне*: быс гонѣние велико на хрстыѧны (Чэцця, 139б).

**Гонецъ** – *ганец*: гонецъ маеть ехати до враду господаръского за листомъ господаръскимъ подводнымъ (КПД, 597, 1558).

**Гонитва** – *скачкі*: ȣрыстаніе конское: Гонитва (Бяр., 218).

**Гонителка** – *ганіцелька*: была тобѣ гонителкою (Зб. 752, 305б).

**Гонитель** – **1)** *ганіцель*: павелъ был великии гонитель на хса (Чэцця, 114б); **2)** *той, хто гоніцца*: гонителі ее спостигли ее межи границами (Зб. 262, 110).

**Гонорариумъ (гонарариумъ, гонорарыумъ)** – *ганарар, узнагарода*: городничому гонорариумъ дали зол. тридцать (ИЮМ, I, 36, 1679); гонарариумъ належытого ихъ милостямъ паномъ поборцомъ триста тридцать три и осмаковъ двадцать (ИЮМ, IV, 179, 1686); Волчинскому гонорарыумъ... дали (ИЮМ, VIII, 193, 1691).

**Гоноръ** – **1)** *гонар*: тот процес... гонорови и добро[s] славе ег и репутацыи ненакганено[s] шкодливы (КАР, 30б, 1646); **2)** *пашана*: ѡни прагнȣчы маетности гоноров инших тым потребных рече[s] достȣпити бегают (Зб. 261, 71б); **3)** *ганарыстасць*: гоноръ и учтивость щипючая... утемпорованая есть (АВК, XV, 517, 1686).

**Гонтъ** *гл.* **кгонтъ**.

**Гончаръ (ганчаръ)** – *ганчар*: мулѧру, швецу, гончару... головщины по тридцати копъ гроше[s] (Ст. 1588, 488); набрали горшковъ у Павла ганчара (ИЮМ, I, 80, 1679).

**Гончикъ** – *памянш. ад* **гонецъ**: послано отъ короля... до всѣхъ городовъ, мѣстъ и волостей порубежныхъ гончика (АЗР, IV, 305, 1608).

**Гонъ** – **1)** *мясцовая мера зямлі і адлегласці*: волока идеть вздолжъ на гоновъ двои (АСД, VI, 309, 1596); **2)** *праследаванне звера на паляванні*: дом ȣмалевал звѣринцами и вымисливыми гонами (Бельск., 370). ◊ **Бобровый гонъ** – *участак, адведзены для баброваго промыслу.*

**Гонья** – *пагоня*: быкъ его за гоньею въ домъ его зайти мелъ (АВК, XVIII, 227, 1611).

**Гора** – **1)** *гара*: прышли ку ѡднои горы и убачыли на неи замок (Бава, 157); **2)** *гарышча*: онъ... ушолъ дей на гору до избы (АВК, XX, 133, 1598). ◊ **Брати гору** – *перамагаць*; **одержати гору** – *перамагчы.*

**Горанье** – *аранне*: много грунту до гораня годного... далъ (АВК, XXIV, 447, 1586).

**Горачость** *гл.* **горячесть**.

**Горбъ** – *горб*: поганские зас дши прировныва*ют*ся до ве*л*блюдо*в* го*р*батые, на котори*х* бы*л* горбъ балвохвалства (Зб. 259, 190б).

**Гордение (горджение)** – *выражэнне пагарды*: чсть многая и гордѣния бояръ его (Чэцця, 238б); Щавство... глупость, пыха, взгарда, горджѣнье (Бяр., 20б).

**Горденьеся** – *тое, што і* **гордение**: Помпа: Киченіе, гордѣнѕеся (Бяр., 111).

**Гордость – 1)** *гордасць*: оукрасися оужо оу гордость и оу высотоу и в лѣпоту (Зб. 262, 29б); **2)** *ганарлівасць*: проклята гордо*ст* и пыха е*ст* нн҃ѣшних геретико*в* (Выкл., 61б).

**Гордыня** – *пыха*: возри на всехъ величающихся гордынею и посрамоти и*х* (Скар. KI, 48б).

**Горе – 1)** *гора, бяда*: есмь без беды албо без горя (Пак. Хр., 3б); **2)** *смутак, журба*: срдцо вѣдаеть горе дши своее (Зб. 262, 100).

**Горелка (гарелка, кгорелка)** – *гарэлка*: медъ и гарелку в дому шинковномъ... побраны (АВК, XXI, 120, 1556); шинковъ жадныхъ медомъ, пивомъ и кгорѣлкою не мѣли (АВК, III, 11, 1577); вольно тежъ мѣщаномъ пива, меды, горѣлки на свои потребы варити (АЮЗР, I, 254, 1594). ◊ **Горелка жолондковая** – *гарэлка, настоеная на жалудах*; **горелка цыномоновая** – *гарэлка, настоеная на карыцы.*

**Горелочникъ** – *вінакур*: двумъ горелочникомъ асмаки чотыри (ИЮМ, I, 283, 1682).

**Горенье** – *гарэнне*: мы се не стане*м* лепшими але горшими е*с*ли секиры до горения не приложымъ (Зб. 255, 14).

**Горесть – 1)** *тое, што і* **горкость** *у 1 знач.*: коренъ плодяй жолѕчь и горесть (Скар. ДЗ, 56); **2)** *тое, што і* **горкость** *у 2 знач.*: ѡблегчи гси тяготу нашю и горесть (Чэцця, 144б).

**Гориса** – *цьмянец*: хотя толчи безумного въ ступе посереде горисы толкачо*м* не ѡ*тс*тупи*т* ѡ*т* него безумие его (Зб. 262, 107б).

**Горица** – *памянш. ад* **гора** *ў 1 знач*: вели насъ... къ Угольскимъ горицамъ (АСД, I, 66, 1546).

**Горка** – *памянш. ад* **гора** *ў 1 знач.*: была та*м* ѡдна горка, на которую взъехавши пригледал*с*я войску турецкому (Стрыйк., 62б).

**Горкабузъ** *гл.* **аркабузъ**.

**Горкое** – *горкае*: мѣ*л* горкое солодки*м* звати (Бельск., 352).

**Горкость – 1)** *гарката*: горкости старо*г* ѡно*г* яблка скоштовалъ (Зб. 259, 633); **2)** *гора, жаль*: Горесть: Горкость, нахиленіе ку гнѣву (Бяр., 30).

**Горливость** – *гарачнасць*: горливо*ст* треба мерковат (Зб. 255, 26).

**Горлица** – *галубка*: воробик нашо*л* собѣ домо*к*, а го*р*лица собѣ гнѣздо (Пс. XVII, 79).

**Горличка** – *памянш. ад* **горлица**: нашла... горличка собе гнездо (Пс. XVI, 86).

**Горличище** – *галубяня*: при томъ ѡчищеню были ѡ*т*даваны... два горличища або два птенца голубиных (Зб. 82, 368).

**Горло – 1)** *горла*: шіа горло оусе было ѡтекло (Пак. Хр., 12); **2)** *шыя*: кинулася к нему на горло плачучы (Трыст., 75); **3)** *футра з шыі звера*: шубка китайки чорное, горлами куними подшытая (АВК, XXXVI, 75, 1582). ◊ **Горла боронити** – *абараняць жыццё*; **горла збавити** – *пазбавіць жыцця*; **горла не литовати** – *не шкадаваць жыцця*; **горломъ карати** – *караць смерцю*; **на горло всказати** – *прыгаварыць да пакарання смерцю.*

**Горлованье** – *старанне*: якоѣ працы, горлованья, зъ великою перевагою его милость панъ Дялыньскій... въ тыхъ потребахъ обудвухъ чинилъ (АЗР, III, 142, 1568).

**Горлостятье** – *пакаранне смерцю шляхам адсячэння галавы*: само*г* е*г* на горлостяте*м* всказа*л* (КАР, 82, 1648).

**Горнашъ** *гл.* **гарношъ**.

**Горнецъ** – *тое, што і* **кгарнецъ** *у 3 знач.*: юху влилѕ в горнецъ (Скар. КС, 14б).

**Горникъ** – *рудакоп*: горники, плокаре кождый по 6 грошей (КПД, 538, 1569).

**Горница** – *святліца*: двери пакъ учинишъ ковчегу... горници поделаешъ (Скар. КБ, 17).

**Горнище** – *месца, дзе размяшчаўся горан*: видели есмо горнище клунное... и далей попелъ и жито на току (АВК, XVIII, 352, 1647).

**Горностай** – **1)** *гарнастай*: розмаитых ѡбъѳитостеи наполнено ꙋ звѣрех розного рожаю, то естъ напервеи туров зубрев ласиц бѣлокъ горностаевъ (Рач., 297); **2)** *футра гарнастая*: за выправу горностаевъ кушнеру... заплатили (ИЮМ, V, 16, 1688).

**Горнчаръ** – *тое, што і* **гончаръ**: горнъчаръ... гнететь мѧккую глину (Скар. ПБ, 22б–23).

**Горнъ** – *горан*: въ сѣнехъ броваръ и осетъ и горнъ, въ горну котелъ (АСД, I, 146, 1571).

**Горoватка** – *узгорыстае месца*: отъ тыхъ ручъевъ... ув осину, которая стоить на поточыне, у гороватъку (ИЮМ, XXIV, 508, 1634).

**Городецъ** – **1)** *невялікі сад*: ушол у городец и възлѣзъ на ꙗблонь (Трыст., 85); **2)** *гарадок*: городец под замком... спалили (Стрыйк., 519б).

**Городище (городищо)** – **1)** *невялікае пасяленне*: Мыщчичу записано... Салищово городищо (КЗ, 98, 1453); **2)** *гарадзішча*: нашол там же старое городище над немном замок ѡт батыꙗ збꙋрены[s] (Стрыйк., 517б).

**Городникъ** – *цясляр, будаўнік*: Климовичъ примушаетъ и потягаетъ городниковъ... абы до мѣста Троцкого серебщизны прикладали (АВК, XIII, 25, 1547).

**Городничая** – *жонка гараднічага*: городничаꙗ не хотела... ꙋ праве стати (КВЗС, 49, 1538).

**Городничество (городницство)** – *пасада гараднічага*: того жъ дня почнуться личбы... съ тивунства, съ городничества (АЗР, III, 80–81, 1557); давшы городницство дисеньское и юркгелтъ тотъ... платить казали (КЛС, 132б, 1597).

**Городничий (городничый)** – *гараднічы*: Претоцкий, городничий Виленский (АВК, XX, 46, 1538); Володковичъ, судя земъский, городничый Меньский (АВК, XXXI, 216, 1582).

**Городничиная** – *тое, што і* **городничая**: городничиной рубокъ (ИЮМ, V, 69, 1688).

**Городничовая** – *тое, што і* **городничая**: для паней Одинцовой городничовой за штуку рубку... дано золотыхъ осмъ (ИЮМ, I, 215, 1682).

**Городничое** – *тое, што і* **городничество**: городничое, ключъ и мостовничое... николи ку староству не прислухало (КПД, 266, 1554).

**Городня** – *пралёт маста; частка замкавай сцяны*: взялъ есми въ него коня за мостъ, што жъ ѡнъ городни своее мостити не хочеть (КСД, 1530, 1521); межи тыми двема вежами городни три (Арх. ЮЗР, VII-1, 77, 1552).

**Городнянинъ** – *жыхар Гародні*: городьнянину Гладъкому бочъка соли (КЗ, 304, 1488).

**Городовщина** – *від пошліны*: капщизны, мыта и городовшчины на пять лѣтъ не давати подле того листу нашого (АЮЗР, II, 137, 1528).

**Городокъ** – *памянш. ад* **городъ**[1] *у 1 знач.*: он... будучы в городку Соломерыцъкомъ... мелъ видеть мене (АВК, XXXVI, 41, 1582).

**Городчанинъ** – *тое, што і* **горожанинъ**: той шкоды, комяга и чолъны имъ черезъ тыхъ городчанъ были заплачоны (Пін., 109, 1555).

**Городъ**[1] – *горад*: каждый городъ собѣ имаетъ своего судью имѣть (Вісл., 4); **2)** *крапасная сцяна*: положилисꙗ обозом под городом замкꙋ своег (Стрыйк., 519б).

**Городъ**[2] – *тое, што і* **огородъ** *у 1 знач.*: таꙗ девка отходечы од мене на город свини попустила и солод... потравила (АВК, XXXIX, 94, 1578).

**Городьба** – *гарадзьба*: онъ... ночнымъ обычаемъ плотъ городьбы моее отбираючи и до дому своего носечи (АВК, XXI, 57, 1556).

**Горожа** – **1)** *агароджа*: горожа была тутъ и тое жито не травлено (Пін., 116, 1567); **2)** *тое, што і* **городьба**: купилъ бервеня на горожу валу (ИЮМ, VI, 208, 1689).

**Горожанинъ** – *гараджанін*: просилъ горожан... абы ему не подали города (Рач., 308).

**Гороженье** – *тое, што і* **городьба**: купили колля дубового до млыну копу на гороженe отмелу (ИЮМ, IV, 229, 1686).

**Гороховищо** – *гарохавішча*: свиньи наши ходятъ... на гороховищо (АВК, VI, 93, 1589).

**Горохъ** – **1)** *гарох*: маки горохи бобы проса репа то все згола погинуло (Барк., 164); **2)** *зерне гароху*: гороху до кухни квартъ пять (ИЮМ, V, 135, 1688).

**Горстка** – *памянш.* **1)** *ад* **горсть** *у 1 знач.*: пѧсть, або горсть, горстка (Бяр., 314); **2)** *ад* **горсть** *у 2 знач.*: з малою велми горстъкою люде[s] ѹехал до мѣста (Бельск., 219б).

**Горсть** – **1)** *жменя*: болше[s] не маю ѡдно ꙗко горсть муки (Зб. 752, 345б); **2)** *перан. нязначная колькасць*: горсть людей поткают се смѣле з ними (Стрыйк., 625).

**Гортанобесецъ** – *абжора*: полизачъ мисок, талерѡвъ, гортанобѣсецъ (Бяр., 69).

**Гортанобесие** – *абжорства*: Ласкосрѣдство: чревнолаком[s]ство, гортанобѣсіе (Бяр., 69).

**Гортань (грытань)** – *гартань, горла*: георъгии вдарилъ его въ грытань копьем (Чэцця, 83б); проклѧт буди ненасычоны[s] гортань мо[s] (Зб. 82, 427).

**Горужо** *гл.* **оружие**.

**Горчица (горчыца)** – *гарчыца*: капѧста, и перѣць и горчица (Арыст., 211); споминает хс̃ ѡ горчыцы котораꙗ ест велико[s] моцы (Зб. 259, 174б).

**Горчичка (горчычка)** – *памянш. ад* **горчица**: казал з ѡстро[s] горчычки маст приправит (Зб. 752, 442б); казал з остро[s] горчички маст приправит (Зб. 82, 96).

**Горшокъ (гаршокъ)** – *тое, што і* **горщокъ**: гаршковъ и мисокъ набрали у ганчаровъ (ИЮМ, I, 49, 1679); купили горшковъ (ИЮМ, XI, 108, 1697).

**Горщовка** – *наліванне ў гаршкі*: за ношене того меду зъ бровара на квасники и съ квасниковъ до склепу, и за горщовки, за все заплатили (ИЮМ, IV, 35, 1686).

**Горщокъ (горщекъ)** – *гаршок*: горщекъ его же доткнетсѧ розбит[s] да будеть (Скар. КЛ, 30б); меду прѣсного такърочного горщокъ великій (АСД, III, 239, 1571).

**Горщочекъ (горщечокъ)** – *памянш. ад* **горщокъ**: въ избе нашли горщечокъ... у томъ горщечку горелка была (ИЮМ, XII, 342, 1582); масла горщочекъ (ИЮМ, XIII, 197, 1699).

**Горючесть** – **1)** *тое, што і* **горячесть** *у 1 знач.*: перед силною горючестію солнечною ничого зеленого не можеть рости (Валх., 44б); **2)** *тое, што і* **горячесть** *у 2 знач.*: которого кролевна деѳемеꙗ такою горючестью млсти миловала (Троя, 48б).

**Горючка** – *тое, што і* **горячка**: на люди были з бж҃ого допѹщенꙗ хоробы великие горючки бегунки (Барк., 166).

**Горячесть (горачость, горячость)** – **1)** *гарачыня*: терпели... горѧчесть огнѧ (Скар. ПБ, 25); Атыльлѧ... был на студень и на горачость велми терпливыи (Атыла, 179); **2)** *запальчывасць*: естъ абовѣмъ горѧчость Дх҃а... запалѧючаѧ срдца (Мак., 228).

**Горячка (кгорячка)** – *гарачка*: припала ми срокга кгорꙗчка (Еўл., 7); захоравши велми на горꙗчкѹ (Бельск., 332).

**Господа** – **1)** *дом, жыллё гаспадара*: ѡни дей бывши въ мене на подворьи, на свою господѹ пошли (КСД, 402, 1516); **2)** *заезны дом*: въ господе, въ которой стояли перезъ колко дней... дали при отъезде господыни зол. одинъ (ИЮМ, VIII, 3, 1691).

**Господаревичъ** – *сын правіцеля*: прирожонымъ господаревичомъ Московскимъ учинилъ (АЗР, IV, 438, 1615).

**Господарение** – *панаванне*: господареніе свое гибелью, мордерствомъ и тиранствомъ укрепляли (АЗР, IV, 490, 1615).

**Господарецъ** – *памянш. ад* **господаръ** *у 1 знач.*: Кѵріакъ: господарецъ (Бяр., 289).

**Господариня (господарыня, осподариня)** – **1)** *пані*: мнѣ, пановѣ, того коня дали панны мои господарыни (КСД, 66, 1510); **2)** *жонка правіцеля*: ему то отложилъ до осподарини королевой (АВК, XVII, 186, 1540); з针ененинъ господарини королевой (РПП, 201, 1559).

**Господаровна** – *дачка правіцеля*: покладалъ... тестаментъ... кнежны ее милости Маріи, господаровны земль Молдавскихъ (АВК, XII, 586, 1659).

**Господарство (осподарство)** – **1)** *гаспадарка*: на то*т* ча*с* ꙋ господарстве мало хто бы сѧ мелъ ѡгурками похвалити (Барк., 168б); **2)** *дзяржава*: люди купецъкие ꙋбеспечившисе на пакта и переми*р*е межи паньствы нашими и господа*р*ствомъ московскимъ беспечне се в ганъдли свои затегнули (КЛС, 180, 1598); **3)** *праўленне*: при осподарьствѣ короля Казимера (АЗР, I, 112, 1492).

**Господарствованье** – *праўленне*: абы Богъ всемогущій на многіе лѣта въ добромъ здоровью и щастливомъ господарствованью... ховати рачилъ (АЗР, V, 27, 1637).

**Господаръ (кгосподаръ, осподаръ)** – **1)** *пан*: не ѡбоговарива*и* холопа ѡсподарю его (Зб. 262, 109); **2)** *гаспадар*: вилнев*ц*ов ѡбо*з* немалы^s^ до тое*ж* стодолы наехали а розбо^s^ницы поꙋтекали и кгоспода*р*... вымавꙗлсе же што ме*л* чини*т* (Еўл., 33); **3)** *правіцель*: земълю пꙋстовъскꙋю мне господа*р* король его млсть далъ (КВЗС, 159б, 1540).

**Господжа** *гл.* **госпожа**.

**Господинъ (кгосподинъ, осподинъ)** – **1)** *валадар*: ѡнъ есть ѡсподинъ на*ш* (Чэцця, 98); **2)** *пан (пры ўпамінанні паважанай асобы)*: огородъ даем... кгосподину отцу Василю (ИЮМ, XXVIII, 125, 1666); **3)** *пан (у складзе звароту)*: господине и добродѣю мой (АЗР, II, 337, 1535).

**Господичичъ (господычычъ)** – *сын пана, правіцеля*: той е*ст* господичичъ мой (Скар. КБ, 44б); Litwa że wsia pryiała z radostiju welikoiu swoieho hospodyczycza (Бых., 48б).

**Господка** – *памянш. ад* **господа** *ў 1 знач.*: ты самого того... до господки свое^s^ принела (Зб. 82, 10б).

**Господствие** – *тое, што і* **господство**: на землю пришо*л* не имѣꙗ а҃глов ни арханг҃ловъ ни престоловъ господствиꙗ ни силы (Чэцця, 111).

**Господство** – *панаванне*: серафимы... господ*с*тва маючые владзꙋ (Зб. 752, 470б).

**Господыня (кгосподыня)** – **1)** *гаспадыня*: пограбилъ... шапку аксамитную кгосподыни его (АВК, XX, 178, 1601); **2)** *уладальніца заезнага дома*: въ господе, въ которой стояли перезъ колко дней... дали при отъезде господыни зол. одинъ (ИЮМ, XIII, 3, 1691).

**Господь** – *гасподзь*: взгленꙋлъ тежъ и на насъ господь богъ (Бер. саб., прадм.).

**Госпожа (господжа, оспожа)** – **1)** *уладычыца*: епискꙋпъ... хвалу писалъ ѡспожи бц҃и (Чэцця, 47б); в^s^ ѡно*м* притвори гд҃жи нашо^s^ богородици перемешкалъ... лѣ*т* ѡснꙗдцꙗ*т* (Пралог, 522б); **2)** *пані*: дано е*ст* имꙗ мариꙗ*м* што се выкладае*т* госпожа, або пани (Зб. 752, 407).

**Гостебникъ** – *тое, што і* **гостелюбецъ**: ротникъ боудеть а гостебникъ (Неба, 87).

**Гостелюбецъ** – *гасцінны чалавек*: гостелюбець боудеть (Неба, 87).

**Гости** – *госця*: радуйсѧ возлюбленнаа гости (Сівіла, 2).

**Гостилница** *гл.* **гостинница**.

**Гостина** – *гасцяванне*: пасынки... приехавши до мене в домъ в гостину (АВК, XXI, 12, 1555).

**Гостинецъ**[1] – **1)** *гасцінец, вялікая бойкая дарога*: поехалъ былъ еси съ Слуцка дорогами посельскими, а не гостинъцомъ (КСД, 636, 1510); **2)** *гасцініца*: в полдороги бы*л* гостине*ц* в которо*м* завжды бра*т*ꙗ наноч ѡ*т*почывали (Зб. 752, 544б).

**Гостинецъ**[2] – *гасцінец, падарунак*: воеводѣ нашему отъ варъ имати гостинца по полукопы грошей со всякой вары (АВК, XIII, 69, 1593).

**Гостинная** – *тое, што і* **гостиное**: панъ Якимовичъ... въ гостинную ѣхать оной малжонцѣ своей позволилъ (АСД, I, 284, 1634).

**Гостинникъ** – *гаспадар гасцініцы*: Въсепріатникъ: Гостинник^s^, корчмаръ (Бяр., 23).

**Гостинница (гостилница)** – *гасцініца*: было много людеи у гостилницы (Трыст., 9); Іꙋлиꙗ*н* каза*л*... гостинницы и шпиталѣ на ꙋбогие заклада*т* (Бельск., 282).

**Гостиное** – *гасцяванне*: до литовскоѣ земли въ гостиное поѣхали (АЗР, II, 4, 1506).

**Гостия** – *аплатка*: вырежоуть с кислого хлеба гостію албо ѡплато*к* (Валх., 79б).

**Гость** – **1)** *госць*: самъ из гостьми моими подпилъ (АВК, XXI, 192, 1557); **2)** *купец, перважна іншаземны*: ѡ кривдахъ госте^s^ приежъдчи*х* чѹжоземъски*х* (Ст. 1588, 162).

**Государиня (государыня)** – **1)** *жонка гасудара*: государинѧ въ великои болести была (Трыст., 5); **2)** *гасударыня (пры ветлівым звароце)*: милостива государыне, повѣдаю вашой милости (АСД, I, 38, 1536).

**Государство** – *дзяржава*: предкове наши промежи тыми обоими государствы... мевали межи собою одиначество (АЗР, I, 204, 1500).

**Государъ (осударъ)** – **1)** *гасудар, галава манархічнай дзяржавы*: били намъ осудару чоломъ мѣщане мѣста нашего (АВК, IV, 247, 1697); **2)** *гасудар (пры ветлівым звароце)*: государу королю, деръжы ми свои шлюб ꙗкъ ми еси ѡбецалъ (Трыст., 3).

**Готовальня** – *каробка для захавання туалетных прыналежнасцей*: торба зъ ребеняромъ, зъ ренчниками, готовальня и иншыми дробезками (АСД, I, 251, 1616).

**Готованье** – **1)** *падрыхтоўка*: длꙗ готова*н*ꙗ на во^s^ну за шэ*ст* недель не мають быти роки сужоны (Ст. 1566, 53); **2)** *гатаванне (ежы)*: за готоване есть у господе господыни далъ осмаковъ дванадцать (ИЮМ, IV, 198, 1686).

**Готованьесе** – *тое, што і* **готованье** *ў 1 знач.*: Листъ... ѡ готованьесе на во^s^нѹ противъ неприятелю (КСД, 1047, 1522).

**Готовизна** – *наяўныя грошы*: взꙗлъ посагѹ готовизны пꙗтьсотъ и семъдесꙗтъ копъ гроше^s^ (КВС, 660б, 1552).

**Готовленье** – *прыгатаванне*: Кѵринеа... забѣже*н*е, або готовлен^s^е (Бяр., 289).

**Готовость (готовность)** – *гатоўнасць*: въ готовости были, маючи кони сыты и всю спижу военъную поготову (КПД, 848, 1566); акторка чынила пильность и готовность свою осветчала (ИЮМ, IX, 341, 1638).

**Гохмистръ** *гл.* **охмистръ**.

**Грабаръ** *гл.* **кграбаръ**.

**Грабежникъ** – *грабежнік*: сѹтъ иншіи люде, грабѣжницы (Каліст, I, 2).

**Грабежство** – *грабежніцтва*: волнымъ ѡ*т* вшелѧкой несправедливости, и грабѣ*ж*ства, и ѡ*т* инши*х* злостій бываю (Каліст, I, 4б).

**Грабежца** – *тое, што і* **грабежникъ**: много добра сѹть в домехъ грабежцевъ (Скар. КІ, 17).

**Грабежъ (кграбежъ)**[1] – **1)** *грабеж*: подданые его на шкодахъ своихъ, бояхъ, кграбежохъ присегу выполнити суть готовы (АВК, II, 282, 1590); **2)** *награбленыя рэчы*: того дей всего грабежу им вернути и отдати не хочешъ (АВК, XXX, 269, 1604).

**Грабежъ**[2] – *грабенне*: змовили на прійму косить сена зъ грабежомъ человековъ петнадцать (ИЮМ, VIII, 101, 1691).

**Грабина** – *тое, што і* **грабъ**: на дрова дерево посполитое, якъ дубъ, березу, грабину... они брати мають (РПП, 250, 1545).

**Грабитель** – *тое, што і* **грабежникъ**: ѡ грабителе*х* пророкъ закхѣи реклъ (Чэцця, 340).

**Грабица** – *штраф, пры якім адразалі частку зямлі*: кгды мужикъ... на роботу не выйдетъ... ма быть мѣрною грабицою каранъ (АЗР, II, 197, 1529).

**Грабленье (грабенне, грабенье, грабление)** – *аграбленне*: резоимъства и граблѣныꙗ ѡбегаимо (Чэцця, 163); при котором грабеню... сталосе шкоды тому потданому коп. две (АВК, XXXV, 69, 1582); за грабенне воловъ... зол. 10 (ИЮМ, XVIII, 83, 1710); грабленіѧ и коштовъ правныхъ добровольне ѡ*т*рещисѧ мѹситъ (Зб. вып., 60б).

**Грабли** – *граблі*: хотели наострити лемеши своѧ и грабли (Скар. ПЦ, 26б).

**Грабство** *гл.* **кграбство**.

**Грабъ** – *граб*: в дереве у грабе... тесы граничные учынили (АВК, XXX, 395, 1609).

**Грабя** *гл.* **кграбя**.

**Града** *гл.* **гряда**.

**Градобитье (градобитие, градобице)** – *градабой*: громˢ и градобитие помножилˢ (Скар. КВ, 19б); градобитья, пожоги, поветрея (КПД, 455, 1568); взглядомъ градобиця... маистратовые дефелковали имъ четвертую часть (ИЮМ, VI, 16, 1689).

**Градодержца** – *правіцель горада*: ѡ печатникоу. и ѡ градодръжцы (Арыст., 154).

**Градосказитель** – *той, хто зніщчае горад*: тѣж и тотъ ѡслаблѧеть дѣло свое братъ есть градосказителю (Зб. 262, 102).

**Градусъ** – *ступень*: мають вси цр҃кви... градѹсы или стопни до цр҃кви, на чотыредесѧтъ кроковъ, ежели естъ цр҃ковъ катедралнаѧ (Зб. вып., 10б).

**Градъ**[1] – **1)** *тое, што і* **городъ**[1] *у 1 знач.*: писаны тые порѧдки вˢ... градѣ Полоцкѹ (Ст. бр., 20); **2)** *жыхары горада*: чаровникомъ его называли и напѹстили весъ град (Зб. 752, 24).

**Градъ**[2] – *град*: жито на поли градъ побилъ (АВК, XXXIX, 20, 1578).

**Гражанинъ (граженинъ)** – *тое, што і* **горожанинъ**: слышавшо гражане штож приближилъсѧ моучитель (Чэцця, 61); пошолъ... с нимъ ѡдин граженин (Бава, 168).

**Гражданинъ** – *жыхар*: ꙗкѡвыи старѣишина града естъ, такови и граждане (Ст. бр., 13б).

**Гражданство** – *жыхарства*: Жителство, ꙩ҃мꙩ. гражданство, житіе (Бяр., 44).

**Гразь** *гл.* **грязь**.

**Грамада** *гл.* **громада**.

**Граматика (граматыка, грамматика, кграматыка, кграмматыка)** – *граматыка*: хощеши ли ѹмети граматику... знаидеши в зуполной Бивлии псалтыру, чти ее (Скар. КБ, 4); много папежовъ... и грамматики згола не оумѣютъ (Апакр., 121б); в кграматыце подученыˢ... до римѹ посланыˢ (Зб. 81, 249б); в граматыце подученыˢ еще малым младенцем (Зб. 752, 118б); дали его ѹчит кграмматыки (там жа, 132б).

**Грамматикъ** – *граматыст*: костантин... назбирал до ѡнои академии преднѣˢшие философы и ѡратори и медики и грамматики (Бельск., 269б).

**Грамницы** *гл.* **громницы**.

**Грамота** – **1)** *уменне чытаць і пісаць*: клинец ѹчилъсꙗ грамоте (КВЗС, 124, 1539); **2)** *афіцыяльны дакумент*: пѣчати есмо свои привѣсили к сеи грамоте (РЛА, 131, 1407). ◊ **Грамота верющая, договорная, докончалная, жаловалная, крестная, перемирная, розметная, судная** – *назвы дакументаў рознага прызначэння*.

**Гранатъ** *гл.* **кгранатъ**[1].

**Граница (кграница)** – **1)** *мяжа*: мимо кграницы и кгрунту пooравшы житомъ засеели (АВК, I, 328, 1615); **2)** *межавы знак*: мѹжикъ мѹжикѹ границѹ сказилъ ѡгнемъ выжогъ (КВЗС, 25б, 1537); **3)** *абмежавальная лінія вакол чаго-н.*: сеножати меновите назначоные в границах пущы Качынское (АВК, XXXVI, 217, 1582); **4)** *лінія падзелу паміж дзяржавамі*: границы великого князства Литовского и земли Жомойтской съ землею Курлянскою (АЗР, II, 3, 1588); **5)** *мера дазволенага*: границѹ панованьѧ надъ нами права замерили (Ст. 1588, прадм.).

**Граниченье (граничэнье)** – **1)** *устанаўліванне мяжы, граніцы*: рокъ сторонамъ ку граниченью... мает быти завитый (Ст. 1529, 66); **2)** *мяжа, граніца*: хто на службе нш҃оˢ... в посѣлстве до земль чужих або за граничэне панствъ наших... послан (Ст. 1566, 13б).

**Граничникъ** – *сусед, сумежнік*: суседы блізкие и сумежники, тые годнейшые будуть у сведецтве, нижли... не граничники и не сумежники (Ст. 1529, 67).

**Граничье** – *заграніца*: жаловали намъ люди которыи из граничꙗ з лѹкъ втекъли ѡтъ мещанина лѹцъкого (КВЗС, 90, 1533).

**Граночка** – *памянш. ад* **грань** *у 2 знач.*: граночку есми положилъ краемъ крушни великое (АВК, XXXI, 89, 1591).

**Грань (граня)** – **1)** *тое, што і* **граница** *ў 1 знач.*: подле дорожки Войневичъ которая граня идетъ (АВК, XXIV, 138, 1553); **2)** *тое, што і* **граница** *ў 2 знач.*: копъцы або теж грани вскажꙋть (КВЗС, 119, 1539); **3)** *грань (прадмета)*: повелѣл нечстивыи цр҃ь принести рожонъ ѡстръ желѣзныи на чотыри грани (Чэцця, 32б).

**Гранье** *гл.* **игранье**.

**Грасованье** – *бадзянне*: завстыдатисѧ потреба за свое еи таковое грасоване (Дыяр., 166).

**Грата** *гл.* **кграта**.

**Графия** – *тое, што і* **кграпка**: ѧзыкъ твои ѧко графиѧ сюды говорить (Чэцця, 355).

**Грацовникъ** *гл.* **кграцовникъ**.

**Грачиха** *гл.* **гречиха**.

**Грачъ** *гл.* **кграчъ**.

**Гребачъ** – *тое, што і* **гребецъ** *у 2 знач.*: наняли... гребти улицы, Веремею, што доглядалъ и прыганялъ гребачовъ, дали осм. десеть (ИЮМ, XI, 83, 1697).

**Гребелька (гребелка, гробелка)** – *памянш. ад* **гребля**: тая гребелка есть на рецѣ Ясенцѣ (АСД, V, 52, 1546); велъ границу... отъ млынка и гробелки (АВК, XXX, 135, 1592); у гребельку тое сеножати идучи... копецъ другій великий усыпали (ИЮМ, XXV, 334, 1636).

**Гребельное (гребелное)** – *плата за праезд праз грэблю*: коло гребельного и мостового мають ся заховати (КПД, 235, 1554); гребелного казалъ не брати (АЗР, III, 128, 1563).

**Гребень (кгребень)** – **1)** *грэбень*: згинуло мне... кгребень костеный (АВК, XVII, 72, 1555); **2)** *прылада для катавання, падобная на грэбень*: драти казал тѣло его гребенѧми железными (Зб. 752, 224); **3)** *мясістая нарасць на галаве некаторых птушак*: ѡн птахъ мѣлъ на головѣ гребен подобныѕ павовому (Алекс., 38); **4)** *верхні край чаго-н.*: выводъ высыпали... и дзіорномъ гребень на верху еще накладали (ИЮМ, V, 175, 1688); **5)** *разная дошка па краі даха або на верхняй частцы акна*: тарчиць купили... до гребеня на окны (ИЮМ, III, 162, 1585).

**Гребенье (гребанье)** – *грабенне*: за гребене ветреного мосту за брамою дали асмаковъ десять (ИЮМ, II, 26, 1683); до гребаня улицъ лопатъ пять (ИЮМ, V, 35, 1688).

**Гребетъ** *гл.* **кгребетъ**.

**Гребецъ** – **1)** *вясляр*: гребцомъ при човне горелки купили (ИЮМ, I, 255, 1682); **2)** *грабец*: наняли до сена гребцовъ (ИЮМ, VIII, 106, 1691).

**Гребло** – *скрабніца*: гребло для коней мескихъ совитое купили (ИЮМ, I, 18, 1679).

**Гребля (гробля, грэбля, кгребля, кгробля)** – *грэбля*: на гребляхъ подужное и на мостехъ мостовое абы не брано (КПД, 234, 1554); гати мосты грэбли ровы направовати мають (Ст. 1566, 16); кгроблю у ставу вода розорвала (АВК, XXXIX, 213, 1579); ѡ бꙋдованью мостов або гробель (Ст. 1588, 36); кгребли къ своему берегу приткнути... позволяетъ (АВК, VI, 225, 1603).

**Греда** *гл.* **гряда**.

**Гредовина** – *адзін з узгоркаў у градзе ўзгоркаў*: тая граница... отъ тыхъ дубовъ у копецъ на гредовине (ИЮМ, XXI, 500, 1625).

**Гредчиха** *гл.* **гречиха**.

**Грезнъ** – *тое, што і* **грозенъ**: початокъ потрѣбное речи живота человѣческаго естъ... медъ и винный грезнъ, масло древѧное (Скар. КІ, 64).

**Грекиня** – *грачанка*: жонꙋ брата грекиню зкгвалтил (Стрыйк., 445б).

**Грекъ (кгрекъ)** – **1)** *грэк*: грекове наꙋки вси и литери ѡт фенико*в* взѧли (Стрыйк., 413б–414); **2)** *праваслаўны*: зъехалисе и кгрекове и латинники в барꙋ и тамъ зновꙋ едность светꙋю ꙋтверъдили (Бер. саб., 40б).

**Дельница** *гл.* **деляница**.

**Дельность (делность) – 1)** *дзелавітасць*: был то<sup>s</sup> галъ... великои надѣи в дѣлности и в цнотах своих (Бельск., 274); **2)** *веліч, слава*: киевскаꙗ монархиꙗ давною дѣлностю цнотливои Рѹси в черством мѹжествѣ славила (Стрыйк., 486).

**Дельфинъ** – *дэльфін*: ѹзрелъ до берегѹ плынѹчог делфина (Зб. 82, 97).

**Дельчий (делчий, дельчый)** – *пасрэднік у маёмасных раздзелах*: взяли на тое дело васъ дельчими (КСД, 527, 1506); дѣлчии, которыи при томъ дѣлу были... вси змерли (Пін., 17, 1511); ѡни мають собе дельчыхъ кого хотꙗчи побрати (КВЗС, 45б, 1538).

**Делюра (дылура)** – *від верхняга адзення*: делюра зеленая... козками подшытая (АСД, I, 252, 1616); дылура лазорова, фалендышова (ИЮМ, XXVI, 125, 1641).

**Делюрка (дылерка, дылюрка)** – *памянш. ад* **делюра**: пограбилъ... дылерку чырвоную (АВК, XX, 177, 1601); дылюрка каразыи лазуровое (АВК, I, 268, 1615); Хламида: Юпка, делюрка (Бяр., 322).

**Деляница (деленица, делница, дельница, диляница)** – **1)** *доля, надзел*: они не хотять ему у вотчине дѣленицы дати (КЗ, 577, 1495); ми въ томъ именьи дѣльници не хотять дати (КСД, 30, 1510); взяли есмо ихъ дѣляницу (РПП, 232, 1594); **2)** *удзельнае княства*: мꙗнѹет и дѣлницы царства ѡног дв҃двог ѹже ѹпалог (Бельск., 203б); **3)** *епархія*: в свою их диѡцезию або дилꙗницѹ взꙗли (Бельск., 373).

**Делята** – *данясенне*: позвал инстикгатор нашъ з делꙗты скарбѹ нашог... велебного кнꙗзꙗ миколаꙗ (ККСС, 36, 1615).

**Делятникъ (делятъ)** – *тое, што і* **деляторъ**: делятникомъ, которые приехали зъ декретомъ и банициею, купили рыбы (ИЮМ, III, 112, 1685); делятомъ, которые съ баницией приехали, купили свежины (там жа).

**Деляторъ (делляторъ)** – *судовы выканаўца*: инстыкгаторъ нашъ и деляторъ шацуютъ противъ кождому з васъ на тисечу копъ грошей (Арх. ЮЗР, VIII-5, 410–411, 1614); точиласе передъ нами судомъ нашимъ справа... инстигаторомъ великого князства Литовского и делляторами его (АВК, XXIV, 480, 1635).

**Деляцыя (деляция)** – *абскарджанне*: на его деляцыю и скаргу до везеня отданы (ККСС, 423, 1629); приточилася справа... зъ деляціи честного отца Виктора (АСД, II, 137, 1667).

**Демидъ (димидъ)** – *від сядла*: седло демидъ черлѣное (АВК, XXII, 36, 1556); седло димидъ... шлея, хомутъ з набедрки (АВК, XXVI, 452, 1586).

**Демонка** – *ж. р. ад* **демонъ**: не мыслю ѧ з<sup>s</sup> овою глѹпою демонкою... длѧ манелій и ланцѹха золотого выдавати (Пауст., 7).

**Демонъ – 1)** *дэман*: ст҃ы<sup>s</sup> иѡан... демоновъ ѡт выспы тое прогнал (Зб. 752, 24б); **2)** *ідал*: не бѹдуть потомъ приносити жер<sup>s</sup>твъ своих демоном<sup>s</sup> (Скар. КЛ, 34).

**Денаръ** *гл.* **динаръ**.

**Дендель** – *від падшывачнага матэрыялу*: делийка камълету лазурового... подъшытая денъделемъ (ИЮМ, XXIV, 229–230, 1635).

**Денко** – *падстаўка*: магилекъ на денкахъ шесть (ИЮМ, V, 142, 1688).

**Денница – 1)** *дзянніца*: денницо ꙗснаѧ восходѧщаѧ рано, за тобою... слонце и радост наша взо<sup>s</sup>дет (Зб. 82, 176); **2)** *святланосец*: пыха настаршого ангела з неба скинѹла, и абы вмѣсто... денницы діаволомъ... былъ званъ, справила (Каліст, I, 1).

**Денунция** – *дазнанне*: по отъѣханью пана воеводы Кіевского зосталъ Никифоръ для дальшоѣ денунціѣ в той справѣ (АЗР, IV, 220, 1600).

**День (дзень)** – **1)** *дзень*: будзешь волочитьсе гдѣ дзень, гдѣ ночь (АСД, I, 339, 1643); **2)** *суткі*: ѹчинили примире на два дни (Тр. гіст., 70б); **3)** *каляндарная дата*: дан в варшави дн҃ꙗ г҃ мц҃а новембра (Дыяр., 176); **4)** *дата, прысвечаная святкаванню чаго-н.*: первый ярмарокъ на святого Якуба день (АЗР, I, 180, 1491); **5)** *перыяд жыцця*: приближилисе дни

матафиеви жебы ȣмерлъ (Кн. Мак., 53б). ◊ **Вчорашний день** – *былое, мінулае*; **въ малыхъ днехъ** – *у хуткім часе*; **завтрашний день** – *недалёкая будучыня*; **третего дня** – *пазаўчора*.

**Деньга (денга)** – **1)** *даўняя руская манета*: тыи вси мають давати осмънику... отъ товару по дензѣ (АЗР, II, 194, 1499); **2)** *мн. грошы (маскоўскія)*: привезъ за себя и за Гаврилка окупу двѣстѣ пятдесятъ рублевъ денегъ (АЗР, III, 225, 1580).

**Деоцызыя** *гл.* **диецезия**.

**Деплиома** *гл.* **диплиома**.

**Депозитъ (депозытъ)** – *рэчы, каштоўнасці, грошы, аддадзеныя на захаванне*: то[s] же на ȣмерлȣю дочкȣ свою до гробȣ еи пришедши... возвал пытаючи где сховала чȣжи[s] депозит, которого се сȣсед ȣпоминал (Бельск., 266б); депозытъ естъ зложенье шатъ, збожа, грошей и прочихъ вещей оу когоколвекъ (Зб. вып., 125).

**Дептанье (доптанье)** – *таптанне*: сеножатей выпасене, допътане (АВК, XXXI, 478, 1683); за депътане глины дали осм. десеть (ИЮМ, VII, 164, 1690).

**Депутатъ** – *выбраная давераная асоба, прадстаўнік*: который есть на сей рокъ депутатомъ у трибунале (АВК, VII, 29, 1598).

**Депутация (депутацыя)** – *камісія, дэлегацыя*: на депутаціяхъ такъ зъ сенату яко и зъ кола рыцерского нѣкгды не отзывалися (АЗР, IV, 519, 1630); маистратовые и посполство депутацыи поголовного не выдали до скарбу (ИЮМ, II, 66, 1683).

**Депутованье** – *пасыланне*: просилъ о депутоване съ посродку насъ, ураду, на инквизыцыю и опытъ, яко тотъ... ексцесъ сталъ (ИЮМ, VIII, 435–436, 1631).

**Дера** *гл.* **дира**.

**Дерванъ** *гл.* **дирванъ**.

**Дервишъ (дербишъ, дербышъ)** – *дэрвіш*: Адрахмановичъ а дербишъ Магметъ... зграбили его (КП, 171, 1559); дербышъ Магметъ (там жа, 224, 1560); дервишъ Челебир Хадчы Мурзичъ, кадый всех татар великого князства (АВК, XXXI, 186, 1594).

**Дерга** – *гунька*: дерга на коня (АВК, XVIII, 60, 1589).

**Деревенька** – *памянш. ад* **деревня**: деревенька Курово (АЗР, IV, 330, 1610).

**Деревище** – *рака*: Рака: Трȣнна, деревище або мары (Бяр., 137).

**Деревко** – *памянш. ад* **дерево** *ў 1 знач.*: были на ѡномъ полю незличоныи деревка, котории над мѣрȣ локтѧ болше не росли (Алекс., 36б).

**Деревничий** – *службовая асоба, якая загадвала справамі вёскі*: передо мною... деревничимъ Виленскимъ... тое постановенье конвокаціи... подали (АВК, I, 13, 1665).

**Деревно** – *тое, што і* **древно**: был в пожадливостѧх телесных ѧкъ деревно ѧкое (Жыц. св., 37).

**Деревня** – *вёска*: люди твои волости наши, села, деревни... засѣдають (АЗР, II, 97, 1511).

**Дерево (дерово, дерэво)** – **1)** *дрэва*: ѡ Покрове на дереве листъ не ѡпалъ (Барк., 152б); **2)** *лесаматэрыял*: ѡт вожэнѧ каменѧ дерэва албо дров... вызволѧем (Ст. 1566, 34б); **3)** *слуп, арка*: поденщикомъ... которые дерево ставили и знову розбирали, дали осмак. двадцать шесть (ИЮМ, III, 90, 1685); **4)** *кол, палка*: оузѧвше велике дерева по его прес҃тои голове били (Пак. Хр., 7); **5)** *дрэўка колючай зброі*: которого ѡщепу дерово было ѧко навой ткацки[s] (Біблія, 377).

**Деревце** – **1)** *памянш. ад* **дерево** *ў 1 знач.*: моѧ молодаѧ вѣра ѧко деревце малое (Зб. 752, 518б); **2)** *піка, кап'ё*: измаилитовѣ... лȣки и деревца несȣчи выпали (Зб. 82, 45б).

**Деревье** – *зб.* **1)** *ад* **дерево** *ў 1 знач.*: отътоле повели насъ... оказываючи частыи натеси на деревьи (АВК, XVII, 303, 1541); **2)** *ад* **дерево** *ў 2 знач.*: деревья заступового штукъ двадцать четыри (ИЮМ, VI, 46, 1689).

**Деревянка** – *драўляная пасудзіна для захавання харчовых прыпасаў*: масла деревянокъ шесть, сыровъ копъ чотыри (АВК, XVIII, 44, 1582).

**Дерекгованье** – *змяненне*: в тоˢ ꙋнеи *жадного дерекгованꙗ не*т праву (ККСС, 80б, 1615).

**Дерефикацыя** – *вызначэнне*: покъладалъ роту о дерефикацыю тое жъ маетности (ИЮМ, XXI, 390, 1668).

**Держава** – **1)** *улада*: бог... да*л* естъ силꙋ и де*р*жаву люде*м* своимъ (Зб. 81, 187б); **2)** *уладанне*: таковы*х*речеˢ... державъцы наши кождыˢ в державе своеˢ маютъ досмотрети (Ст. 1588, 38); **3)** *дзяржава*: мыта имъ отпустили по всей нашой державѣ (АЗР, III, 17, 1547); **4)** *скіпетр*: Скипетръ: Держава или лѣска царскаѧ (Бяр., 310).

**Державца (дзержавца)** – **1)** *уладальнік; адміністратар*: деръжавъцы именья свои въ повете Витебъскомъ маютъ (КПД, 291, 1559); до скарбу нашого старостомъ дзержавцомъ... большъ ничого не давати (АВК, XIV, 502, 1703); **2)** *валадар*: подношꙋ рꙋки мои до гсда бг҃а высокогѡ державцы нб҃а и земли (Хран., 23б).

**Державчиная (державчыная)** – *жонка ўладальніка, адміністратара*: я... державчиная Мойшокгольская... вызнаваю симъ моимъ тестаментомъ (АВК, VIII, 460, 1588); умоцованый... державъчыной Упицкое... прыволывати давалъ (АВК, XX, 61, 1588).

**Держанье** – **1)** *трыманне*: ѡповеданье Станислава Жꙋховъского на пани Ермолиную ѡ де*р*жанье в собе конꙗ его (КВЗС, 493, 1552); **2)** *уладанне*: врꙗдовъ де*р*жанеˢ и дедицъствъ чужоземъцомъ давати не маемъ (Ст. 1566, 29б); **3)** *карыстанне*: того саду Дѣдковского владыка Якимъ не былъ въ державьи (АЗР, I, 172, 1497).

**Держенье** – *тое, што і* **держанье** *ў 3 знач.*: подалисьмо тые вси добра въ моцъ, въ держенье... отцу Іосифу Кунцевичу (АВК, IX, 4, 1618).

**Держеньеся** – *злучэнне*: рѧдˢ а*б* ѡдно дрꙋгогѡ сѧ держѣ*н*е (Бяр., 278).

**Держитель** – *трымальнік*: Бг҃ъ естˢ всего свѣта держителемˢ (Каліст, I, 136).

**Дерзкость (дерскость)** – *тое, што і* **дерзость**: оуслыша*л* геро*д* того ч҃лвка хитрость и дерскость (Пак. Хр., 23); ѡ дерˢзкости наигоршаѧ ѡ*т*кꙋду сътворена есь (Скар. ІС, 59).

**Дерзновение** – *адвага, смеласць*: ты, по его правицы поставлена бꙋдꙋчи, де*р*зновеніе кꙋ немꙋ маешъ, ꙗко ма*т*ка (Карп., 36б).

**Дерзостникъ** – *грубіян*: хто жъ вызволи*т* дерзостникѡ*в* ѡ*т* правдивои моуки (Апакр., 191б).

**Дерзость** – *дзёрзкасць*: чини*т* в розгнѣваньи дерˢзости (Зб. 262, 104).

**Дернина** – *выразаны з дзёрну кавалак*: ездили въ поле огледать грунту слушного на дернъ и дернину на пробу прывезли (ИЮМ, VI, 83, 1689).

**Дерновина** – *тое, што і* **дернина**: дерну возили, вывезли возъ сто двадцать, на каждомъ возу дерновинъ двадцать (ИЮМ, III, 149, 1685).

**Дернъ (дзиорнъ, дорнъ)** – *дзёрн*: за резане дерну... для направеня диръ въ вале чотыремъ человекомъ по асмаковъ осмнадцать (ИЮМ, I, 281, 1682); дорнъ резать послали человековъ трохъ (ИЮМ, VI, 62, 1689); фурмане почали дзиорнъ возить (ИЮМ, V, 171, 1688).

**Дерово** *гл.* **дерево**.

**Дерюга (деруга)** – *дзяруга*: побралъ... деруги три а постѣль (АВК, XVII, 84, 1541); сермягъ и дерюгъ немало набрал (АВК, XXXIX, 15, 1578).

**Десетилникъ** *гл.* **десятинникъ**.

**Десетилнитство** – *збор дзесяціны (падатак на карысць царквы)*: показалъ передъ нами выписъ съ книгъ десетилнитства Могилевского (ИЮМ, VIII, 259, 1600).

**Десетина** *гл.* **десятина**.

**Десна (дясна)** – *дзясна*: прильпе ꙗзыкъ ссущего к дѧснамъ его (Скар. ПЕ, 9б); нехай прилне и ꙗзы*к* мои к десна*м* мои*м*, если не вспомѧноу тебе (Пс. XVI, 133–133б).

**Десница** – *правая рука*: оудержитˢ мѧ десница твоѧ (Будны, 181б).

**Деспектъ** – *абраза, знявага*: деспектовъ жадныхъ не чинили (АЗР, III, 280, 1584).

**Десперация (десперацея, дэспэрацэя)** – *адчай, роспач*: з дэспэрацэи... инак ѡ собѣ мыслить (Атыла, 202); ростырки длꙗ внѸтрнеи воˢны в тоˢ час были в рѸси иж з десперацѣи вси хотѣли Ѹтекат (Стрыйк., 516); рѸка и ꙗзыкъ чоловѣкови шкодит, тые двѣ... до десперациеˢ приводꙗт чоловѣка (Зб. 259, 578б).

**Деспотъ (дешпотъ)** – *правіцель, валадар*: амѸрат... з лазарем сербским деспотом битвѸ сточил (Бельск., 405б); ехал до жоны Александровы котораꙗ была сестра рожонаꙗ небожчикови дешпотови (Стрыйк., 583б–584).

**Деспытацыя** *гл.* **диспутация**.

**Дестаментъ** *гл.* **достаментъ**.

**Десть** – *памер паперы, роўны паўаркуша*: двѣ книзѣ Симеона Методораста, одна въ десть, а другая въ полдесть (АСД, IX, 54, 1557).

**Десчъ** – *дэталь шчыта*: кождая тарчъ з десчомъ (АВК, XXII, 237, 1565).

**Десятина (десетина)** – **1)** *дзясятая частка чаго-н.*: придаю Святому Спасу изъ своего дворъца изъ Млинца десятину озими (АЗР, I, 112, 1489); **2)** *падатак на карысць царквы, які складае дзясятую частку даходу*: ма быть дано плебанови здетельскому жита копъ пятьдесятъ десетины (АВК, XIV, 201, 1580); **3)** *мера зямельнай плошчы, роўная 1,09 га*: з роль и з десетины спольна двадцать грошей далъ (КПД, 533, 1569).

**Десятинникъ (десетилникъ, десетинникъ, десятилникъ)** – *зборшчык дзесяціны (падатак на карысць царквы)*: послалися... на десетиньника владычня (КЗ, 440, 1489); десятилникомъ не надобѣ въ тые люди вступоватися (АЗР, I, 201, 1499); жупицу ѳурсъ от того десетилника одыскал (АВК, XXXIX, 325, 1579); дали... то десятиннику (АВК, III, 4, 1738).

**Десятинница** – *мера сыпкіх рэчываў*: приноситисѧ будетˢ и две десѧтинници крѸпъ пшеничнихъ (Скар. КЛ, 43б).

**Десятинство** – *акруга ў епархіі*: в десѧтинствѣ своем почалъ пророковать (Хран., 352б).

**Десятникъ**[1] – **1)** *службовая асоба, у веданні якой было дзесяць гаспадарчых адзінак*: его намъ судити, а не нашимъ урадникомъ и десятникомъ (АВК, XIII, 4, 1395); **2)** *дзясятнік*: десятникъ грабарей змовилъ человекъ десять (ИЮМ, V, 148, 1688).

**Десятникъ**[2] – *дробная манета*: грошей у першемъ ворку десятъниками и ортами и тынфами талеровъ трыста (ИЮМ, XI, 156, 1697).

**Десятокъ** – **1)** *дзясятак*: купили рыбы, окуневъ десятки полтора (ИЮМ, XI, 60, 1697); **2)** *драбнейшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка*: жаловали намъ тыи люди нашы Берестейского повѣту десятка Подляского (КЗ, 583, 1495).

**Десятский** – *тое, што і* **десятникъ**[1] *у 1 знач.*: платятъ... меду осимъ саковъ, а десятскій зъ дыму по три гроши (АВК, VI, 494, 1549).

**Детва** – *дзеці, дзятва*: пѸщены листы... загѸбити всѣхъ июдѣꙗнъ ѡт молода до стара дѣтвѸ и женъкы (Зб. 262, 129).

**Детель** – *стваральнік*: ЛѸкіанъ... чюдес дѣтел (Бяр., 293).

**Детина (дитина)** – **1)** *дзіця*: братъ моˢ ивашъко детиною малымъ полоненъ и на москве взросъ (КВЗС, 42б, 1538); **2)** *юнак, дзяцюк*: гды бы ꙗкій млоденецъ боролсѧ зˢ дитиною и поборолˢ бы егѡ (Мак., 25); **3)** *слуга, парабак*: ѡнъ заставилъ небожчику мужу моему детину своего на имя Петрыка у семидесятъ грошей (АВК, XXI, 108, 1556).

**Детинка** – *памянш. ад* **детина** *ў 1 знач.*: акѸлина тѸю детинъкѸ малого пꙗти летъ мне в тоˢ копе грошеˢ... заставила (КВЗС, 94, 1533).

**Детинность (дитинность)** – *тое, што і* **детинство**: свтыи фома вѣрѸ дитинность хсвоу оумоученіе... преповедал (Валх., 63б–64); бог оу своем чл҃вчнстве и детинности был повит (там жа, 74б).

**Детинство (дитинство)** – *дзяцінства*: она ни въ кого николи и зъ детинства своего въ заставе не была (АВК, XVII, 352, 1541); скоро з дитинъства вырослъ слугамъ церковным ѿтданыѕ есть (Пралог, 574б).

**Детище (детищъ)** – *дзіця*: трѧслисѧ ꙗко жена рожающаѧ детище (Скар. ДЗ, 9б); по наказанию своемъ познанъ бываеть детищъ (Скар. ПС, 31).

**Детки** – *дзеткі*: хотечы маетность и покой жоне, деткомъ... своимъ по собе зоставити, тотъ тестаментъ... учинилъ (ИЮМ, XXX, 4, 1577).

**Детоводитель** – *выхавацель*: Пѣстѹнъ: Педагѡгъ, дѣтоводитель (Бяр., 133).

**Детоньки** – *памянш. ад* **детки**: до ѿчизны дѣтонѕки квапитѕсѧ потреба (Лям., 18).

**Детоубийство** – *дзетазабойсва*: скорое осѹженіе ирода поткало длѧ незбожного дѣтоѹбійства (Каліст, II, 267б).

**Детоубийца** – *дзетазабойца*: в роспачи дѣтоѹбиѕца ѡныѕ ѹмерлъ (Бельск., 201).

**Детоучитель** – *настаўнік*: Граммотникъ: Дѣтоѹчитель (Бяр., 31).

**Деточки** – *памянш. ад* **детки**: дѣточокъ маленкихъ ѡ мѹръ розбиꙗно (Тр. гіст., 72).

**Детракция** – *пазбаўленне чаго-н.*: то ест детракциѧ ѡднымъ словком ꙗко мовꙗт або теж рѹшенемъ головы кивненемъ (Зб. 261, 156).

**Детский (детцкий, децкий)** – *судовы выканаўца*: послали децкого... и козали есмо его моцно въ тѹю землю ѹвезати (КСД, 35, 1510); вы дей тымъ людемъ крывды дѣлаете... кажете имъ у право становити и детскихъ своихъ посылаете (АСД, XI, 3, 1545); за детцкимъ пану Углику рокъ былъ передъ нами стати прыпалъ (АВК, XXI, 228, 1557).

**Детчына** – *зямельнае ўладанне, якое павінна перайсці ва ўласнасць дзяцей*: пойти ему прочъ въ нашу детчыну (ИЮМ, II, 235, 1634).

**Детя** *гл.* **дитя**.

**Дефалькация (дефелькация)** – *выплата пэўнай грашовай сумы на льготных умовах*: записомъ своимъ дефалькацію... шкодовалъ (АВК, XXVIII, 349, 1653); ведлугъ добровольного запису своего дефелькацію учинилъ (там жа, 350).

**Дефектъ** – *дэфект*: пишѹт ѡ фениѯе кгды дефектъ в собѣ чѹет шѹкает зелꙗ и древа пахънучого (Зб. 259, 70).

**Дефелка (дефелга)** – *льгота пры выплаце розных плацяжоў*: учинилъ дефелгу... абы мы болей не платили пану Матусевичу... чоповаго (ИЮМ, IV, 97, 1686); просили инстанцыи до короля его милости о дефелке месту Могилеву (ИЮМ, XIII, 150, 1699).

**Дефендованье** – *пераход да абароны ў судовым працэсе*: по которыхъ екзаминованю вязне... до права взглядомъ прымовенясе патроновъ и дефенъдованя (АВК, XXIX, 87, 1680).

**Дефенсия** – *абарона; абвяржэнне абвінавачвання*: въ правѣ посполитомъ о таковыхъ дефенсіяхъ... знайти описаныхъ оборонъ не можна (АВК, XV, 497, 1686).

**Дефиниция** – *вызначэнне, устанаўленне*: злости и щастꙗ ест дефиницыꙗ, ежели щасте слепое и злост слепаꙗ (Зб. 259, 580б).

**Дефтерономия** *гл.* **девторономия**.

**Дехтяриха** – *жонка дзегцяра*: отъ Мелещихи дехтярихи голубцовъ пять (ИЮМ, V, 128, 1688).

**Деценцыя** – *прыстойнасць*: деценцыꙗ в том зависла (Зб. 261, 99б).

**Децидованье** – *прыняцце рашэння*: подруцоное намъ суду отъ ихъ милостей пановъ Роровъ черезъ нѣякогось хлопца обмовы децидованья (АВК, XII, 494, 1694).

**Децизия (децезыя, децизыя, децызыя, дыцызыя)** – *рашэнне, пастанова*: о децызыю не просил (АВК, XXX, 316, 1606); децезыю нашу до голого декрету суспендовавшы (АВК, I, 249, 1612); мы гсдръ на роспартье... до сѹдѹ належного ѡбѹдвѹх сторон ѡтослали есмо не чынечы жадное дыцызыи (ККСС, 127б, 1615); таковый нехай слѹхает децизыи Іс҃а

Хса (Ст. бр., 21); на децизіи судовъ его королевское милости до сихъ часъ тая зостаетъ справа (АВК, XI, 198, 1669).

**Децкий** *гл.* **детский**.

**Децко** – *дзіця*: мистру на похоеане децка дано золот. одинъ (ИЮМ, I, 267, 1682).

**Децкованое** – *плата судоваму выканаўцу*: дѣцкованое водлѣ привильевъ... брати росказати рачилъ (АЗР, III, 104, 1559).

**Децкованье** – **1)** *выкананне абавязкаў судовага выканаўцы*: слугъ своихъ посылаешъ на децкованье (АЗР, I, 351, 1503); **2)** *тое, што і* **децкованое**: делити маютъ децкованье и отъправчое одъ кождое речы сужоное (ИЮМ, II, 245, 1646).

**Децызыя** *гл.* **децизия**.

**Дечекъ** – *гунька*: шлей новых юхтовых чотыры, уздъ до того жъ раду также чотыры, дечекъ старый один (АВК, XXXVI, 58, 1582).

**Дешевость** – *марнасць, нікчэмнасць*: Сѹета... подлост, дешевость (Бяр., 160).

**Дешпотъ** *гл.* **деспотъ**.

**Деяние (деание, деянье, дияние)** – **1)** *дзеянне, учынак*: ѿ него же всѧко деѧне бл҃го (Сматр., 7); **2)** *адлюстраванне на іконе евангельскага сюжэта*: образъ святоѣ Пречистоѣ... святого Николы зъ дѣяніемъ (АЗР, I, 137, 1494); **3)** *запіс аб справах рэлігійных дзеячаў*: они не взѧли суть ѿ халдеи... кроме песни триехъ отрокъ и иныхъ деаниеи (Скар. ДП, 4б); ѡ томъ в диꙗниих пишетъ (Пралог, 588).

**Дзвенкъ (двенкъ, дзвиенкъ, дзвьенкъ, дзвянкъ)** – *гук, звон*: звук – дзвьенкъ (Зіз., 35); Звѹкъ: Голосъ трѹбный, дзвіенкъ (Бяр., 50); Бл҃гогласное вѣщаніе: вдѧчный голос, дзвѧнк^s (там жа, 211); вдꙗчност голосѹ же ꙗко дзвенкъ цитри (Зб. 259, 582б); хлопꙗтки ихъ... пищики маю*т*, веселꙗтсꙗ з двенкѹ ихъ (Пралог, 663).

**Дзвоница** – *тое, што і* **звоница**: оные студенты... уписного брата на цвинтару межи церковью и дзвоницею уранили (АВК, VIII, 31, 1598).

**Дзвонокъ** – **1)** *тое, што і* **звонокъ** *у 1 знач.*: Колокол: Цимбалъ, дзвонок (Бяр., 65); **2)** *тое, што і* **звонокъ** *у 2 знач.*: онъ идѹчи мимо каплѣцѹ оучѹвши дзвонокъ... вступивъ до каплѣцы (Зб. вып., 31б).

**Дзвонъ** – **1)** *тое, што і* **звонъ** *у 1 знач.*: дзвоновъ большихъ и меньшихъ на дзвоници чотыры (АСД, I, 281, 1637); **2)** *тое, што і* **звонъ** *у 2 знач.*: послышавши дзвонъ въ той церкви. и заразъ послалисьми на довѣдки (АВК, II, 62, 1632).

**Дзеготь** *гл.* **деготь**.

**Дзеканъ** *гл.* **деканъ**.

**Дзень** *гл.* **день**.

**Дзержавца** *гл.* **державца**.

**Дзида** – *піка*: купили дерева штукъ 60 на дзиды (ИЮМ, XIII, 107, 1710).

**Дзиорнъ** *гл.* **дернъ**.

**Дзюра** *гл.* **дира**.

**Дзякло** *гл.* **дякло**.

**Дзяло** – *тое, што і* **дело**[2]: до дзялъ большихъ и мнейшихъ пороху... на стрелбу вышло всего фунтовъ двадцать пять (ИЮМ, IV, 69, 1686).

**Дзяцко** *гл.* **дядько**.

**Диадема (диадима, диядима)** – *дыядэма*: видѣлъ... на головѣ его диꙗдиму або корону велми чуднѹю (Алекс., 6); діадемѹ самомѹ кролеви носити пристоитъ (Мак., 391); Стефанъ, ел: Діадіма, корона (Бяр., 313).

**Диадематъ** – *тое, што і* **диадема**: ани діадемата албо короны, которы*и* хрстіане в^s пришломъ вѣкѹ пріймѹтъ (Мак., 65).

**Диаконисса** *гл.* **дьякониса**.

**Диакония** – *пасада дыякана*: изб҃ѣрание... на презвитер^s^ство и на діаконію не на всѣхъ але на пев^s^ные особы приходить (Будны, 224б).

**Диаконъ** *гл.* **дьяконъ**.

**Диакъ** *гл.* **дьякъ**.

**Диалектика (диалектыка)** – *навука аб тым, як правільна весці дыялог*: ѹчинилъ диалектыкѹ зино*н* елатꙗни*н* риторику зась краксъ сиракѹсꙗнинъ (Біблія, 30); на*с* Хс҃ и апостолове не наѹчали диалектики и красомовства (Бельск., 267б).

**Диалектъ (диялектъ)** – *дыялект, мова*: кроиника з розны*х* многи*х* а досвѣтчоны*х* авторо*в* и историко*в* диꙗлекто*м* рѹски*м* естъ зложона (Бельск., 1); назвиска речій... розмоиты*х* діалектѡ*в*... нашимъ ꙗзыкомъ рѹски*м* ѡбъꙗсни*л* (Бяр., прадм.).

**Диалокгъ (диялогъ)** – *дыялог; літаратурны твор у форме размовы*: въ книгахъ ѿ диалокговъ (Унія, 17); дали студентомъ кляшторнымъ за выправене діялоговъ предъ панами комисарами... золот. два (ИЮМ, VIII, 43, 1690).

**Диаментъ (дияментъ, дыяменскъ, дыяментъ)** – *дыямент*: два перъстени золотыхъ ѡдинъ с каменемъ тѹръкѹсомъ а дрѹги^s^ с дыꙗменътомъ (КВС, 443б, 1552); перстенъ золоты с каменем диаментомъ (АВК, XXXIX, 61, 1578); перстень съ каменемъ діяментомъ (АЮЗР, I, 265, 1596); въ той шкатулѣ было... перстенковъ золотыхъ, одинъ съ каменемъ дыяменскомъ (АСД, III, 82, 1617).

**Диариушъ** – *дзённік*: Діаріѹшъ албо списо*к* дѣевъ правдивы*х* в справе помноже*н*ꙗ и ѡбꙗсне*н*ꙗ вѣры православное (Дыяр., 148б).

**Дивакъ** – *дзівак*: Самоѹгодный... незгодливый, дива*к* (Бяр., 142).

**Дивенье (дивение)** – *здзіўленне*: шли ис силны*м* дивеніимъ (Валх., 56б); было цареви з великимъ диве*н*емъ и*ж* сꙗ та*к* малаꙗ ѡсоба за великою ре*ч* бере*т*сꙗ (Зб. 752, 79б).

**Дивность** – *тое, што і* **диво**: дивнос*т* оучини*л* гсь (Пс. XVI, 98).

**Диво** – *дзіва*: тѹтъ немалое ѹчинилосѧ диво (Патр. П, 101).

**Дивованье (дивование)** – *здзіўленне*: ледвы в ней душа остала ѡ*т* великаго дивованиѧ (Скар. ТЦ, 149б); зошлосе много людѹ на дивова*н*е (Алекс., 11).

**Дивовиско** – *відовішча*: все мѣсто... зб҃ѣгло на ѡное дивовиско (Пралог, 508).

**Дивовище** – *тое, што і* **дивовиско**: Позоръ: Дивовище, видок^s^ (Бяр., 110).

**Дивство** – *тое, што і* **диво**: Див^s^: Дивство, на ди*в* що оуробленое (Бяр., 34).

**Дивъ** – **1)** *дзіва, цуд*: просили ꙗкої чѹда або дивѹ ѡ*т* бг҃а (Стрыйк., 452); **2)** *здзіўленне*: тут его слухали з великим дивом (Трыст., 52).

**Дигнитаръ** *гл.* **дикгнитаръ**.

**Дидаскалия** – *вучэнне, казанне*: Дідаскаліа альбо наука... ѡ седми сакраментахъ альболи тайнахъ (Дзід., прадм.).

**Дидаскалъ** – *настаўнік, прапаведнік*: могли собѣ избирати дидаскаловъ же или учителевъ школныхъ дѣтемъ своимъ (АЗР, IV, 70, 1594).

**Дидрахма (дидрагма)** – *старажытнагрэчаская манета вартасцю ў дзве драхмы*: сам^s^ дідрахму заплатилъ (Будны, 54); драгма важила пѹлпета гроша, ꙗко и дина*р*, дидрагма лепа*к* деве*т* грошии (Выкл., 17б).

**Диецезия (деоцызыя, диецезыя, диоцезия, диоцезыя, дыоцезыя, дыцезыя)** – *епархія*: у каждой ихъ диоцезіи вольно мнѣ сѵноды складати (АЗР, IV, 218, 1600); офицыалъ... визытуетъ по всей діоцезыи (АСД, VI, 114, 1608); дыцезыю нашу... ку дальшому доводу припустили (АВК, I, 249, 1612); архіепископъ Полоцкій, которого то діецезія... тотъ монастыръ абы мѣлъ (АСД, I, 36, 1626); отъ епископа ихъ, въ которого то деоцызыи то братство есть... жадного уймоу... быти не маетъ (АСД, II, 59, 1635); пріѣханье до Полоцка въ дыоцезыѣ его милости ойца архіепископа (АСД, I, 303, 1638); іерей засе хотѧчіи ѡ*т* едныѧ диецезыи въ иннѹю диецезыю перейти, повиненъ взѧти на пѣсмѣ ѡ*т* епспа своего грамотѹ (Зб. вып., 56б).

**Дизгоноръ** *гл.* **дызгоноръ.**

**Дизпозыцыя** *гл.* **диспозиция.**

**Дизунитъ** *гл.* **дызунитъ.**

**Диисусъ** *гл.* **деисусъ.**

**Дикгнитарство (дигнитарство, дыкгнитарство, дыкнитарство)** – *годнасць, сан, пасада*: дыкнитарствъ и ѹрꙗдов земли нѿое... не ѹмнеѕшаем (Прыв., 110б); знꙗвшы зъ его млсти дыкгнитаръство каштелꙗнию меньскую, дали есмо ему тое воеводъство Полоцкое (КЛС, 124, 1597); угоненеся за марными того свѣта дигнитарствы (Пыт., 108); богатства дикгнитарства вынесли серце его (Зб. 259, 340б).

**Дикгнитаръ (дигнитаръ, дыгнитаръ, дыкгнитаръ)** – *саноўнік*: дыкгнитаровъ на местца помененые его кр милость потребы быти видети не рачить (КПД, 527, 1569); дикгнитарове и врядники наши напротивку имъ не будуть мочи сказовати (АЗР, III, 203, 1577); перед дыгнитарми врадники земскими... упоминалсе (АВК, XXXVI, 383, 1590); дигнитаре за малыхъ и подлыхъ поличаютъсꙗ (Мак., 324).

**Дикость** – *дзікасць*: Сверѣпіе, або сверѣпство: Дичъ, дикость (Бяр., 143).

**Дикретъ** *гл.* **декретъ.**

**Диктамнъ** – *ясенец*: елен стрѣлою подстрелоныѕ, абы желѣза и пострѣлѹ позбыти могъ, прѹдко зѣлꙗ диктамънѹ, так названого собѣ достает (Зб. 259, 531).

**Диктаторъ** – *дыктатар*: иѹлиѕ... диктатором то ест единовладцою звалъсꙗ (Рым., 80б).

**Дилеванье** *гл.* **дылеванье.**

**Дилея** *гл.* **делия.**

**Диляница** *гл.* **деляница.**

**Диляция** *гл.* **дыляцыя.**

**Димидъ** *гл.* **демидъ.**

**Димяръ** – *работнік, які выплаўляў з руды жалеза*: угляре, димяре, ковали, и горники, плокаре, кождый по 6 грошей (КПД, 538, 1569).

**Динаръ (денаръ)** – *дынарый*: драхма важила пол е҃ гроша, ꙗкож и динар (Біблія, 50); два денари далъ господарови (Каліст, II, 147).

**Диоцезия** *гл.* **диецезия.**

**Диплиома (деплиома)** – *урадавы акт*: привилеѕ... ведлугъ дипліомы с потверженемъ першого права и позволенемъ набыти плꙗц на дом братскиѕ с подписомъ рѹки кролевское набылем (Дыяр., 155б); на довод того привилею его корол. млсти чыталъ деплиому згоду всее Речы Посполитое (ИЮМ, XIII, 335, 1730).

**Дира (дера, дзюра, дыра)** – *дзіра*: балсам черес щельки албо дири как бы вода в матице течет (Валх., 59б); имъ потреба дыру въ стѣнѣ... выбити (АЗР, III, 141, 1568); тыхъ особъ... местцомъ незвыклымъ, дзюрею, по винде до турмы подъ ратушъ... осадили (АВК, XX, 169, 1601); Скважнꙗ: щѣлина, рощѣлина, роспалина, дѣра (Бяр., 146).

**Дирванъ (дерванъ, дырванъ)** – *дзірван*: на шостомъ местцу пруты два дырвану (АВК, XXIV, 142, 1553); заросли подле дороги... в дерванахъ (АВК, XXX, 73, 1590); от тое сеножати через дирваны перешедши (АВК, XXXI, 99, 1596).

**Директоръ** – *дырэктар, кіраўнік*: метрополита... належитый пастыръ и директоръ всихъ церквей (АВК, I, 101, 1666).

**Дирекция** – *кіраўніцтва, дырэкцыя*: водзы в дірекціи и оуправованью житла своего закономъ бж҃імъ и страхомъ завстꙗгаючи (Мак., 5б).

**Диречка (дырочка)** – *памянш. ад* **дирка**: прожнаꙗ хвала вкрадетсꙗ часомъ и през дырочки добрихъ ѹчинковъ (Зб. 259, 341б); диречкѹ малѹю вчинивши гледелъ (Пралог, 651).

**Дирка (дырка)** – *дзірка*: промень солнечный которою диркою оу церков оушол (Валх., 81б); тыꙗ люди... толко дырки ѹместо ѹшѹ мают (Царств., 70).

**Диркование** – *сетка*: ꙗблокъ четыриста на двои*х* диркованиахъ (Скар. ТЦ, 140б).

**Дисгоноръ** *гл.* **дызгоноръ**.

**Дискосъ (дыскосъ)** – *талерка, якая ўжываецца ў час літургії*: келихъ серебреный зъ дыскосомъ (АСД, VI, 205, 1616); все штоколвек естъ на дискосѣ посщ҃ает*с*ѧ (Навука, 42).

**Дискреция (дишкреция, дишкрецыя, дыскрецыя, дыскрыцыя, дышкрецыя)** – *тактоўнасць*: мови*т* дꙋ*х* светы*ѕ* жебысмо мели дыскрыцыю (Зб. 261, 122б); если же глꙋпе и кромъ дишкреціи непорѧдне до столꙋ кролеви слꙋжити почнетъ... смерти подлѧжетъ (Мак., 128); былъ замо*ж*ныи и знаючійсѧ на дискреціи (Ст. бр., 18б); бе*с* дыскрецы*ѕ* и милосе*р*диꙗ се*н*те*н*цыꙗ е*ст* на мене выданаꙗ (Зб. 259, 194б); млодзяну... зъ дышкрецыей дали два таляры (ИЮМ, VI, 47, 1689); жолнеромъ... дали зъ дишкрецыи талеръ (ИЮМ, VIII, 35, 1691).

**Дискурсъ (дыскурсъ)** – *размова*: с которого то диск*ꙋ*рс*ꙋ* и то каждый познати... можетъ (Карп., 21б); звыкли астролокгове розмаитые дыск*ꙋ*рсы и роз*с*ꙋ*д*ки чыни*т* (Зб. 259, 594).

**Диспартименъ** – *разнарадка*: комисару, диспартименъ на войско Литовское в повеце Оршанскимъ чынячому, дали таляровъ 100 (ИЮМ, XI, 9, 1711).

**Диспозиция (дизпозыцыя, диспозития, диспозицыя, диспозыцыя, дыспозиция, дыспозыцыя)** – **1)** *распараджэнне*: манастыръ... до дыспозыцыи нашое прышолъ (АЮЗР, II, 68, 1611); манастыръ... до диспозицыи нашой... вернутися маетъ (АЗР, V, 6, 1633); такъ мою диспозитію спорадилъ (ИЮМ, X, 424, 1686); записали въ моцъ, держане, владзу и дизпозыцыю мне (ИЮМ, XIV, 138, 1736); **2)** *план*: показовали диспозиціе тыхъ дворцовъ (АВК, VI, 168, 1599); диспозыцые в месте учыненые показовалъ (АВК, XX, 263, 1620); тое ведлугъ дыспозиции... роздати мает (ИЮМ, XXIV, 400, 1647).

**Диспутация (деспутацыя, деспытацея, деспытацыя, диспутацея, диспутацыя, диспытацыя, дыспутация, дыспутацыя, дыспытацея)** – *дыспут*: диспутацый зъ иноверными не чинятъ (АЗР, IV, 79, 1594); въ диспутацыю вда*т* хочете (Бер. саб., 11б); плебанъ... почалъ ся самъ вдавати зъ отцемъ Никифоромъ въ диспутаціи (АВК, VIII, 29, 1599); люди ѡнои секти... дисп*ꙋ*тацѣи взновꙗли (Бельск., 309); в деспутацыꙗ*х* свои*х*... вѣрꙋ ст҃ую оурꙋга*л* (Жыц. св., 65б); ꙋдалсꙗ в деспытацею... з павломъ ст҃ымъ (Зб. 752, 44б); возвали его на дыспытацею (там жа, 156б); шолъ ꙋже на... ме*с*тцѣ диспытацыи назначоное ари*ꙋш* (Пралог, 633б); вызва*л* его на ѡнꙋю змы*ш*ленн*ꙋ*ю де*с*пытацыю (Зб. 82, 168); дыспутація была... трꙋдна (Выкл., 90б).

**Диспутачъ** – *дыспутант*: Марко, Ефесскій митрополитъ, премꙋдрѣйшій диспутачъ, съ того собора тѣсными ся стежками вытиснулъ (АЗР, IV, 225, 1605).

**Диссидентъ** – *іншаверац*: подалъ декретъ комисарскій... въ справѣ диссидентовъ вѣры евангелицкой (АВК, XII, 504, 1686).

**Дистракция** – *рассеянасць*: по*ѕ*зре*л* на хло*п*ка ѡрꙋщаго, и длꙗ то*ѕ* дистра*к*ции пре*з* м҃ лѣ*т* не то*л*ко на ѡнꙋю ролю. але ани на нб҃о не смотри*л* (Зб. 261, 144б).

**Дисунитъ** *гл.* **дызунитъ**.

**Дисциплина (дисцыплина, дысцыплина)** – *бізун; удар бізуна*: видимо потребꙋ покꙋт, дисципли*н*, влосени*ц* (Зб. 261, 87); влосеницами, дисцыплинами, постами проти*в* покуса*м* дыꙗво*л*ски*м* боронилисе (Зб. 255, 404); в*ѕ* ночи былъ оудареный четыридесѧтъ и два разы, ѡ*т* дысцыплѣнъ мѣлъ разовъ шесть тысѧчей (Зб. вып., 95).

**Дитина** *гл.* **детина**.

**Дитя (детя, дятя)** – **1)** *дзіця*: звѣзда... стала на*д* домомъ кде дѧтѧ было (Валх., 51); **2)** *сын або дачка незалежна ад узросту*: братъ нашъ Супрунъ умеръ а детя по собе зоставилъ (АВК, XVII, 358, 1541); **3)** *дзіцяня жывёлы*: Скѵменъ, Левъ молодый, дитѧ лвово (Бяр., 310). ◊ **Дети боярские** – *дружынніĸі князя*; **дети духовныи** – *паства*.

**Дитятко (детятко, дятятко)** – *дзіцятка*: нашли дѧтѧтко з маріею (Валх., 53); ѡное детѧтко дано на наоукоу (Жыц. Ал., 97); мелъ есми с нею и дитꙗтъко (КВЗС, 90, 1533).

**Дифамация** – *паклёп*: ку суженю припала справа... о неслушное и непристойное традукованье и дифамацію (АВК, XV, 122, 1664).

**Диффамованье** – *абняслаўленне*: высыпавшисе гурмомъ... словами непристойными диффамованье, подданыхъ... збитье (АВК, X, 280, 1697).

**Дифференцыя** – *розніца*: ꙗкаѧ дифференцыѧ межы млекомъ, которы*м* поитъ... младенцевъ, а съвершенны*м* брашномъ, которы*м* посилѧетъ працꙋючи*х* (Карп., 21).

**Дичь (дичъ)** – **1)** *дзічына*: крычи*т* ли дич на*д* прозѧблью рыкаеть ли во*л* на*д* замѣсомъ (Зб. 262, 14); **2)** *дзікасць*: Сверѣпіе, або сверѣпство: Дичъ, дикость (Бяр., 143).

**Дишкордия** – *нязгода*: праве была дишко*р*диꙗ межы псы ко*ст* ꙋкинꙋла (Бельск., 37).

**Дишкреция** *гл.* **дискреция**.

**Диядима** *гл.* **диадема**.

**Дияконъ** *гл.* **дьяконъ**.

**Диякъ** *гл.* **дьякъ**.

**Диялектъ** *гл.* **диалектъ**.

**Диялогъ** *гл.* **диалогъ**.

**Дияментъ** *гл.* **диаментъ**.

**Длань** – *тое, што і* **долонь** *у 1 знач.*: простри прчстыи свои длани (Карп., 48б).

**Длато** – *тое, што і* **долото**: Словѣса... длатом[s] дабы выриты были (Скар. КІ, 25).

**Длото** – *тое, што і* **долото**: за отострование длотъ чотырехъ дали (ИЮМ, X, 150, 1695).

**Длугъ (длукгъ)** – **1)** *тое, што і* **долгъ** *у 1 знач.*: Лапицъкому длугъ выплатили (ИЮМ, VIII, 82, 1691); **2)** *тое, што і* **долгъ** *у 2 знач.*: то[s] рок... ани длꙋкги, ани чи*н*ши и пода*т*ки не мѣли ити (Бельск., 55).

**Длужина (длужына)** – *тое, што і* **должина** *ў 1 знач.*: длужина тыхъ волокъ... шнуровъ 32 (АСД, VIII, 120, 1554); не описано длужыны ани пречыны одно сумою положено волокъ деветдесят (АВК, XXX, 21, 1589).

**Длужникъ** – **1)** *тое, што і* **должникъ** *у 1 знач.*: повиненъ ся длужникъ ручыть (ИЮМ, VII, 394, 1588); **2)** *тое, што і* **должникъ** *у 2 знач.*: продала ѡле[s], заплатила длу*ж*никови а ѡста*т*ко*м* се живила з сыны (Бельск., 125).

**Дмахъ** *гл.* **кгмахъ**.

**Днина** – *дзень*: ст҃аꙗ днина была коли оуздоровленъ есмь (Пак. Хр., 20б).

**Дно** – **1)** *дно*: кто на водꙋ презрочистꙋю гледи*т*, самое дно ѡбачи*т* (Зб. 259, 524б); **2)** *ніжняя частка якой-н. пасудзіны*: за уставене у бочце дна осм. пятнадцать (ИЮМ, V, 107, 1688); **3)** *фундамент*: бетлеемъ... маеть ѡпочный фоундаментъ албо дно (Валх., 43); **4)** *падзямелле*: за зламан*е* кгле[s]ту по*л*рока ꙋ вежи на дне седети мае*т* (Ст. 1588, 18).

**Доба** – *пара, час*: вер*н*ꙋсꙗ през рокъ ѡ то[s] добѣ (Бельск., 17–17б).

**Доблесть** – *доблесць*: ѱалтиръ: оумъ, разꙋмъ, доблесть (Бяр., 34).

**Добро (дабро)** – **1)** *усё добрае як процілегласць злому*: дѣло свое, дабы мало зла, а много дабра (Арыст., 148); **2)** *маёмасць*: добра лежачые и рухомые... по небощыку пану Каръловичу потомкомъ его належачые (АВК, XVIII, 212, 1607); **3)** *каштоўныя рэчы*: виделъ Трыщан у тѣхъ склепех много всѧкого добра розличного, золота и серебра и перелъ (Трыст., 107); **4)** *дабраты*: буде*т* на*м* дано ꙋ Бога всꙗкое добро теле*с*ное и дꙋховное (Зб. 255, 75б–76).

**Доброволенство (доброволеньство)** – **1)** *вольнасць, свабода*: имъ вси тые права и доброволеньства нашимъ привильемъ потвердили (АВК, XIII, 66, 1593); **2)** *добразычлівасць*: вспомни на*с* г*с*и в доброволенстве людей твои*х* (Пс. XVI, 107).

**Доброволие** – *тое, што і* **доброволенство** *ў 2 знач.*: оувѣдаешь доброволіе и гнѣв каждого чл҃ка смотрѧчи на ѡчи его (Арыст., 175–176).

**Добровольность (доброволность)** – *дабравольнасць*: маемы доброволность в том (Алекс., 34б); доброволность людскаꙗ сполемъ з ласкою бж҃ею робитъ (Выкл., 117).

**Добровоние** – **1)** *пахучае рэчыва*: имате... доброводний к масти и кадило разноличное (Скар. КВ, 45–45б); **2)** *пахучасць*: доброводни... з себе выдават не мелъ (Зб. 255, 127б–128).

**Доброводнность** – *тое, што і* **доброводние** *ў 2 знач.*: побегнемъ въ доброводнности мастей твоихъ (Скар. ПП, 3б).

**Добродавецъ** – *той, хто робіць дабро*: вкꙋсилъ з рꙋкꙋ ей овочꙋ и перестꙋпилъ право и росказанье створителѧ и добродавца своего (Хран., 9).

**Добродей** – *дабрадзей*: его милость рачылъ быть милостивымъ паномъ и добродеемъ сыну моему (АВК, XX, 241, 1612).

**Добродейка** – *дабрадзейка*: матка добродѣйка моя (АСД, II, 71, 1652).

**Добродейство** – *дабрадзейства*: ехалъ до цесарꙗ, дꙗкуючы емꙋ за ѡное добродѣиство (Пралог, 497).

**Добродетель** – *дабрадзейнасць*: добродетель твою судѧще паметовали (Скар. ПБ, 18б).

**Добродетельство** – *тое, што і* **добродейство**: без его помочи и сына божіа добродѣтельства причастники не бываемъ (Будны, 155).

**Добродея** – *тое, што і* **добродей**: особливый добродѣя (АСД, XI, 115, 1720).

**Добродеяние (добродеание)** – *тое, што і* **добродейство**: добродеѧние гсдь богъ чинилъ естъ людемъ (Скар. ПБ, 27); скоро добродѣаніей божіихъ забываемъ (Будны, 235).

**Добродушие** – *дабрадушнасць*: оуказоуеть на щедрость... и добродш҃ие (Арыст., 178).

**Доброе** – *добрае*: ѡтдали злым за доброе (Бельск., 31б).

**Доброистенникъ** – *носьбіт ісціны*: доброистенник сладок на небци своемъ (Зб. 262, 105б).

**Доброписецъ** – *каліграф*: Еѵграфъ: Доброписец (Бяр., 273).

**Добропобедникъ (добропобедитель)** – *пераможца ў барацьбе за веру*: Каллинікъ: Добропобѣдник, или добропобѣдитель (Бяр., 284).

**Доброразумье** – *разважнасць*: иосифъ... дарованье гсоу своемоу даеть а больше доброразꙋмье (Чэцця, 325).

**Доброреченье** – *добрае вымаўленне*: Варахан: Добroom речене, блсвенство (Бяр., 252).

**Доброта** – **1)** *добрае як процілегласць злому*: я и прозбою и добротою... упоминаломъ (АЗР, III, 142, 1568); **2)** *дабрата*: ѡнъ завиделъ Трыщану за его доброту (Трыст., 46); **3)** *сяброўскія адносіны*: у тебе будуть тые послы зъ братствомъ вѣрнымъ и добротами (АЗР, II, 51, 1508); **4)** *дабрадзейнасць*: много иных речій ѡ заслоугахъ и добротахъ велебней гелены на той таблици (Валх., 72б); **5)** *дабраякаснасць*: такой моци и доброты как правый балсам (Валх., 59б).

**Добротворецъ** – *той, хто робіць дабро*: Бонифацій: Добротворецъ (Бяр., 246).

**Добротливость (добротивость)** – *дабрачыннасць*: чинил толко правдоу на добротивость (Пак. Хр., 9б); то зъ самоѣ добротливости... вамъ учинено (АЗР, III, 50, 1554).

**Доброть (добрость)** – **1)** *тое, што і* **доброта** *ў 1 знач.*: ты еи мыслил вѣрную доброть, а ѡна зло и зраду (Трыст., 12); **2)** *тое, што і* **доброта** *ў 2 знач.*: добрoт и ласкавост твоꙗ всꙗкꙋю заслꙋгꙋ переходит (Зб. 259, 127); **3)** *тое, што і* **доброта** *ў 4 знач.*: успомени ее великую добрость, што тобѣ ѡна чынила (Бава, 169).

**Доброумье (доброумие)** – *тое, што і* **доброразумье**: мышци долгии до бедръ знаменоуеть доброумье (Арыст., 200); негроубость знамѧ доброумию (там жа).

**Доброхотство (доброхотение)** – *прыхільнасць*: собрався... васъ... за вашу правду и доброхотство побити (АЗР, IV, 427, 1611); доброхотѣніе его за посмѣхъ собѣ ставятъ (там жа, 428).

**Доброхотъ** – *добразычлівец*: нѣмцовъ, нашихъ доброхотовъ... розстрѣляти зъ самопаловъ велѣлъ (АЗР, IV, 479, 1615).

**Доброчестье** – *сумленнасць*: Нестеръ... ѡ*т* оц҃а доброчестье а ѡ*т* ст҃го дмитре навченъ моудрости и страхꙋ гсню (Чэцця, 57–57б).

**Доброчинность (доброчиненье)** – *дабрачыннасць*: до доброчинен^s^ѧ ѡ*т*инюдъ не способна (Мак., 223–224); доброчинно*ст* почитанаѧ быти звыкла (Ст. бр., 15).

**Доброчинца** – *дабрачынец*: наꙋчилъ доброчинцѡвъ з^s^ доброчи*н*ности своей не шꙋкати чести и славы (Каліст, II, 41б).

**Добудованье** – *дабудоўванне*: повинен будет пан Антон им дат дерева на добудоване церкви (АВК, XXXIX, 356, 1579).

**Добыванье (добывание)** – **1)** *захопліванне*: до добыва*н*ꙗ замко*в* всꙗки*х* потребъ з собою набрали (Стрыйк., 629–629б); **2)** *набыванне*: тое оубо жадость добываниѧ вымыслила (Скар. ПБ, 20б).

**Добытокъ (дабытокъ)** – **1)** *здабыча (ваенная)*: поганы*х*... з дабытками и з лꙋпами приходꙗчи*х* били (Стрыйк., 575б); **2)** *здабыча (на паляванні)*: на бобры въ добытки идуть (АЮЗР, I, 110, 1541); **3)** *маёмасць*: вси добытъки свои роздалъ (Пралог, 625); **4)** *прыбытак*: всꙗки^s^ добытокъ тыи люди межи себе наполъ деливали (КСД, 883, 1516).

**Добытье** – *здабыванне*: приплынули до месе*м* длѧ добы*т*ꙗ спижи (Троя, 5).

**Добыча (добычъ)** – *здабыча*: вся добыча на его пожитокъ быти маеть (КПД, 751, 1563); рыбы и иншая добыч, которую есмо были достали... потонула (АВК, XXXIX, 252, 1579).

**Добышъ** – *барабаншчык*: добышу, который по сотнямъ бубнитъ и въ ночы, рано и въ вечоръ, дали на недель две золот. пять (ИЮМ, III, 89, 1685).

**Довбанье** – *даўбенне*: Ровъ: рѣза*н*е, довба*н*е, теса*н*е (Бяр., 216).

**Довгость** *гл.* **долгость**.

**Доведанье** – *даведванне*: лист... дали... до лепшого доведанья (ПГ, II, 110, 1486).

**Доведаньесе** – *тое, што і* **доведанье**: Познаніе... розꙋмѣ*н*е, довѣда*н*есѧ (Бяр., 109).

**Доведенье** – **1)** *выкананне*: терминъ... доведеня тое прысеги... складаемъ (АВК, I, 136, 1677); **2)** *прывядзенне доказаў*: староста... за доведеньемъ заморъдова*н*ꙗ на смерть того то склотовского... листъ сво^s^ ѡ*т*ворены^s^ до насъ ѡтослалъ (КЛС, 59, 1596).

**Доведыванье** – *даведванне*: для доведыванья выбиранья доходов нашихъ маемъ послати которого добърого верьного (КПД, 75, 1529).

**Доверство (доверение)** – *давер'е*: поганствоу болше доверенiа потешенiе множилосе (Валх., 55б); ту*т* се ꙋказало неправое довѣрство мо^s^сеѡво (Бельск., 62).

**Довжкость** – *тое, што і* **должина** *ў 1 знач.*: тую сеножать... вымерити маемъ в широкости и в довжкости (АВК, XXII, 343, 1570).

**Довзникъ** *гл.* **должникъ**.

**Довинненье** – *абвінавачанне*: опытывала его пани София маетности его... абы на потомъ не пришла у которое довиннене одъ блискихъ (АВК, XXIV, 117, 1548).

**Довмниманье** *гл.* **домниманье**.

**Доводность** – *доказ*: у васъ на тое доводность, што тая ваша грань Неньковцы отъ Комаровой могилы да къ Глинищамъ (АЮЗР, I, 42, 1510).

**Доводня** – *памяшканне для ўтрымання абвінавачаных перад судом*: тыхъ всихъ не казалъ его милость въ доводню сажати въ таковыхъ малыхъ дѣлѣхъ (АЗР, I, 361, 1505).

**Доводъ** – **1)** *довад*: потреба доводовъ ꙗвны*х* (Ст. 1588, 5); **2)** *прысяжны паверaны*: свѣтки и доводы... къ свѣдѣтству были припусканы (АЗР, III, 32, 1551). ◊ **Доводъ листовный** – *пісьмовае паказанне*; **доводъ правный** – *судовае следства.*

**Довоженье** – *прывядзенне доказаў, сведчанне*: прыпалъ рокъ на довоженье справедъливости о грабежъ валовъ двух (АВК, XXXI, 285, 1599).

**Довтипность** – *дасціпнасць*: довтипност ꙋмыслу твоего милую (Алекс., 4).

**Довтипъ (довстипъ, довстыпъ, довтепъ, довтыпъ, довципъ, достипъ)** – *досціп*: довстипомъ и мудрыми поступками своими землю тамошнюю... ку панству нашому... прилучилъ (АСД, III, 25, 1567); з достипомъ... ку праву стать (АВК, XXXII, 365, 1596); своемꙋ довтепови жолнерскомꙋ подвышене свое причитал (Бельск., 379б); арон ꙋмер... длѩ болвохвалства, которое сам през довстып своѕ вывалез (Стрыйк., 416); довтыпъ свой оказати оусиловали (Мак., 352); ꙋ едного ꙋбозство ꙋ дрꙋгого здоровье слабое ꙋ третѣго довъципъ мелъкиѕ (Зб. 259, 100); сличной твари паненка, мудраѩ и довтипу великого (Пралог, 528б).

**Догаданье** – *здагадванне*: Домышленіе: оудобство, догаданье (Бяр., 36).

**Догажанье** – *дагаджанне*: Съхожденіе: Догажане (Бяр., 167).

**Догледанье (догляданье)** – **1)** *назіранне, кантраляванне*: его милость доглѣданье пожитковъ своихъ господарскихъ... рачитъ зоставляти при воли своей (АЗР, III, 13, 1547); **2)** *вартаванне*: за личене и доглядане тое цеглы человеку дано осм. осмнадцать (ИЮМ, V, 133, 1688); **3)** *клопат*: без жаднаго догледанѩ и милосердиѩ млоденца стго покинут (Пралог, 506б); **4)** *догляд*: дворницы за догляданье и поенье коня... дали золотый (ИЮМ, I, 34, 1679).

**Догледачъ** – *наглядчык*: о то просите, абы справцы и догледачи мынъцы народу тутошнего въ ней справовали (КПД, 356, 1565).

**Доглядъ** – *догляд*: епископъ Берестейский опеку и старане и доглядъ мѣти будетъ (АСД, VI, 310, 1596).

**Догма (догматъ)** – **1)** *догма, дагмат*: повинныи кꙋмове дорослое дѣтѧ наꙋчати догматовъ вѣрѣ (Зб. вып., 12); **2)** *указанне*: найболшіе собѡры зѕ их догмы дѣѧлисѧ (Апакр., 144).

**Догнанье** – *дагнанне*: силы бы мне был на догнане тебѣ не ꙋзычил (Зб. 752, 141б).

**Договоръ** – **1)** *дагавор*: как бы зъѣзды быти нашому съ вашими великими послы для договору о добрыхъ дѣлѣхъ (АЗР, IV, 44, 1615); **2)** *умова*: ему и договоръ былъ з Ясудовою, мѣлъ ей десеть копъ грошей дати (РПП, 173, 1557).

**Догода** – *дагаджэнне*: воли бжеѕ догодꙋ ꙋчинили (Пралог, 548).

**Догоженье** – *дагаджэнне*: Блговоленіе: оуподобане, догожене (Бяр., 4).

**Догонянье** – *даганянне*: жалуючого такожъ забить усилуючы зъ рознымъ оружомъ до бою приспособленымъ догоняне (АВК, I, 351, 1696).

**Додаванье** – *дадаванне*: в оузычанью и додаванью потребꙋючимъ рады (Мак., 5б).

**Доданье** – *даданне*: доданьем копій... до права не становили (АВК, XV, 499, 1686).

**Додатокъ** – *дадатак*: за роботу чапки зъ додатками заплатили (ИЮМ, XIII, 133, 1699).

**Додача** – *дадача*: всее додачи зъ ботами дошло имъ золот. десять (ИЮМ, IV, 85, 1686).

**Додержанье** – *датрыманне*: в додержаню хвы наоуки ничого не маеш (Апакр., 165).

**Доездъ** – *праезная дарога*: тепер з того епирꙋ тꙋрецкиѕ цесар наѕлѣпшие доезды и герцов бою мꙋжѣ мает (Стрыйк., 421).

**Дожджъ (дождзъ, дождчъ, дождъ, дождь, дожжъ, дожчъ, дожщъ, дощъ)** – **1)** *дождж*: далѕ ест гсдь громобитие и дождъ (Скар. ПЦ, 24б); наполнѧтсѧ ѡболокы дожжꙋ (Зб. 262, 92); съ той стайни своее пустилъ стреху сплавъ дожчу на дворъ и погребъ мой (АВК, XVII, 248, 1540); той бо даеть дождь, сушу, ведро (Будны, 117б); наради ми доброе судно... и покрыи ми его добрым сукномъ длѧ дождчу (Трыст., 23); дожджъ не переставаючы лилъ (АВК, XVIII, 249, 1619); дождзъ перешкадзалъ (ИЮМ, I, 281, 1682); **2)** *перан. паток дробных часцінак*: на Содомъ... богъ огнистыи дощъ спустилъ (Будны, 85); их дожщемъ слезъ ѡмываеть (Зб. 255, 171).

**Доживотникъ (дожывотникъ)** – *асоба, якая пажыццёва чым-н. карысталася*: сꙋмы пнезеѕ на томъ доживотнику презысканое до столу нашого ворочатисе маютъ (Ст. 1588, 228); по кождомъ дожывотникꙋ до замкꙋ нашог... добра нашы прыворочал (ККСС, 101б, 1615).

**Доживотность** – *маёнтак, якім хто-н. пажыццёва карыстаўся*: хочу о тыи вряды и имѣнья доживотности ваши вамъ добрый конецъ вчинити (АЮЗР, I, 198, 1576).

**Доживотье (дожывотье)** – *права на пажыццёвае карыстанне маёмасцю*: ему на тую державу его доживотье дали (АВК, VIII, 231, 1577); мает толко дожывотем и в суме пенезей записано, а не дедицтвом (АВК, XXX, 196, 1602).

**Дозволенье (дозволение)** – *дазвол*: за дозволеньемъ старосты и всее братьи маетъ робить и въ братстве зъ ними сполно быти (ИЮМ, VI, 509, 1591); чи можетъ Іерей безъ дозволенїѧ епископскаго переходити ѡ*т* цр҃кве до церкве (Зб. вып., 56).

**造дрелость** *гл.* **дозрелость**.

**Дозирца** *гл.* **дозорца**.

**Дознанье** – **1)** *пазнанне, уведанне*: за дознаньемъ верныхъ и ꙋчтивыхъ служъбъ (КЛС, 121б, 1597); 2) *дазнанне*: врѧдъ длѧ лепшое певности и дознаньѧ справедливости ст҃ое маеть на шкрутыниумъ... выехати (Ст. 1588, 41б).

**Дозорникъ** – *тое, што і* **дозорца** *ў 1 знач.*: старъшые на*д* шпиталми и ꙗко дозо*р*ники чини*л* тыи сщ҃еники (Зб. 82, 149).

**Дозорство** – **1)** *нагляд*: одебрали мы отъ... райцы Могилев. за дозорствомъ его съ кабаку... монеты золот. двести (ИЮМ, IV, 13, 1686); **2)** *пасада наглядчыка*: на преложенство дозорства и писарства мають быти ѡбираные младенцы з оувагою (Ст. бр., 12б).

**Дозорца (дозирца)** – **1)** *наглядчык*: я, яко опѣкунъ и дозорця, тыхъ грунтовъ манастырскихъ постерегалъ (АЗР, III, 266, 1581); **2)** *вартаўнік*: дозирца пчолъ и дерева бортъного въ пущи Слонимской Лукашъ (АВК, XVIII, 198, 1603).

**Дозорщикъ** – *тое, што і* **дозорца** *ў 1 знач.*: дали бы вам дву дозорщиков (АВК, XXXIV, 101, 1657).

**Дозоръ** – *нагляд*: помененая Орина ужитая для дозору маетности и сторожи дѣтей малыхъ (ИЮМ, IX, 297, 1637).

**Дозрелость (доздрелость)** – *спеласць*: еще дерево не дощло до своей силы, и овоцъ его дозрѣлостью еще не краснѣетъ (Каліст, I, 151); Съзрѣніе: Доздрѣлость (Бяр., 163).

**Дозренье (дейзренье, дойзренье)** – *нагляд; разгляд*: маеть врядъ въ дозренью и доброй опатрности быдло дворное мѣти (АЗР, III, 78, 1557); листы... на дейзрене всякихъ кривдъ моихъ до пановъ комисаровъ вынесъ (ИЮМ, VII, 479, 1590).

**Доилица (доилница)** – *карміцелька, мамка*: доилница носить детище (Скар. ЛК, 27б); Питате*л*ница: Доилица, мамка, кормилница (Бяр., 104).

**Доитель** – *карміцель*: цари мають быти церквамъ и доителе (Будны, 92б–93).

**Дойлидовая** – *жонка цесляра*: жаловала... дойлидовая на подданого господарьского Лаврина (АВК, XVII, 130, 1540).

**Дойлидъ (дойлида)** – *цясляр*: дойлидъ хоромину поставивши не дбаеть о ней (Будны, 116б); иншимъ ремесникомъ... мае*т* быти плачоно ꙗко до*и*лиде (Ст. 1566 I, 90б).

**Дойница** – *даёнка*: творидла, што сыри робять, два, дойница одна (АСД, III, 240, 1571).

**Дойстье (дошстье)** – **1)** *дажыванне, наступленне*: дети по дошстью своихъ летъ давности веръхꙋ ѡписаное не ѡмешкали (Ст. 1588, 275); **2)** *дамаганне*: ку доистью того дому по близъкости линееюроду вольности правные закрочыли (АВК, XX, 107, 1594).

**Доказанье** – *даказванне*: на доказане того, што былъ вжо давно умыслил, дорога ему сѧ отъ Бога подала (Атыла, 216).

**Докладъ** – **1)** *паведамленне*: вместо устного мовеня своего з шыршымъ докладомъ далъ ми цедулу того бороненя своего (АВК, XX, 151, 1596); **2)** *дабаўленне*: инъструкцыю... казалъ панъ бурмистръ переписать для информацыи зъ докладомъ пунъктовъ (ИЮМ, VI, 134, 1698); **3)** *умова, агаворка*: каждаѧ особа... можетъ окрестити дѣтѧ, з[s] тымъ еднакъ докладомъ, же коли есть Іерей, инный... крестити не можетъ (Зб. вып., 10б); **4)** *удзел*:

**Злобление** – *азлабленне*: ѡзми иное аспидное злобление (Чэцця, 272).

**Злодеецъ** – *ліхадзей*: ѡ*т* него посланым на ѡ*т*мщение злодейцемъ (Скар. ДЗ, 3б).

**Злодей** – **1)** *злодзей*: злоде<sup>s</sup> маеть кара*н* быти которы<sup>s</sup> крал (Ст. 1566 I, 114); **2)** *тое, што і* **злодеецъ**: покуль то*т* злодеи старыи буде жыв, не можемъ ѡ*т* него впокоѧ мѣти (Бава, 133).

**Злодейка** – *ліхадзейка*: та злодейка непооднокроть людемъ шкодитъ (ИЮМ, VIII, 367, 1620).

**Злодейница** – *тое, што і* **злодейка**: дыꙗвол... влезъ оу злодѣиницоу змию и нашо*л* женоу (Чэцця, 251).

**Злодейство** – *крадзеж*: о злодѣистве жіта на поли (Вісл., 29).

**Злодеяние** – *злачынства, ліхадзейства*: жи*л* бо во пустыні... штобы не видети и не слышати скверны*х* члвчески*х* злодѣꙗнии (Чэцця, 270б).

**Злое** – **1)** *тое, што і* **зло** *ў 1 знач.*: въздал<sup>s</sup> мнѣ злое за доброе (Скар. ПЦ, 54); **2)** *тое, што і* **зло** *ў 3 знач.*: волелъ бых утратити... замок, нижли бы сѧ тое злое у моем дому стало (Трыст., 57).

**Зложенье (зложение, сложение, сложенье)** – **1)** *складанне*: купили въ дорогу скриню дъвувечную для зъложеня справъ (ИЮМ, XI, 120, 1692); **2)** *склад*: могут быти чотыри ятки суконные... и сложенье вина меду и пива (СДГВ, 5, 1432); **3)** *сумесь*: сіи сложеніѧ вси подобаеть поживати и*х* после лазни (Арыст., 213); **4)** *вызначэнне*: зложенье року Петрашъку... отданья сорока золотыхъ (КЗ, 181, 1480); **5)** *скліканне*: зложенье соймиков повѣтовыхъ (АВК, III, 272, 1577); **6)** *здзяванне*: грекове... без зложенꙗ зброи своее съ себѣ ꙋклалисѧ спати (Троя, 29б); **7)** *зніманне (з пасады)*: справа архіепископу... о зложенье его зъ мѣстца (АЗР, II, 377, 1541); **8)** *выклад*: зложеніе вѣри... длѧ побожных<sup>s</sup> пописано (Будны, 110).

**Злоимание** – *ліхадзейства*: каж<sup>s</sup>ныи человекъ имеѧ розумъ познаеть... несправедливость: злоимание (Скар. ДЗ, 2).

**Злоименство (злоимство)** – *наяўнасць злога, нядобрага*: ѕлоимѣнство: злоимство, ѕлый взростъ тѣла, ѕлое прироженье тѣла, злый обычай (Бяр., 45); ведлꙋгъ Арістотелѧ ѕлоимѣнство, ѕла*а* природа (там жа, 57).

**Злокупство** – *нядобрасумленная купля*: призва*л* е*г* до себе и кара*л* его тае*м*не ѡ тое злокꙋпъство (Зб. 82, 143б).

**Злолайца** – *блюзнер, брыдкаслоў*: ни татие, ни пианици, ни злолайци, ни хищници црствіа божіа не наслѣдѧть (Будны, 96б–97).

**Зломанье (зламанье)** – *зламанне, парушэнне*: жаловали... мѣщане мѣста нашого... о грабежи и зломанье права ихъ майтборского (АЗР, II, 179, 1527); ѡ зкгвалътованье и зламанье кгле<sup>s</sup>тꙋ (Ст. 1588, 18).

**Зломленье (зломенье)** – *пашкоджанне; напасць*: въ зломеньи вашемъ посмеюсѧ (Зб. 262, 93); велико ка*к* море зломленье твое хто злѣчить тебе (там жа, 111).

**Зломокъ** – *абломак*: ѡни ѡба вмѣсте пустили к нему и вдарыли его ѡба ровно, аж сулицы поломали на много зломковъ (Трыст., 125).

**Зломысленикъ** – *зламыснік*: слꙋчилсѧ первыи вселеньскии соборъ на проклѧтого ѡканного арыꙗ на зломысленика хсва (Чэцця, 107).

**Зломыслие** – *зламыснасць*: ꙋ вельми великое зломыслие зашли (Скар. КЕ, 24).

**Злонравие** – *злы нораў*: хребе*т* нахилыи и грꙋбыи оуказꙋеть на злонравіе (Арыст., 178).

**Злопитатель** – *той, хто робіць зло*: Даміанъ: злопитате*л* (Бяр., 265).

**Злополученье** – *бяда, няшчасце*: Печаль... ѕлополꙋче*не* (Бяр., 103).

**Злопомнение** – *злапамятнасць*: злопомнѣніа на ближнихъ своихъ нехай не держитъ (Каліст, I, 31б).

**Злореченство (злоречство)** – *тое, што і* **злореченье**: слышачи ѡные розмаитые злореченства (Карп., 20); мнѣ ѕлорѣчилъ ѕлорѣчствомъ нагоршимъ (Хран., 286б).

**Злореченье (злоречение)** – *гаварэнне нядобрага, асуджэнне*: нечестивии поидѹть ѡ*т* злоречениѧ въ погибел[s] (Скар. ІС, 66б); противу тому третиему слову суть злореченья и проклинаньѧ (Будны, 19б).

**Злоречие** – *тое, што і* **злореченье**: Важденіе: ѕлорѣчіе, ѡглоголанье (Бяр., 12).

**Злосердие** – *бязлітаснасць*: не ѹподобитсѧ емѹ злосердие его (Скар. КІ, 32).

**Злосердство** – *тое, што і* **злосердие**: ѡтогнала еси всѣми злыми дѣлы... злосердъствомъ резоиманье*м*, срамословьемъ (Чэцця, 353б).

**Злославникъ** – *ерэтык*: злославници ѡныи по*р*вавши епископа ст҃го вкинули в рѣку (Пралог, 562б).

**Злосливецъ** – *злаславец*: тѹтъ проситъ оуфолкгова*н*ѧ злосливецъ, жебы насъ зводилъ з[s] дороги збаве*н*ѧ нашего (Каліст, II, 139б).

**Злосмелость** – *дзёрзкасць*: то естъ сѹета и злосмелость духа (Скар. ЕК, 10б).

**Злосникъ (злостникъ)** – *злоснік*: люди злой воли албо злостници были (Валх., 66б); гонили злосники пилне и*х* шукаючи (Кн. Мак., 54).

**Злость** – **1)** *злосць*: за ихъ стараньемъ злость и неправость ѹвесъде ѡбъѳитѹетъ (Унія, 44); **2)** *варожасць*: з злости людское тот замок Крычевский огнем згорел (АВК, XXXIV, 268, 1663).

**Злостьчынность** – *тое, што і* **злочинство**: ѡвечки... тратишъ и губи*ш* и не за зло*ст*чы*н*ност ꙗкую (Зб. 81, 244б).

**Злосчастие** – *няшчасце*: злосчастіе межи ими (Неба, 72б).

**Злотаровая** – *тое, што і* **золотарова**: зачала впередъ сама мовити... злотаровая Ганна Козловна тыми словы (АВК, XX, 162, 1600).

**Злотаръ** – *тое, што і* **золотаръ**: тую цатку серебраную... злотаръ городенский Доменикъ инялъ (АВК, XVII, 62, 1539).

**Злотворецъ** – *той, хто робіць зло*: злотворе*ц* и діаволу дрѹгъ и врагъ хр*с*тѹ (Дыяр., 154).

**Злотковый** – *тое, што і* **золотковый**: дали ему на боты злотковыхъ десять (ИЮМ, XIII, 153, 1689).

**Злотникъ** – **1)** *тое, што і* **золотникъ** *у 1 знач.*: злотник[s] албо сребродѣлца в[s] певнѹю мѣрѹ горнъ розпалѧетъ (Мак., 232); **2)** *тое, што і* **золотникъ** *у 2 знач.*: перстенцовъ два сребреныхъ позлотистыхъ, важили три злотники (АВК, XXII, 153, 1565).

**Злотництво** – *тое, што і* **золотарство**: Тове*л* молото*м* роби*л*, кова*л*ство, слеса*р*ство, зло*т*ництво (Стрыйк., 413).

**Злото** – **1)** *тое, што і* **золото** *ў 1 знач.*: волосы мѣлъ жолты ꙗко злото (Бава, 129); **2)** *тое, што і* **золото** *ў 2 знач.*: злото, книги, аппараты церковные... ѡказати маю*т* (Ст. бр., 12); **3)** *тое, што і* **золото** *ў 3 знач.*: отобрали ве злоце таляровъ пятьсотъ (ИЮМ, XIII, 6, 1699); **4)** *тое, што і* **золото** *ў 4 знач.*: брыжики зо злотомъ и зъ едвабемъ (АВК, XVIII, 65, 1589); **5)** *тое, што і* **золото** *ў 5 знач.*: на ветреники два на кганки злота три чверти (ИЮМ, I, 181, 1681).

**Злотоглавъ (злотогловъ)** – *тое, што і* **златоглавъ**: шата... немецкая оксамиту бурнатного, злотогловемъ брамована (АВК, XXII, 156, 1565); Дружненьна... вбраласѧ у велми коштовное платье у злотоглавъ (Бава, 171).

**Злотый** – *тое, што і* **золотый**: у вацку дей было злотыхъ чирвоныхъ шесть монеты розное (АВК, XVIII, 108, 1592).

**Злоумыслие** – *злосны намер*: таемного злоумыслія тамъ бытностью своею потвердилъ (АЗР, IV, 123, 1595).

**Злоупоминание** – *тое, што і* **злопомнение**: пытають... ѡсоужѣнїѩ клеветы, злоупоминанїѩ (Чэцця, 366б).

**Злохуление** – *знеслаўленне*: Гажденіе: ѕлохѹленіе, ганба (Бяр., 27).

**Злоценье (злоченье)** – *тое, што і* **золоченье**: Пигаревичу за вырезыване погони на ветреникъ и за посребрене и злоцене, за все заплатили (ИЮМ, IV, 186, 1686); на церковъ... для злоченя алтара Семену шафару дали зол. (ИЮМ, X, 68, 1695).

**Злочасница** – *няшчасная*: поимали моего ѡтца и Маркобруна, а ѩ, злочасница, поставила Бова в тот час витезем (Бава, 151–152).

**Злочинецъ (злочынецъ)** – *злачынец*: злочинецъ утекъ (ИЮМ, IX, 308, 1637); послали... до Дубровны, стороны злочынца, который сидитъ у замку (ИЮМ, XXII, 19, 1711).

**Злочинность** – *тое, што і* **злочинство**: Ѕлодѣйство... ѕлочинность (Бяр., 45).

**Злочинство (злочынство)** – *злачынства*: такого жона и дети и челядь от таковых злочинств прожни, а сам злодей маеть висети (Ст. 1529, 102); тые такъ жо мають быти подъ правомъ местъскимъ въ тыхъ речахъ, которые се кървавыхъ справъ и иньшыхъ злочыньствъ дотыкають (КПД, 172, 1551).

**Злочинца (злочынца)** – *тое, што і* **злочинецъ**: злочинца будет на смерть сказан (Ст. 1566 I, 88б); злочынца што бѹдеть заслужылъ самъ каранъ быти мает (Ст. 1588, 436).

**Злувспоминание** – *тое, што і* **злопомнение**: ѡтложѣмъ ѡт себе всѧкѹ злобѹ... пьѩньство злѹвъспоминание (Чэцця, 29).

**Злупенье** – *абрабаванне, разграбленне*: Рѹрич кнѧжа киевский привел... половцов на воеване земль рѹских и злѹпене Киева (Стрыйк., 483б).

**Злупитель** – *грабежнік*: лихвѩре подобные... дом божыѕ злѹпителеви (Зб. 259, 185).

**Злученье (злучение)** – **1)** *злучэнне*: имена давали, злѹчене зѕ славою, ѩко свѣтослав, ѩрослав, преслав, борислав (Стрыйк., 427б); **2)** *аб'яднанне*: в тых жэ привилѩхъ... ѡписано за злученемъ панствъ под ѡным часом (Ст. 1566, 2); **3)** *згуртаванне*: маючи взглядъ на вѣрную пріязнь и злученье отъ давныхъ часовъ (АЗР, I, 118, 1492); **4)** *савакупленне*: з мѹжчизною не злѹчайсѧ злѹченіемъ невѣстим (Хран., 122).

**Злученьеся** – *яднанне*: нас чинѩт способными до злѹченѩсѩ з гдѣ бгмъ и молитвы (Зб. 261, 137б).

**Злюбъ (излюбъ)** – *дамоўленасць, пагадненне*: тот товаръ вѣрнули вамъ на того Гануса и Гармана рукоемство, излюбъ и запис (ПГ, II, 41, 1471); Нехай тот Яким... по сту грошей в кожъдый годъ даетъ вечно, водлугъ злюбу и вмовы своее (Арх. ЮЗР, IV-8, 150, 1514).

**Злякненье (злекненье)** – *спалох, перапуд*: дивѧчесѧ велми тые которые посланы были перед злѧкненем пали на землю (Пак. Хр., 33); злекълисе злекненьемъ велікімъ (Цяп., 50).

**Змаза** – **1)** *бруд, пляма*: лица, сѹкни змазъ терпети не можете (Зб. 259, 530); **2)** *загана*: привели до тебе коровѹ... в которой бы не было змазы жадной (Хран., 139б); **3)** *знявага*: доброе славы змаза поровняется у людей бачныхъ зо стратою здоровья (АСД, VI, 118, 1608).

**Змазанье (змазание)** – **1)** *нячыстасць, грэшнасць*: ихъ мало, которіе бы се таемного дх҃внго змазанїѩ стрегли (Пралог, 665б); **2)** *ачышчэнне*: въ той хоробе своей на змазане готовалсе (АВК, XVII, 435, 1563); **3)** *зневажанне*: ку суженью припала справа... о обелженье и... змазанье на гонорѣ презъ пашквиле (АВК, XV, 268, 1670).

**Змарагдъ (измарагдъ)** – *тое, што і* **смарагдъ**: измарагдъ камен помогает леченіѧ (Арыст., 238); первыи стопен был зъ аматисту, вторыѕ з змарагдѹ (Алекс., 22).

**Змартвыхвстанье** – *тое, што і* **змертвыхвстанье**: тѣло мое... земли поручаю съ певною надзееюю весолою змартвыхвстанья и одержанья живота вѣчного (АВК, XII, 542, 1612).

**Змей (змий)** – **1)** *тое, што і* **змея** *ў 1 знач.*: казал чаровникомъ всим што наѩдовитшых бестей и змеев гадѹ медведеѕ назбирати (Зб. 752, 93); **2)** *дракон*: на василиска боудеш на-

ступал и потопчеш лва и змеѧ (Пс. XVI, 93б); **3)** *д'ябал у вобразе змея-спакусніка*: звитѧжил тог змиꙗ, котори̑ тꙗ зводил на скверны̑ ꙋчинок (Бельск., 361–361б); **4)** *ідал у выглядзе змея*: всѧкие балъваны губили, такъ иже и ѡного ѕмѣѧ мѣдѧного (Будны, 16).

**Змена – 1)** *змена, перамена*: подлꙋгъ часовъ розных ѡбычаи и учинкы чл҃вчи и змены (Вісл., 9б); **2)** *замена*: записалъ въ томъ же имѣнью Смолевицкомъ грунту волокъ три змѣны (АСД, I, 8, 1508); **3)** *тое, што і* **взменка**: учынил змѣну о Аэцыусе (Атыла, 185).

**Зменка** *гл.* **взменка**.

**Зменникъ** – *тое, што і* **изменникъ**: они яко змѣнники и супостаты присяги господаря короля (АЗР, IV, 146, 1596).

**Зменництво** – *здрада*: того не ткноул, ꙗко сѧ емоу его змѣнництво заплатило (Апакр., 154).

**Зменшенье (зменьшенье)** – *памяншэнне*: зменшенье и розобранье кгрунтовъ отъ розныхъ особъ звыкло се дѣяти (АЗР, IV, 16, 1589); зменьшенье пристойное постановивши, уставу мытъ новоподвышоныхъ... имъ дали (там жа, 249, 1605).

**Змеренье** – *прыцэльванне*: миловали порываючихъ то ѡд нихъ, ꙗко помогаючих̑ имъ до змѣренѧ в цѣль (Мак., 313).

**Змерканье (смерканье)** – *змярканне*: ѡни таки ꙋ церкви... были аж до смерканьꙗ (КВЗС, 41б, 1540); на змерканьи ꙋ дворе его... гꙋмно зо всимъ збожъемъ... згорело (КВС, 595б, 1552).

**Змеркненье** – *наступленне змроку*: Сꙋмракъ: Смерканье, змеркнене (Бяр., 160).

**Змертвенье** – *змярцвенне*: Гаггрена: Канцеръ... части которои тѣла змертвѣне (Бяр., 261).

**Змертвыхвстанье** – *уваскрашэнне*: воскрсніе на ѡномъ мѣсцꙋ не згола значитъ змертвыхвстане але рачеи взбꙋжен̑е (Выкл., 103б).

**Зметанье** – *знясенне, разбурэнне*: которыи они за непоступенемъ тых пляцов и за зметанемъ домовъ ихъ отъ них приняли (СДГВ, 24, 1564).

**Змешанье** – *змяшанне*: ꙗкъ змешане людꙋ великого слышано было (Зб. 752, 451).

**Змешканье** – *пражыванне*: имъ за то въ цыншохъ ѳолкга маеть быти вделана водле змешъканья ихъ на той посълузе нашой (КПД, 580, 1557).

**Змея (змия) – 1)** *змяя*: видел Бово у турми ѡдну змею (Бава, 14б); **2)** *тое, што і* **змей** *у 4 знач.*: Мо̑сей ꙋлил змию (Зб. 261, 207).

**Змий** *гл.* **змей**.

**Змилованье** – *злітаванне*: щодробливыми и до змилованѧ склонными были (Варл., 90б).

**Змилованьеся** – *тое, што і* **змилованье**: Състраданіе... Змилованьесѧ (Бяр., 166).

**Змирна** *гл.* **смирна**.

**Змнейшенье (змнейшение)** – *тое, што і* **зменшенье**: ку великой сказѣ... и змнѣйшенію доходовъ и пожитковъ нашихъ мѣскихъ чинятъ (СДГВ, 152, 1605); што се дотычет зъмне̑шенѧ прыходовъ збожꙗ до скарбу (ККСС, 59, 1615).

**Змова – 1)** *дамоўленасць*: мѣлъ змову с пани Ивановою... о мѣстце ее в мѣстѣ Виленскомъ (АВК, XX, 1, 1529); **2)** *змова*: ꙋчинили змовꙋ з присꙗгою моцною против дв҃дови (Бельск., 107б); **3)** *перагаворы*: по долгихъ змовахъ обеюхъ сторонъ... вызналисмо (ИЮМ, VIII, 215, 1593); **4)** *пагадненне*: пословъ... посылали до тебе, брата нашого о доброй змовѣ (АСД, IV, 4, 1562).

**Змовины** – *заручыны, змовіны*: тую суму пенезей вжо по змовинахъ цорки пана Давыдовы... выправилъ (АСД, I, 371, 1646).

**Змовленье (змовенье) – 1)** *дамаўленне*: учинилъ змовьленье зъ мѣщаны львовскими (АЗР, IV, 74, 1594); **2)** *тое, што і* **змовины**: коли сꙗ тое змовене стало панна... захорела (Зб. 752, 68б).

**Змовца** – *пасрэднік*: ꙗм змовцею и сродкем былъ (Выкл., 57б).

**Змога** – *сіла, магчымасць*: ведлꙋгˢ змоги своеи Бгꙋ҃ и божим оугажал (Мак., 8).

**Зможненьеся** – *узмацненне*: было тое честное древо стое гдне во иерꙋсалимѣ... ажъ до зможненѧсѧ махометског (Зб. 82, 26).

**Зможность** – *тое, што і* **змога**: просил ести рыб и таковых потрав, которых зможность убозства моего знести не могла (ИЮМ, XXXII, 74, 1578).

**Змолва** – *тое, што і* **змова** *ў 4 знач.*: намъ съ тобою братомъ нашимъ миръ а добрая змолва ся стала (АЗР, II, 131, 1520).

**Змолоченье** – *змалочванне*: за змолочене трохъ осетей збожа дали Бердею отъ осети по осм. сорокъ (ИЮМ, XI, 115, 1697).

**Змордованье** – *змардаванне*: просил о возного на оглядане збитя и зъмордованя тых подданых (АВК, XXXI, 55, 1590).

**Зморенье** – *зморанасць*: не всѣ могли вытрват длꙗ зморенꙗ великог (Бельск., 232).

**Зморщенье** – *зморшчванне*: Кааѳъ: Згромажене, або зморщенˢе (Бяр., 283).

**Зморщка** – *маршчына*: Враска: Зморщка, скꙋра на старомˢ тѣлѣ скорченаа (Бяр., 16).

**Змоцненье** – **1)** *пацвярджэнне*: на твердость и змоцненье тыхъ всихъ рѣчей дали есьмо имъ сесь нашъ листъ (АЗР, IV, 39, 1591); **2)** *падмацаванне*: мнѡгіе и иншіе чꙋда на змоцнене вѣры ѡказовалисѧ (Варл., 319б).

**Змрокъ** – **1)** *змрок*: гумно панское почало гореть у вечоръ на змроку (АВК, XVIII, 363, 1647); **2)** *перан. пагасанне (пра вочы)*: не въстꙋпꙋйте крокꙋ до остатнего тхꙋ дꙋха, очій вашихъ змрокꙋ (Лям., 25).

**Змурованье** – *змураванне*: сребро... ими оборочоно на змуроване церкви буйницкой быти маетъ (ИЮМ, X, 425, 1686).

**Змученье** – *змучванне, катаванне*: за змученье тыхъ подданыхъ... самого его лапанье (АВК, XV, 59, 1653).

**Змушокъ** *гл.* **смушокъ**.

**Змывание (измывание)** – **1)** *змыванне*: не вѣмъ. яко то называти, чы крещеніе новое, чыли змываніе первого (Гарм., 198); **2)** *купанне*: зꙋбы твои ꙗко же стада ѡднолѣтных што възышли ѡт измываніа (Зб. 262, 84).

**Змыслъ** – **1)** *свядомасць, ясны розум*: умыслиломъ то самъ по доброй воли моей, будучы пры зуполномъ змысле (ИЮМ, XXI, 462, 1626); **2)** *сэнс*: Павел стыи оупоминает, абы длѧ ѡблꙋдного змыслꙋ до дрꙋгои главы кром ха҃ пана не пристꙋпати (Каз. Кір., 44б).

**Змышленье** – *выдумка*: то суть дворства и змышленья на мене невинного человѣка (АЗР, IV, 161, 1597).

**Змышлянье** – *выдумванне*: Притвореніе: Змышлѧнье (Бяр., 128).

**Змышлячъ** – *прытворшчык, выдумшчык*: што коли ꙋчинилъ, дша ѡного змышлꙗча з него вышла и правдиве ꙋмерлъ (Пралог, 535б).

**Змякченье** – *змякчэнне*: кусиласꙗ ѡ змꙗкчене серца его (Пралог, 529).

**Знаемость (знаймость)** – **1)** *знаёмства*: татарове... з небощыкомъ жадное знаемости не мели (АВК, XXXI, 329, 1644); **2)** *веданне*: все што ся дѣетъ... отъ чоловѣчоѣ памяти споломъ сплываетъ съ часом, ани къ знаймости напотомъ прійти можетъ (АЗР, II, 86, 1511).

**Знайденье (знайдение)** – *адшуканне*: ѡ знаиденіи стго крижа (Валх., 74б); црства нбсного шꙋкаймо, за которого знайденемъ и дочасныи дѡбра знайдемо (Каліст, II, 272).

**Знайдованьесе** – *знаходжанне*: знайдованясе тыхъ звышъмененыхъ пляцовъ... подъ юрыздыкою замъковою (АВК, XX, 376, 1664).

**Знайменованье** *гл.* **знаменованье**.

**Знакъ** – **1)** *умоўнае абазначэнне чаго-н. (метка, кляймо, малюнак)*: въ якихъ колодезяхъ были и знаки граничные положены (АЗР, III, 146, 1568); **2)** *шрам, след ад чаго-н.*: виделъ есми в того сына Карпа... на правой руце знакъ одраный кривавый (АВК, XXI, 61, 1555);

**3)** *сведчанне, прыкмета*: нестатечного то розꙋмꙋ знак (Варл., 14); **4)** *дзеянне, якім паведамляюць што-н.*: дал емꙋ знак през стрелꙗне (Бельск., 97б).

**Зналезенье** – *знаходжанне*: на свято римъское зналезене Божего Ціала жердя купили до убираня олтаря (ИЮМ, III, 90, 1685).

**Знаме** *гл.* **знамя**.

**Знаменанье (знаменание)** – **1)** *значэнне, сэнс*: сонъ мой и знаменание его споведите мне (Скар. ДП, 7); **2)** *благаслаўленне*: дотыканемъ рꙋк его, и благословениемъ и знаменанемъ его волними зоставали (Пралог, 593б).

**Знамение** – **1)** *тое, што і* **знакъ** *у 1 знач.*: мает знаменіе оучинит на дѣреве гдѣ тот оузѧлъ закладъ (Вісл., 37); **2)** *тое, што і* **знакъ** *у 3 знач.*: дугу мою поставлю на облацехˢ небесныхˢ, и будеть во знамение миру межи мною и землею (Скар. КБ, 20б); **3)** *тое, што і* **знамя** *ў 4 знач.*: тое будете имети за знамение, ежебы во имѧ гсдьне проркъ той пророковалˢ (Скар. ДЗ, 37б); **4)** *тое, што і* **знамя** *ў 5 знач.*: передъ полуднем... знамение прышло темность великаѧ праве ꙗкобы сѧ мѣло змеркати (Рач., 352); **5)** *тое, што і* **знамя** *ў 6 знач.*: даст им знаменіе... на чола их (Каз. Кір., 159). ◊ **Крестное знамение** – *асвячэнне знакам святога крыжа.*

**Знаменикъ** – *пячатка*: Знаменіе: знакъ, пѧтно, знамѧ, цѣха, або знаменик, що нимˢ просфѡры знаменꙋют, або печат (Бяр., 52).

**Знаменитость** – *славутасць, выдатнасць, вядомасць*: знаменитость вчинковъ великого князя Витовта (АЗР, II, 175, 1626).

**Знаменованье (знайменованье, знаменование)** – **1)** *тое, што і* **знаменанье** *ў 1 знач.*: ѡныи черес выповеданье и знаменованье... своихъ даров... выгнали (Валх., 94б); поведь сонъ рабомъ твоимъ и скажемъ тобе знаменование его (Скар. ДП, 7); **2)** *тое, што і* **знаменанье** *ў 2 знач.*: крыжъ сребреный... мѣлъ зъ собою для знайменованья людей (АСД, I, 312, 1640).

**Знаменосецъ** – *сцяганосец*: Знаменіе... или хороговˢ ѡтнюдꙋ же знаменосецˢ, пропорчник, хорꙋжій (Бяр., 52).

**Знамя (знаме)** – **1)** *тое, што і* **знакъ** *у 1 знач.*: на ратуши мають мѣти бочку мѣрную и мѣдницу съ знаменемъ мѣстскимъ (АЗР, I, 181, 1498); **2)** *тое, што і* **знакъ** *у 2 знач.*: бꙋдѣт лі таꙗ дѣвка... несправне жаловала и знаме на еи не бѫдет тогды тот на ког ѡна жаловала имѣет сѧ очістіть (Вісл., 36б); **3)** *тое, што і* **знакъ** *у 3 знач.*: которые люди наши будуть впали въ полонъ... тыхъ бы еси велѣлъ отпустить, то будеть знамя пріязни твоеѣ съ нами (АЗР, I, 125, 1493); **4)** *прадвесце*: знамꙗ сꙋдного днꙗ бꙋде: землꙗ запалит всюде (Бельск., 193); **5)** *незвычайная з'ява*: было знамѧ великое ꙗкобы ꙋв обедъ веремѧ звѣзды сѧ ꙗвили (Рач., 331); **6)** *благаславенне*: стѧгноувши хсъ роукоу свою оучинил знаме на ѡдама (Пак. Хр., 30); **7)** *сцяг*: видѣла знамена звитежства и хорꙋгви росточоны алеѯандровы (Алекс., 74).

**Знанье** – *веданне*: добраѧ речь естъ себе самого знане и покора (Каліст, I, 3б).

**Знатникъ** – **1)** *сваяк*: наамиꙗ знатник мꙋжꙋ ее ѡт родꙋ (Біблія, 31б); **2)** *знак задыяка*: знатники будуть добрыи на него (АЗР, I, 82, 1468).

**Знахоженье (знахожение)** – *знаходжанне*: естъ знахожение речей къ шкоде (Скар. IC, 32); ѡбрѣтеніе: Знахожене, наидене (Бяр., 193).

**Знахоръ** – *знахар*: byli u iakohos znachora, a poprostu czarownika (ИЮМ, VI, 320, 1687).

**Значенье** – *значэнне*: ѡдно значене снꙋ замыкают (Біблія, 92).

**Значокъ** – *памянш. ад* **знакъ** *у 1 знач.*: той же хоронкгви, зъ другимъ значъкомъ, пану ротмистрови... купили менса (ИЮМ, IX, 24, 1692).

**Знevага** – *знявага*: зневагу отъ него терпелъ (АВК, XX, 268, 1621).

**Зневажачъ** – *зневажальнік*: зневажачъ листу нашого горломъ караный будетъ (АЗР, V, 85, 1648).

**Зневаженье** – *зневажэнне*: схадзки чинять ку великому жалю и зневаженью его милости (АСД, VI, 73, 1616).

**Зневажитель (зневажытель)** – *тое, што і* **зневажачъ**: зневажителевь зверхности нашое... ховаете (АСД, II, 17, 1601); съ которыми дей якъ... явными потварцами и зневажытельми декретовъ... чынити хочеть (АЮЗР, II, 63, 1610).

**Зневажца** – *тое, што і* **зневажачъ**: задержанъ бываетъ ꙗко закамѣнѣлый сꙋдωвъ Бж҃ихъ зневажца (Каліст, I, 127б).

**Зневоленство** – *прыгнёт*: будучи имъ у великомъ обтяженью и зневоленствѣ... пришли суть елмужны спрашивати (АЮЗР, I, 130, 1551).

**Зневоленье (зневоление)** – *зняволенне*: было у Кіевѣ Божое зневоленіе (АЗР, I, 130, 1493); митрополитъ... не маетъ имъ ниякого зневоленья чинити (АЗР, II, 385, 1542).

**Знедзенье** – *збядненне*: которіе дымники у шику были а по шику для недостатку и знедзенья розъехалися (КПД, 465, 1568).

**Зненавиженье** – *праяўленне нянавісці*: оголене бороды, грѣхωвъ есть ωткинене, оголене повѣкъ, пыхы зненавижене (Каліст, II, 176б).

**Знесенье** – **1)** *перанос*: по знесеню того пива пивоваромъ и послугачомъ дали на горелку (ИЮМ, IX, 14, 1692); **2)** *знясенне, разбурэнне*: ку знесенью домовъ ихъ с пляцов мещанскихъ... рокъ зложилъ (СДГВ, 26, 1564); **3)** *адмена*: пленипотентъ... тыхъ декретовъ знесенья и скасованья у насъ суду просилъ (АВК, XV, 393, 1678).

**Знесеньеся** – *сустрэча*: нѣлзе было... того знесенѧсѧ з ними аж до днѧ шестого (Апакр., 11б).

**Зниженье** – **1)** *паніжэнне*: Сънизхожденіе: В кꙋпꙋ зстꙋпованˢе, спꙋщене, зниженье (Бяр., 164); **2)** *прыніжэнне*: къ таковому зниженью становъ своихъ мели приходити (КПД, 39, 1538); **3)** *зніжэнне*: замкнꙋтсѧ двери на оулици въ знижени голоса (Зб. 262, 92).

**Зниканье** – *зніканне*: в зниканью розмωвъ з нами... его приватное до обчей звѣрхности мимо вѣдомость нашꙋ привѧзанье (Апакр., 13).

**Зникненье** – *знікненне*: хто не могъ такихъ ωбвиненых кꙋ правꙋ ставити за зникненемъ ихъ (Ст. 1588, 30).

**Знимокъ (узнимокъ)** – *агляданне*: панъ староста обецалъ былъ на тотъ узнимокъ до мене быть и того доизрети (АВК, XVIII, 289, 1627); на тотъ знимокъ и на дойзренье справедливости зъехати не хотѣлъ (там жа).

**Знитованье** – *заклёпванне*: на Игната кравца... за знитоване железъ на ноги дали ковалю осм. осемъ (ИЮМ, XI, 92, 1697).

**Знищенье** – **1)** *збядненне*: до убозства и знищенья пришли (АВК, VIII, 501, 1615); **2)** *знішчэнне*: люди от огню, знищеня неприятельскаго... розышлисе (АВК, XXXVI, 64, 1582).

**Зной** – *спякота*: стоꙗлъ... горѧ ωт солнца зноем (Чэцця, 5).

**Зносъ** – *тое, што і* **зношенье** *ў 3 знач.*: панъ Матей Ейсимонтъ ку зносу позву съ того именя Корчыка становилъ (АВК, I, 267, 1615).

**Зношенье** – **1)** *зношванне*: за зношене того пива зъ бровару до Путятинской каменицы дали золотыхъ пять (ИЮМ, III, 20, 1685); **2)** *выцерпліванне*: зношеньемъ старых крывдъ нωвые побꙋжаемо (Апакр., 214); **3)** *скасаванне*: ω збиванью позвовъ и зношенью позвовъ з ыменьѧ (Ст. 1588, 150); **4)** *сувязь, спалучэнне*: иншей пробы певнѣйшей не вѣдаемо, одно зношенье з собою ст҃ого писма (Апакр., 100).

**Зныделость** – *маркотнасць, тужлівасць*: оуныніе – оунылость, зныдѣлость (Зіз., 52).

**Знятье** – *тое, што і* **снятье** *ў 1 знач.*: ку тому вольные паши по знятю збожъ вездѣ на стернискахъ (АВК, VI, 198, 1599).

**Зобранье** *гл.* **зебранье**.

**Зовнеръ** *гл.* **жолнеръ**.

**Зогреванье (загреванье, зегреванье)** – *тое, што і* **согреванье**: ѡдѣнˢе и зогрѣванˢе всѣхˢ члонковъ своихъ бȣдȣ*т* мѣти (Мак., 296); сторожомъ крамнымъ для зегреваня подъчасъ великихъ морозовъ купили дровъ (ИЮМ, IX, 23, 1692); купили дровъ сторожомъ крамнымъ для загреваня, бо морозы были (там жа, 109, 1692).

**Зозванье** – *тое, што і* **созванье**: ѡ*т* зозванѧ в кȣпȣ... мае*т* име*н* многѡ (Бяр., 201).

**Зозволенье** *гл.* **зезволенье**.

**Зознанье** *гл.* **зезнанье**.

**Зойстье** *гл.* **зейстье**.

**Золвица** – *залоўка*: жаловала намъ боꙗрыня... на золвицȣ на свою (КСД, 34, 1510).

**Золнеръ** *гл.* **жолнеръ**.

**Золотарка** – *тое, што і* **золотарова**: жаловала его милости золотаръка зъ места Виленского (КСД, 1170, 1516).

**Золотарова** – *жонка ювеліра*: Авдотя Косцина золотарова... мела быт карана за свой учинекъ и выступъ в малженстве (АВК, XXIX, 88, 1578).

**Золотарство** – *ювелірнае рамяство*: они мають намъ... съ того службу земскую служыти и часу потребы золотарствомъ и пушкарствомъ (РПП, 226, 1526).

**Золотарчицъ** – *сын ювеліра*: золотар... на ꙗкуба Захаринича золотарчица о речи свои в небытность в дому его згинулые... жаловал (ИЮМ, XXX, 152, 1577).

**Золотаръ (золоторъ)** – *ювелір*: билъ намъ чоломъ золотарь нашъ (РПП, 258, 1525); золотори которые золото срэбро ѳалшують... мають быти ѡгнемъ караны (Ст. 1566, 12).

**Золотковый** – *залатая манета*: жолнеремъ вендровнымъ ялмужны дали золотковый одинъ (ИЮМ, I, 33, 1679).

**Золотникъ** – **1)** *ювелір*: Златаръ: золотни*к*, золота*р* (Бяр., 51); **2)** *мера масы, роўная вазе залатой манеты*: семъ золотниковъ серебра в ложце (КВС, 460, 1552); **3)** *мера аб'ёму пражы*: десꙗть золотъниковъ шолъкȣ (КВЗС, 146б, 1540).

**Золото** – **1)** *золата*: ȣчинишъ тежъ блꙗхȣ з золота начистъшого (Біблія, 145); **2)** *вырабы з золата*: дарую ему... серебро, золото (РПП, 68, 1545); **3)** *залатыя манеты*: въ золотѣ дано 3 золотыхъ (АЗР, II, 381, 1542); **4)** *залатыя ніткі*: хустокъ сорокъ золотомъ едвабемъ и бѣлію вышиваныхъ (АВК, VIII, 485, 1599); **5)** *пазалота*: Псалтыра, золотомъ писана (КСД, 872, 1526).

**Золотоглавъ** – *тое, што і* **златоглавъ**: золотоглавы, оксамиты и иншіе дорогіе рѣчи до казны своее росказалъ брать (АЗР, III, 165, 1573).

**Золотошвея** – *вышывальшчыца золатам*: з двема дочками Оленою а Полонеею, золотошвеею, которая жонка... в неволю взята была (АВК, XXII, 272, 1565).

**Золотый** – *залатая манета; чырвонец*: маеть имъ заплатити 30 золотыхъ (КСД, 19, 1510). ◊ **Золотый польский, португальский, угорский** і інш. – *назвы залатых манет па месцы чаканкі*.

**Золоченье** – *пакрыццё золатам*: за золочене и рисоване ветрника до брамы Ветрной Афанасу Пигаревичу заплатили (ИЮМ, Ш, 268, 1682).

**Золчь** *гл.* **жолчь**.

**Зомститель** – *мсцівец*: хто бы словъ егѡ которыи бȣде*т* мовилъ во имѧ мое слȣхать не хотелъ, ꙗ зомстителе*м* бȣдȣ (Хран., 154).

**Зопсованье (запсованье, зепсованье)** – **1)** *сапсаванне*: роскопанье границъ и зопсованье стенъ... оповедалъ (АВК, XXII, 161, 1565); хороба... зˢ запсова*н*ѧ которогоколвекъ вˢ насъ зˢ чотырохъ... елементѡвъ ставаетˢсѧ (Каліст, I, 75); **2)** *апаганенне*: по зепсованю натȣры нашеˢ грѣхо*м* великаꙗ е*ст* в на*с* склонность до ѕлого (Выкл., 9).

**Зопхненье** – *скіданне, спіханне*: бг҃ъ на ѡно*г* ѡкрȣтника и чȣжеложника цесара готова*л* помстȣ, и да*л* на зопхне*н*е его (Бельск., 358).

**Зора** *гл.* **заря**.

**Зоранье** – *заворванне*: оказывалъ мнѣ его милость панъ Миколай Сопега зоранье межи поля его милости дворного (АВК, XXII, 286, 1565).

**Зорваньесе (зерваньесе)** – *парушэнне*: умоцованый... на зорваньесе зъ термину теперешнего... афектовалъ (АВК, XV, 54, 1653); обмова... на зерваньесе съ теперешнего термину... принята быть не можетъ (там жа, 118, 1664).

**Зореница (зорница, зоряница)** – *зараніца*: ѡко его правое какъ зорница (Чэцця, 373); взойдеши ꙗко зорѣница (Скар. КІ, 16б); вже ѹсходить зорѧница (Скар. КБ, 60б).

**Зорухна** – *зорачка*: коли варива просили тые слова мовили, сподаринѧ перепелочко зорѹхно... даˢ ложечку дитꙗткѹ варивца (Барк., 165б).

**Зоря** *гл.* **заря**.

**Зосланье** *гл.* **засланье**.

**Зостава** *гл.* **застава**.

**Зоставникъ** *гл.* **заставникъ**.

**Зостановенье** *гл.* **застановленье**.

**Зостреченье** – *тое, што і* **встретенье**: стрѣтение – зострѣченье (Зіз., 62).

**Зостье** *гл.* **зейстье**.

**Зофиста** – *тое, што і* **софиста**: ѡдин зофиста реклъ: сромота великаꙗ, абы цесара римскаг дѣти теперъ с пелюшокъ вывезаные звитꙗжит мѣли (Зб. 81, 32).

**Зошлость** – *сканчэнне*: ѡнъ про великую старость и зошлость вѣку своего... на тотъ соборъ ѣхати... не можеть (АСД, IX, 56, 1556).

**Зписанье** *гл.* **списанье**.

**Зплетение** *гл.* **сплетение**.

**Зповиноваценье** *гл.* **сповиноваченье**.

**Зпоенье** *гл.* **споенье**.

**Зполечность** *гл.* **сполечность**.

**Зпоряженье** *гл.* **спораженье**.

**Зприсяженье** *гл.* **сприсяженье**.

**Зпустошенье** *гл.* **спустошенье**.

**Зрабованье** – *аграбленне, абрабаванне*: о зрабоване того двора на шест тысечей золотыхъ полскихъ (АВК, XXXIV, 247, 1662).

**Зрада** *гл.* **здрада**.

**Зраджанье (зражанье)** – *здраджванне*: навѣтованіе – зраджане (Зіз., 112); Навѣтованіе: Зражанье, ѡшѹкиванье (Бяр., 85).

**Зрадзенье** – *тое, што і* **зряженье** *ў 2 знач.*: которая справедливость, далибогъ, маетъ трвати на свете до скончанья веку зрадзеньемъ Духа светого, никгды неотменна (АВК, XXII, 148, 1565).

**Зраженье**[1] *гл.* **здраженье**.

**Зраженье**[2] *гл.* **зряженье**.

**Зрайца** *гл.* **здрадца**.

**Зракъ** – **1)** *тое, што і* **взрокъ** *у 1 знач.*: зрак ѡчию его ꙗко зракъ затѹжлива (Арыст., 201); **2)** *выгляд, аблічча*: Хс҃ сынъ божіи принѧлъ зракъ человѣчи (Будны, 12).

**Зраненье** – *раненне*: позывалъ кѹ правѹ... ѡ збитье и зраненье его самого и подданыхъ его (КВС, 473, 1552).

**Зрахованье** – *злічэнне*: вѣкъ... кѹ зрахованю ꙗкъ много лѣтъ трвал (Выкл., 30).

**Зревидованье** – *выкананне рэвізіі*: я тутъ пріехалъ... для зревидованья маетностей тутейшихъ (АВК, XXVIII, 249, 1646).

**Зрезь** – *мясныя абрэзкі*: татаре... ѹ месте виленьскимъ живѹть и зрезю и мꙗсомъ шинъкують (КВС, 506б, 1552).

**Зрелость** – *спеласць*: три летоaccess рости росли помалу ꙋ пупышкы и потомъ ѡтцвивши грозновие ко зрелости принесли (Скар. КБ, 73).

**Зрение (зренье)** – **1)** *тое, што і* **взрокъ** *у 1 знач.*: ѡни плотное зрѣніе имѣли (Чэцця, 173); **2)** *успрыманне зрокам, бачанне*: да бѫдеть на помочь мысли и дѣлѫ и игра и зреньем на красных и чтением во книгах (Арыст., 234); **3)** *тое, што і* **взрокъ** *у 3 знач.*: Мысль... зрѣніе, розмышлѧне набожное, речˢ або млтва розꙋмова (Бяр., 83).

**Зреница** – *зрэнка*: да не преставаеть зреница ока твоего (Скар. ПЕ, 7).

**Зреченье** – *адрачэнне*: его по томъ зреченью шукано (АВК, XVIII, 259, 1622).

**Зреченьеся** – *тое, што і* **зреченье**: подземный темничный мрокъ... надꙋтомꙋ срдцꙋ досыть былъ на зреченесѧ православіѧ (Сматр., 33).

**Зритель** – *глядач; сведка, відавочнік*: положи зреніе оу зрителе а златѫ оу златорѧ и оу зрителѧ истиннаго (Арыст., 203).

**Зробленье (зробенье)** – **1)** *выкананне*: Състроеніе: зготоване, зроблѣнье (Бяр., 167); **2)** *стомленасць*: ѡн длѧ великог зробенꙗ выехал з валки на поле (Троя, 27).

**Зровнанье** – *выроўніванне*: было то... праве на тот час коли зровнанˢе днꙗ и ночи ѡсен припадало (Выкл., 47).

**Зродитель** – *бацька; продак; заснавальнік*: тот подобно былъ ѡбрымомъ и зродителем Gigantow, албо ѡбрымов (Выкл., 67).

**Зродло** *гл.* **жродло**.

**Зродокъ** – *параджэнне*: ꙋжи зродкове зьмиевые ꙗко ꙋбежите ѡт суда (Цяп., 33).

**Зродство** – *роднасць, сваяцтва*: король... маеть кровность и зродства яко со всѣми найпреднѣйшими сего свѣта монархами (АЗР, IV, 473, 1615).

**Зроженье** – **1)** *нараджэнне*: то зрожене незбожное смродливое и смерть завше приносꙗчое (Зб. 259, 528б); **2)** *плён, ураджай*: Гобзованіе, обиліе, зроженье, обфитость (Бяр., 29).

**Зрозумеванье** – *усведамленне*: вниманіе – розꙋмѣванье (Зіз., 24).

**Зрозуменье (зрозумение)** – **1)** *зразуменне*: Пѣсни Песнем Саломона царѧ суть трудны ко зрозумению (Скар. КБ, 8); **2)** *здольнасць разумець*: даˢ ми зрозꙋмѣнˢе а бꙋдꙋ сꙗ бадал законꙋ твоего (Выкл., 146).

**Зрокъ** *гл.* **взрокъ**.

**Зростъ** *гл.* **взростъ**.

**Зрубанье** – *пасячэнне*: сенько о зърубанье сохи до свѣтковъ шапку ставилъ (АВК, XVII, 123, 1540).

**Зрубъ (изрубъ)** – *зруб*: на другомъ раде отъ того домку зрубъ новый (АВК, XIV, 228, 1581); при томъ же изрубѣ лежитъ брусовъ деветь (АВК, VIII, 417, 1586).

**Зруйнованье** – **1)** *зруйнаванне*: фольварку огнемъ спаленьемъ и зруинованьемъ учиненье (АВК, XV, 409, 1680); **2)** *знішчэнне*: ку повторному актыкованю взглядомъ зруйнованя книгъ земъскихъ ошъменъскихъ покладалъ выписъ с книгъ (АВК, XXIV, 229, 1560).

**Зрушенье** – *парушэнне*: за кожды таковы выступокъ неущене слова и зрушенемъ которогоколвекъ обовязку... подвезуемъсе вины ему заплатити (АВК, XXXII, 226, 1596).

**Зрушитель** – *парушальнік*: на зрушителевъ покою и кгвалтовниковъ... стреляти почалъ (АВК, VIII, 125, 1637).

**Зрыванье** – *зрыванне*: мы врадъ... не допущаючи зрываня зъ року, тую справу за одно злучивши, сторонамъ обудвомъ... въ право поступовать... наказуемъ (АВК, I, 283, 1617).

**Зрядца** *гл.* **здрадца**.

**Зряженье (зраженье, зрядженье, зряжение)** – **1)** *устанаўленне*: послове не для иншоѣ рѣчи пріѣхали, нижъ къ зраженью покоя (АЗР, I, 345, 1504); **2)** *воля, прадвызначэнне*: гднимъ зрꙗжением розорвана есть рада ахитофелева (Біблія, 387); божское зрꙗжене нас

доброволне выбавило (Алекс., 32б); Слѹчай нѹждный: зрѧджѣне Бж҃ее, ѡт Бг҃а обецанаѧ потреба, долѧ (Бяр., 150).

**Зсекъ** *гл.* **ссекъ**.

**Зсоромоченье** – *знеслаўленне*: за зсоромоченьемъ албо примовкою воˢта (КСД, 831, 1514).

**Зспоряженье** *гл.* **споряженье**.

**Зсромоценье (зесромоценье, зесромоченье)** – *тое, што і* **зсоромоченье**: зъ дому моего безъ жадного бою и зесромоченя одышолъ (АВК, XXVIII, 191, 1644); прокуратора словы неучтивыми зельженье, зесромоценье (АВК, XV, 416, 1680); ксендза... словы неучтивыми зельженье и зсромоценье (там жа, 417).

**Зступенье (зступение)** – *спусканне*: указано... зступенье зъ права своего и ввезанье въ тые добра (Арх. ЮЗР, V-8, 344, 1606); ѡ зступению господним до пекловъ (Зб. 255, 309б).

**Зступованье** – *сыходжанне*: Сънизхожденіе: В кѹпѹ зступованˢе (Бяр., 164).

**Зсцегно** *гл.* **стегно**.

**Зсылка** *гл.* **ссылка**.

**Зсыпанье** – *ссыпанне*: шпихлер длꙗ зсыпанꙗ збожа и стайню збѹдовали (Стрыйк., 566б).

**Зсыпованье** *гл.* **ссыпованье**.

**Зтекъ** – *вялікая колькасць вады, сцёк*: Соимъ водный: Зтѣкъ, водˢ згромаженье, ставъ, баюркˢ, озеро (Бяр., 153).

**Зточенье** *гл.* **сточенье**.

**Зтрученье** *гл.* **струченье**.

**Зтягненье** *гл.* **стягненье**.

**Зубоженье** – *збядненне*: они до знищенья и зубоженья не приходили (АВК, II, 156, 1597).

**Зубрина** – *мяса зубра*: мамъ тую звѣрину зимою некоторымъ паномъ здѣ казать везти а звлаща зубрину (АСД, VII, 26, 1543).

**Зубръ** – *зубр*: заехали ѹ ловы и ѹбили зѹбров еленеˢ... велми мног (Стрыйк., 541б).

**Зубъ** – **1)** *зуб*: зубы ми два выбили (КСД, 299, 1516); **2)** *востры выступ на прыладзе*: маючи вилки ѡ трех зубах в рѹцѣ своей и впущаючи ихъ в котелъ, все што вилками поднеслъ бралъ собѣ (Біблія, 302); **3)** *востры выступ на паверхні чаго-н.*: пришол на вал где было камѣне завѣсистое ꙗк зѹбы в скалѣ (Бельск., 95). ◊ **Зубъ за зубъ** – *адплачваць за зло той жа меркай*; **мети языкъ за зубами** – *не гаварыць лішняга.*

**Зугранникъ** *гл.* **сугранникъ**.

**Зуменье** *гл.* **сумненье**.

**Зупа** *гл.* **жупа**.

**Зуполность (зупелность, зупэлность)** – *паўната*: ѡн важил въ зупэлности вꙗры свэˢ же се вэдлꙗ практыки тэˢ не мꙗло стать (Еўл., 37); Цѣлость: зѹполность (Бяр., 202); зѹпелъност ласки божеи не настѹпитъ (Зб. 259, 641).

**Зуставенье** – *устанаўленне (закона)*: маестатъ не такъ звитества валькъ естъ яко зуставенья справедливыхъ уставъ (СДГВ, 17, 1562).

**Зуставъ** *гл.* **суставъ**.

**Зухвалецъ (зуфалецъ)** – *дзёрзкі чалавек*: ѡдин зѹфалец... его з мосту зопхнул (Зб. 82, 49б); ѹчѹл рѹкѹ бж҃ыю зѹхвалец ѡныˢ, бо зараз ѡчы емѹ пропукли (там жа).

**Зухвалость (зуфалость)** – *тое, што і* **зухвальство**: показуючы зуфалость... кийми збили и змордовали (АВК, XXVIII, 77, 1605); если не захочете и вˢ зѹхвалость пойдете, ѡт меча выгинете (Каліст, II, 346).

**Зухвальство (зуфальство)** – *дзёрзкасць*: за вину того зуфальства... на дно у вежу сказани были (АВК, XXXI, 258, 1595); видечи таковаго пана Бальцеровича людъ посполитый зухвальство, теды бунтъ у тей же церкви чинили (АВК, II, 63, 1632).

**Зухвальца (зуфальца)** – *тое, што і* **зухвалецъ**: тотъ монъштꙋкъ, або ꙋдило, на погамованъе кождого зꙋфальцꙋ есть вына^s^дено (Ст. 1588, прадм.); жолнери... ѡные зꙋхвалцы розогнали (Бельск., 289б).

**Зфалшованье** *гл.* **сфалшованье**.

**Зхажка** *гл.* **схадзка**.

**Зхизма** *гл.* **схизма**.

**Зхованье** *гл.* **схованье**.

**Зхолярый** *гл.* **схолярый**.

**Зцептрумъ** *гл.* **сцептрумъ**.

**Зчатокъ** *гл.* **щадокъ**.

**Зшарпанье** – *нанясенне драпін*: на огледанье того збитья и зшарпанья, также и попсованья жита бралъ зъ ураду возного (АВК, XVIII, 28, 1577).

**Зъеденье – 1)** *з'ядзенне*: до з^s^еденꙗ баранка возми сусѣда своего (Біблія, 120); **2)** *загрызанне*: староста казал... вкинꙋти до звере^s^ злых на з^s^едене (Зб. 752, 46б); **3)** *знішчэнне*: на з^s^едене огню вѣчномꙋ себе готꙋетъ (Карп., 27б).

**Зъедлость** – *з'едлівасць*: Лютость: безчловечіе, з^s^ѣдлость (Бяр., 76).

**Зъеднанье** – *з'яднанне*: пріятелское зъеднанье листы и печатми и присягами зъ обу сторонъ есть ново вчинено (АЗР, I, 371, 1506).

**Зъеднота** – *аб'яднанне, злучэнне*: прожно теды з^s^едноты с костеломъ римскимъ... наши дх҃ѡвные собѣ обецовати... маютъ (Апакр., 198б).

**Зъедноченье (зъединаченье, зъодноченье)** – *аб'яднанне*: для зъединаченья всихъ пановъ хрестіянскихъ (АЗР, II, 132, 1520); выкладъ... арътыкꙋловъ кꙋ зъѡдноченью грековъ с костеломъ рымскимъ (Унія, 1); Соединеніе: Зъедночене, оунѣѧ (Бяр., 163).

**Зъедноченьеся** – *тое, што і* **зъедноченье**: насъ до з^s^едночен^s^ѧсѧ с костеломъ римским провадѧтъ (Апакр., 202).

**Зъеждчанье (зъезджанье)** – *з'язджанне, прыбыццё*: што ся дотычеть... о не частое зъежъдчанье ихъ милости на роки судовые, то не безъ причины (КПД, 51–52, 1538); которые се першою оказіею зъѣзджанья слугъ княжатя его милости до той маетности Зулова побунтовали (АВК, XV, 508, 1686).

**Зъездокъ** – *раптоўны набег*: онъ... злодейскимъ обычаемъ зъездки чинилъ въ землю нашу (КЗ, 813, 1500).

**Зъездъ** – *з'езд*: маютъ вси станы того паньства... зъездъ сво^s^ вольны^s^ мети ꙋ слониме (Ст. 1588, 76).

**Зъеханье – 1)** *з'язджанне, прыезд*: на теперешънемъ зъеханьи вельми мало пановъ радъ вашое милости было (КПД, 40, 1538); **2)** *ад'езд*: таковые... по зъеханю з во^s^ны без ѡтпуску на том перэд гэтманом присꙗгнути винни (Ст. 1566, 22б).

**Зъеханьеся** – *тое, што і* **зъеханье** *ў 1 знач.*: з^s^еханьемсѧ тоут до берестѧ были ѡт нѣкоторых поселства до митрополита (Апакр., 11б).

**Зъештье** *гл.* **зейстье**.

**Зъискованье** – *набыццё*: часъ ѡтбиран^s^ѧ и з^s^искован^s^ѧ овоцѡв^s^ (Каліст, II, 76).

**Зъищенье (зищенье)** – *выкананне*: зищенье которого ж колвек обовязку... позволяемъ (АВК, XXXII, 321, 1596); Съвръшеніе: з^s^ищенье, выполненье (Бяр., 162).

**Зъодноченье** *гл.* **зъедноченье**.

**Зъявленье (зъявение, зъявенье, зъявление) – 1)** *з'яўленне*: народилсꙗ гсдни^s^ предтеча, которы^s^ взросши был в пꙋстыни аж до з^s^ꙗвленіꙗ своего изра^s^леви (Рым., 83б); реклъ гдь бгъ през неꙗкое зъꙗвене до чорта (Пралог, 660б); **2)** *уяўленне*: Мечтаніе... з^s^ꙗвленье, видъ (Бяр., 199); ꙋчытел его мѣлъ такое виденіе и зꙗвеніе и голос слышал (Зб. 752, 187б).

**Зъяздъ** – *тое, што і* **зъездъ**: зѕѩздъ мѣлъ быти позволенъ и часъ назначенъ (Апакр., 20).

**Зъяханье** – *тое, што і* **зъеханье** *ў 1 знач.*: за кожъдымъ зъяханьемъ маютъ на тыхъ справахъ судовыхъ быти по чотыри недели (КПД, 185, 1551).

**Зыбанье** – **1)** *зыб (на вадзе)*: чи прішо*л* еси до зыбаньѧ морского (Зб. 262, 28б); **2)** *перан. хісткасць, нерашучасць, сумненне*: хочю ти ростолковати зыбанье си (Арыст., 223).

**Зыдель** *гл.* **зедель**.

**Зымова** – *адгаворка*: тую десеть коп грошей... кром жадных причин и зымов... заплатити мел (ИЮМ, XXXII, 253, 1577).

**Зысканье (зысканне, изыскание, изысканье)** – *набыццё*: ѡна иметь свою ре*ч* оуздати речнікови комꙋ ѡна хочеть и на изысканіи и на ѡтрицаніи (Вісл., 12); бра*т*ѧ его рожонаѧ длѩ небы*т*ности своее не бꙋду*т* моцни то*г* зыска*н*ѩ судово*г* ꙋ праве потомь поправити (Ст. 1529–Ф, 110); моглъ... соборъ духовный быти для изысканья всякой правды и неправды (АЗР, IV, 127, 1596); отобрали... пословъ до Смоленска для зыскання гарматъ (ИЮМ, XIX, 19, 1711).

**Зыскъ (зыйскъ, изыскъ)** – *карысць, прыбытак*: ѡ*т*кꙋль изыскъ а любо прібытокъ пріходить ѡ*т*тꙋль те*ж* и казнь имееть быти (Вісл., 29б); мелъ зыйскомъ зо мною наполы поделиться (АВК, XXXIX, 576, 1579); кꙋпецъ маючы зыскъ веселитсѧ (Мак., 119).

**Зыстье (зыстие)** – *тое, што і* **зейстье** *ў 2 знач.*: зыстье съ того света пана воеводы Виленьского (КПД, 62, 1540); такое докона*н*е и зыстие с того свѣта (Зб. 752, 161).

**Зычливость** – *зычлівасць*: дознавшы ѩ зычъливость а спрыѩзность противкꙋ себе малъжонъки моее (КВС, 549, 1552).

**Зычность** – *тое, што і* **зычливость**: ани маем стати из зычности при одной стороне але просто кождому справедливость давати (Ст. 1529, 6).

**Зэбранье** *гл.* **зебранье**.

**Зэдель** *гл.* **зедель**.

**Зэзнанье** *гл.* **зезнанье**.

**Зэкгаръ** *гл.* **зекгаръ**.

**Зэлживость** *гл.* **зельживость**.

**Зэмянинъ** *гл.* **земянинъ**.

**Зэшстье** *гл.* **зейстье**.

**Зябль** – *зябліва*: орать... на гречку або на зябль два дни (АВК, XIV, 538, 1596).

**Зярно** – *тое, што і* **зерне** *ў 1 знач.*: въ зярне... жыта бочокъ тридцать (АВК, I, 194, 1664).

**Зять** – *зяць*: мешка*л* зѩть в дому тестѩ три дни (Біблія, 133б).

# И

**Иакинтъ** *гл.* **акинфъ**.

**Иануарий** *гл.* **генваръ**.

**Ива** – *вярба*: на той же мождчале у иве рубежы (ИЮМ, XXII, 453, 1627).

**Ивина** – *вярбіна*: уступиломъ... часть поля... просто до дерева ивины (АВК, XXXVI, 37, 1582).

**Ивинъ** – *ібіс*: з птаства ести не маете... пꙋгача, и нора и ивина и лебедѩ (Біблія, 164).

**Ивиръ** – *адшчэпак, адломак*: войтовая, вырубивъши ивиръ съ той жерди и давши до мене стороне тотъ ивиръ и сама пошла съ дому (АВК, XVII, 320, 1540).

**Игемония** – *праўленне*: Владычество: Игемоніа (Бяр., 211).

**Игемонъ (гемонъ)** – *правіцель*: той Пилатъ былъ на онъ часъ игемономъ (Будны, 128б); пото*м* гемо*н* ѡферꙋ чини*л* идоло*м* (Зб. 752, 82).

**Игла** – **1)** *ігла*: ему подалъ зъ сѣней иглу зъ нитьми (АСД, I, 316, 1641); **2)** *тонкі металічны стрыжань з завостраным канцом*: иглами коло*т* ѡное дитѧ коза*л* (Зб. 752, 274).

**Иглица (иглича, икглица)** – **1)** *зашпілька*: иглицъ осмъ сребреныхъ на шнуркахъ едъвабныхъ до кохтана (ИЮМ, XXVI, 124, 1641); кгузики и икглицы сыномъ моимъ записую (там жа, 125); **2)** *тое, што і* **игла** *ў 2 знач.*: игличами поставы колуть (ПГ, I, 160, 144б).

**Иго** – *цяжар, ноша клопату*: иго бо мое бл҃го и бремѧ мое легко есть (Ст. бр., 20).

**Иголка** – *іголка*: въ Несвижѣ: нитки, иголки, бумага и ложки (ИЮМ, XXIV, 28, 1713); **2)** *калючка ў некаторых раслін*: лежа*л* ѡны[s] ст҃ы[s] исааки[s] и рꙋшитсѧ в[s] ѡно[s] гꙋстинѣ терна на иго*л*ка*х* ѡстры*х* не моглъ (Бельск., 288б).

**Игольникъ (иголникъ)** – **1)** *ігольнік*: зняли... игольникъ с поесомъ (АВК, XXXVI, 44, 1582); **2)** *іголачнік*: заставилъ домъ... межы домами Свирида поросятника... а Гришка иголника (АВК, XXXIX, 70, 1578).

**Игольница (иголница)** – *ігла-рыба*: у старую комягу рыбы вложоно иголницы сто (АВК, XXXIX, 277, 1579); рыбы игольницы за злотковыхъ три (ИЮМ, XIV, 98, 1700).

**Игольня (иголня)** – *тое, што і* **игольница**: дали пану Матіяшу рыбы иголни лыкъ два (ИЮМ, X, 89, 1695); купили... язевъ пять и лыкъ десять игольни (ИЮМ, XXII, 15, 1711).

**Игра** – **1)** *гульня*: што ты мене ѡбсылаешъ играми хлопѧчими (Алекс. 1697, 9); **2)** *занятак з мэтай забавы, звычайна заснаваны на пэўных правілах*: о игра*х* косточны*х* (Вісл., 7б); **3)** *турнір*: пріѣхали для окрасы, для игры и гонитовъ (АЗР, IV, 297, 1608); **4)** *справа*: о згодꙋ свѣтскꙋю игра иде*т* (Алекс., 50); **5)** *музычны інструмент*: ꙋдарити велѣ*л* в[s] сꙋрмы в[s] бубны в[s] розмаитые игры (Алекс. 1697, 35); **6)** *перан. насмешка*: Рꙋгание... насмѣванье, оущыпливость, або игра (Бяр., 141).

**Игранье (гранье)** – **1)** *гульня*: дитинъны*х* сѧ забавъ и игра*н*ѧ стереглъ (Пралог, 574б); **2)** *іграннe (на музычным інструменце)*: Кѵмвалъ: Цимба*л* длѧ гра*н*ѧ (Бяр., 287); **3)** *удзел у азартнай гульні*: костирства або гранѧ ѡ п҃нзи нема*ш* (Бельск., 414б).

**Игрaчъ (игрячъ)** – **1)** *той, хто іграе на музычным інструменце*: наделалъ... гуслей и смыт[s]цевъ играчемъ своимъ (Скар. ТЦ, 150); **2)** *гулец*: крадуть костыри и вси игрѧчи, которіи костками, або картами... маетности чужіе ѡ*т*нимають (Будны, 90–90б).

**Игрецъ** – *тое, што і* **игрaчъ** *у 2 знач.*: о игрецо*х* косточны*х* (Вісл., 27б).

**Игриско (игрыско)** – **1)** *тое, што і* **игрище** *ў 1 знач.*: игриско посполітое было справовано (Жыц. св., 53); **2)** *тое, што і* **игрище** *ў 2 знач.*: ѡколо него игрыска чинѧчи, ѧдали, пивали (Бельск., 302); **3)** *тое, што і* **игрище** *ў 3 знач.*: выдалъ Іерслимъ на игриско непріѧтелемъ (Мак., 270).

**Игрище (игрыще)** – **1)** *відовішча, турнір*: тог рокꙋ припадали в римѣ игрища або видоки (Бельск., 262б); **2)** *насмешка*: смѣшки и игрища з ни*х* строивъ (Кн. Мак., 47б); **3)** *пасмешышча*: то, што есмо мы терпели, будеть... игрыщомъ перед ихъ упадко*м* (Атыла, 218–219).

**Игрушка** – *памянш. ад* **игра** *ў 1 знач.*: занеха[s] тыхъ забавъ ꙋже досы*т* тыхъ игрꙋшекъ было (Пралог, 550б).

**Игуменство** – *ігуменства*: мають тую игуменію съ игуменства низложити (АЗР, V, 70, 1641).

**Игуменъ (икгуменъ)** – *ігумен*: ѡ*т* владыки выежчалъ игуменъ (КСД, 736, 1511); маетъ митрополитъ... епископы и архимандриты и икгумены (ИЮМ, I, 358, 1620).

**Игуменья (игумения, игуменна)** – *ігуменння*: жаловалъ намъ чоловекъ игꙋменъны (КВЗС, 98б, 1539); отъ игуменіи имѣнья церковные знищенья не терпѣли (АЗР, III, 103, 1559); епспы послали по игꙋмен*ю* романꙋ абы ей до крещенѧ слꙋжыла (Зб. 752, 52).

**Милостница (милосница)** – *палюбоўніца, каханка*: ѡво ты красна милостнице моѧ (Зб. 262, 83); валтасар... пил з начиниꙗ церковног з милосницами (Бельск., 155).

**Милостыня (милостина, милостиня)** – **1)** *міласціна*: млтина маеть быти давана всѣмъ ѹбогимъ (Будны, 92); жебракъ... з рѹкъ его млстиню приˢмовал (Пралог, 520); **2)** *міласэрнасць*: требует бъ... милостыни къ нищим (Чэцця, 90б).

**Милость** – **1)** *любоў*: повинни... жити згодне вˢ милости братерскоˢ (Дыяр., 173б); **2)** *каханне*: ѡнаꙗ панна... прагненемъ и милостю палала (Зб. 259, 9); **3)** *літасць*: надъ злодѣемъ милости не надобѣ (АЗР, I, 82, 1468); **4)** *ласка*: красны милости твои сестро моѧ невѣсто (Зб. 262, 84); **5)** *міласць (у пачцівым звароце)*: прозба ихъ милости не будеть отъ вашое милости даремъне опущона (КПД, 19, 1538).

**Милта** – *талакно*: прѧсло – мѣлта, толокно (Зіз., 55).

**Милченье** – **1)** *тое, што і* **молчанье** *ў 1 знач.*: петръ стыˢ ѹпросившы милчене реклъ (Зб. 752, 389); **2)** *тое, што і* **молчанье** *ў 2 знач.*: в милченью яком тотъ панъ кияновъский тое справы своей не былъ (АВК, XXX, 302, 1605); **3)** *тое, што і* **молчанье** *ў 3 знач.*: станѹлъ покоˢ милчене смѹток настѹпил (Зб. 259, 582).

**Миля (милля)** – *міля*: знашлося въ той мили пять верстъ (АВК, XVII, 349, 1541); поткалисꙗ милꙗ ѡт вроцълава (Хр. польск., 8).

**Минея (менея)**[1] – *мінея*: миней дванадцать, трѣоди двѣ (АЗР, I, 137, 1494); у той же церкви книги менеи месечных двонадцать (СДГМ, 34, 1579).

**Минея (миния)**[2] – *сурык*: минии фунтъ одинъ до фарбованя печей (ИЮМ, V, 28, 1688); купили минеи до фарбованя печы (ИЮМ, XII, 92, 1698).

**Министръ (министеръ)** – **1)** *старшы член брацтва*: для отправованья хвалы Божое министеръ пры томъ зборе былъ (АВК, XX, 241–242, 1614); **2)** *пратэстанцкі святар, шчэннік*: розрѹх сѧ сталъ... противъ людемъ и министромъ евангелицкого и саского зборѹ (Апакр., 31б).

**Минница** *гл.* **мынца**.

**Минога** – *мінога*: купили... миногъ гавлы два (ИЮМ, III, 59, 1685).

**Минусъ** – *мінус*: за шоры... плюсъ минусъ рахуючы золотыхъ сорокъ (АВК, I, 330, 1666).

**Минута (менута)** – **1)** *мінута*: Маніе... часточка часѹ, мѣнѹта (Бяр., 76); **2)** *кароткі выпіс з дакумента*: минута выписана съ книгъ рядецкихъ (АВК, XVII, 117, 1540).

**Минуцекъ** – *памянш. ад* **минуцыя**: минуцекъ за два гроши (АВК, VI, 60, 1589).

**Минуцыя (менуцыя, минуцея, минуция)** – *каляндар з прадказаннямі*: мелъ... шпилекъ, минуцей и струговъ (АСД, III, 302, 1582); противъ нового календаря мѣнуцыи выдаетъ (АЗР, IV, 225, 1605); минуцыи трое подаровалъ разнымъ паномъ (ИЮМ, IV, 199, 1686); у Замосцю купили панове минуцію (ИЮМ, IX, 176, 1692).

**Минца** *гл.* **мынца**.

**Минцеръ** *гл.* **мынцаръ**.

**Миодъ** *гл.* **медъ**.

**Мира (мирра)** – *смірна*: оу которой земли на свете ростет мирра (Валх., 48); шаты твои всѣ пахнѹт мира и алоес (Пс. XVII, 23).

**Мираначалникъ** – *даравальнік міру*: Иринархˢ: мираначалник (Бяр., 277).

**Миро (мюро)** – **1)** *міра*: два аггла... со мюромъ пришедше, хотѣли помазати исса (Чэцця, 338б); **2)** *духмяны пах*: выходит з гробѹ его миро (Зб. 81, 576).

**Миродержатель** – *уладар свету*: миръ и благословеніе отъ миродержателя Бога преписылаемъ (АЗР, V, 194, 1686).

**Миролюбие** – *міралюбнасць*: в самыхъ мнимых хрістіѧнех... страсть миролюбіѧ и самолюбіѧ набарзѣй сѧ кгрѹнтѹетˢ (Карп., 7б).

**Мироноситъ** – *носьбіт міра*: Касіанъ: Мѵроносит (Бяр., 286).

**Мироносица** – *жанчына, якая прынесла міра для памазання цела Хрыста*: спромеж мироносицъ мѧнꙋют первꙋю марию (Рым., 82б).

**Миронъ** – *мірон, рыба сямейства карпавых*: заплатили за рыбу мироновъ десеть (ИЮМ, V, 80, 1688).

**Миропомазание** – *мірапамазанне*: Мѵропомазаніе естъ сакраментъ, которымъ чл҃къ... отрымꙋетъ помноженіе ласки бж҃іеѧ (Зб. вып., 14б).

**Миротворение** – *устанаўленне міру*: было вначале миротвореніе (Арыст., 161).

**Миротворецъ** – *міратворац*: ты еси... миротворѣць (Чэцця, 228б).

**Мирра** *гл.* **мира**.

**Мирсина** – *тое, што і* **мирта**: мѵрта – мѵрсіна (Зіз., 44).

**Мирта** – *мірт*: богатество ест... кропива ꙋбозство сосна и мирта (Зб. 259, 588б).

**Мирщина (мирщына)** – *пошліна за прымірэнне*: которыи видбляне... побьються и за децкимъ поеднаються, ино намъ куница шерстью з миръщыны (КЗ, 848, 1503); которые полочане... простятся, ино намъ куница шерстью зъ мирщины (АЗР, II, 89, 1511).

**Миръ**[1] – **1)** *свет, сусвет*: богъ сътворивыи миръ и всѧ ꙗже в немъ (Будны, 11б); **2)** *чалавецтва, людзі*: мироу много зла оучини (Віл., 449б); **3)** *асяроддзе міран*: зоставилъ келью и до мирꙋ сѧ вернꙋлъ (Пралог, 520б).

**Миръ**[2] – **1)** *цішыня*: был силныи миръ и покои (Валх., 45); **2)** *адсутнасць варожасці*: з Бовом зъедналъсѧ мир деръжати (Бава, 156); **3)** *мірныя адносіны*: жадног з половцами не мают мирꙋ (Стрыйк., 464б); **4)** *мірны дагавор*: послы зъѣхавшися на границы миръ або перемирье межи господарей дѣлали (АЗР, II, 246, 1533).

**Мирянинъ** – *міранін*: естъ кождый чл҃къ священникъ и мирѧнинъ (Навука, 18).

**Миса** – *міса*: даломъ емꙋ ѡтънести до домꙋ своего мисꙋ цыновꙋю (КВС, 462б, 1552).

**Миска** – *міска*: мисокъ набрали у ганчаровъ (ИЮМ, I, 49, 1679).

**Мисливство** *гл.* **мысливство**.

**Мисный** – *рамеснік, які вырабляў міскі*: жаловалъ намъ мисный господарьский ꙗкубъ Пилевичъ (КСД, 232, 1515).

**Мисочка** – *памянш. ад* **миска**: Мисочка оу ваги (Бяр., 205).

**Миссия** – *місія*: ѡбѣдвѣ миссии взѧвши ѡнꙋю болгариею... мѧнꙋют (Стрыйк., 426).

**Мистерия** – *пераўвасабленне*: в тисѧчо прехирныхъ своихъ мистеріахъ ставитисѧ замыслитъ (Сматр., 53).

**Мистерство** – *тое, што і* **майстерство**: шатры мѣл... дивным мистерством робленые (Атыла, 179).

**Мистровство** – *занятак спецыяліста ў якой-н. справе*: пришолъ зъ Орши мистръ до Могилева на мистровство (ИЮМ, VIII, 112, 1691).

**Мистръ (мийстръ)** – **1)** *тое, што і* **магистеръ** *у 1 знач.*: мистръ немецькии пошлеть нѣмъцовъ... добывати города Полоцька (Рач., 317); **2)** *начальнік*: римъскии папа ѡтцомъ естъ и мистромъ и справъцою всего христиѧнъства (Бер. саб., 17б); **3)** *тое, што і* **майстеръ** *у 1 знач.*: межы нихъ чотыры мистры тесельские старшые (Арх. ЮЗР, VIII-5, 96, 1552); **4)** *тое, што і* **магистеръ** *у 2 знач.*: сенекꙋ мисстра своег теж ꙋ ванне зарѣзал (Стрыйк., 514); **5)** *кат*: маюць... мистра, то есть ката ку караныю злыхъ свowолныхъ людеѕ (Ст. 1588, 400).

**Мистря** – *тое, што і* **мистръ** *у 2 знач.*: былъ вѕ Бз҃ѣ превелебный ѡтцъ Мелетій... старшыи мистрѧ ст҃ыхъ Бг҃оѧвленій (Ст. бр., 4).

**Мисурка** – *шлем з жалезнай сеткай, якая ахоўвае плечы*: Шлемъ: Шишакѕ, прилбица, мисꙋрка, гелмъ (Бяр., 205).

**Митра** – **1)** *мітра*: владыкове ꙋбраные въ свое инъфꙋлы або и митри (Бер. саб., 16); **2)** *межавы знак на дрэве ў выглядзе мітры*: рубежи положил... митра бискупья и клейна капитульское (АВК, XIII, 12, 1508).

**Митрополита (метрополита)** – *тое, што і* **митрополитъ**: послушенство отцу митрополите выповедали (АВК, II, 211, 1619); послал до его млсти метрополиты абы тут прислал кого своего (Дыяр., 174б).

**Митрополитъ (метрополитъ, митропалитъ, митропилатъ)** – *мітрапаліт*: жаловалъ намъ на васъ... митрополитъ Киевски^s (КСД, 882, 1516); митропилатъ... не моглъ быти на синодѣ (Апакр., 69б); Василе^s велики^s кесари^sски^s митропалит (Бельск., 277б); метрополит кіевъски^s лист прислалъ (Дыяр., 149б).

**Митрополия (метрополия, митрополья)** – *мітраполія*: епспъ... поиде ко црюграду на митрополью (Увар., 109); вчинилъ на то Соборъ... во всей митрополіи (АЗР, III, 3, 1546); блгословеніе ѡт столицы метрополіи Кіевское преносилаемъ (Дыяр., 157б).

**Митропольство** – *сан мітрапаліта*: тое митропольство... отцу Михаилу Рагозѣ, архимандриту Меньскому, дали (АЗР, IV, 25, 1589).

**Митюкъ** – *лямцавы потнік*: коня... з кульбакою и митюкомъ фалендышу червоного... пограбилъ (АВК, II, 318–319, 1638).

**Михирь (мехирь)** – *мачавы пузыр*: вразѧт михирь, и боудеть мочить кровию (Арыст., 208); ѡ мехире (там жа, 209).

**Младенецъ** – **1)** *тое, што і* **млоденецъ** *у 1 знач.*: образъ Пресвятой Богородицы со младенцомъ (АВК, VI, 493, 1549); **2)** *тое, што і* **млоденецъ** *у 2 знач.*: лета дорослые младенцу осмнадцать (Ст. 1529, 8).

**Младенство** – *тое, што і* **млоденство**: некоторые людѣ в жывоте матки гинуть, дрѹгие в детинъстве, дрѹгие в младенъстве (Зб. 255, 426б).

**Младенчикъ** – *памянш. ад* **младенецъ** *у 2 знач.*: был младенчик лисоваты^s и сличны^s на твары (Біблія, 330).

**Младенъ** – *тое, што і* **молодень**: потвердилъ антиѡхъ младен иѡанаѳанѹ свещенство (Кн. Мак., 62).

**Младица** – *тое, што і* **молодица**: младице мое заведены сѹть полономъ (Скар. ПЕ, 5).

**Младость** – *тое, што і* **молодость**: ꙗко дни младости твоеꙗ, тако и старость (Скар. ДЗ, 65).

**Млатобиецъ** – *малатабоец*: сеи былъ млатобиецъ и ковачь (Чэцця, 21б).

**Млатъ** – *тое, што і* **молотъ**[1] *у 1 знач.*: взѧла... млатъ ковалскии (Скар. КС, 13).

**Млачение** – *тое, што і* **молоченье**: постигнет^s жатва млачение (Скар. КЛ, 50).

**Млеко** – *тое, што і* **молоко**: пасетъ чредѹ, а млека еи не поживаетъ (Апакр., 202).

**Млечное (млечно)** – *тое, што і* **молочное**: врядники всякіе пожитки и млечное справедливе выдавали (АСД, IX, 62, 1568); млечна сыровъ круглыхъ копъ тры (АВК, XXVIII, 57, 1605).

**Млечъ** – *малачай*: млеч подобный ест^s салатѣ (Мак., 69).

**Мливо (млыво)** – **1)** *размолванне збожжа*: на млынахъ нашихъ млыво вольное (АВК, III, 19, 1581); **2)** *прызначанае для памолу збожжа*: на его млыне млива молоти (КСД, 995, 1517); **3)** *прадукт памолу*: млынаромъ третья мѣрка зъ млива (АЗР, III, 78, 1557).

**Млинаръ** *гл.* **млынаръ**.

**Млинъ**[1] – *блін*: млины пресны помазаны олеем^s (Скар. КЛ, 15).

**Млинъ**[2] *гл.* **млынъ**.

**Млоденецъ** – **1)** *грудное дзіця*: бабы боѧлисѧ бга и... заховали и млоденцовъ (Хран., 78б); **2)** *юнак*: споткали едного млоденца ѡздобне и дорого ѹбраного (Зб. 259, 485).

**Млоденокъ** – *малады чалавек, юнак*: светы^s ѳома млоденком бѹдѹчы маючы трѹдност ѡт родичов ѹтекъ до законѹ (Зб. 261, 119б–120).

**Млоденство** – *маладосць*: змыслъ бовѣмъ и мысль серца чл҃вчого склонни сут до злого ѡт млоденства своего (Біблія, 26).

**Млоденчество** – *тое, што і* **млоденство**: старость коренем ꙗблони, а молодость албо млоденчество вѣтками... называетˢ (Мак., 2).

**Млоденчикъ (млоденчыкъ)** – *памянш. ад* **млоденецъ** *у 2 знач.*: показалосе то на ѡнъ часъ в оныхъ королевичахъ и млоденъчыкахъ рымъскихъ (Ст. 1588, прадм.); ѡбравши тридцати млоденчиков гладших казал сꙗ в паненские шаты ꙋбрат (Бельск., 163).

**Млоденяшокъ** – *хлапчук*: забилем... млоденꙗшка синимˢ разом моимъ (Выкл., 7).

**Млодецъ** – *тое, што і* **молодецъ** *у 1 знач.*: млодец нѣꙗкиˢ пенкныˢ сличныˢ ꙋбраныˢ... мимо их миновал (Зб. 107, 161б).

**Млодзь (млодь)** – *тое, што і* **молодь**: млодзи гарелки купили (ИЮМ, I, 29, 1679); петерцыментъ выпили млодь пана писара (ИЮМ, V, 32, 1688).

**Млодзянъ (млодянъ)** – *тое, што і* **молодень**: былъ на обеде млодзянъ его млсти (ИЮМ, XI, 182, 1697); вино брали для млодяновъ пани столниковой (ИЮМ, XII, 78, 1698).

**Млодикъ** – *тое, што і* **молодикъ** *у 1 знач.*: млодикомъ тромъ за полмисокъ тынфы три (ИЮМ, XIV, 21, 1700).

**Млодость** – *тое, што і* **молодость**: з млодости стереглˢсе товарыства ѡтщепенцовъ оных (Хран., 383б).

**Млость** – *млосць*: пришла на него млость великаꙗ (Зб. 752, 39).

**Млотокъ** – *тое, што і* **молотокъ**: за робене млотка... дали за роботу (ИЮМ, VI, 38, 1689).

**Млотъ** – *тое, што і* **молотъ**[1] *у 1 знач.*: млотъ жорновый одинъ (АВК, XX, 137, 1598).

**Млоченье (млоценне, млоценье)** – *тое, што і* **молоченье**: одрина нова... для млоценья збожя (АВК, XIV, 411, 1591); за млоценне збожа меского, што долю брали з грунтовъ, запл. (ИЮМ, XVIII, 97, 1710); за млоченя жита, за три осети (ИЮМ, XXI, 44, 1711).

**Млыво** *гл.* **мливо**.

**Млынарка** – *жонка млынара або ўладальніца млына*: дали млынарце Яновой... золот. четыре (ИЮМ, III, 98, 1685).

**Млынарство** – *занятак млынара*: млынары зъ волоки, которая имъ будеть дана на млынарство, по два дни тесельскою роботою служили (АЗР, III, 90, 1557).

**Млынарчикъ (млынарчыкъ)** – *работнік на млыне*: знать по тобе... што еси млынарчыкъ (Бава, 139); млынарчикъ его... зъ ними буршуетъ (АВК, XVIII, 194, 1603).

**Млынаръ (млинаръ)** – *млынар*: тотъ возокъ млынаръ изъ замку выкупилъ (АВК, XVII, 215, 1540); отъ Клима млинара... отобрали золотыхъ десеть (ИЮМ, IV, 273, 1688).

**Млынецъ** – **1)** *памянш. ад* **млынъ**: млынецъ на Шевни рѣчцы (АЗР, II, 103, 1512); **2)** *жорны*: Жръновъ: Жорна, або... млынецъ, рꙋчный млынъ (Бяр., 43).

**Млыникъ (млиникъ)** – *памянш. ад* **млынъ**: млиникъ того жъ мѣста на рѣчцѣ Вербей (АВК, XIV, 100, 1566); подле млыника пана Фолтына... сеножатка (АВК, XXX, 70, 1590).

**Млыница** – *млынавая плаціна*: въ другой млыницы видѣломъ коло ненаправное (АВК, VI, 33, 1589).

**Млынище (млинище)** – *млынішча*: на той же рѣцѣ Бразидѣ млинище (АСД, II, 161, 1594); имѣніе... зъ сажовки, млыны, млынищы (ИЮМ, XXIV, 502, 1634).

**Млынникъ** – *тое, што і* **млынаръ**: реестръ прыходовъ млыну меского, презъ млынника отдаваныхъ (ИЮМ, IV, 271, 1688).

**Млынокъ** – *памянш. ад* **млынъ**: позволили есмо князю Федору... ставокъ заняти и млынокъ збудовати (Арх. ЮЗР, VIII-4, 30, 1516).

**Млынъ (млинъ)** – *млын*: о брати што ѡдин млинъ имають (Вісл., 7); млынъ на реце на видбе ѡни... держать (КВЗС, 154, 1540).

**Мнеманье (мниманье)** – *тое, што і* **мненье**: ѡпачное взѧлъ ѡ тобѣ мнѣмане (Варл., 26б); был тог мниманꙗ видꙗчи панство католицкое ꙋспокоенное (Зб. 259, 582б).

**Мненье (мнение)** – *меркаванне*: Васнь: храпъ, мнѣнье (Бяр., 120); Преславенъ, преславный, неначаемый, надˢ всѣхъ мнѣніе сый (там жа, 122).

**Мнихъ** – *тое, што і* **монахъ**: мних купил... мѣстце длꙗ збудованѧ церкви (Зб. 82, 414б).

**Мнишекъ** – *памянш. ад* **мнихъ**: татарове... шкоды починили, не фолкгȣючи ни простым дȣховным ни костелом ни мнишком (Стрыйк., 496б).

**Мнишество** – *манаства*: ѡтменивши мнишество вышол в мир (Зб. 107, 198б).

**Мнишка** – *тое, што і* **монашка**: собрал ѡколичнии мнихи и мнишки (Бельск., 354б).

**Многобожие** – *мнагабожжа*: ѡтведисѧ... мнѡгобж҃іѧ поганского (Каз. Кір., 120).

**Многоженецъ** – *мнагажэнец*: нынѣ каждый владыка у своей епископіи поповъ двуженцовъ и многоженцовъ... маютъ (АЗР, IV, 223, 1600).

**Многолюбие** – *вялікая любоў*: мнози власы на срдцы и на чреве оуказȣеть... малолюбіе до правды а многолюбіе до кривды (Арыст., 17б).

**Многомилостие** – *міласэрнасць у вышэйшай ступені праяўлення*: шадаи не ѡбретохомъ его велеможна и сȣдъ и многомлстіе не ȣмȣчить (Зб. 262, 28).

**Многомножество** – *мноства у вышэйшай ступені праяўлення*: помысли... ꙗкое мнѡгомножество але и еще то мало (Каз. Кір., 157–157б).

**Многомовление (многомовенье, многомолвение)** – *мнагаслоўнасць*: многомолвѣние не бываеть безˢ греха (Скар. ПС, 17б); въ многомовеньи своемъ выслуханы будуть (Цяп., 7б); ꙗзыкъ ѡт лжи, хȣлы, лаꙗниѧ, многомовлениѧ... ѡбрѣзовали (Зб. 82, 282б).

**Многоможность** – *магутнасць*: вино теже наилепшее ꙗко слушало естъ на многоможность царьскую давали (Скар. КЕ, 3б–4).

**Многопийца** – *п'яніца*: многопиица и многоꙗдьца не боудь (Чэцця, 337б).

**Многострадалецъ** – *шматпакутнік*: многострадалцы и мчн҃цы были (Пралог, 519).

**Многость** – **1)** *мноства*: такаꙗ их бȣдет многост, иж самъ толко пан богъ зличытъ (Зб. 255, 403б); **2)** *колькасць*: великаѧ многость была житъ (Скар. КБ, 7б).

**Многоядение** – *абжорства*: многѡѧденіе не ростит тѣла, але еще хоробою е заражаетˢ (Каліст, II, 15б).

**Многоядецъ** – *абжора*: піѧница бȣдет и многоꙗдець (Неба, 89б).

**Многоядца** – *тое, што і* **многоядецъ**: многоꙗдьца не боудь (Чэцця, 337б).

**Множенье** – **1)** *павелічэнне*: привилевъ... новыхъ деланю або множеню... оправовати будем (Ст. 1529, 20); **2)** *размнажэнне*: мѣсяца апрѣля, мая, іюня ничимъ рыбъ не ловити въ озерахъ только для множенья ихъ въ тыхъ мѣсяцахъ (АЗР, III, 86, 1557).

**Множеньеся** – *тое, што і* **множенье** *ў 1 знач.*: Спѣѧніе: Множѣнесѧ (Бяр., 154).

**Множество (множство, мнозство, мноство)** – **1)** *вялікая колькасць каго-н. або чаго-н.*: студенты колекгіумъ Виленского зъ мноствомъ мѣщанъ... находили (АВК, VIII, 32, 1558); **2)** *зборышча людзей*: Алеѯандер межи множествомъ в темности ȣмешалсꙗ (Алекс. 1697, 44б); **3)** *колькасць*: было ефіѡплѧновъ... вˢ множьствѣ вельми великомъ (Хран., 308); **4)** *напоўненасць*: правды цноты справȣютъ, оуфность покладаючи вˢ мнозствѣ дх҃овъногѡ в нихъ бȣдȣчого богатства (Мак., 188).

**Множица** – *разнастайнасць*: светыˢ множицею слов то ѡписует (Зб. 255, 304).

**Множность** – *веліч*: менесцес... оу множности моци своеи повстал (Троя, 59б).

**Мова** – **1)** *мова*: тȣрецкою мовою нас с дорогы збавенои стрȣтити мѣлъ (Апакр., 157); **2)** *размова*: мовы порожней и жартовной сꙗ стерегл (Пралог, 575); **3)** *выказванне*: з обеюхъ сторонъ мовы, рацыи и выводы притачаны были (КЛС, 172, 1598); **4)** *здольнасць гаварыць*: дана ми бȣдеть мова вˢ ѡтвореныо оустъ (Варл., 313б); **5)** *манера гаварыць*: познала есми по голосу и по мове слугу пана Ивана (АВК, XVIII, 55, 1584).

**Мовленье (мовенье)** – **1)** *маўленне*: оусты свои ѡтворили на мовленье (Хран., 58); **2)** *выказванне*: место устного мовеня своего обмову и цедулу на письме... возному подалъ

(АВК, XVIII, 298, 1629); **3)** *тое, што сказана*: я тое мовене и слышене ку записаню до книг кгродских Менских сознал (АВК, XXXVI, 319, 1582).

**Мовловство** – *размова*: был за ойцом своим чоловеком прыхожым на мовловство (АВК, XXX, 439, 1612).

**Мовчанье** *гл.* **молчанье**.

**Могаричникъ** *гл.* **могоричникъ**.

**Могила** – **1)** *магіла*: возная дала ей чары кость, песокъ и гвозде, браное на могилѣ (АВК, XVIII, 305, 1629); **2)** *курган, узгорак*: прывернули съ Склини по высокую могилу, ѣдучы къ пустомыту (АЮЗР, I, 11, 1430).

**Могилевецъ** – *жыхар Магілёва*: въ Лабяка могилевца наняли коня (ИЮМ, III, 89, 1685).

**Могилина** – *тое, што і* **могила** *ў 1 знач.*: приехалъ межи дву селъ татарскихъ... противъ могилинъ татарскихъ (АВК, XXI, 96, 1555).

**Могилище** – *тое, што і* **моглицы**: отнялъ... землю их отчызную, на имя Гаевищо, новину подле могилищъ (КЗ, 738, 1499).

**Могилка** – *памянш.* **1)** *ад* **могила** *ў 1 знач.*: возная дала ей чары кость, песокъ и гвозде, браное... на могилцы (АВК, XVIII, 305, 1629); **2)** *ад* **могила** *ў 2 знач.*: тая могилка мѣла дѣлити Лидумово село князства великого изъ селми корунными (АСД, I, 109, 1546).

**Могильникъ** – *тое, што і* **моглицы**: поддала се грань... межи гор да в могильник овдеевскии (ПГ, III, 40, 1508).

**Моглицы** – *могілкі*: видѣли тую возную, яко песокъ на моглицахъ у Высокомъ гребла (АВК, XVIII, 305, 1630).

**Могоричникъ (могаричникъ, могорычникъ)** – *сведка гандлёвай здзелкі*: при томъ были могоричници (АЮЗР, II, 106, 1451); могаричники тежъ тымъ же обычаемъ свѣтчили (АВК, XVII, 24, 1539); шапку ставилъ до истца и до могорычниковъ (там жа).

**Могоричъ (магарычъ, могорычъ)** – *магарыч*: коли могорычъ пили тогдымъ я з ними пил (АВК, XXX, 66, 1590); новыхъ штораз могоричѡвъ шꙋкаючи (Апакр., 171); дали имъ на магарычъ на горелку осмаковъ дванадцать (ИЮМ, IV, 144, 1686).

**Могутство** – *магутнасць*: свѣта сего могꙋтством поставлѧютсѧ (Каз. Кір., 126).

**Модла** – *маленне*: приволены коу модле болванскои (Валх., 55).

**Модлитва** – *тое, што і* **молитва** *ў 2 знач.*: по доконченью казанья и всихъ модлитвъ... фальшъ свои описати... обовезалъ (АВК, VIII, 470, 1543).

**Модлярство** – *тое, што і* **малярство**: люде ꙋчоные ходили зо всего свѣта ꙋчитсꙗ в наꙋках звѣздарских и модлꙗрствам розмаитым (Бельск., 13).

**Можаичъ** – *жыхар Мажайска*: купцы можаичы и тферичи... жаловали (АЗР, I, 178, 1498).

**Можджалинка** – *памянш. ад* **мождчалина**: одъ тое ели ручъемъ уверхъ, з ручейка у можджалинку (ИЮМ, XXIII, 485, 1630).

**Можджерикъ (можderикъ, моздзерикъ)** – *памянш. ад* **можджеръ** *у 1 знач.*: моздзерикъ малый одинъ (АВК, XX, 136, 1598); справил соломон... кубки и можджерики (Біблія, 416); кꙋбки, и можderики, и кадилницы (Хран., 295).

**Можджеръ (маждзеръ, мажчеръ, можderъ, мождчеръ, можчаръ, можчеръ, моздживръ)** – **1)** *ступа*: мѣдницъ двѣ, можчеровъ два (АВК, XXII, 156, 1565); маждзеръ с кийцомъ (АВК, XX, 183, 1601); мождчеры два (АВК, IX, 469, 1626); Иготь: Можджѣръ (Бяр., 53); сѣѧ всѧ изможденна въ мозджирѣ (Зб. вып., 16); **2)** *марціра*: можъderевъ спижныхъ два (Арх. ЮЗР, VII-1, 80, 1552); мажъчеръ одинъ у браме (ИЮМ, I, 309, 1682); можчаръ великій и гармата (ИЮМ, VI, 144, 1689).

**Мождчалина (модчалина, мождалина, можджалина, мождчелина, моздзелина, мощалина)** – *забалочанае месца*: въ дубѣ великомъ рубежи на мощалинѣ (АВК, XI, 94, 1620); граница того имѣня... мождчелиною (ИЮМ, XXII, 475, 1625); одъ того копъца

можъдалиною у кленъ (ИЮМ, XXI, 477, 1628); одъ копъца в мождъчалину, модчалиною болотечъкомъ в дубъ (ИЮМ, XXIII, 483, 1630); мождъжалиною албо мокрадзю ув озеро (ИЮМ, XXVI, 316, 1668); идетъ граница... у моздзелину (ИЮМ, XXV, 212, 1670).

**Можность – 1)** *магутнасць*: Могѹтство: Панство, можност (Бяр., 80); **2)** *магчымасць*: для оздобы того места маемъ водлугъ можности нашое... всякое охендоство (ИЮМ, VIII, 334, 1615).

**Мозгъ (мозкгъ, мозкъ, мозокъ, москъ) – 1)** *мозг*: ѹломокъ жерновыи... лучила вѕ главу авимелеха иже с неѧ мозгъ выскочилъ (Скар. КС, 24); ростꙗл шаблею головѹ аж мозкъ бризнул (Стрыйк., 528); **2)** *перан. розум*: тое не зѕ своего мозкгѹ вымышлѧючи мовлю (Варл., 252); **3)** *касцявы мозг*: москъ кости его напоенъ (Зб. 262, 21); Бл҃гота... мозокъ вѕ костехъ (Бяр., 6–7).

**Моздзерикъ** *гл.* **мождъерикъ**.

**Мозодерство** – *здзек, абняслаўленне*: желжывость доброе славы, мозодерства водлугъ воли своее чынил (АВК, XXXI, 373, 1590).

**Мозыранинъ (мозырянинъ)** – *жыхар Мазыра*: подавали светъки... мозыранъ, речычанъ (КЗ, 728, 1499); радили... подлꙗшане и мозырꙗне (Стрыйк., 526б).

**Мойстатъ** *гл.* **маестатъ**.

**Мокрадь (мокрадзь, мокредь)** – *мокрае месца, балота*: онъ вытискаетъ мене зъ дубровы и зъ мокради (АВК, XVII, 93, 1540); мокредью водле самое речки... заводилъ (там жа, 387, 1541); мокрадзю ув озеро (ИЮМ, XXIV, 316, 1668).

**Мокрина** – *луг*: седмъ кравъ... пасѧхѹсѧ по мокринахъ (Скар. КБ, 74).

**Мокрость** – *тое, што і* **мокрота**: мокрость великаѧ ѡт дождчу нашла (Рач., 337).

**Мокрота** – *макрата*: на нее всѧка мокрота и студен падаеть (Бава, 167).

**Моланья** *гл.* **молонья**.

**Молбище** – *месца малення*: ѹчинилъ в доме... храмъ молѕбища (Скар. КС, 37б).

**Молва** – *паклёп, нагавор*: на насъ молва, будто мы не похотѣли межи господарей доброго дѣла дѣлати (АЗР, II, 289, 1533).

**Молвенье (молвение)** – *тое, што і* **мовленье** *ў 1 знач.*: молвение твое сладко (Скар. ПП, 6); молвене ѡдиное неоучтивых молвишь (Зб. 262, 12б).

**Молебенъ** – *малебен*: молебенъ служити и за насъ господаря и за все хрестіянство пана Бога просити будуть (АЗР, IV, 23, 1589).

**Молебникъ** – *той, хто звяртаецца да Бога з малітвай, заступнік*: сии быс предоститель первыи и помочникъ, и къ бо҃у молебникъ (Чэцця, 70).

**Молебница** – *заступніца*: цр҃ковъ есть поставлена, не ротница але молебница (Чэцця, 346).

**Молебно** – *тое, што і* **молебенъ**: казалъ дать законникомъ братскимъ на молебно и на службу божою (ИЮМ, IV, 82, 1686).

**Моленье (моление) – 1)** *маленне*: ѡлтар на молене гсдѹ поставил (Біблія, 73); **2)** *просьба*: моление власною рѹкою моею писаное посылаю (Зб. 82, 356б).

**Моленьеся** – *тое, што і* **моленье** *ў 1 знач.*: моленѕѧсѧ способъ естъ простацкій (Мак., 62).

**Молеръ** *гл.* **маляръ**.

**Молестия** – *душэўная мука*: молестіи ѡт такихъ мыслеи терплю (Пралог, 520б).

**Молжонецъ** – *тое, што і* **малжонокъ**: на томъ всемъ учинилемъ оправу помененый молжонецъ моей милой (АВК, II, 214, 1580).

**Молие** – *зб. ад* **моль**[1]: ризы ваша молие поедоша (Будны, 63).

**Молитва (малитва) – 1)** *малітва*: мл҃твами и ѡфѣрами бога взывали (Алекс., 6); **2)** *маленне*: чл҃вкъ нѣꙗкиѕ... до манастыра длꙗ малитви пришедши ѡбачилъ лва носѧчого водѹ (Пралог, 489); **3)** *малебен*: окуней... отнесли отцу епископу, просячы благословеня и молитвы по всихъ церквахъ (ИЮМ, XIII, 51, 1699).

**Молитвеникъ (молитвенникъ)** – **1)** *тое, што і* **молитовникъ**: молитвеникъ словеса гн҃ѧ она гл҃етъ (Навука, 40); **2)** *месца для малення*: вошла в молитвеникъ (Біблія, 565); **3)** *малітвеннік*: книжки и молитвенникъ Перкуру (АВК, VI, 243, 1624).

**Молитовка** – *памянш. ад* **молитва**: ѿѻѣровал щире гд҃ꙋ бг҃ꙋ мл҃товкꙋ (Зб. 261, 100б).

**Молитовникъ** – *заступнік*: защититель ѿт зноѧ... молитовникъ ѿт ꙗзвы (Скар. ІС, 55б).

**Молитовница** – *месца малення*: ꙋчинилˢ затымъ внутри молитовницу (Скар. ТЦ, 134б).

**Молла** – *мула*: тые две волоки ужываеть молла (АВК, XXXI, 126, 1592).

**Молниеносецъ** – *той, хто нясе маланкі*: Спѵрідѡнъ, молніеносецˢ (Бяр., 311).

**Молния (молнья)** – *тое, што і* **молонья**: как молныꙗ свѣтъ ѿт земли восиꙗвъ (Чэцця, 205); быша молніѧ велекаѧ и громы (Зб. вып., 89б).

**Моловство** – *пасада мулы*: был прихожим з отцом своим на моловство до продка ег князя Асановог Абрагима (АВК, XXX, 458, 1612).

**Молодежь** – **1)** *тое, што і* **молодь**: за оголошеньемъ войны не ѣдꙋтъ оучоныи и вельможи на ню... а хто жъ идетъ, молодѣжъ, оубозство и хлопство (Мак., 342); **2)** *маладняк*: у другомъ дворцы... гусей з молодежомъ двѣ копе (АВК, XXII, 238, 1565); **3)** *малады лес*: почынается пета тое границы... зъ ложъчины молодежомъ (АЮЗР, I, 233, 1589).

**Молоденецъ** – *тое, што і* **млоденецъ** *у 2 знач.*: товиꙗ... ꙋмираючи призвал сына своего и семи молоденцов внꙋков своих (Біблія, 601).

**Молодень** – *малады чалавек*: просилъ насъ молодень абыхъмо емꙋ роки положили на которыи роки маеть того заводцꙋ перед нами ставити (КВЗС, 80б, 1533).

**Молодецъ** – **1)** *малады чалавек*: еще есми малъ почалъ служити и служилъ есми до узрослого молодца (АСД, VI, 15, 1522); **2)** *удалец*: онъ былъ таковый молодецъ добрый, што жъ иного въ Литвѣ нетъ (АЗР, II, 49, 1508); **3)** *слуга*: он, идучы зо мною в рыболовство, нанялсе мне быт молодцом (АВК, XXXIX, 469, 1579).

**Молодикъ** – **1)** *юнак*: такъ старые, яко и молодики... удались некоторые въ убоство (ИЮМ, VIII, 368, 1621); **2)** *маладая жывёла*: Юнецъ: Быкъ молодикъ, ꙗрок (Бяр., 207); **3)** *маладзік*: напал снег мсца ноемвбра є҃ молодика (Бяpк., 107б).

**Молодица** – *маладзіца*: молодица красна позором (Зб. 262, 128).

**Молодость** – *маладосць*: свои лѣта квитнꙋчую молодост ꙋтратите (Зб. 82, 36б).

**Молодь** – *моладзь*: григореˢ... мешкал в алеѯандрѣи, где сѧ много молоди на цвиченѧ философии и докторъской наꙋки зежчало (Зб. 82, 158б).

**Моложа** – *маладыя лес*: зоставили есмо землю свою власную... з моложами, насыпами, зарослями (ИЮМ, XXI, 408, 1623).

**Молоко (малако)** – **1)** *малако*: купили... малака и сметаны (ИЮМ, XXI, 1, 1711); **2)** *белаваты сок некаторых пладоў*: мѧсо боранье... с молоком с микдаловым (Арыст., 211).

**Молонья (маланья, моланья, молония)** – *маланка*: в томъ часѣ громъ быст великии и моланьꙗ (Чэцця, 181); оувидить ли ѡгнище и гром и молонію (Арыст., 194); было возренье его ꙗкъ маланьꙗ (Цяп., 42); блискане молони было (Барк., 162б).

**Молото** – *тое, што і* **молотъ**[2]: для тыхъ же воловъ молото купили ушатки два, травы возъ (ИЮМ, IV, 119, 1686).

**Молотокъ** – *малаток*: взято... два молотки, што жорны куютъ (АВК, XVII, 439, 1563).

**Молотъ**[1] – **1)** *молат*: взято молотъ великий, наковальня (АВК, XVII, 440, 1563); **2)** *дэталь гадзінніка*: зекгармистру... заплатили... за напъраву молота (ИЮМ, I, 118–119, 1680).

**Молотъ**[2] – *цеста з сумесі мукі розных гатункаў*: молотомъ, который свини ѣли, своего черева наполнити не моглˢ (Варл., 96).

**Молотьба (молотба)** – *малацьба*: доженетъ оу васъ молотба збиранѧ вина (Каліст, II, 205); здастсе же велико жниво, а коли приˢде до молотбы ажъ все солома (Зб. 255, 217б).

**Молотье (молотие)** – *размолванне*: позволяю... для молотія вшелякого сбожа... мѣти одни жорны (АВК, III, 22, 1591); завсегды вольное молотье маютъ мѣти (АЮЗР, II, 9, 1600).

**Молоченье** – *малацьба*: гумно на молоченье збожа (АВК, VI, 57, 1589).

**Молочное** – *малочныя прадукты*: молочного – сыровъ на сырънику углястыхъ малыхъ копа одна (АВК, XX, 137, 1598).

**Молчанье (мовчанье, мовченье, молчание, молченье)** – **1)** *маўчанне*: словъ мудрых$^{s}$ людеи послухаи с молъчанием$^{s}$ (Скар. ЕК, 15); долеглость таковую... из мовчаньемъ вытрвати могъ (Апакр., 214); Артаѯерѯ... мовчѣнье, або кваппивость намовлѧючій (Бяр., 236); **2)** *неўзбуджэнне судовай справы*: тые сеножати имъ на вѣчность присудили, а Васильцу... молченье сказали (АВК, XVII, 40, 1539); **3)** *цішыня*: Безмолвіе: Тихост$^{s}$, молчане (Бяр., 2).

**Моль[1]** – *моль*: моль казить ризу и червь древо (Скар. ПС, 39).

**Моль[2]** – *часцінка, пункт*: Астарѡѳъ: Череды... або мол законȣ (Бяр., 239).

**Мольба (молба)** – **1)** *упрошванне*: Моленіе... молба, покорнаа прозба (Бяр., 41); **2)** *маленне*: мольбы повседневные... полнити маютъ (АЗР, III, 246, 1579).

**Молярова** – *жонка муляра*: жаловал на Мокарову молярову (АВК, XXXIX, 339, 1579).

**Моментъ** – *момант*: хори$^{s}$ кгды мовȣ ȣтрачает в ѡстатнемъ моменте житиꙗ своег на$^{s}$дȣетсꙗ (Зб. 259, 151).

**Монархия** – *манархія*: Болеслав... выбран на монархию полскую (Хр. польск., 5б).

**Монархъ (монарха)** – *манарх*: то мовит не корол не монарха не цесар, але бг҃ъ (Зб. 261, 248б); выбрали его вси за монарха (Бельск., 189).

**Монастырокъ** – *памянш. ад* **монастыръ**: они монастырокъ мой сокольский... в дозоре своимъ мети маютъ (АВК, XX, 249, 1617).

**Монастыръ (манастиръ, манастыръ, маностыръ, монастарь, монастеръ, монастиръ, монястирь, намастыръ)** – *манастыр*: положилъ есми сіе еуангелье у нашемъ монастыри (АЗР, I, 27, 1399); цр҃кви и манастыри пожьгли (Увар., 108); зложили есмо были собе рокъ изъ чоловекомъ намастыра (АВК, XVII, 152, 1540); присылалъ... врадникъ архимандрыта Узнесеньского маностыра (АВК, XXXVI, 193, 1582); то подъ владзою и юриздикціею урадовою зъ онымъ монастеромъ (АВК, IX, 152, 1582); манастиры ȣ нас мѣстца при ст҃о$^{s}$ церкви (Бельск., 199); мѣшкала вжо у монастари (АВК, XIII, 87, 1635); ѡбщина: кіновіа, монастир (Бяр., 194); ночъ мене тутъ зашла, идȣчȣю з ѡдного монꙗстирꙗ (Пралог, 490б).

**Монахъ** – *манах*: за тог генадиꙗ патриархи зачалсꙗ закон монахов, которых зовут неспꙗчими (Бельск., 314б).

**Монашка** – *манашка*: надъ калугерами, монахами, черницами, монашками... моцъ зуполную буде мети (АЗР, IV, 262, 1607).

**Мондатъ** *гл.* **мандатъ**.

**Монестацыя (монестация)** – *выпіс з судовай кнігі*: суди оршанскому за выдане монестацией... дали золот. десять (ИЮМ, II, 93, 1684); аенту за выписане съ книгъ монастацыи и процессовъ дали зол. три (там жа).

**Монета (манета, манита, монита, монэта)** – *манета; валюта*: колиж ѡдин гсдръ всих есть тогды ѡдна манита маеть быти (Вісл., 34б); именье Любешь панъ Рачко выкупилъ... въ шестидесятъ копахъ грошей польское манеты (КСД, 343, 1516); ѡ ѳалшованю монэты ѡ мынцахъ и ѡ золотарэхъ (Ст. 1566, 12); монета золотаѧ без набит$^{s}$ѧ гербȣ кролевского в$^{s}$ гандлю кȣпецства не заживаетьсѧ (Мак., 284); шелеговое мониты золотыхъ тысяча (ИЮМ, XV, 12, 1686). ◊ **Монета широкая** – *сярэбраная манета годнасцю ў чвэрць грыўны*.

**Монеторъ** – *чаканшчык*: были монетори, што минцȣ справовали (Бельск., 166б).

**Мониментъ** *гл.* **муниментъ**.

**Монисто (манисто)** – *маністы*: вложи... шию твою в манисто (Скар. ІС, 13); монисто коштовное, што въ золотомъ инкирку (АЮЗР, I, 76, 1529).

**Монка** – *тое, што і* **мука**[2]: монки до пироговъ полмерки (ИЮМ, XIV, 17, 1700).

**Монополия** – *манаполія*: ѡ монополии то есть недаваньꙗ ѡдноˢ ѡсобе въ аренъдꙋ и заведане пожитковъ всеˢ речи посполитоˢ (Ст. 1588, 118).

**Монствъ** – *тое, што і* **монструмъ**: смотрили на монства и страшидла (Зб. 261, 82б).

**Монстранцыя** – *дараносіца*: подъехавшы подъ костелъ... капъ, антепедий, обитья, монстранцый... забрали (АВК, XXXIX, 81, 1680).

**Монструмъ** – *страшыдла*: чл҃вкъ той... бестіа естъ монъстрꙋмъ естъ (Каліст, I, 5).

**Монштукъ** *гл.* **мунштукъ**.

**Моравецъ (муравецъ)** – *ураджэнец Маравіі*: названи... мꙋравци ѡт мꙋровы реки (Стрыйк., 429б); з моравцами своими наˢперевеˢ ѡкрестилсꙗ (там жа, 433б).

**Моравянинъ** – *тое, што і* **моравецъ**: моравꙗны начинивши шкод в полщи и лупꙋ немало набравши верталисе до своих (Хр. польск., 2б).

**Морва** – *шаўкоўніца*: слоном ꙋказовали кров ꙗгодъ винныхъ и морвы, абы ихъ заюшили ку битвѣ (Кн. Мак., 57).

**Морганье** – *марганне*: ест зневажене... знаком то ест през моргане (Зб. 261, 244б).

**Моргъ** *гл.* **моркгъ**.

**Морда** – **1)** *морда*: продал коня... на морде бородавочка (АВК, XXXIX, 573, 1579); **2)** *твар чалавека (зняважліва)*: я гетого чорта кулакомъ въ морду (Мял., 317).

**Мордерство (мардерство)** – *катаванне*: сказалъ... за таковое мардерство выдати его на ратушъ на згубенье (КСД, 247, 1515); великое забиˢство, мордерство, кровопролитство поделали рокошаномъ (Барк., 171б).

**Мордерца (мордырца)** – *тое, што і* **мордеръ**: Томитель... мордырца (Бяр., 1710); мордерца ꙗко тигрисъ... мнимает же правдиве забиꙗет (Зб. 259, 580–580б).

**Мордеръ (мордаръ, мордыръ)** – *кат, мучыцель*: посланъ же пилат до людеи ѡкроутных своих соудеи мордаревъ (Пак. Хр., 23); мордеръ безъ литости маеть быти каранъ горломъ (Ст. 1588, 402); Сікаръ: ій: Мꙋжобойца, разбойнікˢ, мордыръ (Бяр., 309).

**Мордованье** – *мардаванне*: през цѣлыˢ рокъ теды длꙗ збитꙗ и мордованꙗ ѡного лежал (Зб. 107, 128).

**Мордъ** – *разбой, здзек*: морды, забійства чинять (КПД, 499, 1568).

**Море** – **1)** *мора*: чвороногіи быдла вˢ море вкиненыи тонꙋтъ (Мак., 123); **2)** *перан. вялікая колькасць чаго-н.*: по комъ слезъ обфѣтое море (Лям., 15). ◊ **Море житейское** – *жыццё з яго клопатамі і хваляваннямі.*

**Моренье** – *марэнне*: везеньемъ, битьемъ, мореньемъ... надъ нимъ водлꙋгъ мысли своее выконывалъ (Ст. 1588, 424).

**Морква** – *тое, што і* **морковъ**: моркви бочка шесть грошеˢ (Ст. 1588, 514).

**Моркговое** – *тое, што і* **моркговщина**: отобрали водлугъ реестру ихъ порахованого моркгового золот. сорокъ пять (ИЮМ, VI, 16, 1689).

**Моркговщина (морговщина, моркговщына)** – *зямельны падатак*: отъ бирчихъ отобрали... морговщины золотыхъ тридцать (ИЮМ, VIII, 20, 1691); не платили моркговщины (ИЮМ, IX, 87, 1692); далъ моркговщыны... золот. семнадцать (ИЮМ, XI, 16, 1697).

**Моркгъ (моргъ)** – *морг, мера зямельнай плошчы, роўная палавіне дзесяціны*: огородъ тое церкви надъ озеромъ морги два (АСД, I, 6, 1507); моркгъ земли погною за копу грошеˢ, полѧ простого моркгъ за пꙗтьдесꙗт грошеˢ (Ст. 1588, 260).

**Морковъ (морковь)** – *морква*: ув огороде засеено... морковъ, постарнакъ (АВК, XXXVI, 240, 1582); петрушку, морковь покопалъ (АВК, XX, 76, 1592).

**Морнаръ** – *марак*: пустилъсѧ на море и рече морнаромъ: везите нас к Чорному ѡстрову (Трыст., 107).

**Моровка** – *мурашка*: на гроб ȣмерлог кладȣт стравȣ... ѣстъ то хто хоче, ȣбогие люде, пелгрими, псы, птахи, моровки (Бельск., 410б).

**Морозъ** – *мароз*: снеги великие и силные были морозы (Барк., 164б).

**Морокъ** – **1)** *морак, цемра*: Мракъ: Морокъ, мгла (Бяр., 81); **2)** *змрок, прыцемкі*: нехай его ѡсѧде морокъ (Біблія, 81).

**Моршалокъ** *гл.* **маршалокъ**.

**Моръ** – *мор*: было поветрие албо моръ на люди перехожих (Барк., 162б).

**Мосендзъ (мосенцъ, мосиондзъ, мосионзъ, мосяжъ, мосязъ)** – *латунь*: продавати маютъ... мѣдь, цынъ, мосяжъ... центнаромъ (АЗР, I, 180, 1498); з мосендзȣ казали вылит венкгрове на кони седѧчог человѣка (Стрыйк., 502б); вынѧл з пазухи своеи велми дивнȣю таблицȣ ȣчиненȣю з мосѧзȣ (Алекс., 2); Илекторонъ: Бȣршынъ, мосіондзъ (Бяр., 277); шлей пару узычылъ оправныхъ мосенцемъ (ИЮМ, VI, 7, 1689); шлей пару зъ мосіонзомъ купили (там жа, 72, 1689).

**Мосенжникъ (мосяжникъ)** – *рамеснік, які вырабляў прадметы з латуні*: Ковачъ мѣди: Котлѧръ, мосѧжникъ (Бяр., 65); за направу лехтара... мосенжнику дали осм. двадцать (ИЮМ, V, 129, 1688).

**Москаликъ** – *памянш. ад* **москаль**: отецъ мой увъ избе съ москаликомъ сыпалъ (ИЮМ, VIII, 344, 1617).

**Москаль** – *выхадзец з Маскоўскай дзяржавы*: его жъ был обжаловал москал о бой и зраненье свое (АВК, XXXVI, 51, 1582).

**Москвитинъ (московитинъ)** – *тое, што і* **москаль**: былъ в мене наѕмит москвитин на ѕмѧ микитка (КВЗС, 105б, 1539); тотъ человекъ московитинъ (АЗР, IV, 266, 1608).

**Москвичъ** – *тое, што і* **москаль**: пришли москвичи с татары и звоевали Вѧземскȣю землю (Увар., 108).

**Московка** – *ураджэнка Маскоўскай дзяржавы*: полонянку московку... продал на выробок учстивому Тимошку (АВК, XXXIX, 332, 1579).

**Москоля** – *дзіця з Маскоўскай дзяржавы*: там есмо достали сполне кобылъ две, ребят москолят два (АВК, XXXIX, 339, 1579).

**Москъ** *гл.* **мозгъ**.

**Мослокъ** – *маслак*: мослоки ег ѧко беремѧ желѣзное (Зб. 262, 29б).

**Мостище** – *месца, дзе быў мост*: тою дорогою мало поехавши направо гран въ реку в мостище вышей ставка (Пін., 28, 1517).

**Мостница** – *масніца*: мостьници замостили (АЗР, I, 83, 1468).

**Мостовникъ** – *мастаўшчык*: Стась Петрашковичъ и Ивашко Рымковичъ – мостовники господарьскии (АВК, XVII, 29, 1539).

**Мостовничий (мостовничый)** – *наглядчык за мастамі*: мостовничій... маетъ только людей боярьскихъ у мощенью мостовъ доглядати (АЗР, III, 87, 1557); мостовничый его королевское милости пограбил в них коней (АВК, XXXVI, 68, 1582).

**Мостовничое** – *тое, што і* **мостовничство**: городничое, ключъ и мостовничое, ижъ николи къ староству не прислухали (АЗР, III, 65, 1554).

**Мостовничство** – *пасада наглядчыка за мастамі*: принесено ми листы кролѧ его млсти на мостовничство пинское (Еўл., 20).

**Мостовое** – *тое, што і* **мостовщына**: на мостехъ мостовое абы не брано (КПД, 234, 1554).

**Мостовщына** – *пошліна за карыстанне мастамі*: не казал на его людех манастырских стацеи брати и мостовъщыны (ПГ, III, 72, 1511).

**Мостокъ** – *памянш. ад* **мостъ**: у мостка на сторожы былъ (ИЮМ, VIII, 267, 1600).

**Мостъ – 1)** *мост*: кажешъ... на Нѣмнѣ на мосту мыто на нихъ брати (АЗР, I, 351, 1503); **2)** *брук*: мостъ мостили на улицы (ИЮМ, VI, 178, 1689); **3)** *падлога*: купили таръчыцъ двадцать на мостъ у избе (ИЮМ, XIII, 49, 1699).

**Мосхусъ** *гл.* **мскусъ**.

**Мосяжъ** *гл.* **мосендзъ**.

**Мотачъ** *гл.* **матачъ**.

**Мотлохъ (мотлокъ) – 1)** *зброд*: великій князь Московскій войска свои вже собраные маетъ, которыхъ повѣдають почотъ барзо великій, только дей мотлохъ (АЗР, III, 259, 1580); **2)** *статак жывёл нізкай пародзістасці*: семсотъ коне^s^ мотлокȣ до домȣ вернȣ*л*, а з тринад*ца*т*ю сотъ толко зоста*л* (Хр. польск., 16).

**Мотокъ (матокъ)** – *маток*: пражи... мотковъ шесть (АСД, I, 183, 1590); патерокъ... матковъ двадцать (ИЮМ, XXI, 423, 1625).

**Мотузъ** – *матуз*: ȣжище, поворозъ, стрычок, шнȣръ, мотȣз^s^ (Бяр., 177).

**Мотыка (мотика)** – *матыка*: при возе возница з рогатиною, зъ сокерою, з рыдлемъ, з мотыкою (КПД, 414, 1567); мотикȣ взꙗвши... землю копа*л* (Бельск., 265б).

**Мотыль** – *матылёк*: такие с*ȣт* геретыки, в которы*х* сѣти то*л*ко м*ȣ*хи комары мотыли су*т* попадали (Зб. 259, 228б).

**Мохоръ** – *султан, кутас*: взѧлъ мохры и пȣкли которыми шіи велбȣдовъ црскихъ звыкли быть ѡздоблены (Хран., 179).

**Мохра** – *тое, што і* **мохоръ**: мохра китайки черленое (АВК, XXI, 168, 1557).

**Мохъ – 1)** *мох*: моху возы два до сали (ИЮМ, II, 133, 1648); **2)** *мохавае балота*: ручьемъ по мху въ Красный мохъ (АВК, XIII, 11, 1508); **3)** *перан. валасы на твары*: волосы то*л*ко на варгахъ маючи и троха штось мхȣ на вышней части поличковъ (Мак., 18б).

**Моца** – *тое, што і* **моцъ** *у 4 знач.*: далъ его милость войту суполную моцу судити и осудити, карати и стинати (АЗР, II, 10, 1507).

**Моцарство** – *улада*: моцарствомъ свѣцкимъ были по*д*дани (Апакр., 197).

**Моцаръ (моцяръ) – 1)** *уладар*: складаеть моцѧре и*с* столца и повышае*т* покорне (Валх., 55б); **2)** *асілак, волат*: ахиле^s^ заби*л* троила моцара троꙗ*н*ского (Бельск., 87).

**Моцность – 1)** *моцнасць*: слупы чотыри подставили подъ балки... для моцности балекъ (ИЮМ, V, 29, 1688); **2)** *дужасць*: аркули*с* своею великою мо*ц*ностью ȣси неприꙗтели мои ȣв окрȣ*т*ности валки полама*л* (Троя, 8б); **3)** *знатнасць*: Оніанъ: Моцност^s^ панскаѧ (Бяр., 300); **4)** *стойкасць*: люде свое^s^ веры моцность держали (Барк., 151б); **5)** *уздзеянне*: аматы*ст* ȣскромлꙗе*т* моцно*ст* вина (Алекс., 22).

**Моцъ – 1)** *сіла*: не маешъ моцы в ногахъ (Алекс., 73б); **2)** *трываласць*: зкрȣшилисꙗ в моцы луки ихъ (Біблія, 104); **3)** *улада*: моцъ права посполитого... до выконаньѧ своего завжды приходила (Ст. 1588, 173); **4)** *паўнамоцтва*: мають ѡбрати послов... даючи имъ мо*ц* на то*м* таково*м* ва*л*но*м* соиме поступовати (Ст. 1566, 29); **5)** *умацаванне*: моцы нбсные подвигн*ȣт*сѧ (Каз. Кір., 52); **6)** *вялікая колькасць*: набра*л* з собою мо*ц* всꙗки*х* звѣрꙗ*т* (Стрыйк., 414б).

**Моча** – *тое, што і* **мочъ**^2^: ѡ выходе*х* предреченны*х* ꙗко ка*л* и моча (Арыст., 182).

**Моченье** – *мачэнне*: моченья пеньки вольно по старому обычаю (АВК, XIII, 12, 1508).

**Мочильнище** – *тое, што і* **мочыло**: на две солянки поля подле сеножати... по край дороги к мочильнищамъ (АВК, XXI, 360, 1558).

**Мочукга** *гл.* **мачуга**.

**Мочъ (мочь)^1^ – 1)** *тое, што і* **моцъ** *у 1 знач.*: ѡ жона*х* которыи пре*з* мочъ взѧты (Хран., 155б); **2)** *тое, што і* **моцъ** *у 3 знач.*: паде на землю мочь великая (Увар., 10б).

**Мочъ (мочь)^2^** – *мача*: мочъ свою пиѧлъ (Мак., 13); пили мочь свой (Хран., 344б).

**Мочылина** – *тое, што і* **мочыло**: у мочылине указовали намъ тые бояре на дубе побапаполъ, где знать рубежы были повысечоные (ИЮМ, XXIII, 311, 1630).

**Мочыло** – *мачыльня*: одъ того оборку мочыломъ (ИЮМ, XXIII, 485, 1630).

**Мошка** – *мошка*: Скніпы, или кніпы: Мѡшки (Бяр., 310).

**Мошна (машна)** – *скураны мяшочак для грошай*: отняли пятнадцать грошей з машною (АВК, XXI, 100, 1555); у Савиное молодицы урвали мошну з грошми (АВК, XXXIV, 421, 1666). ◊ **Мошна посполитая** – *грамадская казна*.

**Мошница** – *торбачка*: вынѧлˢ камень единъ з мошницы (Скар. ПЦ, 38).

**Мошокъ** – *памянш. ад* **мохъ** *у 2 знач.*: подаласе граница... суходоломъ въ Дубовецъ, да въ мошокъ (АВК, XIII, 12, 1508).

**Мошонка (машонка, мошенка)** – *памянш. ад* **мошна**: поесъ з мошонкою у мошонце пять грошей (АВК, XXII, 153, 1555); Вълагалище: мѣшок, мошенка (Бяр., 21); купили машонку... на ховане куль (ИЮМ, XIV, 37, 1700).

**Мошонкорезъ** – *кішэннік*: Мошнорѣзец: Мошонкорѣзъ (Бяр., 81).

**Мощалина** *гл.* **мождчалина**.

**Мощенье** – *машчэнне*: заплатили за чотыри возы хворосту на мощене лужы за брамою (ИЮМ, X, 100, 1695).

**Мощи (мощы)** – *мошчы*: мощы светыхъ церковь Восточная завжды въ почтивости мѣла (Гарм., 134); мощи его по тріехъ днехъ не ѡбретенны быша (Зб. вып., 88б).

**Мощъ (мощь)**[1] – *тое, што і* **моцъ** *у 3 знач.*: реклъ гсдь до жены:... под мощью бѹдешъ мѹжнею (Хран., 10); длѧ того іерей и дыхаетъ трыжды на тое дѣтѧ... заклинающи діавола мающаго мощъ над оглашеннымъ (Зб. вып., 13б).

**Мощъ (моштъ)**[2] – *муст*: моштоу точила твои силны бѹдѹть (Зб. 262, 94); Местъ: Новое вино, мощъ, или вино молодое (Бяр., 78).

**Мравий (мрравей)** – *тое, што і* **муравей**: иди ко мравиемъ о лѣнивыи, и знаменаи пути их (Скар. ПС, 12); тоужить ꙗко пооук смиренъ ꙗко мрравеи (Арыст., 160).

**Мразъ** – *тое, што і* **морозъ**: есть стіхіѧ то есть ледъ, снѣгъ, мразъ (Хран., 1б).

**Мракъ** – **1)** *тое, што і* **морокъ** *у 1 знач.*: возва гсдь Моисеѧ ѡт среды мрака (Скар. КВ, 45); **2)** *тое, што і* **морокъ** *у 2 знач.*: тма покрываеть землю и мракъ (Будны, 174б).

**Мраморъ** – *тое, што і* **мармуръ**: стены пакъ были ѡт каменѧ шмарагда и мрамора (Скар. КЕ, 3б).

**Мрачность** – *хмарнасць*: ѹсходить солнцѣ рано безъ мрачности (Скар. ДЦ, 112б).

**Мрежя** – *мярэжа*: петрь ж ѡставил ладью и мрѣжю пошол ко хсоу (Чэцця, 225).

**Мровка** – *тое, што і* **моровка**: мровѡкъ сталисмо оучениками, мровѡкъ наслѣдованемъ живемо (Каліст, I, 152б).

**Мрокъ** – **1)** *тое, што і* **морокъ** *у 1 знач.*: оуставѣчный дворочногѡ вѧзенѧ егѡ подземный темничный мрокъ (Сматр., 33); **2)** *тое, што і* **морокъ** *у 2 знач.*: тутъ была рада знову, што чинити зъ оною умученою панною Красовскую, ажъ до мроку (АЗР, V, 76, 1645).

**Мруганье (мругание)** – *тое, што і* **морганье**: шаты ѡтменꙗла, непочтивым мрѹганем, смѣшки жарты и словы кгамрацкими склонѧючи его серце к собѣ (Бельск., 27б); ѡна его побужала и мрѹганием ѡчъю, ѹбирами и уродою своею (Пралог, 528б).

**Мскусъ (мосхусъ)** – *мускус*: рѹки мои покапали мскѹсомъ (Зб. 262, 84б); звыкли грекове до оливы и балсамѹ прикладати … мосхѹсъ или пижмо (Зб. вып., 1б).

**Мстиславецъ** – *жыхар Мсціслаўля*: на мстиславцахъ и на кричовцахъ и на иныхъ купцахъ нашихъ... взвѣстки не бирали (АЗР, I, 361, 1505).

**Мститель** – *мсцівец*: высвобоженˢ будеть... ѡт руку мстителѧ (Скар. ЛК, 72б).

**Мудрецъ** – **1)** *мудрэц*: философъ и мудрецъ написалъ (АЗР, IV, 472, 1615); **2)** *вяшчун*: призвавˢ мд҃рецовˢ и выпыталъсѧ ѹ нихˢ часѹ ѹказаньѧ звезды (Цяп., 3).

**Мудрованье (мудрование)** – *мудраванне*: которій выбадает срдца вѣдает што есть мѹдрованіе дх҃а (Каз. Кір., 184); Мѫдрованіе... мѹдрование, мышлене, розмышлѧне (Бяр., 82).

**Мудролюбецъ** – *мысліцель, філосаф*: Любомѹдрец, мѹдрый, кохаючіисѧ в мдрости, мѹдролюбец (Бяр., 320).

**Мудрость – 1)** *мудрасць*: при простотѣ голѹбиноѕ заховалъ ѹжовѹю мѹдрост (Пралог, 491); **2)** *мудрыя выказванні*: до соломона была приехала слѹхат мѹдрости его (Стрыйк., 417б).

**Мужатка** – *замужняя жанчына*: не ест ани панна ани мужатка (Зб. 107, 197).

**Мужебойство** *гл.* **мужобойство**.

**Мужеложникъ (мужоложникъ)** – *гомасексуаліст*: праведному законъ не естъ положенъ но... мужеложником (Скар. ДЗ, 2б); грѣшать... мѹжоложници (Будны, 84б).

**Мужеложство (мужоложство)** – *гомасексуалізм*: згрешил... мѹжоложством (Бельск., 293б); мѹжеложство, скотоложство Бг҃ѹ и людемѕ мерзскіе грѣхи (Навука, 55).

**Мужелюбица** – *жонка, якая любіць*: бл҃гословенъ плодъ оутробы твоеꙗ моужелюбице (Чэцця, 79б).

**Мужество (мужство, музство) – 1)** *тое, што і* **мужность**: грекове... ѹ своем мужствѣ ѡкрутнеи а твердеи к валце приступили (Троя, 21б); за музством слава ходит (Стрыйк., 481); **2)** *сталасць*: некоторые людѣ в жывоте матки гинуть... дрѹгие в младенъстве, дрѹгие в мужестве (Зб. 255, 426б).

**Мужеубиецъ** – *тое, што і* **мужобойца**: Архімагиръ... гетман, мѹжеѹбиец (Бяр., 237).

**Мужикъ (мужыкъ) – 1)** *селянін*: мужикъ у мужика земли на вечность купити не можетъ (АВК, XVII, 344, 1541); **2)** *мужчына*: не вѣдаете ль вы того, што часто сѧ прыгожает межы мужыковъ и невѣст (Трыст., 43).

**Мужица** – *тое, што і* **мужатка**: невѣстѹ... мужицею значит (Выкл., 5б).

**Мужичокъ** – *памянш. ад* **мужикъ** *у 2 знач.*: прибегъ до мене ополудни мужичокъ мой до дому (АВК, XVII, 428, 1561).

**Мужность** – *мужнасць*: мѹжност не належит толко в великости людѹ (Алекс., 1).

**Мужобойство (мужебойство)** – *чалавеказабойства*: мужобойства не допустил учинити (АВК, XXXVI, 366, 1582); мѹжебойство, и чѹжеложство, и злодѣйство, всѧкій грѣхъ пополнилсѧ (Каз. Кір., 36).

**Мужобойца (мужбойца, мужебийца, мужебойца, мужобийца, мужобуйца)** – *забойца*: ѡнысѕ мужобоѕца маеть седѣти (Ст. 1566 І, 86); за выпущене с турмы... мужбойцов чотырох... платил (ИЮМ, XXXII, 54, 1578); маетъ его яко мужобуйцу... на горлѣ скарати (АВК, VI, 40, 1589); мѹжобийцѹ... поведѹт до старшихъ (Біблія, 225); их зновѹ дано до везенѧ... ꙗко мѹжебоѕци (Зб. 107, 97); зродит члв҃къ сына непокорногѡ и мѹжебіицѹ (Хран., 156).

**Мужоложство** *гл.* **мужеложство**.

**Мужоубийство** – *тое, што і* **мужобойство**: с которого жерела выникнѹли... разрѣшеньѧ казирѡдствъ, кривоприсѧжствъ, мѹжооубійствъ (Апакр., 171б).

**Мужство** *гл.* **мужество**.

**Мужчизна (мужчызна, музчизна, музчызна, мущизна, мущызна) – 1)** *тое, што і* **мужчина** *ў 1 знач.*: моузчизны и невѣсты... выгладити спорѧдилъ (Каліст, І, 148б); не можетъ тежъ музчызна дѣтей пріймовать, одно бѣлая голова (АСД, III, 138, 1631); часов набожных мѹщызны ѡсобно ѡт белых головъ ходили (Зб. 255, 334); мнила быт еи мѹжъчызною (Зб. 82, 19б); гермафродитъ, то есть чл҃вкъ который оразъ естъ мѹщизною и невѣстою (Зб. вып., 54б); **2)** *тое, што і* **мужчина** *ў 2 знач.*: если мѹжчизна ѡсмог днꙗ его мают ѡбрѣзат (Бельск., 56); **3)** *мужчынскае насельніцтва*: звитꙗживши ихъ всю мужчизнѹ побили (Біблія, 211).

**Мужчина (мущына) – 1)** *мужчына*: кроль пред него вшелѧкіе речи ведлѹгъ своего рожаю приводити... росказалъ, то есть мѹщынѕ на едном мѣстцѹ, на иншом невѣстѕ (Варл.,

**Непрыбытье** *гл.* **неприбытье.**

**Непрыготованье** – *непадрыхтаванасць*: на пытане не ѹмѣлъ ѡтповедати длѧ своего непрыготованѧ (Навука, 87).

**Непрыездъ** – *непрыезд*: на тую маетность свою ехать не могъ, а за непрыездомъ моимъ спалено (АВК, XX, 196, 1602).

**Непрыезнь** *гл.* **неприязнь.**

**Непрызнанье** *гл.* **непризнанье.**

**Непрынятье** *гл.* **непринятье.**

**Непрыятель** *гл.* **неприятель.**

**Непщевание** – *меркаванне*: Зазрѣніе: Подозрѣнье, непщеваніе, мнѣманіе (Бяр., 48).

**Нерадение (нерядение)** – *нядбайнасць*: не вспоминаючи иншого ихъ нерядѣнія (АЗР, IV, 79, 1594); Радѣніе: чѹлость, дбалостˢ, ѡ сегѡ нерадѣніе (Бяр., 134).

**Нерадница (нерядница)** – *распусніца, блудніца*: Блѹдница: Нерѧдница, або посполитаа вшетечница (Бяр., 8); звитѧжила Самъсона нерадница (Зб. 259, 595б).

**Нерадность (нерядность) – 1)** *тое, што і* **нерадъ** *у 1 знач.*: абы такого замѣшанья и нерадности въ законѣ христеянскомъ не было (АЗР, II, 388, 1542); **2)** *тое, што і* **нерадъ** *у 2 знач.*: девка... в тоˢ бы сѩ нерѩдности... в малженство не пошла (Ст. 1566 I, 72б).

**Нерадъ (нерядъ) – 1)** *беспарадак*: бачачи сплошенство и нерядъ, которое жъ вошло межи поддаными его милости (АЗР, II, 9, 1507); **2)** *распуста, разбэшчанасць*: то ест вшетеченство и нерад, которог пан богъ срокго заказѹет (Зб. 261, 254).

**Неразделность** – *непадзельнасць*: неразъделностью справъ ѡтца и сына то показѹетъ (Унія, 11).

**Неразуменье** – *няведанне, неразуменне*: померканье ес и неразоумѣнье ѡ грѣсѣх, а свѣтъ ес то вѣдаи и разоумѣи (Чэцця, 217).

**Неразумие** – *тое, што і* **неразумность**: Невѣденіе: Неразѹміе (Бяр., 91).

**Неразумность** – *дурасць*: лепший естъ человѣкъ онъ же таить неразумность свою, нежели той онъ же сокриваеть мѹдрость свою (Скар. ІС, 33).

**Нерана** – *непараненае месца*: каждую рану или нерану срдца ѹзрить (Скар. ІС, 41б).

**Нердъ** – *тое, што і* **нардъ**: нердъ мои далъ запахъ свои (Зб. 262, 83).

**Нерестовищо** – *нерасцілішча*: кгрунтовъ, лѣсовъ, сѣножатей, рѣкъ, болотъ, гатовъ, нерестовищъ... привлащаючи (АВК, XIII, 292, 1600).

**Неробенье** – *непрацаванне*: о неслужене и неробене подданых до того именя належачых... мовити хочетъ (АВК, XXXII, 33, 1596).

**Неровность** – *няроўнасць*: намъ въ томъ именьи неровность ѡт него (КСД, 1273, 1519).

**Неровня – 1)** *тое, што і* **неровность**: же велика неровнѩ была, наши хотѣли придатѕѹ трех замков (Стрыйк., 596б); **2)** *нераўня*: неровни собѣ... за малъжонку не бралъ (Рач., 354).

**Неродичъ** – *нетутэйшы чалавек*: иншого обчого неродича тамошнего городничимъ тамъ не вставляли (АЮЗР, I, 131, 1551).

**Нерозерванье** – *непарыўнасць*: разˢ выконаное нерозерване трваеть (Навука, 164).

**Нерозлитье** – *непраліццё*: для нерозлитья напередъ крови (АЗР, II, 177, 1526).

**Нерозмыслность** – *безразважнасць*: может што славы достать з упору а з нерозмыслности (Атыла, 201).

**Нерозсудокъ** – *безразважнасць*: ѡд слѣпоты... невѣдомости и нерозсѹдкѹ до цнотъ мѹдрости и чистости срдца приведетˢ (Мак., 46).

**Нерозсужение** – *неразважлівасць*: таковая неосторожность и нерозсуженіе николи въ народѣ нашомъ не бывала (АЗР, IV, 462, 1615).

**Неростропность** – *нерастаропнасць*: ѡриген з неростропности лѣт молодых... резанцем се сам ѹчинил (Бельск., 243).

**Неротъ (норотъ)** – *нерат*: ловене рыбъ норотами, вудами... кождому з насъ вольно (ИЮМ, XXIV, 215, 1634); тые сети и нероты... для уловенья рыбъ заставлены и закиданы были (АВК, XXVIII, 275, 1646).

**Нерушанье** – *непарушнасць*: ѡшааніе: Нерꙋшанье, въздержаньесѧ (Бяр., 201).

**Нерядница** *гл.* **нерадница**.

**Нерядъ** *гл.* **нерадъ**.

**Несведомость** – *няведанне*: нехаи вас не страшыть множство непрыѧтел ани чужое краины несвѣдомость (Атыла, 194).

**Несвора** – *непаслухмянасць, свавольства*: межи людми недꙋфность, несворы и незгодꙋ имъ далей тымъ болшоую мнѡжатъ (Апакр., 220б).

**Несворность** – *тое, што і* **несвора**: крол... длꙗ тои людское несворности больше[s] в литвѣ нижли в полщи мешкал (Стрыйк., 510).

**Неседальное** – *рэлігійнае песнапенне, якое выконваецца стоячы*: вѣрныи зложили престо[s] бг҃ородицы спѣват акафист, то ест несѣдалное (Бельск., 347б).

**Несенье (несение)** – *нясенне*: розмышлꙗне кв҃ ѡ несении креста (Зб. 255, 276б); жиду за несене мяса асмакъ одинъ (ИЮМ, I, 247, 1682).

**Несказительность (неказителность)** – *нятленнасць*: на той несказительности ѡб[s]ѧвиласѧ оздоба (Карп., 1б); неказителности шатою приѡдѣты были (Каліст, I, 27б).

**Несквапливость** – *непаспешлівасць*: Долготерпеніе... ѡжидане, несквапливост (Бяр., 35).

**Несконченье** – *незавершанасць*: за которымъ нестаньемъ и нескончене делу... быти менять (АВК, XXXVI, 54, 1582).

**Нескончоность** – *бясконцасць, бязмежнасць*: нескончоност грехꙋ нескончоным досыт ꙋчыненем... достатечне згладилъ (Зб. 255, 386б).

**Нескудость** – *заможнасць*: ѡбиліе:... богатство, нескꙋдость (Бяр., 191).

**Нескудство** – *адсутнасць беднасці*: Завиство, нескꙋдство (Бяр., 47).

**Неслава** – *няслава*: дочку мою ку неславе... привел (АВК, XXXVI, 373, 1590).

**Неслуженье** – *ухіленне ад службы*: былъ каранъ виною за неслуженье службы земъское (КПД, 109, 1544).

**Неслуханье** – *непаслушэнства*: ихъ во всемъ слухаете, повѣдаючи то собѣ за наболшый артыкулъ вѣры слуханье оныхъ, а неслухане за нагоршее геретицство (Пыт., 36).

**Неслушность** – *няправільнасць*: Ава... неслушность, несправедливост (Бяр., 221).

**Несляхетникъ** *гл.* **нешляхетникъ**.

**Несмачность** – *непрыемнасць*: Безсластіе... брыдкост, несмачност (Бяр., 2).

**Несмелость** – *нясмеласць*: Малодꙋшенствіе, или малодꙋшіе: несмѣлость (Бяр., 76).

**Несмертельность (несмертелность, несмертэлность)** – *несмяротнасць*: приѧтель верныи ест лекарство души и несмертельности (Скар. ІС, 13); до несмертэлности ближеи прыступити... не можеш (Атыла, 229); дш҃ъ людскихъ несмертелности не вѣрилъ (Апакр., 64).

**Несмысленость** – *неразуменне, нявдольнасць разумець*: ѡт прироженѧ несмысленост завъстыженѧ не мѣли (Зб. 259, 48).

**Неснаска (неснастка)** – *разлад, сварка*: загасивши сполные межи собою неснаски з[s]ехалисꙗ до тарнова (Стрыйк., 526б); Ахісаръ... брат неснастки чинѧчій на кого (Бяр., 243).

**Несобранье** – *нязбор*: за несобраньемъ войска часу потребы... тегнути рачилъ (КПД, 352, 1565).

**Несогласие** – *нязгода*: несъгласіе або незгода только естъ ꙋ словѣхъ (Будны, 112).

**Несознанье** – *адсутнасць прызнання*: на Яну Дунаевичу всказано было осмъсотъ копъ грошей литовских за несознанемъ тое продажи ему (АВК, XXXVI, 329, 1582).

**Несоромяжливость** – *несарамяжлівасць*: Безсраміе, безстꙋдство, несоромѧжливост, невстыдливость (Бяр., 2).

**Неспанье (неспание)** – *няспанне*: неспание и гризение и гадкость *ест* мужу ожарливомꙋ (Скар. IC, 51); не збронѧемысѧ на тѧжкие трꙋдно*сти* неспан*и*ѧ (Бельск., 321б).

**Неспокой** *гл.* **непокой**.

**Неспокойность** – *тое, што і* **непокой** *у 1 знач.*: кривоприсѧганіе, неспокойность, кла*м*ство (Навука, 55).

**Несполненье** *гл.* **неисполнение**.

**Неспособность** – **1)** *нераздольнасць*: выстꙋпкꙋ и неспособности тое рѧдꙋ чиненье намъ было на то*т* часъ приложено (Апакр., 147б); **2)** *няспрытнасць*: в справах... омешканіа про неспособность возных не мели (ИЮМ, XXXI, 42, 1601); **3)** *непрыгоднасць*: за которого неспособности здоровья нѣшто ся въ ѣханью омѣшкало (АЗР, III, 210, 1577).

**Несправа** – *нераспарадчасць; недагляд*: за которою жъ дей несправою его... оная церковъ часомъ немало безъ попа стоитъ (АЗР, II, 403, 1544).

**Несправедливецъ** – *несправядлівы чалавек*: иншіи люде сꙋтъ драпѣжницы, и несправедливцы (Каліст, I, 5б).

**Несправедливость (неисправедливость)** – *несправядлівасць*: кривда и несправе*д*ливость наши*м* ставаетсѧ ѡ*т* ваши*х* (ПГ, II, 12, 1461); ноздри то*л*стыи... *ест* оука*з* на непоставность и не*и*справедливость (Арыст., 177).

**Несправление** – *непрыгатаванне*: несправленіе ѡбѣдꙋ естъ и быти можетъ причиною воспрійманіѧ малого ничто ѡ*т* іереѧ (Зб. вып., 59б).

**Неспросталость** – *недасведчанасць*: не длѧ непотꙋжности а нѣ длѧ неспросталости выдалъ и*м* Ізраилтѧнъ але длѧ грѣхѡвъ (Каліст, I, 131).

**Неспротивяньеся** – *несупраціўленне*: жродло недосконало*с*ти зане*д*ба*н*е малы*х* рече^s^ и неспротивѧ*н*есѧ ѡны*м* (Зб. 261, 130).

**Неставанье** – *неспыненне*: на которы то костелокъ впередъ для хвалы Божей а ку розмноженью и неставанью оное... описую (АВК, XX, 229, 1612).

**Неставенье** – **1)** *нез'яўленне, няяўка*: въ справѣ... въ неставенью черезъ помененыхъ чернцовъ (АВК, XV, 41, 1644); **2)** *тое, што і* **непостановенье** *ў 2 знач.*: ѡтложенье справы... ѡ неставенье въ ровны^s^ делъ серебра (КСД, 825, 1514).

**Несталность** – *тое, што і* **нестанное**: на его милости... несталность водлугъ артыкулу... присудили (АВК, I, 274, 1615).

**Нестанное (несталное)** – *штраф за няяўку ў суд*: хто бы будучи позва*н* на пе*р*шы*х* роко*х* не ста*л*... заплатити маеть неста*н*ного копу гршэ*и* (Ст. 1566, 46); суд вашу милость водлугъ права въ несталномъ пети копахъ грошей здалъ (АВК, I, 273, 1615).

**Нестановенье** – *тое, што і* **нестанье**: они... на копу не становилисе и такъже дей ведомости нестановенья своего не учинили (АВК, XVIII, 108, 1592).

**Нестанье** – *няяўка*: копа за его нестанье зна*ш*ли его виноватого (КВЗС, 132б, 1539).

**Нестатечность** – *зменлівасць*: ꙋважа^s^ поро*ж*ност и нестатечно*ст* свѣта сего (Зб. 107, 88).

**Нестатокъ** – **1)** *недасканаласць*: ѡшꙋкалисѧ на не*м* люди и*ж* ꙋмѣ*л* покри*т* свою плохо*ст* и нестато*к* (Бельск., 304); **2)** *нястача*: былъ завше нестатокъ велики^s^ (Зб. 259, 402б).

**Нестатье** – *тое, што і* **нестанье**: панъ... за нестатьемъ тебе самого и всее капитулы твоее тые роки зволокалъ (АСД, I, 201, 1596).

**Нестереженье** – *незберажэнне*: поро*ж*не бꙋде*ш* працова*л*, все длѧ нестереже*н*ѧ ѡчи^s^ ꙋтрати*ш* (Зб. 261, 144б).

**Несторожа** – *невартаванне*: за ихъ несторожою конь ми изъ стайни зъгинулъ (АВК, XVII, 43, 1539).

**Нестояние** – *забарона стаяць у пэўным месцы*: о дозорствѣ писарской в^s^ црквѣ и нестоѧніи братіи вписной в^s^ олтарю (Ст. бр., 22б).

**Нестравленье** – *тое, што і* **нестравность**: Затвердѣніе: Нестравлѣнье (Бяр., 50).

**Нестравность** – *нястраўнасць*: преложили... сыто*ст* або раче[s] нестравность, або приꙗдло*ст* чл҃ка сꙋшачаꙗ (Выкл., 141б).

**Нестриженье** – *непадстрыганне*: длꙗ нестриже*н*ꙗ волосо*в* бы*л* грꙋбы[s] (Бельск., 74б).

**Нестроенье** – *неўладкаванасць, непарадак*: нестроенья противъ Богу и правилъ святыхъ отець чинили (АЗР, III, 3, 1546).

**Нестыдатость** – *тое, што і* **нестыдливость**: своимъ нетерпениемъ и нестыдатостию роптание на гсда бога своего глаголаша (Скар. КЮ, 14б).

**Нестыдливость** – *бессаромнасць*: женский гневъ и нестыдливость естъ срамота великаѧ (Скар. ІС, 42).

**Нестяжание** – *адсутнасць набывання чаго-н.*: завешен*е* всѣхъ цнотъ прекладаетъ нестѧжаніе, то есть вшелѧкого дочасного добра понехан*е* и погоржен*е* (Каліст, ІІ, 182б).

**Несуженье** – *адтэрміноўка разбору справы ў судзе*: справы несуженья лечь оное до дальшого термину откладу домавялъсе (АВК, XV, 441, 1682).

**Несходительство** – *нясхільнасць*: за такіе неправды и несходительство къ добру и къ покою справедливый Богъ... будетъ на васъ мстителемъ (АЗР, V, 35, 1637).

**Несходство** – *тое, што і* **несходительство**: многіе войны, разоренья, несходства к доброму дѣлу и ссоры бывали (АЗР, V, 26, 1637).

**Несчасница** – *няшчасная*: беда мне несчасницы лепшей бы ми оумрети было нижли живо*т* вести смертельный (Пак. Хр., 11б).

**Несчастникъ** – *тое, што і* **нещасливецъ**: не вѣда*л* еси не*с*частникоу ижъ таꙗ кро*в* невинна была (Пак. Хр., 1б).

**Несчастье** *гл.* **нещастье**.

**Несытость (несытность)** – *ненасытнасць*: зомглена будетъ ѡ*т* гладу сила его, и несытость внидетъ в[s] кости его (Скар. КІ, 24); ганити маемо... глꙋпство и несытность (Каліст, ІІ, 157б).

**Несыть** – *тое, што і* **несытость**: лакомца и такъ оуже збогаченъ, еще еднакъ пропастнꙋю свою несыть показꙋетъ (Каліст, ІІ, 155б).

**Несягненье** – *непасяганне, ненападзенне*: ѡ несягненье ѡднымъ на дрꙋгихъ словомъ дотkливымъ и рꙋкою (КСД, 952, 1516).

**Нетерпленье (нетерпение)** – **1)** *нецярпенне*: нетерпениемъ и нестыдатостию роптание на гсда... глаголаша (Скар. КЮ, 14б); **2)** *абыякавасць*: Безстрастіе: Нетерпленье (Бяр., 2).

**Нетерпливость (нетерпеливость, нетерпетливость)** – *нецярплівасць*: Атылѧ нетерпливостью милости будучы звитѧжоныи... понѧлъ Микольту (Атыла, 231); розгнѣватисѧ походи*т* подчасъ з ꙋ*ломн*ости люд*с*кой, з нетерпеливости (Навука, 62); бꙋдꙋть мети... хибко*ст*, нетерпетливость и ꙗсно*ст* (Зб. 255, 403б).

**Нетецъ** *гл.* **нятецъ**.

**Нетление (нетленность)** – *нятленнасць*: ѡц҃ь нетлѣниꙗ создатѣль и свободы податель (Чэцця, 156б); ѡ ѡно[s] нетлености нашо[s] при*с*тои*т* мовить (Зб. 752, 285).

**Нетопыръ (недопыръ)** – *нетапыр, кажан*: нетопырѧ... не имате ести (Скар. ДЗ, 31); межи и*н*шими которие бо*г* ѡ*т*кинꙋ*л* ꙗко нечистые зверꙗта бы*л* недопы*р* (Зб. 259, 116б).

**Нетрвалость** – *нетрываласць*: тымъ взглѧдомъ ѡ*т*мѣнность и нетрвалость сщ҃енства аронова бывае*т* показована (Апакр., 100б).

**Нетство** *гл.* **нятство**.

**Неуважность** – *безразважнасць*: неоуважность, недовѣрство, ненависть, зайзрость, здрада, ѡблꙋда ѡ*т*кꙋль сꙋть (Мак., 23).

**Неугамованье** – *неўтаймаванне*: Неѡбꙋзданіе: оупоръ, неоугамованье (Бяр., 97).

**Неудобство** – *нязручнасць*: Недоумѣніе... недомышлен[s]е, неꙋдобство (Бяр., 91).

**Неудолность** – *бездапаможнасць*: мꙋсимъ ѡдинъ дрꙋгомꙋ ꙋгажать и милосердꙗ на*д* неꙋдолностю ближнихъ нш҃ихъ показова*т* (Пралог, 681).

**Неудячность** *гл.* **невдячность**.

**Неуживанье (неужыванье)** – *неўжыванне*: хочемъ мети абы таковы[s] же поко[s] з стороны неꙋживаньѧ тое стрельбы помененое былъ захованъ (Ст. 1588, 14); шкоды... в неꙋжыванью кгрꙋнту своего затопленого подънꙗлъ (там жа, 368).

**Неужитость (неужытость)** – *бязлітаснасць*: вѣда*л* немилосердіе его и неꙋжитость (Каліст, II, 155б); Ефре*м*... видꙗчи пога*н*ское великое сꙋровство и неꙋжыто*ст* ишо*л* до царꙗгородꙋ (Зб. 752, 127).

**Неузнанье** – **1)** *непрызнанне*: припала справа... въ неузнаню форумъ той справы (АВК, I, 90, 1664); **2)** *неспазнанне*: то соромота ꙋ асириꙗно*в* кгды бы жена посмѣвала з мꙋжа, чинꙗчи абы ꙋшла неꙋзна*н*ꙗ ѡ*т* него (Біблія, 566–567).

**Неуищенье** – **1)** *нявыплата*: за неуищеньем и неотданьемъ сумы пенезей... виненъ попавшы зосталъ (АВК, XXVIII, 52, 1603); **2)** *невыкананне*: за кожды таковы выступокъ неуищене слова... подвезуемъсе вины ему заплатити (АВК, XXXII, 226, 1596).

**Неука** – *неадукаванасць, няведанне*: не вымовлѧймосѧ прето неꙋкою, простацство*м*, невѣдомост[s]ю и незмогою (Каліст, II, 250б).

**Неуказанье** – *непаказ*: за неуказаньемъ оныхъ тотъ Русиновичъ... пактъ на церковь заблудовскую мелъ доводити (АВК, I, 95, 1666).

**Неукъ** – **1)** *невук*: Невѣжа: Простакъ, неꙋкъ (Бяр., 90); **2)** *малады конь або вол, не прывучаны да працы*: кобыла одна, жеребятъ неуковъ трое (АВК, XVI, 644, 1599).

**Неумартвенье** – *непрытупленне, неаслабленне (аб органах пачуццяў)*: неꙋмартве*н*е ѡка хо*т* бꙋде*т* виде*л* але недосконале ꙗко быдло (Зб. 261, 146).

**Неумеетность (немеетность)** – *неадукаванасць, няўмеласць*: такаꙗ ѡплаканаꙗ неꙋмеетность пришла же вжо некоторие и писмо*м* се свои*м*... встыдаю*т* (Цяп., прадм., 268б); вышо*л* ꙋмѣе*т*ны*м* бе*з* наꙋки и мꙋдри*м* в немѣетности (Пралог, 514).

**Неумение** – *няўменне*: ꙋста же безумныхъ пасуть неумение (Скар. ПС, 24б).

**Неумъ** – *неразумнасць*: неумом своим чести и славы уняти не могут (АЗР, V, 30, 1637).

**Неунитъ** – *праціўнік уніяцтва*: прихиляючися до згоды межи тыми жъ унитами и неунитами (АЗР, V, 9, 1633).

**Неупаметанье** – *неабдуманасць*: за неꙋпамета*н*емъ и*х* самы*х* ѡпатрно*ст*ю бозскою право*м* су*т* прэконаны (Дыяр., 172).

**Неупование** – *безнадзейнасць, роспач, адчай*: ꙗвити ꙋбо таинꙋ приѧтелѧ своего есть неꙋпование души нещасное (Скар. ІС, 44б).

**Неупокой (невпокой)** – **1)** *тое, што і* **непокой** *у 1 знач.*: неꙋпоко[s] мели ѡ*т* дꙋховъ нечисты*х* (Зб. 255, 181б); **2)** *тое, што і* **непокой** *у 3 знач.*: по многихъ мятежахъ и невпокою... учинилися они великіе господары въ вѣчномъ докончанью (АЗР, V, 28, 1637).

**Неупреймость** – *непачцівасць*: перестережитесе прошу на неꙋпре*и*мость и кламства и пострахи и потвары противникомъ соборꙋ светого берeсте*и*ского (Бер. саб., 59б).

**Неурада** – *непрыгожасць*: пꙗтаꙗ лꙗтороска е*ст* завстыдене свои*х* деѳекто*в*... ꙗко то ꙋло*м*нос*т* ꙗкаꙗ тела або неꙋрада (Зб. 261, 162).

**Неурожай (неврожай)** – *неўраджай*: въ которомъ году неврожай былъ, а такъ много, чимъ бы пашню засѣяти не нажалъ (АЗР, III, 77, 1557); в ѡнꙋю сꙋхо*ст* и неꙋрожаи вси гꙋмна и спижа*р*ни вси ро*с*порошил на ꙋбоги*х* (Зб. 82, 163).

**Неуспокоенье** – *незаспакаенне*: каране... дочасное е*ст*... неꙋспокое*н*е сꙋ*м*не*н*ꙗ власного (Зб. 261, 82).

**Неуставичность (невставичность)** – *зменлівасць*: о неꙋставичности сего света (Скар. ЕК, 3); невставичности света сего присмотревшися... такъ зоставую (АВК, II, 110, 1594).

**Неуставность** – *тое, што і* **неуставичность**: безрядством и неуставностью межи речей што ся имуть дѣяти (СДГВ, 4, 1432).

**Неустанье** – *неспыненне, несканчэнне*: оустанье и неоустанье только речамъ коликолвек боудꙋчим... приписоватисѧ можетъ (Апакр., 108).

**Неустоянство** – *нявернасць*: упатруючи продковъ вашихъ и васъ самыхъ неустоянство въ крестномъ цѣлованью (АЗР, V, 34, 1637).

**Неуступенье** – *адмова ўступіць, аддаць што-н.*: жалоба... ѡ неꙋстꙋпенье тыхъ кгрꙋнтовъ (КСД, 1157, 1516).

**Неусыновление** – *адсутнасць духоўнай блізкасці*: в[s] насъ дꙋхъ неволництва а неоусыновленіѧ трваетъ (Мак., 225).

**Неусыпанье** – *няспыннасць*: приложилъ собѣ постъ до посту и з неꙋсыпанемъ млтовъ по всѣ ночи (Зб. 82, 432б).

**Неучиненье (невчиненье, невчыненье, неучыненье)** – *невыкананне*: стали... въ невчиненью справедливости (АСД, I, 129, 1553); о неучыненье з ним справедливости (АВК, XXXVI, 7, 1582); за невчыненъем границъ... укривженъе вжо от немалого часу поносит (АВК, XXX, 15, 1589); ѡ неꙋчиненье за листомъ ꙋпоминальнымъ справедливости (КЛС, 152б, 1597).

**Неучинность (невчинность)** – *неспагадлівасць, нячуласць*: на оказане невдѧчности людій неꙋчинност[s]ю и немилосердіемъ опанованыхъ (Каліст, II, 155б); великаꙗ теды невчинности и наганы годънаꙗ речь (Зб. 259, 60б).

**Неучтивость (невчтивость, неучстивость)** – *няправеднасць; непавага*: на мѣсте праведном там невъчтивость (Зб. 262, 88); панъ Федоръ справедливости на пану Тарусу жедалъ... о неучъстивость (АВК, XXI, 218, 1557); ѡ млоденци котори[s] длꙗ неꙋчтивости родичовъ и грѣхꙋ вшетечного ѡ злую смрт пришол (Пралог, 537).

**Неучщенье** – *праяўленне непашаны*: позывано... ѡ збитье возного и неꙋчъщенье листовъ, ѡт него посланыхъ (Ст. 1588, 169).

**Неушанованье** – *знявага, абраза*: то подобно неоушанованьемъ кр его мл назовешъ (Апакр., 80б).

**Нефортуна** – *няўдача*: тутъ сѧ имъ нефортуна стала, Бово с конѧ спал (Бава, 133).

**Нефрасованьеся** – *несмуткаванне*: ѡ нефрасованюсѧ з смерти нѣштось припомѧнꙋлогѡ реченыи слова вѣдати даютъ (Сматр., 44).

**Нефрасовливость** – *адсутнасць смутку*: Безпечаліе: Нефрасовливост (Бяр., 2).

**Нефть** – *тое, што і* **нафта**: не переставаша раби царевы служащие тꙋ подпалѧти пещи нефтию куделею смолою и хворостомъ (Скар. ДП, 13).

**Нехенть** – *тое, што і* **нехуть** *у 2 знач.*: панъ Цитринскій... противо кому... завезме васьнь и нехенть, на тыхъ се безъ жадного респекту руцаетъ (АВК, XV, 518, 1686).

**Нехитрость** – *няхітрасць*: гсь не ѡтпꙋстит доброхотѧчих нехитростю (Пс. XVI, 86б).

**Нехлюя** – *неахайнік*: небрежник, небрегіи – недбалый, нехлюѧ (Зіз., 112).

**Нехоженье** – *нехаджэнне*: ему тые войтовъства и на войну нехоженья потвердили нашимъ листомъ (КЗ, 146, 1493).

**Нехотение** – *нехаценне*: человека з[s] нехотениѧ забилъ (Скар. ІН, 39).

**Нехуть (нехоть)** – **1)** *нежаданне*: видѣчи я... нехуть пѣшихъ, зсѣлъ есми съ коня и самъ шолъ (АВР, III, 142, 1568); **2)** *непрыязнасць*: нехоть и здрадꙋ по зꙗтю своем познал (Зб. 82, 316).

**Нецка** – *ночвы*: ковнянинъ провади до Кролевца талеровъ древяныхъ тузиновъ ро҃, нецокъ десятковъ з҃ (АВК, XIV, 647, 1599).

**Нецнота** – **1)** *подласць*: покора ест жродлом цноты, пыха жродлом нецноты (Дыяр., 173б); **2)** *нягоднік*: его милость... потварцою и нецнотою мене звалъ (АВК, XXII, 162, 1565).

**Нецнотливость** – *непрыстойнасць*: имѧ то<sup>s</sup> было порфириѧ, котораѧ всим знаема была в мѣстѣ з свое<sup>s</sup> нецнотливости (Зб. 752, 577).

**Нецьство** *гл.* **нятство**.

**Нечаяние** – *неспадзяванасць*: хто... соухъ нечаѧниемъ, то всѣх вода крещениѧ исцѣлить (Чэцця, 341б).

**Нечеканье** – *нечаканасць*: Нечааніе: Роспач, нечеканье (Бяр., 97).

**Нечестивость** – *тое, што і* **нечесть**: правда съхранит полнопѹтного и нечестивость повинѹеть грѣшного (Зб. 262, 99б).

**Нечестие** – *тое, што і* **нечесть**: нечестие стулить ѹста своѧ (Скар. ІС, 9б).

**Нечесть** – *знявага*: соромоту и нечесть великую имъ дѣлали (АЗР, II, 357, 1539).

**Нечиненье (нечыненье)** – *нечыненне*: докладаете... о нечиненье отправы на рѣчи присужоные (АЗР, III, 56, 1554); пн҃и старостиная... за нечыненемъ справедливости с тых слугъ... водле права сама ест позвана (АВК, XXXVI, 406, 1590).

**Нечистость (нечыстость)** – **1)** *тое, што і* **нечистота** *ў 1 знач.*: казал его в<sup>s</sup> выход посполиты<sup>s</sup> вкинут и в нечистостѧх ѹтопити (Стрыйк., 451); **2)** *тое, што і* **нечистота** *ў 2 знач.*: перед бг҃ом нечистостю и болвохвалством завжды смердишъ (Бельск., 180); **3)** *тое, што і* **нечистота** *ў 3 знач.*: в нечыстости и не въ стане малженском... колькос дочок сплодил (АВК, XXXI, 311, 1619); **4)** *тое, што і* **нечистота** *ў 4 знач.*: нѣкотории жолнѣре длѧ нечистосте<sup>s</sup> з жонами покарал (Бельск., 246); **5)** *тое, што і* **нечистота** *ў 5 знач.*: зараз се ѡчистила ѡт нечистости своей, то есть перестали ей мѣсѧчницы (Біблія, 373).

**Нечистота (нечыстота)** – **1)** *нечыстата*: для таковорго смроду и нечистоты дозволили имъ тыи ятки перенести (СДГВ, 50, 1536); **2)** *грахоўнасць*: перед богом нечистотою и балвохвалством завжды смердишъ (Алекс., 33б); **3)** *палавая распушчанасць*: казни богъ допущаеть длѧ нечистоты, або прелюбыдѣиства (Будны, 85); **4)** *палавы акт*: чѹжоложниками были, и з дѣтми нечыстотѹ полнили (Варл., 243); **5)** *фізіялагічны крываcцёк*: заразъ се ѡчистила ѡт нечистоты своеи, то есть перестали еи мѣсѧчницы (Хран., 256).

**Нечолованье** – *неадбіванне паклонаў*: которымъ ѡколо помененых брацствъ нечолованье належит (СДГВ, 88, 1635).

**Нечувствие** – *неадчуванне*: в нечѹвствіи болю пребываю (Зб. 107, 156).

**Нечуйность** – *нячуткасць*: стережитесѧ нечу<sup>s</sup>ности задаванѧ собѣ трѹдности непотребно<sup>s</sup>, ленивства и иншихъ рече<sup>s</sup> (Зб. 259, 126).

**Нечулость** – *нячуласць*: в<sup>s</sup> болотѣ ленивства, недбалства и нечѹлости лежитъ (Каліст, I, 104).

**Нечыненье** *гл.* **нечиненье**.

**Нечысть** – *нечысць*: тыи диаволи вашы кохаютсѧ... в чарах и въ ѡблудностѧх и нечыстѧх, и службѣ жолудково<sup>s</sup> (Зб. 752, 548б).

**Нешляхетникъ (несляхетникъ, нешляхэтникъ)** – *нешляхетны чалавек*: выйди сюда, нешляхетнику, на дворъ (АВК, XVII, 432, 1561); дякую вамъ, жесте ми помогли того несляхетника звитежить (там жа); Бово рече: Нешлѧхэтницы, вы мною кунштуете (Бава, 171).

**Нешляхетство** – *нешляхецтва*: коли бы который шляхтичъ другому нешляхетство задал або которую иншую речъ мовил на него (Ст. 1529, 22).

**Нешляхта** – *няшляхта*: тым же ѡбычаем и нешлѧхта против нешлѧхты в праве захованны быти мают (Ст. 1566 I, 85б).

**Нешляхтичъ** – *няшляхціц*: естли бы шлѧхтичъ которого нешлѧхтича и неподозреного помовилъ (Ст. 1588, 541).

**Нешпоръ** – *вячэрня (у каталікаў)*: судья съ подсудкомъ ма судить по ранней мши ажъ до нешпору (АЗР, I, 226, 1501).

**Нещаднодаание** – *шчодрае даванне*: ѡбилное хотеніе, нещаднодааніе (Бяр., 191).

**Нещажение** – *бязлітаснасць*: ноздри же тонъкіи, оуказъ на мѧгкосердие... долгии же простыи оуказъ на нещаженіе (Арыст., 177).

**Нещасливецъ** – *нешчаслівец*: реклъ сты̃ˢ нещасливче згубо дш̃и твоеˢ, иж длꙗ цесарꙗ ѡтстȣпил бг̃а (Зб. 752, 105).

**Нещастье (несчастье, нещасце)** – *няшчасце*: мещанинъ по своему нещастью всхочеть пойти до иного города (КЗ, 547, 1494); з якихкольвекъ... прыпалых за нещасцем причын тые две службы... знищели (АВК, XXXII, 478, 1596); привел гсдъ на авесолома несчастe (Біблія, 387).

**Нещирость (нещырость)** – *няшчырасць*: ноуж облȣда, нещирость, шалбирство, фортеле и фалше ихъ (Апакр., 207); зъедноченѧ нещырость так естъ велика (Бер. саб., прадм.).

**Неэвинкованье** *гл.* **неевинкованье**.

**Неяденье (нееденье, неядение)** – *неўжыванне ежы*: нееденемъ и безводьем дш̃а их в них знемогла (Пс. XVI, 109); неꙗдением сꙗ и битием в перси морилъ (Пралог, 492б); до ѡного през неꙗдене взываючи, молчи занѣмѣˢ (там жа, 558б).

**Неясить** – *няясыць*: ботьꙗна неꙗсити нора... не имате ести (Скар. ДЗ, 31).

**Нива** – **1)** *ніва, палетак*: коло самое дороги нива великая роспахана (ИЮМ, XXV, 348, 1637); **2)** *перан. поле дзейнасці*: нива нечестивых грѣхъ (Зб. 262, 103б).

**Нивка** – *памянш. ад* **нива** *ў 1 знач.*: нивка на полъбочки прылегла под тотъ дворецъ нашъ (КВС, 564, 1552).

**Нивочка** – *памянш. ад* **нивка**: тры нивочъки при улицы того села (АВК, XXX, 320, 1606).

**Нивъе** – *зб. ад* **нива**: повелъ насъ по межамъ по лꙗдамъ по нивъю (КВЗС, 83б, 1538).

**Нигритъ** – *негр*: близко их теж сут нигрите люде теж наги и чорни (Бельск., 402б).

**Нижченье** *гл.* **нищенье**.

**Низбрегъ** – *абрыў, круча*: Стремнина, низбрегˢ, мѣстце прикрое, прикрый берегъ албо скала, или дебрѧ, завѣсистое мѣстце (Бяр., 157).

**Низверженье (низвержение)** – *скіданне*: за которою виною достоинъ бы былъ низверженья зъ свещеництва (АВК, VIII, 49, 1601); низвержение естъ на той часъ, коли іерей... низлагаетˢсѧ ѡт сана іерейскаго (Зб. вып., 62).

**Низина** – *нізіна*: землꙗ на высокихъ горахъ ест чистшаѧ над тȣю што на низинахъ (Зб. 259, 434б–435).

**Низка** – *нізка*: за низки кгимовы казнител мȣдрыи оухо послȣшномȣ (Зб. 262, 106).

**Низкодушие** – *пакорлівасць*: лѣпшеи низкодш̃іе с тихим нижели делити корысть зˢ гордыми (Зб. 262, 101б).

**Низкость (нискость)** – **1)** *тое, што і* **низъ** *у 1 знач.*: плꙗнеты... з высокости на низкост постȣпȣют (Зб. 259, 490б); **2)** *тое, што і* **низъ** *у 2 знач.*: вошли на нѣꙗкую низкость болотнȣю (Алекс., 29б); **3)** *нязначнасць*: чогом... през заслѣпене пыхи не видѣл, тепер през нискост покори вижȣ (Алекс., 21б).

**Низъ** – **1)** *ніз (процілегласць вышыні)*: з высокости на низъ такъ прȣдко исходит (Валх., 88б); **2)** *нізкае месца*: вода иже на низу естъ сплынетъ доловъ (Скар. ІН, 9б); **3)** *нізоўе*: на низъ с козаками до Черкасъ зъехалъ былъ (ИЮМ, XXI, 468, 1627).

**Никчемникъ** – *нікчэмны чалавек*: ѡни... ȣ самыхъ поганъ в великоˢ взгардѣ были ꙗко выродкове и никчемницы (Зб. 107, 87–87б).

**Никчемность (ничемность, ничэмность)** – *нікчэмнасць*: скончилис в ничемности дни их (Пс. XVI, 80б); длѧ гнюсности и ничэмности своеи з влосности земли выгнан (Атыла, 194); задает никчемност историˢ грецких (Стрыйк., 416).

**Нитка** – *нітка*: нитка жаднаꙗ на нихъ не згорела (Зб. 752, 295).

**Нить (ниць)** – *ніць*: тыхъ сеножатеˢ... ꙗ ищꙋ какъ по нити клꙋбъка (КВЗС, 145, 1540); на ници и на гафтки дали осм. (ИЮМ, XIV, 28, 1700).

**Ница** – *падкладка*: ница, пильсци, подшевки (ИЮМ, XVIII, 109, 1710).

**Ницарство** – *драўляныя вырабы з разьбой*: ѡнъ ижъ былъ ремесникомъ, собралъ былъ за манастыромъ з рꙋчной роботы своей ницарство (Пралог, 641б).

**Ничемность** *гл.* **никчемность**.

**Ниченица** – *нічальніца, ніт*: ниченицы трои, бердъ одинънатъцать (АВК, XXI, 194, 1557).

**Нишанъ (нышанъ)** – *ханская пячатка*: съ нышаномъ яръльікъ послалъ (КЗ, 357, 1484); подъ золотымъ нишаномъ и подъ алыми тамгы ярлыкъ данъ (АЗР, II, 5, 1506).

**Нищелюбие** – *міласэрнасць да жабракоў*: моцъ любви естˢ нищелюбіе (Каліст, I, 25).

**Нищенье (нижченье)** – *нішчэнне*: мыте и нижчене писма старого (АВК, XXXII, 11, 1596); славы своее з нищеньемъ, з бесчестьем, з гоненіемъ ближнихъ не ищꙋчаѧ... млсть где лѣпшее мѣсце маетъ (Апакр., 184–184б).

**Нищета** – *галеча*: Соломон просилъ абы на него нищета не пришла (Будны, 196).

**Нищий (нищый)** – *жабрак*: нищыи заступилъ дорогу просꙗчы ѡ млстыню (Зб. 81, 95б); нищиˢ ѡдин хотѣлъ досвѣдчит теръпливости и гоˢности иѡана (Зб. 82, 142б).

**Новгородецъ (новогородецъ)** – *жыхар Ноўгарада*: торговати имъ... зъ новгородцы (АЗР, I, 52, 1440); новогорѡдци же паки им чсть въздаша (Віл., 447б).

**Новгорожанинъ** – *жыхар Навагрудка*: выехал з манастыра пинског до Новгородка, а потом собравшисꙗ з новгорожаны в кнꙗжатем почте рꙋшилсꙗ до кернова (Стрыйк., 527).

**Новемберъ (новембрий, новембръ, новемрий, новэмбръ)** – *тое, што і* **ноябрь**: писанъ у Вильни новембра шеснадцатого (АВК, XIII, 16, 1508); мц҃а новэмбра г҃ жона моꙗ сына мартина ꙋродила (Еўл., 33); мцъ новемберъ (ИЮМ, I, 115, 1680); мцъ новембрій (ИЮМ, II, 149, 1684); мца новемрия з҃і дня (ИЮМ, III, 10, 1685).

**Новикъ** – *навічок*: зоставши шхолѧстікомъ, оу всѣхъ правниковˢ, новикомъ и послѣднѣйшимъ естˢ (Мак., 155).

**Новина (навина)** – **1)** *нядаўна атрыманая вестка*: новины, годные вѣдомости вашей панской милости... зъ сего краю даю вѣдати (АЗР, III, 164, 1573); **2)** *новаўвядзенне*: мы старины не рухаемъ, а навины не уводимъ (АЗР, I, 110, 1488); **3)** *дадатковы падатак*: новину имъ учинили отъ кождого солоду по полькорца брати (Арх. ЮЗР, V-1, 32, 1532); **4)** *зямля, якая апрацоўваецца ўпершыню*: люди не мают новины пропахивати (Пін., 88, 1517); **5)** *новы ўраджай*: кгды вамъ по долгоˢ зимѣ лѣто ѡвоцы приносит, новиною называете (Зб. 259, 522б).

**Новинка** – *памянш.* **1)** *ад* **новина** *ў 2 знач.*: тое сꙗ припоминает длꙗ тых, которым новинки (Выкл., 33б); **2)** *ад* **новина** *ў 4 знач.*: Тарасъ Сидоровичъ поступилъ Ивану Богдановичу кгрунту своего... у новинкахъ части своей (АВК, XXII, 338, 1570).

**Новинщина** – *новая з'ява*: ходоре то на тобе новинъщина первыˢ раз тꙋтъ в месте виленьскомъ (КВЗС, 73б, 1538).

**Новицыатъ (новициатъ)** – **1)** *паслушніцтва*: Новакъ: Новиціатˢ (Бяр., 98); вдова была принѧтаѧ до новицыатꙋ монастырѧ (Зб. вып., 74).

**Новицыушка** – *паслушніца*: особа готовѧщаѧсѧ до законꙋ, называетˢсѧ новицыꙋшка (Зб. вып., 73б–74).

**Нововерникъ** – *той, хто прыняў новую веру*: то нововѣрницы зле выкладают (Бельск., 48б).

**Новогорожанинъ** – *тое, што і* **новгородецъ**: собралсꙗ на них кнꙗз ꙗрослав Всеволодович з новогорожаны (Стрыйк., 490б).

**Новое** – *новае*: пошлины имати... по давному, а нового не примышляти (АЗР, I, 66, 1449).

**Новоженя** – *жаніх*: Женихъ, новоженѧ, панъ молодый, ѡблюбенецъ (Бяр., 43).

**Новокононъ** *гл.* **номоканонъ**.

**Новокрещенецъ (новохрещенецъ)** – *анабаптыст*: до новокрещенцовъ и евангеликовъ не маемо... жадноѣ справы (АЗР, XV, 145, 1596); тамъ арыѧни новохръщенъцы и инъшые геретыки были (Бер. саб., 16).

**Новокрещенство (новохрещенство)** – *анабаптызм*: до новохръщенства арыѧнства и иншыхъ бл8довъ 8даватсе не боите (Бер. саб., 13); рушила кго кревност а ѡдражене з духа по новокрщенству (Еўл., 46).

**Новомесяцъ** – *маладзік*: будеть новомсць ѡт новомсца (Будны, 41).

**Новомесячие (новомесячное)** – *яўрэйскае свята маладзіка*: ваши сполечныи схоженıа новомѣсıачиıа (Бельск., 137б); пришло новомѣсѧчное (Біблія, 334).

**Новорасль** – *парастак*: сынове твои новорасли маслинные (Будны, 72).

**Новорожение** – *нараджэнне*: погружаеть крститель под воду чл҃ка, а то ест смерть, и опѧть скоро на свѣтъ выриваеть, а се образуеть новороженіе (Будны, 227).

**Новоседъ** – *навасёл*: новосед и зят... взяли мяса (АВК, XXXVI, 356, 1582).

**Новость** – *тое, што і* **новота**: в новости живота ходит б8демъ (Зб. 259, 38).

**Новота** – *навізна*: старожитное зъ новотою утверженіе (АЮЗР, I, 284, 1598).

**Новотворение** – *стварэнне новага*: Новосѣченіе: Новотвореніе (Бяр., 98).

**Новотеребъ (новотеробъ)** – *нядаўна працярэблены ўчастак зямлі*: жаловалъ о моркгъ сеножатный, новотероб... менечи его быти своимъ власнымъ розстеребомъ (ИЮМ, XXX, 127, 1577); ми дано было... новотереб на сеножат (АВК, XXXIX, 327, 1579).

**Новохрещенецъ** *гл.* **новокрещенецъ**.

**Новэмбръ** *гл.* **новемберъ**.

**Нога** – **1)** *нага*: хто бы кого охромилъ, ногу альбо руку утялъ (КПД, 191, 1551); **2)** *апора мэблі*: столъ малый нѣмецкій, ноги поламаные (АВК, VIII, 406, 1586). ◊ **Легкии ноги мети** – *быць лёгкім у хадзьбе*; **пасти до ногъ** – *падначаліцца*; **подбити подъ ноги** – *падначаліць*.

**Ногавицы (нагавицы)** – *нагавіцы*: взялъ с клети... нагавицъ г҃ (АВК, XXI, 232, 1577); другіе безъ ногавицъ какъ бернардыны гуляли (Мял., 316).

**Ноговичникъ** – *рамеснік, які шыў нагавіцы*: сермяжники и ноговичники... справы свое цеховые посполу у одномъ собранью своемъ отправують (АСД, I, 158, 1580).

**Ногота** *гл.* **нагота**.

**Ноготь** – **1)** *ногаць*: ногти р8къ его ѡбрѣзал (Бельск., 16б); **2)** *кіпцюр*: при них кладывали ногти рыссіи албо медвежии (Патр. П, 86б); **3)** *востры металічны кручок*: ногтıами желѣзными тѣло его стр8гано (Пралог, 485).

**Ногутъ** – *нут*: Слан8токъ: Горохъ рогатый, ногутъ (Бяр., 149).

**Ногъ** – *грыф*: разбоиникъ ıако ногъ, гордъ ıако пава (Арыст., 160).

**Ноембръ (ноембрий, ноемврий)** – *тое, што і* **ноябрь**: 29 ноембрія (АСД, II, 14, 1598); того рок8 напал снегъ мсца ноембра (Барк., 107б); месяцъ ноемврій (ИЮМ, I, 293, 1682).

**Ножевникъ** *гл.* **ножовникъ**.

**Ноженки** – *памянш. ад* **ножны**: пограбилъ у него... поясъ едвабный з ноженками серебромъ оправными (АВК, XX, 193, 1602).

**Ножикъ (ножыкъ)** – *памянш. ад* **ножъ**: ножики серебромъ оправные (АСД, III, 82, 1617); ножыкъ хлопъцу, асм. з҃ (ИЮМ, I, 96, 1680).

**Ножицы (ножыцы)** – *нажніцы*: в ольстру было... брытвы, ножыцы (АВК, XX, 141, 1598); взявши ножицы, голову на чотыри стороны самъ стригъ (АЮЗР, II, 11, 1601).

**Ножички (ножычки)** – *памянш. ад* **ножицы**: ножички тежъ и в чом 8стрижки буд8т гашоны, нехай буд8т з золота (Біблія, 140); за ножычъки и замокъ до скарбу паномъ дозорцомъ 1 зол. (ИЮМ, XVIII, 100, 1710).

**Ножка** – *памянш.* **1)** *ад* **нога** *ў 1 знач.*: взıал прав8ю ножку так же под коленомъ (Зб. 752, 274); **2)** *ад* **нога** *ў 2 знач.*: у старомъ услоне ножки уробилъ (ИЮМ, IV, 238, 1686).

**Ножницы** – *тое, што і* **ножны**: ножъ костеный з нож^sницами (АВК, II, 166, 1601).

**Ножнички** – *нажнічкі*: взꙗвшы ножнички секъ твар его (Зб. 752, 273б).

**Ножны** – *ножны*: имелъ повешеную деку в ножнах (Скар. ДЦ, 107).

**Ножовникъ (ножевникъ)** – *рамеснік, які выпрабляў нажы*: Войтеха ножовника а Якуба шевца... черезъ ночь на колахъ возовыхъ попривязувавши держали (АВК, XX, 190, 1602); наняли на две недели Чурылу ножевника по улицамъ ходить (ИЮМ, VI, 93, 1689).

**Ножъ** – *нож*: втратилъ ми саблю и ножъ ческій (АВК, XVII, 247, 1540).

**Ножыцы** *гл.* **ножицы**.

**Ноздра (ноздря)** – *ноздра*: таковомѹ ноздра розрезана быти маеть (Ст. 1588, 269); вложи колько в ноздри твои (Зб. 259, 541б).

**Номинатъ** – *архіепіскап, прызначаны на пасаду, але яшчэ не пасвечаны*: ойцу номинату вина кгарцовъ чотыри (ИЮМ, I, 236, 1682).

**Номоканонъ (намокануннъ, намокононъ, новокононъ)** – *збор прадпісанняў, якія датычаць царкоўных спраў*: он права духовъныи выложил... з намоконону восточъное церкви (ПГ, II, 192, 1502); чти номоканонъ то естъ правило събора седмого (Будны, 15); клали передъ нами... выложенье правъ духовныхъ грецкихъ, то естъ зъ намокануну восточное церкви (ИЮМ, I, 357, 1620); ведлугъ новокононовъ святыхъ отцевъ обрядки... заховалъ (ИЮМ, X, 379, 1684).

**Норбарка** *гл.* **нурбалка**.

**Норица (норыца)** – *тое, што і* **норка** *ў 2 знач.*: будуть куповати... ласицу и норицу (ПГ, II, 155, 1498); будуть куповати... ласицу, норыцу (АЗР, II, 77, 1510).

**Норка** – **1)** *норка*: за нечистые положены будуть... тхорь, норка (Скар. КЛ, 22б); **2)** *футра норкі*: ласицу норку по сту (СДГВ, 4, 1511).

**Нормандъ** – *нармандзец*: норманди чинили великѹю шкодѹ во францѣи (Бельск., 392б).

**Норовникъ** – *памагаты*: твоя милость... до мене повольного норовника вашое милости писать рачилъ (АЗР, II, 337, 1535).

**Норовъ** – *нораў*: лепъшеи плакати нежели их норовы выписовати (Будны, 7б).

**Норогъ** *гл.* **нарогъ**.

**Норотъ** *гл.* **неротъ**.

**Носатка** *гл.* **насадка**.

**Носила** – *насілкі*: ходит не моглъ, але на носилах был ношоны^s (Зб. 82, 11б).

**Носилицы (носилницы)** – *тое, што і* **носила**: ꙗ не могу на кони седѣти ани на носилицахъ нестисѧ (Трыст., 22); мотики и лопати и носилницы мѣли и... землю на фѹдамент выносили (Бельск., 282).

**Носило** – *паланкін*: прыправили носило на два кони и понесли королѧ (Трыст., 13).

**Носитель** – *носьбіт*: першій аг҃глъ перед тымъ денницею... званый, теперъ темности носител, з нб҃а спалъ (Каліст, II, 125б).

**Носки** – *ножны*: носки до шабли дали (ИЮМ, III, 58, 1685).

**Носъ** – **1)** *нос*: носъ и губы попухли (АВК, XXXVI, 213, 1582); **2)** *дзюба*: прилетѣли великии птахи чирвоныи а носы ѹ нихъ и ноги чорныи (Алекс., 28); **3)** *хобат*: слонове... стꙗгали носы свои (Алекс., 25); **4)** *пярэдняя частка судна*: камень... ударил у бойдак мой и того бойдака нос отшиб (АВК, XXXIX, 206, 1579). ◊ **Вернутися з носомъ** – *пацярпець няўдачу*; **водити за носъ** – *уводзіць у зман*.

**Нота** – *нота, гук*: исполнилосѧ серцэ весельемъ слухаючы ноты лютни (Трыст., 112).

**Нотарий (нотарыушъ)** – *пісар*: маетности... нотарыѹшѹ нашомѹ верн ѹти и поступити не хочет (ККСС, 74б, 1615); Маркіан^s:... има нотаріа, то ест писара (Бяр., 296).

**Нотация (нотацыя)** – *заўвага*: на верху сего фундушу нотація въ тые слова (АВК, XII, 435, 1617); нотацыей, якъ панъ райца выежджалъ въ дорогу, подалъ намъ писаную личъбою польскою (ИЮМ, VI, 136, 1689).

**Нотованье** – *запісванне*: нотованя рукою моею въ справахъ не показуетъ (АВК, XXVIII, 158, 1635).

**Ноходникъ** *гл.* **иноходникъ**.

**Ноцлегъ** – *тое, што і* **ночлегъ** *у 1 знач.*: на ноцлегу купили менса (ИЮМ, IX, 187, 1692).

**Ноцъ** – *тое, што і* **ночъ**: банкэт велки^s^ вэ дне и в ноцы з танцами чинено (Еўл., 21).

**Ночвы** – *ночвы*: кꙋпати его хотꙗчы положыла его в ночвахъ (Зб. 752, 191б).

**Ночка** – *памянш. ад* **ночъ**: ісус сорок дновъ и ночек постил (Валх., 85б).

**Ночлегъ (начлегъ)** – **1)** *начны адпачынак*: на полудню и на начлегу золотыхъ чотыри (ИЮМ, II, 36, 1683); **2)** *пасьба коней ноччу*: поехалъ на ночлегъ з конми (ИЮМ, XXI, II, 1711).

**Ночница** – *начная зорка*: Завꙋлонъ розꙋмѣетсѧ ночница (Каліст, II, 289).

**Ночовки** – *начоўкі*: У пивницы бочокъ пивныхъ двадцать... ночовки одни, корито для сѣянья муки одно (АВК, XIV, 201, 1580).

**Ночъ (ночь)** – *ноч*: быс ночь, и не вѣдахоу коуда поити (Чэцця, 94б); которая ночь была межи днями двадцать семымъ а двадцать осмымъ (АВК, XXXVI, 193, 1582). ◊ **Великая ночь** – *Вялікдзень*.

**Ноша** – *ноша*: травы пляцовые принесли ношу (ИЮМ, I, 50, 1679).

**Ношеникъ** – *той, хто пераносіць што-н.*: медоносцомъ и ношеникомъ дали на горелку осмаковъ осемъ (ИЮМ, IV, 287, 1688).

**Ношенье (ношение, ношенне)** – **1)** *нашэнне*: за ношенне овса до замку, за працу дали (ИЮМ, XIX, 35, 1711); **2)** *хуткае перамяшчэнне*: тым по воздꙋхꙋ ношеніем люд зводит (Каз. Кір., 62б); **3)** *трыманне пры сабе*: рыцаръ... добрыи по седенью и на ношенью оружѧ (Трыст., 62); **4)** *упрыгожанне*: ношенье накшталтъ сердушка с каменемъ изытрыномъ (АВК, XXVIII, 57, 1605).

**Ношка** – *памянш. ад* **ноша**: злодееве, опустивши ношки, мехи, прочь поутекали (АВК, XVIII, 193, 1603).

**Нощь (нощъ)** – *тое, што і* **ночъ**: нощь сѧѧ была бы пꙋстотна (Зб. 262, 13); там каковъ дн҃ь такова и нощъ (Царств., 79б).

**Ноябрь (ноягврий)** – *лістапад*: мѣсяца ноября 20 дня (АЗР, III, 31, 1551); ноꙗвриꙗ а҃ днꙗ (Стрыйк., 478).

**Нравоучитель** – *мараліст*: ѡ которыхъ Григорій бг҃ослов и нравоꙋчител и инъшые ѡтцы ст҃ые достатечне наꙋчают (Навука, 52).

**Нравъ** – *тое, што і* **норовъ**: потреба естъ направити нравы своѧ (Скар. IC, 2).

**Нугаксъ** – *ашуканец*: Блѧдивый... лгаръ, нꙋгаѯъ, баламꙋтъ (Бяр., 8–9).

**Нуда** – *нуда*: без^s^ замешкания и нуды далеи идеть (Скар. ДЦ, 99).

**Нужа** – **1)** *беднасць, нястача*: жил на пꙋщы ꙋ велико^s^ нꙋжи, зелъем сѧ толко живѧчи (Зб. 82, 171б); **2)** *бяда, гора*: ѡставил воиско и побѣгъ з великою нꙋжею и крикомъ (Алекс. 1697, 49); **3)** *патрэба*: што за нꙋжа... поддатис ꙗко^s^ зло^s^ склонности (Зб. 107, 192б).

**Нужда** – **1)** *тое, што і* **нужа** *ў 1 знач.*: долгъ ѡтдал и нужда ему была барзо великаꙗ (Зб. 752, 25б); **2)** *тое, што і* **нужа** *ў 2 знач.*: ѡн в великихъ нꙋждахъ долъже^s^ сꙗ молилъ (Зб. 259, 632б); **3)** *тое, што і* **нужа** *ў 3 знач.*: аще ти ест нꙋжда, то мною сѧ клени (Чэцця, 5б).

**Нужникъ** – *пакутнік*: хотел бы нꙋжникъ ѡт себе самого ꙋтечы (Зб. 255, 393б).

**Нужное** – *неабходнае*: нужное ему, то есть пища и одежда изъ монастыра маетъ быти давана (АЗР, V, 70, 1641).

**Нунциушъ** – *нунцый*: видилем нꙋнціꙋша легата в коронѣ папежско^s^ (Дыяр., 159б).

**Нунцыатура** – *вышэйшы духоўны суд*: маетъ аппеліовати до сꙋдꙋ вышшаго, то естъ до нꙋнцыатꙋры (Зб. вып., 72б).

**Нурбалка (норбарка, нурбарка, юрбарка)** – *від шапкі*: згинула ми шапка нурбарка (АВК, XVII, 200, 1540); шапка норбарка чорная (АВК, XXII, 280, 1565); шапъка нурбалка коштовала полъосма гроша (АВК, XXXVI, 150, 1582); взяли... шапку юрбарку (АВК, VI, 114, 1625).

**Нуртъ** – *цячэнне*: юж се з нами пром починал был на нурте заливат (Еўл., 31).

**Нутро** – **1)** *унутранасць жывога арганізма*: переверн ꙋлосѧ срдце мое в нꙋтри моем (Зб. 262, 110б); **2)** *унутраная частка чаго-н.*: оувидѣх видѣние светлѣе солнца из ноутрѧ нб҃съ (Чэцця, 372б); **3)** *унутраная сутнасць чаго-н.*: покꙋта здаетсꙗ шпетнаꙗ леч в нꙋтрꙋ пекнаꙗ (Зб. 261, 87).

**Нутрь (нутръ)** – **1)** *тое, што і* **нутро** *ў 1 знач.*: загинетсѧ ноутрь в них и приложитсѧ ѡгнь их, и оумрет (Арыст., 220); **2)** *тое, што і* **нутро** *ў 3 знач.*: бж҃е которыи испытꙋеш срдца и нꙋтръ праведных (Пс. XVI, 11).

**Нучъ** – *тое, што і* **ночъ**: могло быть дей у нучъ годинъ чотыры... зраненье свое менилъ собе быть (АВК, XXVIII, 200, 1645).

**Ырище** – *руіны, разваліны*: Нощный вранъ: Слѣповорон[s], птица си плачлива ест[s], и на ырищахъ... любитъ сѣдати (Бяр., 93).

**Нырка** – *нырка*: в домъ купили мяса и нырки (ИЮМ, XVIII, 41, 1710).

**Нытье** – *пераварванне ежы (у страўніку)*: варꙋисѧ ести ѡлижъ доконалосѧ нытье первое а то познаешь по хоти (Арыст., 232).

**Нышанъ** *гл.* **нишанъ**.

**Нядро** – **1)** *тое, што і* **надра**: лоно з[s] нѧдромъ за ѡдно сѧ часомъ розꙋмѣетъ (Бяр., 99); **2)** *адгалінаванне, заліў*: Колпосъ: Нѧдро, ѡтнога на мори (Бяр., 289).

**Нянька** – *нянька*: взѧла наама ѡное дитѧ... была емꙋ нѧнькою (Зб. 262, 33б).

**Нятецъ (нетецъ)** – *палонны, вязень*: нѧтцовъ на слюбе добровольно пущаютъ (АЗР, I, 242, 1503); кажешъ дей имъ... нетцовъ стеречы (ИЮМ, II, 231, 1630).

**Нятство (нетство, нецство, нецьство, няцство, няцтво)** – *палон, зняволенне*: оу нꙗцтво их имаючо, сажаете оу свои казни (ПГ, I, 191, 1458); кнѧгиню его и дѣти в нѧцство посла (Віл., 448б); люде[s] наших имаючы и в нѧтъство сажаете (ККК, 156б, 1491); сторожи его впꙋстили зъ нецьства (КСД, 263, 1516); тое имъ нецство было велми сладко (Трыст., 79); в нетство повели кн҃жи и боꙗр (Рач., 324).

# О

**Обаватель**[1] – *заклінальнік*: обаѧник – обавател, заклинач (Зіз., 49).

**Обаватель**[2] *гл.* **обыватель**.

**Обавленьеся** – *асцярога*: Бл҃гоговѣніе... вколо ѡпатрное ѡбавлен[s]есѧ (Бяр., 4).

**Обавникъ** – *тое, што і* **обаватель**[1]: въпрошает всѧкаг ѡбавника вълъхва (Зб. 262, 114б).

**Обада** – *абгавор*: холопу и робѣ вѣры не няти, а о обадѣ исправа дати (АЗР, I, 352, 1503).

**Обакона** – *тое, што і* **обоконка**: за направу обаконъ у ратушу у судовой избе, кватеръ чотырохъ, заплатили (ИЮМ, XIII, 99, 1699).

**Обаленье** *гл.* **обваленье**.

**Обалины** – *руіны*: падете межи ѡбалины балванов ваших (Біблія, 176).

**Обаранокъ** *гл.* **абаранокъ**.

**Обарунокъ** *гл.* **обварунокъ**.

**Обаченье – 1)** *агляданне*: маистатовые ездили на границы около места для обаченя, где копцы копать (ИЮМ, I, 294, 1682); **2)** *усведамленне*: высилѧˢте смыслы ваши, але не на ма*р*ные речи, ле*ч* на ѡбаче*н*е дȣховъное (Зб. 259, 557); **3)** *праверка*: прыехалъ... дворанин его кор. милости для обаченя квитовъ на донативумъ (ИЮМ, IX, 95, 1682).

**Обаченьеся** – *тое, што і* **обаченье** *ў 2 знач.*: жадного пожи*т*к*ȣ* з тако*г* ѡбаче*н*ѧсѧ не дознаешˢ (Варл., 214б).

**Обачиванье** – *бачанне*: обачива*н*е речеи жалосны*х* кгвалто*м* слова до ȣстъ гони*т* (Цяп., прадм., 268б).

**Обачность** – *абачлівасць*: Бл҃гогов*ѣ*ніе: Пріазнь, чисто*ст*, боѧзнь, ѡбачно*ст* (Бяр., 4).

**Оббирание** – *знянне пладоў з дрэў, кустоў*: ѡнˢ же посылае*т* наказание ꙗко светло, и пристоить ꙗко река Еомъ в день оббираниѧ вина (Скар. IC, 40).

**Обваленье (обаленье) – 1)** *абвальванне*: домъ... до спустошенъя и обаленъя пришолъ (АВК, XXXIX, 247, 1579); **2)** *павальванне*: за лобъ порванье и на землю обваленье (АВК, XII, 488, 1684).

**Обварованье** – *засцеражэнне; умацаванне*: мають воеводове... лжеˢшое везенье але предъсе за замъкненьемъ и добримъ моцнымъ ѡбварованьемъ мети (Ст. 1588, 171).

**Обварунокъ (обарунокъ, оборарунокъ)** – *умова, дагавор*: тыи сельца... в своихъ пожиткахъ маютъ... зо всими тыми обарунки (АВК, XXII, 436, 1570); сознане продажи... под немалыми обоварунъками... показал в суду (АВК, XXXVI, 329, 1582); тая особа во вси объварунки, в том листе доброволном нашомъ записе описаные... подлечы мает (АВК, XXXII, 254, 1596).

**Обведенье** – *абвядзенне*: бралисе за тымъ до обведенья съ св*ѣ*тками... кгрунтовъ (АВК, VI, 159, 1599).

**Обвестка (обестка)** – *пошліна, якую купцы плацілі пры паведамленні аб сваім прыбыцці на месца гандлю*: на нихъ жадныхъ об*ѣ*стокъ не казалъ брати (АЗР, II, 180, 1527); пожытки належачые отъ купцовъ явка, обв*ѣ*стка, подужное... заховываемъ (АЮЗР, I, 168, 1569).

**Обвешенье (обешенье)** – *павешанне*: выданъ за тое злодейство на смерть на обешенье (АВК, XXVIII, 26, 1589); всихъ... на горл*ѣ* обв*ѣ*шеньемъ покаранья (АВК, V, 81, 1695).

**Обвещанье** – *апавяшчэнне*: намъ жадного обвещаня не дано и о выезде твоимъ не ведали есмо (СДГВ, 46, 1609).

**Обвещенье – 1)** *апавяшчэнне*: росправ*ȣ*... прин*ꙗ*ти маемъ за ѡбвещеньемъ и зложеньемъ намъ року (Ст. 1588, 9); **2)** *афіцыйнае пісьмовае паведамленне*: тое обв*ѣ*щенье на маетности моей... маю (АСД, I, 259–260, 1617).

**Обвиненье – 1)** *абвінавачанне*: поки деˢ ѡни такого розбоˢного ѡбъвиненьꙗ не справ*ꙗт*ца ꙗ ихъ за сыны мети не хоч*ȣ* (КВЗС, 599б, 1552); **2)** *абвінаваўчае заключэнне*: за четвертым обвиненьемъ таковый кождый мает быти обешонъ (Ст. 1529, 101).

**Обводъ – 1)** *мяжа вакол зямельнага ўчастка*: граница отъ первого обводу князя Стефана Збаразскаго ку замку (АВК, VII, 454, 1592); **2)** *тое, што і* **обвоженье**: при томъ обвод*ѣ* и оказанью знаковъ кгрунтовъ... были люди добрые (АЗР, III, 266, 1581).

**Обвоженье** – *правядзенне мяжы вакол зямельнага ўчастка*: просил мене тот урадникъ... на объвожене и на огледане тых сеножатей о возного (АВК, XXXVI, 261, 1582).

**Обвоживанье** – *сведчанне*: за обвоживаньемъ отъ служебника пана Матея... огледалъ есми битыхъ и ранныхъ подданыхъ села Волчи (АВК, XVIII, 138, 1596).

**Обволанье (обоволанье)** – *абнародаванне*: прибиялом цедулы... до ворот а до крам... за обоволанемъ на горло копеи списаное з листу короля (АВК, XXXVI, 393, 1590); часу ȣзычаемъ ѡ*т* ѡбъволаньꙗ сего листу нашого до недель дванадъцати (КЛС, 5б, 1596).

**Обвязанье** *гл.* **обовязанье**.

**Обвязка** – *абвязка, павязка*: ѡбвѧзало: ѡбвѧзка, фарт*ȣ*хˢ (Бяр., 194).

